**Станіслаў Шушкевіч на Свабодзе.** (Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе). — Радыё Свабодная Эўропа / Радыё Свабода, 2022. 412 с.: +12 с. іл.

Бібліятэкар Свабоды
*Аляксандар Лукашук*

Укладаньне, рэдактура *Сяргей Навумчык*
Карэктар *Мікола Раманоўскі*

Інтэрвію першага кіраўніка незалежнай Беларусі Станіслава Шушкевіча (1939–2022), якія гучалі на Радыё Свабода больш за тры дзесяцігодзьдзі, адметныя сваёй шчырасьцю, адданасьцю гуманізму, дэмакратычным каштоўнасьцям і нацыянальнай культуры.
Чалавек, які арганізаваў сустрэчу ў Белавескай пушчы, на якой у 1991 годзе быў скасаваны Савецкі Саюз, паўстае як палітык, гістарычная асоба і чалавек, які больш за ўсё цаніў у іншых прыстойнасьць і адукаванасьць.


FOL

ISBN 978-0-929849-94-2

# Зьмест

**Разьвітаньне**

## Песьня пра зубра

Пушча шуміць.

Загоншчыкі шчэмяць.

Зграя шчэрыць іклы.

Арлан кружляе.

Статак чакае.

Праламіў гушчар.

Праклаў шлях.

Вывеў.

Сышоў.

Застаецца крыўда: магло быць іначай.

Застаецца ўдзячнасьць: магло быць іначай.

Толькі пушча ведае.

*Аляксандар Лукашук,*
*Бібліятэкар Свабоды*

## Тры Станіславы і Стася

Замест уступнага слова*

1 сакавіка 2011
Аляксандра Дынько

*Дынько:* 25 жніўня 1991 году Беларусь здабыла незалежнасьць. За дакумэнтам, які стаў падмуркам нашай свабоды, лёсы людзей. Сваім жыцьцём яны пісалі гісторыю — верылі і змагаліся, любілі і ненавідзелі. А ў спадчыну дзецям пакінулі цэлую краіну. Як склаліся лёсы тых, хто зрабіў Беларусь незалежнай? Як ацэньваюць зробленае іх дзеці?

У сталінскія часы Станіслаў Шушкевіч, якога часта называюць першым кіраўніком незалежнай Беларусі, лічыўся сынам ворага народу. Ягоны бацька — вядомы беларускі пісьменьнік Станіслаў Пятровіч Шушкевіч — быў рэпрэсаваны амаль на 20 гадоў. Сам Станіслаў Станіслававіч, якому ў савецкі час удалося зрабіць выдатную навуковую кар'еру, а пасьля стаць палітыкам высокага рангу,

* Тэксты ў гэтай кнізе разьмешчаныя ў храналягічным парадку, але пачынаецца яна запісам перадачы з цыклю «Бацькі і дзеці Незалежнасьці», у якой прадстаўленыя некалькі пакаленьняў сям'і Шушкевічаў.

пасьля прыходу да ўлады Аляксандра Лукашэнкі апынуўся ў апале і ў Беларусі пазбаўлены сродкаў да існаваньня. Былыя і цяперашнія пакаленьні сям'і Шушкевічаў сёньня ў нашай праграме.

Імя Станіслаў у гэтай сям'і пераходзіць з пакаленьня ў пакаленьне. Сам спадар Шушкевіч ня можа прыгадаць, ці назвалі яго так у гонар бацькі. Але ягоная жонка Ірына сына называла па сваёй волі:

*Ірына Шушкевіч:* У гонар дзядулі. Ён быў вельмі добры, прыемны, вельмі мне падабаўся.

*Дынько:* А Станіславу Станіслававічу не зайздросна, што ня ў гонар яго?

*Станіслаў Шушкевіч:* Не, ну што вы!

*Ірына Шушкевіч:* Можа і зайздросна, але ён пра гэта нікому ня кажа.

*Стася, унучка Станіслава Шушкевіча:* Гэтае імя нясе на сабе такую гісторыю, якая зьвязана зь сям'ёй. І таксама падабаецца вельмі. Мае бацькі мне казалі, што калі яны на мяне паглядзелі, то ніяк інакш мяне назваць не было як.

## «Я пісаў бацьку лісты ў Сібір на беларускай мове»

Сталінская ўлада распарадзілася лёсам малога Станіслава Шушкевіча так, што бацька прысутнічаў у ягоным жыцьці праз ліставаньне. Напэўна, у тыя ж часы заклалася разуменьне таго, што свае сапраўдныя перакананьні можна давяраць толькі блізкім і родным, а ад дзяржавы за гэта можна атрымаць жорсткае пакараньне:

*Шушкевіч:* Я пісаў бацьку лісты ў Сібір і добра ведаў, што ён у Сібіры, пісаў яму на беларускай мове і атрымліваў адказы на беларускай мове. Ён пісаў нават вершы, пэўныя радкі я нават памятаю:

*У далёкую глуш ты прыслаў мне пісьмо,*
*Яно доўга шукала мяне і блукала.*
*На ім штэмпэляў шмат, і чужая рука*
*Твой канвэрцік…*

Ну, неяк… разарвала. Ня памятаю.

І я пісаў яму, гэта была такая перапіска, якая была абсалютна апалітычнай, бо я, па-першае, быў дзіцем малым, а па-другое, маці гаварыла, што можна пісаць, чаго нельга, што даходзіла да бацькі, што не. Я ня вельмі разумеў, што гэта такое, бо гэта была нейкая дзіцячая гульня.

А ўжо я добра ўсьвядоміў, што з маім бацькам, гэта ўжо пасьля вайны, таму што ён першы раз вярнуўся ў 1948 годзе і пачаў настаўнічаць у Данілавічах, тут у Дзяржынскім раёне, але яго ізноў накіравалі ў Сібір, і вызвалілі яго зноў у 1956 годзе, і ён вярнуўся ў Менск.

*Станіслаў Шушкевіч расказвае, што вядомы і добры паэт Аркадзь Куляшоў выключыў ягоную маці, пісьменьніцу Алену Раманоўскую, з камсамолу — за тое, што ў анкеце яна не адраклася ад здрадніка-мужа. Гэты ўрок добра запомніўся, і толькі асьцярожнасьць і клопат маці дазволілі яму паступіць ва ўнівэрсытэт. Наперад у анкетах яны сталі пазначаць, што бацька зь сям'ёю не жыве і дзе ён знаходзіцца, ім невядома.*

*Шушкевіч:* «Мяне ва ўнівэрсытэт не прымалі. Я закончыў з мэдалём, а мяне не бяруць, таму што біяграфія не падабаецца».

*Дынько:* А мэдаль усё ж такі ўдалося атрымаць?

*Шушкевіч:* У школе — ніякай дыскрымінацыі, ніякага дрэннага стаўленьня ня толькі да мяне, але і да каго б там ні было. Гэта было такое патаемнае ўзаемаразуменьне. Чалавечнасьці было вельмі-вельмі многа. Я зараз гляджу і думаю, што, можа, таму, што не было ніякай падтрымкі ніадкуль, мы былі вельмі салідарныя паміж сабой.

## «Нікуды не ідзі, бо цябе будуць шукаць у першую чаргу»

*Пільнасьць сёньняшніх беларускіх школ значна вырасла за апошнія паўстагодзьдзя.*

*Стася:* Самі ведаеце, што гэта можа быць ня вельмі добра. Вельмі многа было такіх момантаў, калі было страшна і цяжка вельмі: а калі пра гэта даведаюцца, што тады рабіць, бо могуць жа і на працы пасунуць, і са школы выгнаць. Заўсёды, калі ідуць дэманстрацыі ці нешта такое, ва ўсіх школах пачынаюцца рэзка нейкія мерапрыемствы: адразу робяць дыскатэкі, канцэрты, толькі каб людзі не ішлі кудысьці. Ці нават кажуць: калі мы даведаемся, што вы там былі, то ўсё — выганяем. Да мяне заўсёды падыходзілі і казалі: нікуды не ідзі, бо на цябе ўся ўвага, бо цябе будуць шукаць у першую чаргу.

*Пачуцьцё гонару за блізкіх і продкаў, а таксама асаблівая «генэтычная» чуйнасьць да гістарычнай абстаноўкі ўласьцівыя Шушкевічам, як любой сапраўды інтэлігентнай беларускай сям'і.*

*Шушкевіч:* Было непрыемна, таму што я павінен быў рабіць выгляд, што я ня ведаю, што з маім бацькам, і калі гаварыць пра пачуцьцё ўласнага гонару, прыйшлося сябе стрымліваць. У мяне былі ўсе падставы ганарыцца бацькам, а абстаноўка была такая, што я павінен быў вось так сябе паводзіць.

Калі ён прыехаў зь Сібіры, да яго прыяжджалі сябры, зь якімі ён працаваў у геалягічнай экспэдыцыі — крэпкія, моцныя сібіракі. Яны вельмі многа пілі гарэлкі, але гэта на іх слаба ўзьдзейнічала. А бацька мой вельмі рэдка выпіваў, але калі выпіваў 50 грамаў гарэлкі, то быў ужо вельмі добра п'яны, і тады сьпяваў беларускія песьні, распавядаў пра ўсё што хочаш. І калі я пабачыў, зь якой павагай яны ставяцца да бацькі, я падумаў, што я ім павінен ганарыцца. Як толькі магу.

У яго тут была іншая сям'я — многа дзяцей, і мы ўсе лічым сябе братамі і сёстрамі, сябруем, сустракаемся разам.

## «Я выслухаў пяць пропаведзяў Караля Вайтылы, які пасьля стаў Янам Паўлам II»

*Для бацькоў Станіслава Шушкевіча вера ў сьветлую камуністычную ідэю заставалася моцнай і непахіснай, нягледзячы на тое, як выпрабоўвалі іх людзі, што ўвасаблялі сабою гэтую*

*ідэю. Так, Станіслаў Пятровіч Шушкевіч уступіў у камуністычную партыю праз 8 год пасьля таго, як вярнуўся з высылкі. І толькі пры канцы 80-х, за пару гадоў да сваёй сьмерці, стаў думаць, што загана палягае ў самой ідэалёгіі. Пералом у самім Станіславу Шушкевічу адбыўся нашмат раней.*

*Шушкевіч:* У мяне вялікі быў пералом. Я як прафэсар фізыкі па абмене чытаў лекцыі ў савецкі час. І калі я быў у Ягелёнскім унівэрсытэце ў Кракаве, я выслухаў пяць пропаведзяў Караля Вайтылы, які пасьля стаў Янам Паўлам II. І вось яны ў мяне ўрэзаліся — убачыўшы яго, 13 чэрвеня, як сёньня памятаю. Ён гаварыў пра тое, што такое Ягелёнскі ўнівэрсытэт (а я ў ім працую, я выкладаю фізыку, чытаю курс ядзернай электронікі). «Гэтыя нікчэмнасьці партыйныя, якія не разумеюць, як паўстаў унівэрсытэт, з кім ён кантактаваў, што галоўнымі факультэтамі быў тэалягічны, факультэт права. І калі Оксфард зьвяртаецца да ўнівэрсытэту, ён зьвяртаецца не да гэтых прымітываў партыйных…» Ведаеце, я думаў: чаму яго ня садзяць у турму?!

## «На жаль, вельмі многія хочуць адсюль зьехаць»

*Безумоўнай заслугай папярэдніх пакаленьняў можна лічыць і тое, што сучасная моладзь ужо ў меншай ступені асьлепленая бяздушнай ідэалёгіяй сёньняшняй улады. Але іх безумоўная параза — страта гэтага пакаленьня.*

*Стася:* Я нарадзілася ў 1994 годзе, таму з 90-х гадоў мала чаго памятаю. Памятаю, што бацькі заўсёды бралі мяне на нейкія дэманстрацыі.

Я ў такіх абставінах знаходжуся, што амаль усе маладыя людзі не падтрымліваюць тое, што адбываецца ў нашай краіне зараз. Усё ж я вельмі рада, што прысутнічаюць новыя думкі, якія не навеяныя палітычным рэжымам. Гэта думкі асобных людзей, якія самі для сябе вырашылі, што для іх лепш, якія могуць параўнаць абставіны ў сваёй краіне з абставінамі ў іншых краінах.

Вельмі многа маладых людзей выяжджаюць за граніцу недзе. Яны разумеюць, што ў Беларусі ёсьць будучыня і гэтая будучыня за намі, але ж, на жаль, калі мы трапляем за мяжу, то вельмі многія хочуць адсюль зьехаць.

*Дынько:* Станіслаў Станіслававіч, чым займаюцца вашыя дзеці?

*Шушкевіч:* Дачка ў мяне дарослая, закончыла кансэрваторыю. Спачатку, як бывае ў дзяцінстве, была вундэркіндам, а пасьля ўсё прайшло, стала нармальнай хатняй гаспадыняй. І ўнучку гадуе. А ўнучка ў яе ўжо беларуска яшчэ большая, чым я.

*Дынько:* А ў сына якія праблемы з-за таго, што ў яго такое прозьвішча?

*Шушкевіч:* Ну вы заўважце, калі мой сын прыйдзе некуды наймацца, нават калі ён будзе лепей за іншых гэта рабіць, то зь яго прозьвішчам у нашых умовах гэта цяжка. Таму ён выбраў такі спосаб дзейнасьці. Ён займаецца, скажам, эканомікай, ён ня хоча мець дадатковыя перашкоды.

**«Самая добрая рэч, якую, я лічу, мой дзед зрабіў, — гэта тое, што ў Беларусі зараз няма атамнай зброі»**

*Дынько:* Станіслава, у якіх краінах вы былі?

*Стася:* Я была ў Амэрыцы, у Англіі, Грэцыі, Баўгарыі, Турэччыне, Украіне, Расеі, Польшчы. Мне вельмі спадабалася ў Англіі, таму што ўсё, што робіцца ў краіне, яно робіцца для людзей. І ўсё, што робяць палітыкі, усё, што з гэтым зьвязана, гэта тое, што людзі самі вырашылі, тое, што яны насамрэч выбралі. Я не кажу, што ў Беларусі ўсё робіцца ня так, як мы жадаем, але ж ёсьць рэчы, якія патрэбна зьмяніць.

Самая добрая рэч, якую, я лічу, мой дзед зрабіў для Беларусі, — гэта тое, што ў Беларусі зараз няма атамнай зброі. Бо калі б зараз у Беларусі была атамная зброя, я лічу, што гэта было б вельмі дрэнна, бо ёсьць людзі, якія б хацелі пагражаць гэтай зброяй астатняму сьвету.

*Шушкевіч:* Швэды апублікавалі такі дакумэнт — яшчэ толькі камэнтар аб ім прайшоў рускамоўны. 20 гадоў таму гэтыя дакумэнты былі засакрэчаныя, і цяпер толькі надрукавалі. Ну, нэктар на душу. Па ацэнках усіх іх інстытутаў, дасьледчыкаў, пагроза грамадзянскай вайны была вельмі вялікая ў Савецкім Саюзе. І Белавескае пагадненьне і паводзіны, якое яно навязала ўсім, фактычна прадухілілі гэтую грамадзянскую вайну, якая насьпела, і вось нечакана гэта было вырашана. У Югаславіі ж гэта адбылося. Але я ніколі ня думаў, што Белавескім пагадненьнем мы

ліквідуем гэтую пагрозу. Я яго падпісваў, скажу вам проста, зь вялікім задавальненьнем перш за ўсё таму, што ўпершыню за дзьвесьце фактычна гадоў, з 1794 году, Расея прызнае незалежнасьць Беларусі. Мы ствараем «Содружество Независимых Государств».

*Дынько:* Што пагражае вашым дзецям у Беларусі? Чаму яны ня вельмі хочуць прызнавацца ў тым, што маюць такое прозьвішча?

*Шушкевіч:* Прызнавацца ці не… Яны нібыта не хаваюць. Але тое, што здарылася 19 сьнежня (разгон шматтысячнага мітынгу 19 сьнежня 2010 году, арышты апазыцыйных кандыдатаў у прэзыдэнты і сотняў іншых людзей. — РС), дае адказ на вашае пытаньне. Людзі, якія нічога кепскага не зрабілі, апынуліся за кратамі, і цяпер ім выносяць яшчэ і нейкія прысуды. І дзеці нашыя нічога кепскага ня робяць, але, маючы такое прозьвішча, яны могуць аказацца вінаватымі, ні ў чым ня быўшы вінаватымі.

## «Пасьля прыняцьця Дэклярацыі цудаў ня будзе. Трэба будаваць фундамэнт»

Першае інтэрвію на Свабодзе*

*Голас і меркаваньні Станіслава Шушкевіча гучалі ў этэры Свабоды рэгулярна, асабліва пасьля камуністычнага путчу ў жніўні 1991 і абраньня Шушкевіча на пасаду кіраўніка Вярхоўнага Савету, падпісаньня Белавескіх пагадненьняў аб распадзе СССР, страты пасады, першых прэзыдэнцкіх выбараў ды іншых гістарычных падзей. Але архівацыя аўдыёзапісаў і іх транскрыпцыя не вяліся, таму пэрыяд да 1996 году ў кнізе прадстаўлены фрагмэнтарна.*

Жнівень 1990
Ларыса Верас

* Гэтая гутарка — вынік настойлівасьці супрацоўніцы Мюнхэнскай рэдакцыі РСЭ/РС Ларысы Ўрбан (псэўд. Верас, 1939–2021) і адкрытасьці Станіслава Шушкевіча, калі ўпершыню ў гісторыі журналістка Радыё Свабода змагла афіцыйна прыехаць у Савецкі Саюз і прадстаўнік вышэйшай улады, першы намесьнік старшыні Вярхоўнага Савету БССР, упершыню пагадзіўся даць інтэрвію «варожаму голасу».

*Верас:* 27 ліпеня 1990 году Вярхоўны Савет Беларускай ССР прыняў Дэклярацыю аб дзяржаўным сувэрэнітэце. Вашая ацэнка: гэта гістарычная ці тымчасовая акцыя?

*Шушкевіч:* Ну, мне здаецца, час пакажа. Якая гэта акцыя, можна ацэньваць толькі па зьмесьце Дэклярацыі і па часе, у які яна зьявілася. Дык адносна зьместу мне здаецца, што Дэклярацыя гэтая — дакумэнт ня дрэнны і яна, мне нават здаецца, адрозьніваецца ад расейскай дэклярацыі. Трэба будаваць фундамэнт.

*Верас:* Гэта гістарычная ці тымчасовая акцыя?

*Шушкевіч:* Пра гістарычнасьць падзеі можна гаварыць толькі празь некаторы час. І я, дарэчы, лічу, што дэпутаты пасьпяшаліся абʼявіць гэты дзень Днём незалежнасьці. А па зьместу я задаволены нашай Дэклярацыяй, таму што яна паказвае, чаго мы хочам. Яна адрозьніваецца ў лепшы бок ад расейскай Дэклярацыі, таму што мы ўжо заявілі там і пра тое, што мы маем намер мець і ўласныя ўзброеныя сілы, і сваю мытню, свой кантроль мяжы. Але гэта пакуль што, прабачце, толькі паперка, бо каб тое, што ў ёй напісана, стала рэчаіснасьцю, трэба доўга працаваць, і я ня ўпэўнены, што той энтузіязм, які панаваў у залі Вярхоўнага Савету, калі прымалася Дэклярацыя, што ён будзе яшчэ вельмі доўга. І таму трэба вельмі доўга працаваць, каб гэта стала рэчаіснасьцю. І час пакажа, ці была гэта падзея гістарычная, ці не.

*Верас:* А што канкрэтна робіцца ў тым кірунку, каб сапраўды былі нейкія дзеяньні, каб гэта не засталося паперкай?

*Шушкевіч:* Вы ведаеце, вы ставіце вельмі складанае пытаньне, таму што ў нас так многа скажэньняў у нашым жыцьці, што трэба іх выпраўляць і трэба пачынаць спачатку. Любую сур'ёзную справу трэба пачынаць спачатку. Дык перш за ўсё трэба навесьці парадак у тым, што ў нас дасягнула такога скажэньня, што проста ратунку няма. Глядзіце, па-першае, трэба вырашыць пытаньне зь зямлёй. Па-другое, трэба вырашыць пытаньне з маёмасьцю. А пасьля можна, вырашыўшы гэтыя пытаньні, як мы гэта разумеем, вырашаць пытаньне з выпраўленьнем эканомікі. Цудаў тут ніякіх ня будзе. Трэба будаваць фундамэнт. І вось фундамэнт мы пакуль што яшчэ будаваць не пачалі. Яго цяжка будаваць, таму што ў нас такія звычаі, што дзяржава павінна чалавеку нешта даць, ён спакойны, калі ён жыве ў гэтай дзяржаве, а ўсё гэта ня так. Гэта ўсё выявілася ў апошнія гады, усе аб гэтым ведаюць. І вось трэба прыняць тры асноўныя законы, я так лічу, а пасьля прымаць меры, каб была ў нас нармальная эканоміка, бо так можна гаварыць пра любую незалежнасьць: калі мы будзем жабракамі, дык ні аб якай незалежнасьці ня можа быць і гаворкі.

## «На жаль, склад Вярхоўнага Савету не такі, каб чакаць вялікіх дэмакратычных пераменаў»

*Верас:* Для грамадзкасьці было гэтае ўхваленьне Дэклярацыі аб дзяржаўнай незалежнасьці вельмі раптоўнае і нечаканае, бо ўсе перамовы, якія да гэтага вяліся, выглядалі так, што гэтая Дэклярацыя ня будзе прынятая, яна нерэальная. І раптам…

*Шушкевіч:* Не, гэта ня «раптам». Я вам скажу, першы варыянт Дэклярацыі, які быў абнародаваны, надрукаваны, ён адрозьніваўся катэгарычна. Гэта быў месяц працы. Дарэчы, я ўпершыню лічу, што плённа працаваў у Вярхоўным Савеце, таму што першыя пункты гэтай Дэклярацыі, фактычна пяць першых пунктаў, — гэта было многа спрэчак. І мне прыйшлося ўзначаліць такую групу, якая займалася гэтымі пазыцыямі, наогул кантактаваць з усімі дэпутатамі. Гэта была нялёгкая работа, але вельмі цікавая. І, дарэчы, вы ж бачыце, што ўсе пагадзіліся з такім падыходам, таму што пасьлядоўна, спакойна, на працягу месяца мы гэтую работу праводзілі. Таму для мяне нечаканасьцяў не было. Проста ў друку, відавочна, не было інфармацыі.

*Верас:* На Захадзе нават была такая думка, што гэта было «спушчана» зьверху, абмеркавана, абгрунтавана і было спушчана…

*Шушкевіч:* Цалкавітае глупства, якое ня мае пад сабой ніякай падставы. Я ня ведаю, што датычыцца першага варыянту Дэклярацыі, кім ён

быў падрыхтаваны. Але тое, што там не засталося каменя на камені, як вы ведаеце, у астатнім варыянце, і тое, што гэта працаваў увесь Вярхоўны Савет: і вэтэраны, і партыйцы, і савецкія работнікі, і БНФ, і Дэмакратычны клюб, усе працавалі над Дэклярацыяй. І працавалі ня проста, нават, прабачце, лаяліся многа разоў, і памяркоўнасьць не адразу была. Нават выходзілі адразу, калі ня трэба было гэтага рабіць, таму што вось можна было яе не прыняць. Але спакой тут быў у астатніх дэпутатаў, і Дэклярацыя была прынятая. Нікім яна не была навязаная, я гэта адкідаю як недарэчнасьць, такога не было, і я спадзяюся, што ня будзе. Нам цяпер немагчыма навязаць. Магчыма толькі навязаць тое, у чым пераканаlittleны Вярхоўны Савет. На жаль, склад яго не такі, каб чакаць вялікіх дэмакратычных пераменаў.

*Верас:* Але ўсё ж такі зьдзіўляе тое, што вось прынялі Дэклярацыю, гэта такі адказны, важны крок, і тады ўсе разьяжджаюцца на адпачынкі, больш ніякіх дзеяньняў, быццам усё і забытае. Дык дзе тая падрыхтоўка? Што дакладна робіцца? І ці ёсьць сапраўды канкрэтныя нейкія зрухі ў кірунку, што гэтая Дэклярацыя пачынае хоць патроху неяк ужо рухацца наперад?

*Шушкевіч:* Па-першае, наконт адпачынку. Вы ведаеце, тое, што Вярхоўны Савет два месяцы праводзіў паседжаньні, і маларэзультатыўныя, — гэта таму што не падрыхтаваныя, ён ня мог быць падрыхтаваны. А вось наступную сэсію трэба добра падрыхтаваць. Я лічу, што на Вярхоўным Савеце можа быць толькі тры рашэньні: ці

прымаецца тое, што падрыхтавана камісіяй, ці адпраўляецца на перапрацоўку, ці наогул адкідаецца. Вось фактычна тры рашэньні. І цяпер ужо больш вопытныя людзі працуюць над тым, каб новыя законапраекты былі менавіта ў такім выглядзе. Ці ўдасца такое зрабіць? Баюся, што не. Таму што кваліфікацыя і нашага апарату, і саміх дэпутатаў, я і да сябе гэта, у прыватнасьці, адношу, — яна не такая высокая, як хацелася б, таму трэба распрацоўваць гэтыя законапраекты. Яны распрацоўваюцца не на сэсіі, а ў камісіях, якія цяпер працуюць штодзённа. І ня простая гэта работа, а многія сапраўды пайшлі ў адпачынак. Я, дарэчы, таксама, бо трэба ж неяк задумацца пра ўсё, што адбываецца. І таму фактычна ўсе нашыя новыя распрацоўкі законапраектаў ідуць на падставе Дэкларацыі, яны павінны распрацоўвацца ў адпаведнасьці з Дэкларацыяй.

## «Павінен быць пераходны пэрыяд»

*Верас:* Ёсьць усё ж такая думка, што «саюзная дамова» скасуе нейкія пункты, прадугледжаныя ў Дэкларацыі аб дзяржаўным сувэрэнітэце Беларусі. І гэтыя думкі выказваюцца паважанымі асобамі, Быкава назаву, які такое больш-менш стаўленьне выказаў у «Літаратуры і мастацтве».

*Шушкевіч:* Я чытаў гэты артыкул. І з задавальненьнем чытаў. І разумею, чаго баіцца Васіль Быкаў, што гэта ўжо не аднойчы было, у нас былі звычайна добрыя словы і ніякіх дзеяньняў пасьля іх, і тут пагроза такая ёсьць. Ну, гэта залежыць ад

таго, як мы можам працаваць. І, дарэчы, я павінен сказаць наступнае: успрымаць як абсалют нават гэтую Дэкларацыю, відавочна, нельга. Бо павінны быць размовы. Магчыма, наш Вярхоўны Савет па некаторых пытаньнях прыйдзе да згоды, што могуць быць некаторыя карэктуры, — я дапускаю такую думку. Але гэта ня значыць, што па прынцыповым, па асноўным пытаньні. Тут такога быць ня можа, іначай бы не ішло абмеркаваньне. Давайце лічыць, што мы адна з 15 пакуль рэспублік, і калі будзе слушная думка ў 14 астатніх, магчыма, трэба прыслухацца і пагаварыць зь людзьмі, магчыма, дзесьці трэба выйсьці і на рэфэрэндум. У гэтым сэнсе я не ўспрымаю Дэкларацыю як абсалют, мне здаецца, што яна можа быць і ўдасканаленая. Але вы пабойваецеся таго, што мы зноў пойдзем на падпарадкаваньне цэнтру і гэтак далей. Я думаю, што гэтага ня будзе, гэта проста цяпер немагчыма. А тое, што могуць быць знойдзеныя рашэньні больш дасканалыя, у тым ліку, чым у нашай Дэкларацыі, — я лічу, што гэта можа быць. А прынцыповая выснова тут ёсьць, і на яе падставе мы будзем разьвіваць нашу работу.

*Верас:* Ну, а што да артыкула 10-га Дэкларацыі? Ён неяк тычыцца «саюзнага дагавору» там, дзе гаворыцца менавіта пра вайсковыя фармаваньні іншых краінаў, вайсковыя базы, якія будуць разьмешчаныя толькі на тэрыторыі… Як выглядае цяпер справа з тымі вайскоўцамі, якіх будуць перакідаць і разьмяшчаць з ГДР? Як выглядае гэта ў Беларусі?

*Шушкевіч:* Ну, гэта канкрэтная справа, яна, дарэчы, не супярэчыць Дэкларацыі пункту 10, таму што калі мы скарачаем войскі ва ўсходняй Эўропе (адразу ж дэмабілізацыя немагчымая, як вы разумееце), мы павінны часткова гэтых людзей разьмясьціць тут. Гэта пытаньне складанае, дарэчы, я ім займаўся. Пакуль што пагрозы ў нас такой няма, каб гэта супярэчыла чарнобыльскай праблеме, таму што да нас фактычна перамяшчацца ня будуць гэтыя войскі. 20 дзён таму, вось тая інфармацыя, якой я валодаю, як мы паставілі гэтае пытаньне, што мы ня маем цяпер магчымасьці для разьмяшчэньня тут войскаў, і наогул яны непатрэбныя нам на Беларусі. Але ж давайце мы вызначым наступнае: мы заявілі ў Дэкларацыі, што павінна быць, а ў нас жа цяпер зусім іншае. Адразу такім скокам такі пераход немагчымы, таму павінен быць пераходны пэрыяд, і распрацаваць этапы гэтага пераходнага пэрыяду мы павінны. Гэта павінен распрацаваць урад, зацьвердзіць Вярхоўны Савет, і гэтак далей. Ён павінен гэта распрацаваць на падставе Дэкларацыі. Дэкларацыя — гэта тое, да чаго мы імкнемся на дадзеным этапе. Гэта можа заняць два-тры, можа пяць, а можа па некаторых пытаньнях і дзесяць гадоў. Мы ж хочам, каб у нас Беларусь была бязьядзернай зонай, а мы цяпер самая ядзерная дзяржава ў сьвеце, бо ў нас больш за ўсіх і на адзінку насельніцтва, і на адзінку тэрыторыі, і на краіну, у нас больш за ўсіх ядзерных базаў. Навошта яны нам? Але ж вы разумееце, што мы ня можам вызваліцца проста

заўтра, бо сіла ёсьць сіла і трэба палітычнымі мэтадамі знаходзіць рашэньне гэтых пытаньняў.

*Верас:* А ўжо вызначаныя камісіі? Адказныя, якія будуць гэтым займацца?

*Шушкевіч:* Гэтым будзе займацца ўрад. І дзеяньні нашага ўраду адпавядаюць Дэклярацыі. І цяпер трэба ўзьняць пытаньне і імкнуцца ўжо, напрыклад, да той жа бязьядзернасьці. Ну, зрабіць пакуль што бездапаможным Савецкі Саюз. Я, напрыклад, супраць гэтага, таму што мы бачым прыклад Кувэйту. Паглядзіце, што адбываецца зь дзяржавай, якая ня здольная сябе абараніць. Таму гэта не павінна рабіцца імгненна, пераходны пэрыяд павінен быць распрацаваны, плян, як мы гэта ўпарадкуем. Я за тое, каб скараціць гэты пэрыяд. Ці ўдасца? Ня ведаю. Я быў бы задаволены, калі б усе пункты гэтай Дэклярацыі, у тым ліку і пажаданьні, мы выканалі ў гэтым тысячагодзьдзі. Заўважце, гэта даволі вялікі час, бо перамясьціць такую колькасьць базаў, зьмену войскаў зрабіць — гэта няпроста.

## «Ёсьць зона на Беларусі, у якой фактычна нельга жыць»

*Верас:* У ліпені беларуская рэспубліка была абвешчаная зонай катастрофы. Што гэта дакладна азначае? Што гэта дае рэспубліцы? Што гэта дае асобнаму грамадзяніну? Бо былі ж намаганьні абвясьціць яе, дык што гэта азначае дакладна?

*Шушкевіч:* Прабачце, вы ня будзеце задаволеныя маім адказам. Гэта азначае дакладна, што

большасьць Вярхоўнага Савету не адказвае за тое, што яна абвяшчае «надзвычайным становішчам». І наогул па пытаньнях Чарнобылю ў нас вельмі многа блытаніны. І блытаніна ў Вярхоўным Савеце перш за ўсё таму, што больш за ўсё людзі імкнуліся вырашаць свае палітычныя імкненьні, рабіць сабе нейкі палітычны капітал, і ня вельмі дакладна ўсьведамлялі, што адбываецца на самой справе. Трэба падзяліць усю рэспубліку ў тым сэнсе, што можна абʼявіць усю рэспубліку ў надзвычайным становішчы, таму што ёсьць зона на Беларусі, у якой фактычна нельга жыць. І гэтая зона — даволі значная частка Беларусі. Тое, што гавораць, што гэта ⅕ — гэта ня так, таму што ⅕ — гэта наогул забруджаная зона, але з гэтай ⅕ яшчэ такая частка невялікая, дзе нельга жыць. Вось там надзвычайнае становішча, яно фактычна існавала зь першага дня Чарнобылю. Цяпер гэта распаўсюдзілі на ўсю Беларусь, спадзеючыся, што нейкія добрыя дзядзькі за мяжой будуць нам спачуваць, дапамагаць і гэтак далей. Я лічу такі крок у нейкім сэнсе дэмагагічным. Я, дарэчы, ня ўдзельнічаў у галасаваньні па гэтым пытаньні, таму што фактычна галасаваць «супраць» — гэта накіраваць супраць сябе выбаршчыкаў, а галасаваць «за» — паказаць сваю недасьведчанасьць. Дык, прабачце, у Баварыі можна было б некаторыя месцы абʼявіць у надзвычайным становішчы.

*Верас:* Гэта маё канкрэтна і было пытаньне. Мы думаем, што гэта дакладна азначае.

*Шушкевіч:* Несьвядомасьць большасьці дэпутатаў.

*Верас:* І не прыйшлі да нейкага назоўніка, і я вырашыла запытацца, каб усё ж растлумачылі, што гэта такое.

*Шушкевіч:* Гэта эмацыянальны ўсплёск перш за ўсё тых дэпутатаў, якія нечым былі пакрыўджаныя і хацелі быць заўважанымі. Трэба было тут больш памяркоўна гаварыць. Можна было б акрэсьліць межы зоны, вось гэта было б правільна, даць заданьне ўраду. Усю рэспубліку… Ну што ж, мы адчуваем цяжкасьці ва ўсёй рэспубліцы, гэта правільна, бо фактычна бяду трэба вычэрпваць пераважна сваімі сіламі. Але я лічу, што такая абʼява была пасьпешнай.

## «З Масквы сказалі, што ўсё тут добра, жывіце, нічога дрэннага»

*Верас:* Паколькі ўжо закранулі тэму Чарнобылю. У якім стане, на якім узроўні цяпер знаходзіцца перасяленьне гэтых людзей, якія там жывуць? І калі яно было скончана, ці наогул яно будзе скончана, куды іх перамяшчаюць?

*Шушкевіч:* Гэтае пытаньне яшчэ больш складанае, чым першае. Ведаеце, пакуль я не пабываў у гэтай зоне адсяленьня, там, дзе людзей адсялілі, дзе яны вярнуліся. Яны самі вярнуліся. Ім далі жыльлё ў іншых месцах, а яны вырашылі, што ім тут жыць лепей. Пакуль я не пазнаёміўся з усімі гэтымі складанасьцямі…

*Верас:* Выбачайце, але ці таму гэта, што яны недастаткова праінфармаваныя, яны вярнуліся туды?

*Шушкевіч:* Я вам скажу, што гэта не зусім так. Складанасьць пытаньня ў наступным. Існуюць дзьве сьвядомыя сілы. Адны — гэта «зялёныя» і мэдыкі, якія ведаюць, што чым менш радыяцыі, тым лепей, чым чысьцей, тым лепей. І другія — гэта прадстаўнікі сілаў, якія зьвязаныя зь ядзернай энэргетыкай, якія лічаць, што некаторы ўзровень радыяцыі мала што зьмяняе. Напрыклад, тое, што выкідваюць нашыя аўтамабілі, — гэта значна горш для здароўя, чым, напрыклад, радыяцыя 1,5 кюры, а далёкая пэрспэктыва ня вельмі вядомая. І вось дзьве сьвядомыя сілы. І гэтыя сілы, на маю думку, хто зь іх больш узьдзейнічае на несьвядомае насельніцтва, такая там сытуацыя і адбываецца. Напрыклад, «зялёныя», нашы радыёлягі гавораць, што нават 1 кюры — дрэнна. У нас выплачваюць цяпер грошы людзям, якія на забруджанасьці ў 1 кюры, і гэта глупства, гэтага нельга было рабіць. Прабачце, што я так гавару пра нашае рашэньне. Таму што ў грамадзтве ўрбанізацыя прывяла да таго, што забруджанасьць у 1 кюры — гэта не забруджанасьць. У той самы час на гэтай самай рысе знаходзяцца людзі, якія жывуць у 40, 80 і нават у 100 і больш кюры. Гэта зусім непараўнальныя лічбы, гэта зусім непараўнальныя сытуацыі. І вось гэтая блытаніна палітыкамі ў нас несьвядомымі зроблена на Беларусі. Навукоўцаў мы адкінулі, таму што былі навукоўцы-здраднікі. Таму што спачатку мы сутыкнуліся з навукоўцамі з цэнтру, з Масквы, якія павінны былі сказаць, што ўсё тут добра, жывіце, і нічога дрэннага тут не было.

*Верас:* Але ж рэспубліканскія, беларускія навукоўцы таксама былі.

*Шушкевіч:* Былі, але іх ня вельмі хто слухаў.

## «Незалежнасьць для мяне падвойнае сьвята»

Ліпень 1992
Ясь Валошка*

*Валошка:* Станіслаў Станіслававіч, Беларуская служба Радыё Свабода сьведчыць вам сваю павагу як першаму кіраўніку новаўтворанай незалежнай беларускай дзяржавы. Ці адчуваеце вы сябе менавіта ў такой ролі?

*Шушкевіч:* Ну, я перш за ўсё маленькую карэкцыю зраблю. Па Канстытуцыі я вышэйшая службовая асоба ў Рэспубліцы Беларусь, а наконт кіраўніцтва дзяржавай — гэта трэба яшчэ задумацца. Дык вось, як вышэйшая службовая асоба, як кіраўнік парлямэнту я хацеў бы сказаць, што мы будзем сьвяткаваць другія ўгодкі нашай незалежнасьці 27 ліпеня, у адпаведнасьці з рашэньнем Вярхоўнага Савету аб тым, каб гэта быў сьвяточны дзень, і для мяне ён сапраўды сьвяточны. Ён двойчы сьвяточны, таму што, па-першае, у гэты дзень мы прынялі Дэклярацыю, а пасьля гэтая Дэклярацыя стала канстытуцыйным законам. І калі ў першым я быў перакананы, што гэта будзе прынята, я працаваў над гэтай Дэклярацыяй, гэта была нялёгкая праца, — і, дарэчы, з тымі людзьмі, якіх усе абвінавачвалі ў антыбеларускасьці, у антыдзяржаўнасьці, — то наконт

* Ясь Валошка — творчы псэўданім Алеся Ліпая, першага карэспандэнта Радыё Свабода на тэрыторыі Беларусі.

другога акту я нават і падумаць ня мог, што такое будзе, я ня думаў, што будзе канстытуцыйная большасьць, каб зрабіць гэты акт канстытуцыйным законам. І вось таму гэта для мяне падвойнае сьвята. Будзем яго сьвяткаваць упершыню.

## «Пра Беларусь цяпер ведаюць, і Беларусь цікавіць многіх»

*Валошка:* І ўсё ж такі пра вашую ацэнку эканамічнага і палітычнага становішча на Беларусі.

*Шушкевіч:* Я ацэньваю як цярпімае эканамічнае становішча. А палітычнае — як пэрспэктыўнае. Эканоміка ў нялёгкім стане, але пэўныя рысы стабілізацыі азначыліся, і ня толькі дзякуючы таму, што выкарыстоўваюцца старыя стагнацыйныя мэтады, аб гэтым, дарэчы, заўсёды гавораць карэспандэнты і камэнтатары Радыё Свабода. Я б хацеў адзначыць, што ня толькі таму, што выкарыстоўваюцца стагнацыйныя мэтады. Шэраг прадпрыемстваў пераходзіць на новыя віды прадукцыі, яны застаюцца дзяржаўнымі, і я думаю, што на парадку дня — разьдзяржаўліваньне.

Але, ведаеце, ёсьць сусьветны вопыт, і вопыт такіх дзяржаў, напрыклад, дзе прыватызацыя адбылася, мне здаецца, рацыянальным шляхам і не набыла вялікіх памераў. Напрыклад, у Турэччыне, я змог пазнаёміцца з эканомікай гэтай дзяржавы. І мне здаецца, мы зразумелі, што трэба рабіць. Няхай сьмяюцца з гэтага, што я гавару так, але тут вельмі цяжка зарыентавацца ў гэтай абстаноўцы. І на што хапіла мужнасьці ва

ўраду і ў Вярхоўнага Савету — гэта не зламаць тое, што было ў эканоміцы. Я спадзяюся на стабілізацыю і на пэўны рост у гэтым годзе паказчыкаў нашай прамысловай дзейнасьці.

Што да палітычнага становішча, я магу толькі сказаць пра сябе асабіста і пра тое, што мне б хацелася бачыць у рэспубліцы. Я б хацеў, каб аб нас ведалі і каб у сьвеце хоць зразумелі, што ёсьць такая Беларусь, дзе яна знаходзіцца, і гістарычна зразумелі, што гэта эўрапейская дзяржава. Я, дарэчы, заўсёды зь вялікай павагай ставіўся да Радыё Свабода, але нават беларуская служба Радыё Свабода не дала такіх вынікаў за шматгадовую сваю работу, як работа нашых парлямэнтарыяў, нашага Міністэрства замежных спраў і структур нашага Вярхоўнага Савету — пра Беларусь цяпер ведаюць, і Беларусь цікавіць многіх, і Беларусь была адкрытая для замежжа як эўрапейская дзяржава. Гэта ня толькі з тых росказьняў, напрыклад, якія я рабіў, і як я тлумачыў, што такое Беларусь, на многіх міжнародных нарадах, імпрэзах, але таксама з пабыту тут высокіх дзяржаўных дзеячоў, а таксама дзеячоў эўрапейскай супольнасьці, яны бачаць, што гэта дзяржава эўрапейская.

*Валошка:* Наколькі незалежнай уяўляецца вам сёньня наша дзяржава?

*Шушкевіч:* Вы ведаеце, мяне ніколі вашае радыё не абвінавачвала ў няшчырасьці. Я вам скажу шчыра, у многіх адносінах наша незалежнасьць зьяўляецца ўмоўнай, і гэта лягічна, мы перажываем пераходны пэрыяд. Але я б сказаў так: мы ня робім ніводнага кроку — ну, калі не памыля-

емся, калі мы недзе, можа, нешта недадумваем, — мы імкнемся не рабіць ніводнага такога кроку ў палітычным жыцьці, у эканамічным, які б не павялічваў нашу незалежнасьць.

Мы робім толькі такія крокі, якія нашу незалежнасьць павялічваюць. На жаль, гэтых крокаў трэба зрабіць вельмі-вельмі многа, бо што да эканамічнага жыцьця, дык вы ведаеце, мы можам быць у сьмешным становішчы, калі мы пойдзем па дарозе, на якую нам прапануюць стаць многія тыя, хто збоку глядзіць на тое, што тут робіцца. І таму кожны крок нашага ўраду і кожны крок нашага Вярхоўнага Савету мы імкнемся зрабіць крокам да незалежнасьці.

## «Думаю, расейскі шавінізм ня возьме верх у Расеі»

*Валошка:* Апазыцыя часта абвінавачвае вас у арыентацыі на Ўсход, на Расейскую Фэдэрацыю. Пэўная засьцярога тут, на маю думку, сапраўды павінна быць, бо імпэрскі двухгаловы арол мае і кіпцюры. Які ваш падыход да гэтай праблемы?

*Шушкевіч:* Мой падыход няпросты. Я вам прыгадаю словы Алеся Адамовіча, якога часта цытавала Радыё Свабода, ён некалі сказаў так: «Ня будзе дэмакратыі ў Расеі, ня будзе дэмакратыі і на Беларусі». Я спадзяюся, што гэта не зусім так. Але мне б хацелася, каб у Расеі была дэмакратыя, я спадзяюся, што яна там будзе. І мая арыентацыя — на дэмакратычную Расею. Дарэчы, дзеяньні кіраўніцтва Расеі, дарэчы, ня толькі

прэзыдэнта і яго каманды, але і парлямэнту ў адносінах да Беларусі, мне здаецца, ляяльныя, і ў нас ёсьць зацікаўленасьць у добрым партнэрстве, я падкрэсьліваю, партнэрстве, а не ў пазыцыі «малодшага брата». І таму я адносіўся, адношуся і буду адносіцца з павагай да Расеі, і спадзяюся, што дэмакратычныя працэсы ў Расеі ўзмацняюць нашу самастойнасьць. Я думаю, што будучыня за дэмакратычнай Расеяй.

*Валошка:* Ня так даўно створаны антыкрызісны камітэт мае на мэце абарону беларускай дзяржаўнасьці ад зьнешняй небясьпекі, але наўрад ці хто сумняваецца, што найбольшую небясьпеку звонку ўяўляе менавіта расейскі шавінізм.

*Шушкевіч:* Ну, і расейскі шавінізм, і нацыянальная неадукаванасьць беларусаў, і агульная неадукаванасьць людзей іншых нацыянальнасьцяў на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, і агульная неадукаванасьць некаторых вайскоўцаў на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь не дазваляе пэўныя захады рабіць імкліва. І гэта трэба ўлічваць. Ніколі мне не падабаўся расейскі шавінізм, але я думаю, што ён ня возьме верх у Расеі. А ў нас на Беларусі мы будзем улічваць рэакцыю грамадзтва на пэўныя крокі і будзем рабіць гэтыя крокі памяркоўнымі, ня вельмі вялікімі.

*Валошка:* Шэраг дэмакратычных рухаў і партый нашай Рэспублікі крытыкуюць кіраўніцтва за прамаруджваньне са стварэньнем уласнай арміі. Зразумела, што гэта працэс не аднаго дня, і ўсё-ткі, мне здаецца, ёсьць захады перша-

чарговыя — прыняцьце афіцэрамі прысягі на вернасьць Беларусі, скажам, інакш яны нічым юрыдычна не адрозьніваюцца ад наёмнікаў, якія служаць за грошы, а грошы, між тым, спакушаюць і на здраду.

*Шушкевіч:* Вы ня маеце рацыі. Гэтыя афіцэры катэгарычна адрозьніваюцца ад наёмнікаў, таму што наёмнікі ідуць на добрую работу, атрымоўваюць добрыя грошы, і яны ведаюць, на якую работу яны пайшлі. А тут справа іншая. Чалавек быў шчыры, сумленны, даў прысягу на вернасьць Саюзу, і кожны тыдзень зь ім праводзілі палітработу, не было часу задумацца над тым, што адбываецца навокал. А яму ўсё гаварылі, што «так, так, так, і прысяга — гэта сьвятое». І вы хочаце, каб за месяц, за два, за тры гэтыя людзі пераканаліся, што гэтая прысяга — гэта глупства? Ведаеце, чалавечы, афіцэрскі гонар многім не дазваляе гэтага рабіць.

Калі маю беларускую годнасьць таптаі ў гразь, мне было прыкра і непрыемна, і я як мог супрацьстаяў гэтаму заўсёды, і, ведаеце, яны будуць супрацьстаяць гэтаму. А мы хацелі зрабіць так, каб гэта было іх перакананьнем, гэтая прысяга, інакш чалавек сумленны гэтую прысягу і ня прыме. І я хачу вам сказаць, што мне падабаецца падыход да гэтай справы і камісіі Вярхоўнага Савету, і Міністэрства абароны. І я перакананы, што трэція ўгодкі нашай незалежнасьці будуць адзначаны тады, калі пытаньне аб прысязе ня будзе ўзьнікаць. Пачакаем.

## «Я ніколі не прысягаў Беларускаму Народнаму Фронту»

*Валошка:* У свой час невытлумачаным застаўся ваш адыход ад Беларускага Народнага Фронту. Калі ласка, чым кіраваліся вы, парываючы з гэтым рухам?

*Шушкевіч:* Я ніколі ня быў членам БНФ, і таму парываць мне зь ім ня трэба было.

*Валошка:* Але Беларускі Народны Фронт падтрымліваў вас на выбарах у Вярхоўны Савет, ды вы мелі і іншае дачыненьне зь ім.

*Шушкевіч:* І ведаеце што, я падтрымліваў і падтрымліваю тыя ідэі Адраджэньня, якія былі ў першай праграме Беларускага Народнага Фронту. Я вам скажу, я дэталёва ўжо астатнія дакумэнты ня ў стане вывучыць, а што да эканамічнай праграмы, дык нават з пункту гледжаньня сыстэмнага аналізу — я не як эканаміст, а як сыстэмшчык, — гэта абавязкова трэба ў парадак нейкі прыводзіць праграму... Дык нават з пункту гледжаньня сыстэмнага аналізу яна не цярпіць сур'ёзнай крытыкі. Як жа я магу быць прыхільнікам такой праграмы?

Я вам толькі што гаварыў, што галоўнае для нас — гэта эканоміка. І ведаеце, даюць парады ў асноўным тыя, хто ня мае ніякага дачыненьня да эканомікі і ніколі не сутыкнуўся зь ніякімі эканамічнымі праблемамі і зь іх вырашэньнем. І таму я не магу ўспрыняць гэтыя ідэі і не магу іх падтрымаць. Там ёсьць многа лёзунгаў правільных, дэкляравана многа правільных падыходаў,

але там няма сыстэмы, і таму — чаму я павінен гэта падтрымліваць?

Я ніколі не прысягаў Беларускаму Народнаму Фронту і ніколі іх не падтрымліваў у гэтым пляне, напрыклад, эканомікі. Далей, я не магу падзяліць падыходы, калі людзі ўносяць у грамадзтва азлабленьне, супрацьставяць вялікія групы адна адной. І мне здаецца, што гэта прысутнічае ў дзеяньнях асобных кіраўнікоў БНФ. У БНФ ёсьць цудоўныя адукаваныя людзі, я падтрымліваю зь імі добрыя стасункі, я паважаю пазыцыю БНФ, і дазвольце мне мець сваю думку па некаторых іх падыходах.

*Валошка:* Між тым трэба аддаць належнае БНФ. Ледзь ня ўсе выстаўленыя ім мэты — абвяшчэньне дзяржаўнасьці беларускай мовы, дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі, забарона дзейнасьці КПБ і шмат якія іншыя — ажыцьцявіліся, прычым Фронт першым з палітычных сілаў выстаўляў іх. Ці пагодзіцеся вы з тым, што ў такім разе менавіта БНФ стаў рухавіком прагрэсу і нацыянальнай дэмакратыі?

*Шушкевіч:* Я яшчэ раз хачу сказаць: у пляне адраджэньня беларускасьці БНФ зрабіў многа, ініцыяваў многае, але ўсё тое, што вы прыпісваеце БНФ як заслугу — ня ўсё гэта справа БНФ. Ён і цяпер супрацьстаіць многім стагнацыйным падыходам, я з гэтым магу пагадзіцца цалкам. Але я не магу пагадзіцца з падыходамі, якія могуць прывесьці нас да складаных адносін паміж сумленнымі людзьмі на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь і супрацьстаяньня вялікіх груп людзей. У

мяне ёсьць свая ацэнка пэўных падыходаў. Можа, з пункту гледжаньня стратэгіі я б значна больш падзяляў падыходы БНФ, але тактычна ня мае апраўданьня многае.

І я вам скажу, што тое, што БНФ часта далучаўся да стыхійнай ініцыятывы супрацьстаяньняў, ну, да стачкамаў, напрыклад, у красавіку мінулага году, і да многага іншага, а пасьля гаварыў, што гэта яго ініцыятыва, — гэта проста жарт. Таму што я ведаю гэтыя стачкамы, іх прадстаўнікоў, і яны прасілі іх ня блытаць з БНФ. І, дарэчы, і БНФ, калі яны рабілі захады занадта апалітычныя, таксама прасіў іх ня блытаць з сабой. А цяпер вы ўсё гэта на рахунак БНФ заносіце. Гэта ўжо вашая справа, але я з гэтым ня згодзен. Не зусім, дакладней, згодзен.

*Валошка:* Такім падыходам, які не спрыяе нацыянальнай згодзе, вы лічыце і рэспубліканскі рэфэрэндум (пра датэрміновыя выбары Вярхоўнага Савету. — РС)?

*Шушкевіч:* Як гэта я магу пра рэфэрэндум гаварыць, што ён не спрыяе нацыянальнай згодзе? Я не магу адмоўна гаварыць пра гэты падыход, таму што па закону сабрана неабходная колькасьць подпісаў для таго, каб правесьці рэфэрэндум. А далей ня трэба гуляць у гульні, давайце і далей будзем выконваць закон. Вось калі мне хто-небудзь скажа, што я якую-небудзь пазыцыю парушыў альбо хачу парушыць, няхай мне скажа. Але БНФ хоча выконваць закон там, дзе ён выгадны для БНФ, і ня вельмі хоча набрацца цярпеньня і пачакаць наступнай пазыцыі. Ініцыятары

рэфэрэндуму ўвялі ў зман, я б сказаў так, у зман, я не баюся гэтага слова, нашую Цэнтральную выбарчую камісію, бо яна зрабіла ня вельмі разумны захад, а лягічнае, з пункту гледжаньня часу і сэнсу, пытаньне пастаўлена на рэфэрэндум. Дык няхай цяпер набяруцца цярпеньня ініцыятары і пачакаюць, пакуль па закону будзе прынятае рашэньне аб тым, калі праводзіць рэфэрэндум.

## «Ня час уводзіць прэзыдэнцтва, трэба пачакаць»

*Валошка:* У праекце новай Канстытуцыі Беларусі прадугледжана ўвядзеньне інстытуту прэзыдэнцтва. Вашае стаўленьне да гэтай праблемы?

*Шушкевіч:* Такое, як і ў БНФ. Вось гэта адзіная пазыцыя, якую я падзяляю з БНФ цалкам. Я лічу, што ня час уводзіць прэзыдэнцтва на Беларусі, трэба пачакаць, хаця б гады тры. Трэба ўмацаваць парлямэнцкую форму праўленьня. І я б накіраваў энэргію апазыцыі таксама на тое, каб удасканальваць работу нашага парлямэнту. Ён пакуль што, няхай мне прабачаць парлямэнтарыі, ня так арганізацыйна вырас, ня так наладзіў сваю работу, каб мог быць супрацьвагай таталітарным падыходам прэзыдэнта, а такое можа здарыцца. Парлямэнт павінен быць гарантам таго, што ў нас будзе дэмакратыя. Мне здаецца, што трэба ўдасканаліць работу парлямэнту, каб ён такім гарантам быў на самой справе і каб ніякі прэзыдэнт ня мог гэтага зьмяніць.

*Валошка:* Ці ўлічваеце вы, што ў выпадку выбараў прэзыдэнта менавіта ваша кандыдатура мае найбольшыя шанцы, як сьведчаць вынікі сацыялягічных апытаньняў?

*Шушкевіч:* Я не такі сьціплы, каб пра такое ня ведаць і каб гэта ня ўлічваць. Але ўжо вы мне прабачце, і тут вы можаце сьмяяцца, даваць камэнтар нейкі, але інтарэсы Беларусі для мяне значна вышэй, чым інтарэсы ўласныя. І мне дастаткова ўлады для таго, каб сумленна працаваць цяпер і многа.

*Валошка:* І ўсё-ткі, у выпадку такіх выбараў, ці выставіце вы сваю кандыдатуру?

*Шушкевіч:* Я ўжо гаварыў, давайце мы выканаем спачатку першую ўмову. Я супраць таго, каб гэтае пытаньне станоўча вырашаць цяпер. Але я таксама супраць таго, каб даваць пэўныя гарантыі, што я адыду ад любых формаў палітычнага жыцьця, ну, з-за таго, што я зрабіў нейкія папярэднія захады і абяцанкі. Ня трэба так падыходзіць.

*Валошка:* На ваш погляд, разьвіцьцё дачыненьняў зь якімі краінамі сьвету найбольш пажаданае для Беларусі?

*Шушкевіч:* Ну, для сябе я б разлажыў прыярытэты наступным чынам: Расея, Украіна, Германія, Францыя. Ну вось чатыры першыя пазыцыі — яны адназначныя з пункту гледжаньня майго разуменьня сытуацыі. Мы павінны разьвіваць вельмі добрыя адносіны з Польшчай, зь Літвой, з усімі нашымі суседзямі.

Што да далёкіх краінаў, я б ішоў па шляху прыцягваньня ў Беларусь інвэстыцый. Заўважце, не крэдытаў, а інвэстыцый. Калі нам прыйдзецца сплачваць у тэрмін тую долю запазычанасьці нашай, мы фактычна знаходзімся ў крытычным стане з пункту гледжаньня крэдытных магчымасьцяў і ня маем фактычна права шукаць далей крэдыты, нават зручныя. Таму, што да далёкіх краінаў, — зразумела, мы зацікаўленыя ва ўзаемадзеяньні з тымі краінамі, дзе ёсьць свабодны капітал, і хацелі б стварыць умовы для таго, каб яго было зручна ўкладаць у Беларусі, для таго, каб адплаціць за яго сваёй працай, бо больш нам няма чым плаціць.

# «Галоўны здабытак — беларуская дзяржаўнасьць»*

Кастрычнік 1994
Аляксандар Лукашук

*Лукашук:* У мяне ёсьць шэраг канкрэтных пытаньняў пра працу Вярхоўнага Савету, якія я падрыхтаваў, але спачатку даволі агульнае. На вашу думку, якія галоўныя характарыстыкі Вярхоўнага Савету Беларусі, скажам, у адрозьненьне ад іншых? Пра што найперш трэба гаварыць, каб яго прадставіць? Што ён такое?

*Шушкевіч:* Адрозьненьне яго ад вядомых мне Вярхоўных Саветаў і парлямэнтаў — вельмі нізкая палітычная сьвядомасьць. Усё астатняе — як і ў іншых.

*Лукашук:* Пад «палітычнай сьвядомасьцю» што вы маеце на ўвазе?

*Шушкевіч:* Я разумею пад «палітычнай сьвядомасьцю», ну, калі хочаце, «палітычную адукаванасьць». У нас фактычна ў значнай ступені адбываецца маніпуляваньне вось гэтай дэпутацкай думкай, таму што калі даходзіць справа да сур'ёзных пытаньняў, большая частка дэпутатаў,

* Гэтая гутарка, прысьвечаная мэханізмам маладога беларускага парлямэнтарызму, адбылася ў апошнія месяцы працы Вярхоўнага Савету 12-га скліканьня, калі Станіслаў Шушкевіч ужо ня быў сьпікерам парлямэнту, але заставаўся дэпутатам. У чэрвені 1994 году прайшлі першыя прэзыдэнцкія выбары, на якіх Станіслаў Шушкевіч заняў чацьвёртае месца, набраўшы 9,9% галасоў.

прабачце, не ўяўляе, аб чым гаворка. І яны фактычна альбо галасуюць, падтрымліваючы тых людзей, якіх яны паважаюць, якія ўяўляюць, у чым справа, і заклікаюць, падштурхоўваюць іх да такога галасаваньня, альбо на чыста эмацыянальным узроўні.

## «Найбольш адукаваныя — апазыцыя Беларускага Народнага Фронту»

*Лукашук:* А скажыце, з пункту гледжаньня палітычнага раскладу, якія сілы ў парлямэнце, на вашую думку, больш адукаваныя, больш прафэсійна працуюць?

*Шушкевіч:* Відавочна, што найбольш адукаваныя — апазыцыя Беларускага Народнага Фронту, хаця гэтую назву я лічу абсалютна нелягічнай, таму што бывае апазыцыя пэўнаму рэжыму, а не апазыцыя некага. І вось гэтая група — найбольш працавітая і найбольш адукаваная, але вельмі малакалькасная.

*Лукашук:* Наколькі Вярхоўны Савет вырашае задачу «кіруемасьці дзяржавай», што называецца, наколькі ён спрыяе ўладзе ў Беларусі?

*Шушкевіч:* Ну, пакуль што ня вельмі ў такой значнай ступені да гэтага часу. Але таму што, гэта проста тлумачыцца, у нас была вельмі супярэчлівая Канстытуцыя, таму што Канстытуцыя з тымі папраўкамі, якія былі ўнесеныя, яна, фактычна, была сумбурнай, абсурднай. Разьдзяленьне ўладаў дэкляраванае ў канстытуцыйным законе нашым, у Дэклярацыі аб дзяржаўным сувэрэнітэце,

але фактычна ня выпраўлены былі артыкулы, і гэтым ніхто не займаўся, і таму ўжо чакалі новай Канстытуцыі. І вось цяпер фактычна стварыліся падставы для таго, каб была сыстэмнасьць, таму што раней падстаў для сыстэмнасьці не было.

Але калі глянулі, як многа трэба ўпарадкоўваць, гэта проста жах! Вельмі многа работы, таму трэба ўпарадкоўваць гэтую сыстэму, мы фактычна адрозьніваемся нават ад краін Прыбалтыкі. Яны ўвялі Канстытуцыю, якая дзейнічала да 1940 году, і толькі ўносяць у яе папраўкі, у іх усё проста. А ў нас — мы ж фактычна стварылі новую Канстытуцыю, і я думаў, што тое, што на паверхні, пэўныя там недапрацоўкі, скажам мякка, яны ёсьць.

## «Людзі жылі на вёсцы, верылі шаману, а тут прыехаў адукаваны доктар…»

*Лукашук:* Вось на практыцы, скажыце, рашэньні Вярхоўнага Савету — наколькі эфэктыўна яны выконваліся ніжэйстаячымі структурамі?

*Шушкевіч:* Я ж вам адразу кажу, што тут вялікая супярэчлівасьць. У нас ня вызначаныя функцыі мясцовай улады заканадаўча дакладна і функцыі цэнтральных уладаў.

*Лукашук:* А на практыцы гэта як адбывалася?

*Шушкевіч:* На практыцы… Чаму ў нас заўсёды падымалася пытаньне жорсткай вэртыкалі? Таму што фактычна Вярхоўны Савет прымаў рашэньні і прымаў законы, а гэтымі законамі ніхто не хацеў карыстацца і ня меў намеру. Ну, напрыклад, закон

аб банкруцтве, ён ні разу не ўжываўся. А як жа ён можа быць? Калі табе ня плаціць грошы арганізацыя, юрыдычная асоба, калі ты ёй накіраваў па дагавору нейкі тавар, ты падаеш на яе ў суд, калі ў яе няма грошай, яна абанкруціцца, і гэтыя грошы расплачваюцца. У нас гэта ні разу не было ўзьнята пытаньне, таму што ў нас заўсёды існуе «праблема неплацяжу».

Закон ёсьць, які вырашае гэтую праблему, але нават боязна прыхінуцца да гэтага, таму што тады савецкая ўлада раптам зробіць банкрутам калгас. І тут пачынае працаваць не заканадаўчы, а эмацыянальны ўзровень, але, яшчэ раз падкрэсьлю, і нізкая адукаванасьць, таму што калі дэпутаты прымалі гэты закон, ім у галаву не прыйшло — ну, можа, ён там мог бы быць лепшы, аналягічны закон быў бы, але ім у галаву не прыйшло, што гэта можа быць такой зброяй, каб наладжваць рынычныя адносіны. І калі яны ўбачылі, што гэта мой сябра кіруе калгасам, а я зьяўляюся старшынёй аблвыканкаму, ну як я падыму пытаньне аб тым, каб зрабіць калгас банкрутам?

Ніхто не ўжываў гэтага закону і не імкнуўся і нават не падымаў гэтае пытаньне, таму што гэта ўсё роўна як бы людзі жылі на вёсцы, верылі шаману, а тут прыехаў адукаваны доктар, да яго баяцца зьвярнуцца.

*Лукашук:* Я зразумеў, што не існавала мэханізму рэалізацыі паўнамоцтваў Вярхоўнага Савету.

*Шушкевіч:* І сёньня не існуе мэханізму поўнай рэалізацыі. Таму што ёсьць пэўныя пазыцыі, якія

рэалізуюцца, калі гэта адбіваецца ў Крымінальным кодэксе, калі гэта адбіваецца ў Грамадзянскім кодэксе, тут можа працаваць суд. А вось што да эканамічнага жыцьця, я б сказаў, і на сёньняшні дзень — ну, на эмоцыях мы ж прынялі прыватызацыйных шэраг законаў. І сёньня, бачыце, спынена прыватызацыя, таму што трэба было разабрацца новай камандзе. Цяпер яна разабралася, і можна яе зноў аднавіць, а вось гэтая мітусьня — яна, па-першае, адкрывае шлях да злоўжываньняў, па-другое, калі мітусьня, заўсёды цёмныя, цемнаватыя сілы на гэтым нажываюцца.

*Лукашук:* Яшчэ адна якасьць Вярхоўнага Савету: наколькі ён, па-вашаму, быў прадстаўнічы? Наколькі ён прадстаўляў усе інтарэсы, сілы грамадзтва?

*Шушкевіч:* На гэтую тэму ня трэба гаварыць, ён ніякім прадстаўнічым ня быў. Але ён дэфармаваўся ў лепшы бок. Справа ў тым, што… Ну нават возьмем таго дэпутата Піскарова (былы міністар МУС БССР. — РС), гэта быў адзін з апалягетаў старога рэжыму, і там калі было 30 кастрычніка ў 1988 годзе, — на чале тых, хто давіў. А цяпер вось паслухайце яго, у пятніцу ў Вярхоўным Савеце, калі ідзе справа аб заканадаўстве, ён, я так сказаў бы, «на закаце дня», ён ачнуўся, як юрыст вельмі лягічна выступае, вельмі пасьлядоўна, дарэчы, праводзіць вельмі лягічную лінію, лепшага дэпутата ня трэба.

## «Нашы абставіны абуджаюць беларускасьць і жаданьне мець нармальную ўладу»

*Лукашук:* Наконт пастаянных камісій Вярхоўнага Савету. Які мэханізм абраньня членаў камісіі?

*Шушкевіч:* Гэта аўтаматычна на паседжаньні сэсіі Вярхоўнага Савету. Звычайна сам дэпутат, у якую камісію ці хоча, ці заявіў, што ён у дзяржаўнае будаўніцтва хоча, — калі ласка. Тут перашкод не было.

*Лукашук:* Якія камісіі лічацца ўнутры там у вас самыя прэстыжныя і ўплывовыя?

*Шушкевіч:* На жаль, ня тыя, якія павінны быць самымі ўплывовымі. Вось я вам так скажу: самай уплывовай павінна быць камісія, якая займаецца эканамічным разьвіцьцём. Гэта павінна была быць камісія Кулічкова. Я вас накіроўваю да дакумэнтаў. Але яна самая заблытаная. Значна больш уплывовай зьяўляецца камісія па эканамічнай рэформе Козіка, але яна стрыманая, ведаеце, яна ня вельмі рвецца наперад. Ёсьць такія яркія фігуры, але яны не зьяўляюцца вельмі ўплывовымі.

Вельмі ўплывовай у нас стала камісія па нацыянальнай бясьпецы. Я б сказаў, што зразумела, што так як яна фактычна пачала праводзіць прарасейскую лінію… Таму Грыб, які спачатку быў вялікім праціўнікам калектыўнай абароны, таму што ён як старшыня камісіі, як член дэлегацыі заўсёды мне раіў, што мы ні ў якім разе не

павінны падпісваць, — пасьля, калі ён зьмяніў свой пункт гледжаньня, калі за гэта яго вельмі палюбіў урад, усе тыя, хто лічыў, што калі мы ня будзем глядзець, раскрыўшы зяпу, прабачце, на Расею, усё, што яна скажа рабіць, то будзе дрэнна. Вы ж ведаеце, так і Лінг, і Мясьніковіч, Кебіч, усе яны заўсёды прытрымліваліся такога пункту гледжаньня. І вось пра абʼяднаньне сыстэмы, успомніце, што гаварыў той самы Лінг, Мясьніковіч.

Камісія была ўплывовай, але цяпер яна стала яшчэ больш прарасейскай, калі яе ўзначаліў Новікаў, яна перастала нават працаваць. Напрыклад, не падрыхтаваны быў закон аб сакрэтах нават на дзяржаўнай мове, яны наогул вырашылі: што хочуць, тое і будуць рабіць. Я лічу, што гэта такі даволі ўплывовы не кансэрватыўны, а рэакцыйны орган…

*Лукашук:* Яшчэ якія камісіі вы лічыце важнымі і ўплывовымі?

*Шушкевіч:* Мне падабаецца, і мне здаецца, што робіць усё магчымае для станаўленьня дзяржаўнасьці камісія па адукацыі і культуры, камісія, якую ўзначальвае Гілевіч. На жаль, пасьля таго як Садоўскі перастаў узначальваць камісію па міжнародных справах, яна апынулася ў вельмі прымітыўных руках, скажам проста, нізкаадукаваных. Ну, як бы ні стараўся старшыня гэтай камісіі, ён наўрад ці можа выйсьці на такі дастойны ўзровень. І тут што выкарыстоўвалася…

Ну, зразумела, што Міністэрства замежных спраў было структурай значна больш адукаванай, яно фактычна навязвала лінію гэтай камісіі, таму што тут не было прафэсіяналаў, і, на шчасьце, там усё ж адзін чалавек, Голубеў, які нейкі такі балянс дазваляе зрабіць.

Далей, я вам скажу, цяпер у нас усе надзеі на сёньняшні дзень на камісію па дзяржаўным будаўніцтве, на камісію Леўчыка. І я вам павінен сказаць, для мяне зьявілася поўнай нечаканасьцю, мне здаецца, вельмі лягічная пазыцыя па пытаньні мясцовага кіраўніцтва, па пытаньні аб Кабінэце міністраў, аб прэзыдэнту. Я вам скажу, што думаю, што два гады назад немагчыма было такое выступленьне Леўчыка, якое было сёньня. Відавочна, усё ж нашы абставіны абуджаюць гэтую беларускасьць і жаданьне мець нармальную сыстэму ўлады, канстытуцыйную.

*Лукашук:* У чым функцыя камісіі ў парлямэнце?

*Шушкевіч:* Камісія можа альбо праявіць сваю ініцыятыву і зрабіць законапраект, але звычайна гэта яна робіць у адпаведнасьці з тым плянам, які быў распрацаваны на год работы Прэзыдыюму Вярхоўнага Савету, таму што кіраўнікі камісій зьяўляюцца членамі Прэзыдыюму. Але, як вы ведаеце, гэтыя пляны парушаліся, бо мы своетэрмінова не зрабілі Канстытуцыю, таму што мы хацелі гэта хутчэй значна зрабіць, таму гэтыя пляны карэктаваліся.

І другая функцыя — камісія аналізуе прапановы тых, хто, маючы права заканадаўчай іні-

цыятывы, дае законапраект. Функцыя кантролю за выкананьнем заканадаўства выяўлена вельмі дрэнна вось чаму: фактычна няма азначаных прывадаў, рычагоў, каб ажыцьцяўляць кантроль выкананьня заканадаўства. Фактычна камісія ня мае ніякіх структураў, каб гэта рабіць палюдзку. І гэта пераводзіцца, перадаецца паперамі на больш нізкія ўзроўні, на аблвыканкамы і на райвыканкамы, ну, і вы ведаеце, што тут многа ў нас прастрэлаў.

## «Многа такіх эмацыйных было ў нас захадаў, якія ня робяць гонару Вярхоўнаму Савету»

*Лукашук:* А ці можаце вы ўзгадаць, як выбіраліся старшыні камісій, што за гэтым стаяла? Хто станавіўся старшынёй?

*Шушкевіч:* Старшыні гэтых камісій выбраны пераважна па рэкамэндацыі былога ЦК КПБ. За выключэньнем тых, каго выбіралі пасьля. Але і тут цень гэты існаваў.

*Лукашук:* Наколькі гэтыя асобы ўплывовыя, наколькі яны кіравалі работай Вярхоўнага Савету, наколькі іх роля вялікая?

*Шушкевіч:* Бачыце, гэта ўсё залежыць ад асобы. Я б сказаў, стракатая тут вельмі сытуацыя.

*Лукашук:* Ад пасады не залежыць?

*Шушкевіч:* Ад пасады не залежыць. Перш за ўсё ад уласных якасьцяў, уласнай сумленнасьці. Але, ведаеце, мы ўсе жывём пад гэтымі хмарамі мінулага, і таму камісія, фактычна, калі праца-

вала, яна спадаблялася тым структурам, якія былі раней, яшчэ раней былі ў Вярхоўным Савеце. Ну, напрыклад, возьмем камісію па Чарнобылю. Жаданьне было шчырае — зрабіць добра. Зрабіць добра — значыцца, зрабіць як мага больш ільгот, так разумеў старшыня камісіі. Калі яму гаварылі, што ў Беларусі няма сродкаў, каб гэта зрабіць, то — «СССР, Расея нам паможа». Зрабілі такі закон. Ну, і цяпер паглядзіце, у нас па гэтым годзе 1994-м 15,5% выдаткаў па Чарнобылю зь бюджэту, у мінулым — 19%. Я маю на ўвазе плян, а не выкананьне, тое, што па бюджэту зацьверджана.

У Расеі, калі мы возьмем, 0,5% бюджэту ідзе на наступствы, ва Ўкраіне — 3% афіцыйнай часткі бюджэту. Ведаеце, гэта ніякая дзяржава ня вытрымае таго, што можа вытрымаць Беларусь, таму што… І фактычна што пачалі? Пачалі дрэнна выконваць гэты закон. Патрэбна пэўная мужнасьць, што нейкія другасныя наступствы, забыцца на іх, скарэктаваць закон. Вы ж ведаеце, на гэтай папулісцкай хвалі… І вось старшыня змагаецца, змагаецца, каб закон працаваў, каб дапамога ішла, а якаснай карэкціроўкі закону, у адпаведнасьці з нашымі эканамічнымі магчымасьцямі, няма. Таму фактычна дапамога ідзе ня тым, хто больш за ўсіх пацярпеў, а тым, хто больш за ўсіх крык падымаў, і тым, хто ўладкаваўся нядрэнна.

У нас Чарнобыль, я быў у гэтых вёсках, і там людзі як жылі, а тыя, што паезьдзілі, арганізавалі работу, яны цяпер зьяўляюцца ільготнікамі. І вось многа можна прывесьці прыкладаў у іншых

камісіях. Ёсьць катэгарычна іншыя прыклады. Зноў жа возьмем камісію па культуры, яна нядрэнна працуе… Асобны пункт — гэта плянавы бюджэт на яе. Я лічу, што гэта ганьба наша нацыянальная, што адбылося ў плянах бюджэтнай камісіі.

Фактычна Вярхоўны Савет паказваў неаднаразова прыклад парушэньня закону. Напрыклад, падае народны дэпутат Кавалёнак заяву, што ён грамадзянін Расеі, а Вярхоўны Савет да гэтага часу лічыць, што ён такі добры чалавек, што ня трэба выконваць законы, не галасуе за тое, каб ён пайшоў у адстаўку.

*Лукашук:* Хаця ён грамадзянін Расеі, ён ня можа быць дэпутатам.

*Шушкевіч:* Ён ня можа быць дэпутатам. Я яшчэ раз вам кажу, гэта толькі ў нашым парлямэнце можа быць. Другі прыклад. Старшыня бюджэтнай камісіі абраны кіраўніком банку. Калі чалавек мае ўласны гонар, калі ён абіраўся людзьмі і калі ён пайшоў служыць, ну, пайсьці… І вось ён падае заяву. І тут трэба было яму зрабіць заўвагу, што ён фактычна здрадзіў сваім выбаршчыкам, што ўласнае стала больш, чым дзяржаўнае, і камісія яго не адпускае, і чалавек кіруе банкам камэрцыйным у той жа час. І толькі вось нядаўна гэта адбылося, што ён вызвалены ад гэтай пасады. На гэтай сэсіі гэта адбылося.

Я магу прыводзіць яшчэ прыклады. Калі толькі на гэтай сэсіі… гэта павінна быць аўтаматам, імгненна ўздымацца. Я ж сам ставіў пытаньне на галасаваньне па Кавалёнку, і… прабачце, гэта

не патрэбна. Дэпутат абражае Вярхоўны Савет, кладзе дэпутацкае пасьведчаньне, гаворыць, што ён пойдзе ў адстаўку, Вярхоўны Савет яго падтрымлівае. І многа такіх эмацыянальных было ў нас захадаў, якія ня робяць гонару Вярхоўнаму Савету.

## «Выйграць у Вярхоўнага Савету я не магу, а перайграць дзе-нідзе мог»

*Лукашук:* Прапановы камісіі: наколькі часта яны аўтаматычна потым зацьвярджаюцца на сэсіі, а наколькі часта адхіляюцца?

*Шушкевіч:* Ведаеце што, трэба імкнуцца да таго, каб было так: альбо аўтаматычна зацьвярджаюцца цалкам, альбо аўтаматычна адкідваюцца і канцэптуальна робяцца заўвагі. У нас, на жаль, мы пачынаем, прабачце за такое слова, калупацца ў пэўных законах на другім чытаньні, так, і ўносіць папраўкі, якія парушаюць сыстэмнасьць. Я думаю, што гэта трэба перажыць, таму што нельга патрабаваць усё ж ад нашага, з малымі традыцыямі такімі сапраўднымі парлямэнцкімі Вярхоўнага Савету, яго камісій высакаякаснай прафэсіянальнай работы. Гэтай работы многа, рутынная работа. І тут я б сказаў так: працэнт гэты ўвесь час павялічваецца, але ён невялікі. І пэўныя законы, якія, ну, у малой ступені маюць дачыненьне да ўрадавай палітыкі, ну, напрыклад там аб таварных знаках, аб патэнтах, навуковай дзейнасьці. (Дарэчы, я лічу, закон даволі слабы, ня ведаю, што ён дасьць у першым чытаньні,

як дапамагчы.) Яны прымаюцца лёгка, і нават шэраг законаў у другім чытаньні быў прыняты фактычна цалкам. Але такіх, якія ня маюць дачыненьня да бюджэту і да кіраваньня.

Ну, і вельмі, я лічу, вялікія цяжкасьці стварае ў нас група вэтэранская, якая змагаецца за правы вэтэранаў, не разумеючы адной простай асаблівасьці, што калі падаткі на прамысловасьць і паборы з прамысловасьці будуць вялікімі, то, нягледзячы на гарантаваныя законамі ільготы, рэальна гэтых ільгот ня будзе ў вэтэранаў. І цяпер выступае, напрыклад, Жукоўскі, ну гэта ж сорам слухаць. Ён гаворыць: «Так, я падтрымліваю, але вось не забудзьце, што ўсё гэта добра разьлічаны падыход, не забудзьце, што ёсьць такая катэгорыя». Ну хто ж пра гэта забывае? Навошта гэтыя заклінаньні?

*Лукашук:* Скажыце, як камісіі зьвязаныя з вонкавым сьветам, зь міністэрствамі, структурамі лабіраваньня, з партыямі?

*Шушкевіч:* Ну, напрыклад, камісія Кулічкова ня здольная была зрабіць шэраг законаў, заўсёды чакала ад Савету міністраў такіх прапаноў. Вось бачыце, камісія па дзяржаўным будаўніцтве ўстала на ногі. Камісія па будаўніцтве архітэктуры фактычна слухала Дзяржбуд, але паціху там дзе-нідзе мела сваю думку. Закон у нас аб прыватызацыі жыльля прыняты не такі, каб можна было ад яго радавацца, многа тут блытаніны ёсьць, так. Таму тут нейкага аднаго падыходу нельга. Ну, і самая вялікая складанасьць — аса-

бістыя асаблівасьці людзей адбіваюцца на рабоце камісіі.

Вось возьмем камісію па заканадаўстве. Чалавек, які быў шараговым сьледчым (Дзьмітрый Булахаў. — РС), узначаліў гэтую камісію, але так як ён па адукацыі юрыст, а для большасьці Вярхоўнага Савету юрыспрудэнцыя — гэта цёмны лес… Ён зразумеў, што ён працаваў самастойна зь юрыдычнай літаратурай, сыстэму ведаў. А іншыя? Яны ж не зварухнуліся. І таму спачатку, адкрыўшы рот, слухалі ўсё, што гаворыць камісія па заканадаўстве. А камісія па заканадаўстве — гэта выдумкі аднаго чалавека, яго навязваньні. Ну, у рэшце рэшт ужо ўсяму Вярхоўнаму Савету стала ясна, што гэта маніпуляваньне думкай Вярхоўнага Савету. Тут ужо калі Леўчык абразіўся, калі ўсе стагнаты, якіх выручаў Булахаў, калі ўсе яны пачалі яго асуджаць і нікуды яго не абралі, зразумелі, што ня дай бог у Канстытуцыйны суд, то гэта яму лепш там быць каморнікам нейкім, альбо там прыказчыкам.

Тут аднолькавага падыходу няма. Ёсьць нейкія камісіі, якія ствараюць нямнога шуму, яны неяк так знаходзяць спосаб працаваць. Мне здаецца, што вось Давідовіч цяпер узначальвае камісію, якую спачатку ўзначаліў Каратчэня, пасьля Вярцінскага не абралі кіраваць гэтай камісіяй. І яна так, мне здаецца, імкнецца, разумеючы сытуацыю ў Вярхоўным Савеце, дэмакратычна вырашаць пытаньні.

*Лукашук:* Вяртаючыся яшчэ раз да лабіраваньня камісій, каб правесьці нейкія свае інта-

рэсы. Як увогуле адрозьніваецца лабіраваньне ад карупцыі ў Вярхоўным Савеце, у чым адрозьненьне? І як адбываецца лабіраваньне нейкіх інтарэсаў?

*Шушкевіч:* Вы ведаеце, у нас фактычна адбывалася лабіраваньне ўрадам камісіі Вярхоўнага Савету. Ну, лічыць гэта карупцыяй ніяк нельга.

*Лукашук:* Адзіная крыніца лабіраваньня.

*Шушкевіч:* Не, гэта яўная крыніца. А ўскосныя крыніцы і крыніцы… Вось я час ад часу ўжываў такі тэрмін, што выйграць у Вярхоўнага Савету я ня мог, а перайграць дзе-нідзе мог. Ну, як бы патрэбна лабіраваньне, і чыё, па пытаньнях, напрыклад, аб дзяржаўных сьвятах. Ну, тут лабіраваньне — гэта сумленьне тых, хто жыў ідэаламі Кастрычніка, вось яны і стваралі гэтыя сыстэмы, выводзілі тут на вуліцу, «няхай 7 лістапада будзе сьвятам!» — што аж на сьценку лезьлі. Ну якое тут лабіраваньне? Тут няма лабіраваньня. А ціск шалёны быў. Сем разоў ішоў гэты закон, я кажу…

Атрыбутыку дзяржаўную, сымбалі дзяржаўныя таксама, гэта ж зварʼяцець можна было б. Выйграць было немагчыма, таму што большасьць была супраць, але перайграць можна было. Трэба было запрасіць уплывовага прэзыдэнта Акадэміі навук, Таразевіча Георгія Станіслававіча беларускамоўнае выступленьне, зварухнулі і прынялі. А пасьля ўжо большасьць была б, можа, і супраць. І зноў жа поўная непавага да Вярхоўнага Савету: дэпутат Рэспублікі Беларусь ходзіць са старым дэпутацкім значком, ён фактычна гаворыць, што ён ня згодны з рашэньнем Вярхоўнага Савету,

калі закон і для яго павінен быць законам. Ну, нічога ня зробіш…

## «І стварылася так: усё цаца-цаца»

*Лукашук:* Хацеў бы вас папрасіць расказаць пра ролю Прэзыдыюму Вярхоўнага Савету. Гэтае ўтварэньне не зусім характэрнае для парлямэнцкіх структур. Што ён сабой уяўляе?

*Шушкевіч:* Мяне не непакоіць роля Прэзыдыюму ў мінулым, мяне непакоіць роля Прэзыдыюму сёньня. Сёньня Прэзыдыюм стаў дэкаратыўным органам, ён нічога не вырашае, акрамя ганаровай граматы Вярхоўнага Савету, якая няведама што каму дае, яна нічога не вырашае.

Я многа шукаў падыходаў, каб гэта падзяліць, таму што паглядзіце, што адбываецца. Гэта старшыні камісій. І вось камісія выносіць дрэнны закон. І калі сёньня Прэзыдыюм, другія члены камісіі зробяць заўвагі, то пасьля, калі гэты старшыня, які зрабіў заўвагі, дасьць на гэты ж Прэзыдыюм, дык яго паставяць у дрэннае становішча. І стварылася так: усё цаца-цаца.

Сумленнага, прафэсійнага аналізу ў самім Прэзыдыюме проста быць не магло, таму што кожны ведаў, што калі сёньня ён выносіць закон на Прэзыдыюм і Прэзыдыюм не рэкамэндуе яго разглядаць на сэсію, то заўтра гэты вынесе закон, і пачнецца гэтая бойка. І вось такога, я яшчэ раз падкрэсьлю, імкненьня да аб'ектыўнасьці не было, таму што заўсёды думка такая суб'ектыўная.

Прэзыдыюм мог, напрыклад, прыняць рашэньне ў перапынку паміж сэсіямі аб зьмене матэрыяльнага забесьпячэньня дэпутатаў. Мог вырашыць пытаньне аб тым, каб дэпутат альбо член Прэзыдыюму атрымаў кватэру…

*Лукашук:* Па вашых адчуваньнях, усё ж такі Прэзыдыюм вырашаў, як пойдзе сэсія, якія законы будуць прынятыя, у цэлым? Што вырашыў Прэзыдыюм, тое, у прынцыпе, потым пацьвярджалася, сэсія гэта рабіла?

*Шушкевіч:* Фактычна так, хаця гаворкі было многа-многа-многа, але некаторыя пытаньні… Ну, ведаеце, калі ў парадку дня з 55 пунктаў зьмяняецца два пункты — здавалася б, што гэта нязначна, але калі гэта былі пункты такія, на якіх канцэнтравалася ўся ўвага… Так што з колькаснага боку ўсё, што прапаноўвалася Прэзыдыюмам, праходзіла. А з пункту гледжаньня акцэнтаў вельмі часта гэта парушалася.

*Лукашук:* Рашэньні на Прэзыдыюме прымаліся якім чынам? Большасьцю галасоў?

*Шушкевіч:* Большасьцю галасоў ад колькасьці членаў Прэзыдыюму. Паседжаньне зьяўляецца правамоцным, калі прысутнічае ⅔, і большасьцю галасоў. Але ўвесь час існавала і цяпер існуе: па тых пытаньнях, якія мы вось не прынялі рашэньне на паседжаньні, мы вырашалі шляхам падпіскі. І справа ў тым, што час ад часу гэта парушалася, асабліва па паездках у замежжа. Гэта нельга выбіраць шляхам падпіскі, бо чалавек не адмовіцца падпісаць, яму нязручна. І, я вам скажу, мне было вельмі цяжка змагацца з гэтымі

парушэньнямі, бо звычайна парушаюць члены Прэзыдыюму.

*Лукашук:* Якая роля намесьнікаў старшыні Вярхоўнага Савету?

*Шушкевіч:* Я ня ведаю, навошта гэтулькі намесьнікаў. Магу толькі сказаць адно, што работа пагоршылася, таму што ў мой час ня трэба мець намесьнікаў многа, каб, напрыклад, убачыць, што кожная структура павінна адказваць за сваё. Камісія па заканадаўстве — за адпаведнае заканадаўства; камісія, якая рыхтуе, павінна прапанаваць варыянт на падставе нечай заканадаўчай ініцыятывы; службы там (рэдакцыйная, філялягічная, карэктура) — гэта ўсё ёсьць. І вось цяпер чатыры намесьнікі, і, вы мне прабачце, выносіцца на сэсію закон, які нават не перакладзены на дзяржаўную мову.

У рэглямэнце адзначана, чым займаецца старшыня, абавязкі старшыні. І старшыня можа частку сваіх абавязкаў разьмеркаваць паміж намесьнікамі. Я лічу, што два намесьнікі — гэта больш, чым трэба. Ну, а чатыры, я ня ведаю, я ня бачу выніку гэтай работы і ў арганізацыйным, і ў падрыхтоўчым сэнсе. Адно, што мяне цешыць, — што цяпер два намесьнікі, хоць я ня ведаю, якая зь іх карысьць, але цудоўна валодаюць беларускай мовай. Вось Русакевіч і Бамбіза, але затое ўжо пачаў адракацца і Кузьняцоў, ну, і час ад часу спатыкаецца і Грыб.

## «Улада ідзе па накірунку ўмацаваньня так званай вэртыкалі»

*Лукашук:* Я хацеў бы перайсьці да праблемы ўзаемадачыненьняў парлямэнту і іншых галінаў улады. Парлямэнт і судовая ўлада: ці ёсьць нейкая ўзаемасувязь і як узаемадзейнічаюць?..

*Шушкевіч:* Толькі прызначэньне было раней, але цяпер яно страчанае, таму што гэта функцыя прэзыдэнта.

*Лукашук:* Што, судовая ўлада і парлямэнцкая, прадстаўнічая ўлада больш ніяк не ўзаемадзейнічаюць?

*Шушкевіч:* Гэтае ўзаемадзеяньне было наладзіць вельмі цяжка. Вось гэтую ўсю кругавую паруку разрубіць — вельмі цяжка. У свой час узьнікла такое пытаньне: як могуць цяжкія злачынствы альбо дзеяньні, якія пацягнулі за сабой вельмі цяжкія наступствы, — як яны могуць быць закрытыя, гэтыя пытаньні, без суду? Ну, напрыклад забойства. Ведаеце, калі я пачаў у гэтым разьбірацца, быў шэраг нарматыўных актаў, якія гаварыў так, што калі пракуратура ня можа высунуць абгрунтаванае абвінавачаньне, яна можа проста не перадаваць гэта ў суд. На думку старшыні Вярхоўнага суду, гэта недапушчальна.

18% забойстваў, зьнявечаньняў, усяго такога толькі разглядалася судом. Ва ўсялякім выпадку, па стане на канец мінулага году. Я правёў заканадаўчую ініцыятыву, каб выраўнаваць гэтае пытаньне, каб быў такі пералік, што толькі судом разглядаецца. Ну вось, напрыклад, калі адзін

чалавек забіў другога выпадкова, то суд павінен вырашыць, вінаваты ён ці не, ва ўсіх краінах гэта так. У нас гэта ня так да сёньняшняга дня. І выраўнаваць гэты падыход стала немагчыма.

Цяпер далей. Здавалася б, усё павінен выраўнаваць новы Крымінальны кодэкс. І я вельмі зьдзівіўся, калі ў свой час атрымалі мы зь Венскага цэнтру ААН зь юрыдычнага аддзелу вельмі станоўчае заключэньне аб нашым праекце новага Крымінальнага кодэксу. Падчас таго як я быў у Вене, так атрымалася, што я выпадкова сустрэўся з гэтай групай юрыстаў. Я кажу так: мне вельмі прыемна, што вы далі аналіз, што ён рашуча адрозьніваецца ад нашага папярэдняга кодэксу, таго, які сёньня існуе.

І аб чым я даведваюся? Што тая група, якая давала заключэньне, яна была перакананая ў тым, што ў нас наогул няма Крымінальнага кодэксу, быццам быў нейкі кодэкс расейскі, якім мы карысталіся, цяпер мы яго адмянілі, і яны нават ня ведалі, што па рэспубліках былі свае… І пытаньне было прадстаўлена — можа, выпадкова, але, я думаю, знарок, — нашай камісіі па заканадаўстве. Дык яны мне гавораць: «Што вы! Калі вы маеце кодэкс крымінальны, то вы павінны яго выпраўляць, выпраўляць і выпраўляць, таму што вам прыйдзецца перавучваць усіх вашых юрыстаў. Гэта вялікая работа, вы ня будзеце мець прафэсіяналаў, распрацоўшчыкаў».

Дык вось я хачу сказаць, у нас многа зьявілася такіх грыбкоў, якія пасьля дажджу высыпаюць, але яны чарвівыя і гнілыя, альбо наогул атрут-

ныя. Мы ўсё ж не зьмяняем пасьлядоўна ў станоўчым сэнсе тое, што ў нас ёсьць.

Фармальна ў нас усё падзелена, але калі судзьдзя не атрымае кватэру, калі ён ні кала, ні двара ня мае, калі ён бяз грошай урадавых структур, — вы мне прабачце, ён паслухае, што яму парацяць адтуль. А гэта ж так у абласным цэнтры ад аблвыканкаму залежала і залежыць, а ў Менску гэта ад рэспубліканскіх арганізацый. Больш за тое, сёньня ж Канстытуцыйны суд прыпыніў дзеяньне ўказа прэзыдэнта аб тым, што прэзыдэнт маёмасьць Вярхоўнага Савету вырашыў падпарадкаваць. Ну, гэта ў галаву, я ня ведаю, толькі нашаму прэзыдэнту магло прыйсьці. Суд прыпыніў да прыняцьця Вярхоўным Саветам адпаведнага закону.

Ён разумее, што ціск на дэпутатаў можна ажыцьцявіць, узяўшы гэтую маёмасьць у свае рукі, усё іх забесьпячэньне матэрыяльнае. Гэта на ўсіх узроўнях аднолькава. Як разрубіць гэта, падыходы пачалі распрацоўвацца, але гэта не ўдалося да гэтага часу. Я думаю, што так як цяпер улада ідзе па іншым накірунку ўмацаваньня так званай вэртыкалі без вызначэньня функцыі, гэта вельмі небясьпечная сытуацыя. Я катэгарычна супраць такога падыходу.

## «У нас ня ведаюць тое, што студэнты павінны ведаць»

*Лукашук:* Скажыце, Вярхоўны Савет мог заўсёды лёгка запрасіць любога міністра і запатрабаваць справаздачы, адказаў на пытаньні? Хто мог? Любы дэпутат?

*Шушкевіч:* Не, не любы дэпутат. Альбо камісія, то бок Прэзыдыюм. Камісіі рэдка ўжывалі. Прэзыдыюм звычайна калі разглядаў пытаньне пэўнай галіны, заўсёды запрашаў кіраўніка міністэрства.

*Лукашук:* Пры падрыхтоўцы сэсіі, законапраекту для Прэзыдыюму, для сэсіі на якія крыніцы інфармацыі вы ў Вярхоўным Савеце маглі разьлічваць, апроч урадавых крыніц, апроч даведак, аналітыкі?

*Шушкевіч:* Не, аналітыка незалежнай была. Вось ведаеце, у нас усе асуджалі КДБ і гэтак далей. Аналітычны аддзел КДБ звычайна рыхтаваў даведкі па пытаньнях, па запыце камісіі, па маім запыце. Я думаю, што і на сёньняшні дзень трэба адзначыць, што аналітычная служба там нядрэнная.

*Лукашук:* Гэта была незалежна ад ураду атрыманая інфармацыя?

*Шушкевіч:* Тэарэтычна так. Чаму ж урад увесь час хацеў перарабіць гэтую структуру, каб была манаполія на інфармаваньне?

*Лукашук:* А ў вас хіба не было рэакцыі на цяперашнія службы?

*Шушкевіч:* Ведаеце, яна фактычна зьяўляецца прыдаткам урадавай службы, таму што ва ўра-

дзе прафэсіяналізм значна больш высокі. Ну вось, напрыклад, аналітычны аддзел ураду. Мы пачалі ствараць нармальную службу, але фактычна гэтую службу стварыць не змаглі. Я яшчэ на пачатку пераканаўся, што, напрыклад, па працоўным заканадаўстве юрыдычны аддзел Савету міністраў — гэта фірма, гэта высокаадукаваны аддзел. А ў нас дзіцячая служба была.

*Лукашук:* Пры падрыхтоўцы нейкай тэрміновай праблемы, нават з тым жа забесьпячэньнем, вы маглі атрымаць дакладную інфармацыю, што там з нафтай адбываецца, па якіх цэнах, хто яе і куды перапрадае, не ад ураду, а яшчэ аднекуль?

*Шушкевіч:* Ня толькі аналітычны аддзел КДБ, Кантрольная палата пасьля, і больш — не. Фактычна мясцовыя саветы, або ўсе саветы больш нізкага ўзроўню, — там звычайна як пад капірку ішло ўсё. Таму што Саўмін абагульняў тое, што яны давалі, а яны не давалі так, каб сябе паказаць у дрэнным сьвятле, і нейкай адказнасьці сур'ёзнай ня несьлі.

*Лукашук:* Некалі Андропаў казаў, што мы ня ведаем, у якім грамадзтве жывем. Наколькі дапамогай зьяўлялася ці не зьяўлялася інфармацыя, якая была ў прэсе, для прафэсійнай работы?

*Шушкевіч:* Я вам скажу, гэта пытаньне вельмі далікатнае. У прэсе зьяўляецца так многа сэнсацыйнай інфармацыі. Але ж ёсьць і вельмі таленавітыя журналісты, якія зачэпяць, здавалася б, дзяржаўную праблему, і калі на гэта клюнуць, то можна пайсьці ня ў той бок. Так што я б сказаў, што да публікацый… спачатку я вельмі-вельмі

сур’ёзна ставіўся да публікацый у прэсе, а пасьля я павінен быў рабіць пэўную фільтрацыю такую сур’ёзную. Бо калі ісьці па прэсе, то ў Вярхоўным Савеце амаль усе дэпутаты — злачынцы. Калі пачынаеш высьвятляць, прабачце, нават няёмка стала.

Але вось ёсьць пэўныя аналітычныя структуры ў Беларусі, я ўжо ведаю гэтых людзей. Ну вось газэта «Европейское время», «Деловая газета», «Белорусский рынок», ёсьць шэраг людзей, якія зьяўляюцца сур’ёзнымі экспэртамі, і вось іх думку заўсёды… Што да мяне, то я іх артыкулы заўсёды вельмі старанна чытаю, вывучаю. Але спатрэбіўся час, каб разабрацца, хто ёсьць хто.

*Лукашук:* Скажыце, ці важная была для вас інфармацыя з банкаўскіх колаў, маю на ўвазе Нацыянальны банк, яго бачаньне? Ці яна заўсёды ішла адфільтраваная праз Саўмін?

*Шушкевіч:* Банкі так даюць інфармацыю, што больш прыстойных структур, чым банк, ня знойдзеш. Па-першае, тут ня ў банках справа. Нашае заканадаўства дазваляе сёньня банкам тварыць разбой нармальна, не парушаючы закон. Гэтую праблему трэба вырашаць, не ўтаймоўваючы банкі, ня тое, што прапануе прэзыдэнт, а трэба ўпарадкоўваць заканадаўства.

Я вам прывяду такі прыклад: вы ведаеце маё стаўленьне да Багданкевіча, гэта прафэсіянал найвышэйшага ўзроўню, вельмі прыстойны чалавек. Але калі адлучыць банкаўскую дзейнасьць ад прамысловай, паглядзіце, што атрымоўваецца. Фактычна ён пераканаў нашага прэзыдэнта ў

тым, што банкі — гэта вельмі карысныя структуры, ня трэба там на іх вельмі глядзець, няхай яны там робяць у межах заканадаўства.

Я як фізык, прыродазнаўца, проста гляджу па законах захаваньня. Сапраўды, добра, калі банкі плацяць добры падатак, і добра, калі падаткі з банкаў растуць. І на гэта зьвернутая ўвага заканадаўчай улады. Але калі гэта адбываецца на фоне спаду прамысловасьці, прыбыткі банкаў растуць не таму, што ў нас верціцца капітал, гандаль, не таму, што ў нас вытворчасьць павялічылася, а прыбыткі банкаў растуць толькі па такой прычыне — абіраецца насельніцтва ўсё больш, і больш, і больш. Гэта лягічнае наступства.

Калі з пазыцыі такой шырокай, усебаковай аналітыкі гэта не дасьледаваць, то можна да кур'ёзных вынікаў прыйсьці. Зноў жа прэзыдэнт сказаў: «Да Новага году запушчу заводы, утаймую інфляцыю». І цяпер у праграме зьявіліся такія лічбы: да Новага году беспрацоўе ўзрасьце на 0,5%, інфляцыя ўтаймуецца да 9%. Гэта пярэчыць азам эканомікі. Гэта немагчыма.

Ёсьць крывая Філіпса вядомая, гэта тое, што студэнты павінны ведаць. У нас гэтага ня ведаюць. Дык вось ёсьць прэса, якая зьвяртае сур'ёзна, аналітычна на гэта ўвагу. І вось я тры газэты вам назваў, гэта тыя газэты, якія я б дзяржаўна фінансава падтрымаў бы, тыя газэты, якія даюць такі аналіз. А калі прыкарміць тую прэсу, якая хваліць дзяржаўную палітыку, гэта будзе глупства.

## «У нас на 100 тысяч насельніцтва афіцэраў у тры разы больш, чым у ЗША»

*Лукашук:* Ці мае магчымасьць парлямэнт ведаць, што робіцца ў такой закрытай сфэры, як войска?

*Шушкевіч:* Думаю, што зьвесткі вельмі сьціплыя. І ва ўсялякім разе, вывучаючы ўсе аналітычныя дакумэнты па войску і сур'ёзна гэтым займаючыся як былы старшыня Савету Бясьпекі, я калі паехаў у войска на месцы паглядзець, што там робіцца, я быў у стане жаху. Наш цэнтар зрабіў у вельмі наглядным выглядзе аналітыку. У нас, напрыклад, на 100 000 насельніцтва афіцэраў у тры разы больш, чым у ЗША. Можаце сабе ўявіць? Інфармацыя пра войска адфільтраваная, і трэба сказаць, што палітаддзелы былыя, якія фактычна засталіся там пад парасонам, яны захаваліся і інфармуюць так, як хоча бачыць начальства. Гэта іх прафэсія, гэта іх спэцыяльнасьць. Гэта не зьмянілася.

*Лукашук:* Наколькі часта тое ўяўленьне, якое ў вас склалася пра нейкую сфэру дзяржавы, калі вы непасрэдна самі туды траплялі, супадала з вашым папярэднім уяўленьнем? Ці кожная сустрэча ўсё ж такі спараджала сумнеў у вашых крыніцах?

*Шушкевіч:* Гэта, відавочна, толькі вось па войску. Я адразу магу сказаць, у чым тут справа. Што да прамысловасьці, да сельскай гаспадаркі, там ніколі не было ніякіх нечаканасьцяў.

*Лукашук:* Вашыя ўяўленьні супадалі?

*Шушкевіч:* І ўяўленьні супадалі на месцах, і спосабы прадстаўленьня гэтай інфармацыі, было зразумела, хто што робіць і дзеля чаго. Яшчэ ў нас было цемрашальства вялікае ў Міністэрстве замежных спраў. Гэта, ведаеце, вось тут той непрафэсіяналізм кіраўніка, вось гэтая жорсткасьць, зь якой ён ставіўся да тых прафэсіяналаў, якія працавалі ў гэтым міністэрстве, каб, ня дай бог, там разумнейшага не было побач, яно прывяло да таго, што тая інфармацыя, якая ішла праз Міністэрства замежных спраў, яна была прымітыўная, убогая, а пасьля ўжо мэханічна абмяжоўвалася. Я далёка не па ўсіх пазыцыях добра стаўлюся да падыходаў прэзыдэнта, але вітаю зьмены, якія адбыліся ў Міністэрстве замежных спраў, таму што цяпер яго ўзначальвае прафэсіянал.

### «Няма разуменьня, што такое дзяржава, што такое эканоміка»

*Лукашук:* Як вы ацэньваеце ролю парлямэнту ў такой справе, як кансалідацыя нацыі, увогуле таго, што Беларусь — асобная дзяржава, свой народ… Вось у гэтай справе?

*Шушкевіч:* Адмоўная роля парлямэнту.

*Лукашук:* Ці лічыце вы, што работа парлямэнту, трансьляцыя сэсіі адыгрывае адукацыйную ролю для насельніцтва?

*Шушкевіч:* Я лічу, што трэба трансьляцыю праводзіць і нядрэнна было б мець канал. Але трэба рэглямэнтаваць. Я глядзеў, як трансьлю-

ецца паседжаньне Кангрэсу і Сэнату ЗША, гэта катэгарычна іншае. Ведаеце, там ёсьць рэглямэнт гэтай перадачы. І калі, прабачце, нейкі дэпутат альбо прамоўца пачухаў за вухам, і яго паказаць, то гэта проста абраза парлямэнту, недапушчальна, нельга такую рабіць рэкляму. Таму я лічу, што трансьляцыя павінна быць, такі канал павінен быць, няхай народ сваіх герояў бачыць, але падаваць іх у дрэнным сьвятле… Апэратар павінен прытрымлівацца рэглямэнту.

*Лукашук:* Я больш пра адукацыйную ролю. Ці карысна гэта было б для гледачоў, для павышэньня ўзроўню?

*Шушкевіч:* Гэта антыадукацыйна. Як жа можна вывучаць, напрыклад, мову, сёньня паслухаўшы выступленьне нашага прэзыдэнта, альбо нават ня толькі яго? Вось у мяне сын пераважна расейскамоўны, але вывучае беларускую мову старанна, і калі ён пачынае рабіць практыкаваньне, ён можа спаслацца, што «прэзыдэнт жа так гаворыць».

*Лукашук:* Як на вашую думку, ці лепш сталі сярэдні чалавек, насельніцтва Беларусі разумець сэнс заканатворчага працэсу пасьля пяці гадоў работы парлямэнту?

*Шушкевіч:* Інтэлігенцыя лепей. І ня толькі, дарэчы, заканадаўчыя працэсы, але ёсьць азы грамадазнаўства, азы паліталёгіі, эканомікі, гаспадаркі, яны, на жаль, не выкладаюцца ў прыстойным выглядзе. Я ня ведаю, як яны могуць выкладацца, таму што тыя пытаньні, якія ўзьнікаюць у настаўнікаў, ня толькі вясковых, але і гарадзкіх таксама, яны паказваюць, што

парог такі адукацыйны… Разуменьня, што такое дзяржава, што такое эканоміка, няма нават на гэтым узроўні.

*Лукашук:* У чым крыніцы антыпарлямэнтарызму як настрою ў грамадзтве?

*Шушкевіч:* У несьвядомасьці. Я ж кажу, яны пад узьдзеяньнем камуністычных шаманаў знаходзіліся і ніяк з-пад яго ня могуць выйсьці. Ну, і тактычныя пэўныя захады разбураюць давер да ўлады.

Уявіце сабе так, што ў былым Савецкім Саюзе была б такая пастанова: «За злосныя парушэньні законаў, за антыдзяржаўную, антыпартыйную дзейнасьць першага сакратара ЦК КПСС перавесьці на пасаду першага намесьніка сакратара». Як бы вы ўспрынялі гэтую заяву? Ну, а цяпер паглядзіце, калі ў генэрал-палкоўніка здымаецца адна зорка, без суду, сьледзтва, без аналізу, то што павінна быць у войску? Якая ж можа быць павага, калі цар ня мог зьняць званьне?

*Лукашук:* Што б вы назвалі галоўнымі здабыткамі Вярхоўнага Савету 12-га скліканьня, калі ўсё ж такі неўзабаве, будзем спадзявацца, скончыцца яго дзейнасьць?

*Шушкевіч:* Для сябе галоўным здабыткам лічу, што мы ўсё ж усталявалі беларускую дзяржаўнасьць, атрыбутыку. Больш за тое, я лічу найвялікшым дасягненьнем закон аб зямлі, бо замнога здароўя паклаў, каб яго прыняць, таму што калі б мы зрабілі тую трагічную памылку і зацьвердзілі калектыўную ўласнасьць на зямлю,

то я ня ведаю, калі б мы з гэтага выпаўзьлі. І законы, якія рэглямэнтуюць рынак.

Але самы галоўны, мне здаецца, здабытак… Вось калі б мяне спыталі, чым я больш за ўсё ганаруся ў сваім жыцьці на парлямэнцтве, — гэта тым, што я даў магчымасьць у адпаведнасьці з рэглямэнтам выступіць дэпутатам, якія разумеюць, у чым справа, і тлумачылі Беларусі, у чым справа.

*Лукашук:* Іншымі словамі, у Беларусі, вы лічыце, галоўнае тое, што зьявіўся парлямэнт?

*Шушкевіч:* Тое, што зварухнулася інтэлігенцыя. Калі я сёньня гавару аб несьвядомасьці, то я вам скажу: інтэлігенцыя разумее, у чым справа, у большасьці сваёй, і яна зварухнулася, стала больш беларускай, больш палітычна сьвядомай.

*Лукашук:* Ну, і зь Вярхоўнага Савету ён пачаў пераўтварацца ў парлямэнт?

*Шушкевіч:* Не, гэта ўзьдзеяньне Вярхоўнага Савету на грамадзтва. Можа, я не зразумеў вашае пытаньне?

*Лукашук:* Я хацеў сказаць — тое, што вы сказалі, што вы, у прынцыпе, далі магчымасьць парлямэнту функцыянаваць не як Вярхоўны Савет у якасьці прыдатку да ЦК, а як самастойны орган, у якім і апазыцыя атрымала права голасу.

*Шушкевіч:* Не, гэта ня я даў, гэта даў рэглямэнт фактычна. Які быў прыняты тым жа Вярхоўным Саветам. Але яго можна выконваць, а можна парушаць. Напрыклад, калі Грыб гаворыць «2 — за, 2 — супраць», — гэта парушэньне рэглямэнту. Гэтага няма ў рэглямэнце, і калі ён спыняе гэтую

дыскусію… Магу з вамі пабіцца аб заклад, што па большасьці з чатырох выступаючых дэпутатаў я пра трох ведаў, што яны будуць гаварыць, таму чацьвёртаму я імкнуўся даць выказацца.

*Лукашук:* Вам не шкада, што вы ня выкарысталі сваё права два гады таму і самі не абвясьцілі рэфэрэндум аб датэрміновых выбарах?

*Шушкевіч:* А я ня мог абвясьціць. Гэта вашая памылка грубейшая. Вы вазьміце закон аб рэфэрэндуме і пачытайце. Мае права быць ініцыятарам, але зацьвердзіць пытаньне і зацьвердзіць рэфэрэндум можа толькі Вярхоўны Савет.

*Лукашук:* Вынесьці ў карэктным выглядзе, каб не было падстаў, зь якімі выступіў тады дэпутат Булахаў.

*Шушкевіч:* Не, пачакайце. Я выношу гэтую прапанову, а Вярхоўны Савет прымае рашэньне, што ён ня бачыць падстаў. Я магу быць проста ініцыятарам. Мы калі прымалі гэты закон, я вельмі цешыўся, а калі прынялі, і пасьля, у мяне такая думка неаднаразова ўзьнікала. І, дарэчы, я вам скажу, я вельмі карыстаўся тым, што была пагроза, што я вынесу прапанову па рэфэрэндуме.

Заўважце, я заўсёды быў праціўнікам калектыўнай абароны, я ім і застаўся. Але ж вы ўсьвядомце, што да сёньняшняга дня ў нас дагавор аб калектыўнай абароне не ратыфікаваны. Мы фактычна не зьяўляемся законнымі ўдзельнікамі. І я лічу, што гэта ня так дрэнна, гэта самае лепшае, што можна было зрабіць пры такім супрацьстаяньні парлямэнту. А выходзіць, што калі так, то я буду ініцыятарам такога падыходу. Але большага

зрабіць нельга было, таму што рэальна правесьці рэфэрэндум не было ніякай магчымасьці.

*Лукашук:* Уяўна калі гаварыць. Калі б адбыліся датэрміновыя выбары, вы думаеце, што сытуацыя была б лепшая?

*Шушкевіч:* Я думаю, што была б лепшая…

## «Лукашэнка заглынуў чарвяка ад расейскіх спэцслужбаў»

6 ліпеня 1995
Віталь Цыганкоў

*Расейская газэта «Известия» надрукавала артыкул пад назвай «Прэзыдэнт Лукашэнка прыпыніў вывад расейскіх стратэгічных сілаў зь Беларусі».*

Артыкул, дарэчы, напісаны не карэспандэнтам «Известий» на Беларусі, а маскоўскім аўтарам. Паводле «Известий», Лукашэнка заявіў, што рашэньне аб вывадзе расейскіх стратэгічных сілаў з тэрыторыі Беларусі, прынятае папярэднім кіраўніцтвам, было палітычнай памылкай. Паколькі, па словах Лукашэнкі, дзьве краіны збліжаюцца зараз па ўсіх лініях, расейскія ракеты трэба пакінуць там, дзе яны зараз знаходзяцца. Далей аўтар артыкула піша пра тыя матэрыяльныя складанасьці, што зьведае расейскае Міністэрства абароны ад затрымкі на Беларусі сваіх ракетных частак. Фактычна ўвесь тэкст прысьвечаны жаданьню даказаць, як прагнуць расіяне вывесьці свае войскі і як беларусы перашкаджаюць ім у гэтым. «Известия» пішуць пра складанасьці Беларусі ў справе перадачы жыльлёвага і казарменнага фонду, але нічога не гавораць пра яшчэ большыя праблемы расіянаў пасьля вываду сваіх стратэгічных сілаў. Па нашай просьбе сваё мер-

каваньне пра некаторыя падводныя камяні гэтай сытуацыі выказаў Станіслаў Шушкевіч.

*Цыганкоў:* Ці згодныя вы зь сьцьвярджэньнем Лукашэнкі, што падпісаньне дагавору аб вывадзе расейскіх стратэгічных сілаў было палітычнай памылкай?

*Шушкевіч:* Ну, я думаю, што гэта для любога сьвядомага чалавека зразумела, што гэта ніякай памылкай не было і што гэта накіравана на дабро людзей Беларусі. І тое, што мы пазбаўляемся ядзернай зброі, — гэта азначае, што павялічваецца спакой на нашай тэрыторыі, таму што мы ня будзем пад прыцэлам для некага. Я лічу, што гэта было адным з найвялікшых дасягненьняў Рэспублікі Беларусь, і, акрамя таго, гэта запісана ў многіх міжнародных пагадненьнях, гэтыя пагадненьні Беларусь абавязаная выконваць на сёньняшні дзень, яны ратыфікаваныя, дарэчы, Вярхоўным Саветам.

*Цыганкоў:* А як па-вашаму, чаго хоча дасягнуць Лукашэнка спыненьнем выкананьня гэтага дагавору і што можа ў выніку дасягнуць рэальнасьці?

*Шушкевіч:* Ведаеце, я думаю, што Лукашэнка заглынуў чарвяка, якога яму падсунулі расейскія спэцслужбы. Таму што тая вэрсія, якая ў гэтым артыкуле напісана, што Расея хоча забраць, а вось тут беларускі прэзыдэнт не пушчае, — я ня вельмі ў гэта веру. Я добра ведаю, як выводзіліся войскі зь Беларусі і якія цяжкасьці ва ўладкаваньні ў гэтых людзей і іх сем'яў на тэрыторыі Расейскай Фэдэрацыі. І я добра ведаю, у якім стане яны тут усё пакідаюць — гэта ўсё разьбіта, раскрадзена,

і нічога па-людзку не застаецца. І таму ў вэрсію, там апісаную, я ня веру. Расея, відавочна, адчувае пэўныя цяжкасьці ў прыняцьці гэтых войскаў, і трэба, каб не яна была ў гэтым вінаватая, а каб была вінаватая Беларусь. І тут, калі ласка, гэта вельмі проста — падштурхнуць нашага прэзыдэнта, сьвядома ці несьвядома (я думаю, што несьвядома), на такі захад: ён як «вялікі абаронца інтарэсаў Беларусі», у двукосьсі, зразумела, ён мог такі загад даць. Я дапускаю гэта, хаця фактаў, акрамя вось гэтай інфармацыі з «Известий», у мяне няма.

*Цыганкоў:* Сапраўды, з артыкула цяжка здагадацца, чаму гэта Расеі невыгодна там пакідаць і чаму яна…

*Шушкевіч:* Гэта чыстае глупства! Гэта карэспандэнт сьвядома ці несьвядома таксама зьяўляецца ахвярай тых колаў, якія адчуваюць цяжкасьці з вывадам войскаў. Гэта ж вельмі цяжка вывесьці! І зразумела, што іх забесьпячэньне на новым месцы будзе больш дарагім, чым іх забесьпячэньне на старым месцы. Таму гэта разыгрываецца спэктакль, дзе Расея па віне Беларусі ня можа выканаць міжнародныя пагадненьні.

*Цыганкоў:* Вы як чалавек дасьведчаны можаце сказаць, які міжнародны рэзананс можа мець уся гэтая гісторыя?

*Шушкевіч:* Ведаеце, тут цяжка прадбачыць, таму што згодна зь міжнароднымі пагадненьнямі Беларусь абавязаная вывесьці ядзерную зброю да канца тысячагодзьдзя. Але Беларусь прыняла больш інтэнсіўны графік, таму што гэта было

жаданьне людзей Беларусі, было многа лістоў у Вярхоўны Савет, гэтае пытаньне абмяркоўвалі дэпутаты Вярхоўнага Савету, і таму, калі быў складзены графік, вывад гэты быў сплянаваны да канца 1996 году. І таму, я думаю, тут лабавых парушэньняў на гэтым этапе ня будзе, шматбаковае пагадненьне гэта наўрад ці закранае, гэта закранае толькі расейска-беларускае пагадненьне. А тут, як вы разумееце, што захоча Расея, то і Беларусь зробіць.

# «Канстытуцыя не прадугледжвае абароны ад глупстваў»

10 ліпеня 1995
Алена Радкевіч

*Год таму Аляксандар Лукашэнка прыняў прысягу ў якасьці прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь.*

Аднак ці было б нешта іначай, каб у свой час, год таму, выбаршчыкі прагаласавалі за іншага кандыдата? Нагадаю, іх было яшчэ пяцёра: Аляксандар Дубко, Вячаслаў Кебіч, Васіль Новікаў, Зянон Пазьняк і Станіслаў Шушкевіч. Мы зьвязаліся зь некаторымі былымі супернікамі Аляксандра Лукашэнкі праз тэлефон і задалі ўсім ім аднолькавыя пытаньні: ці патрэбна ўвогуле было ўводзіць інстытут прэзыдэнцтва? І ці апраўдала сябе гэтая пасада?

*Шушкевіч:* Я быў супраць прэзыдэнцкай рэспублікі, але трэба было мець надзейную сыстэму ўлады, і я пагадзіўся з падыходам, што ўводзіць трэба.

Я думаю, што тое, што ўвялі, — нічога ў гэтым дрэннага няма. Дрэннае ў тым, што дэфэктная ў нас Канстытуцыя, яна не прадугледжвае абароны ад глупстваў, у тым ліку ад глупстваў на самым высокім узроўні. І гэта вынік не таго, што прэзыдэнцкая рэспубліка, а таго, што ў Канстытуцыі няма цэлага шэрагу пазыцый, якія павінны былі б у ёй быць, таму што адным махам прыняць 38

артыкулаў — гэта, прабачце, было шаленствам значна большым, чым пайсьці на прэзыдэнцтва.

*Радкевіч:* Што ўсё ж станоўчага і адмоўнага ёсьць у дзейнасьці прэзыдэнта? Што б паўтарылі б вы, прыйдзі вы да ўлады, а чаго пастараліся б пазьбегнуць?

*Шушкевіч:* Адна пазыцыя з пункту гледжаньня макраэканомікі, з пункту гледжаньня дзяржавы, мяне цешыць — гэта стабілізацыя рубля. Але яна робіцца такімі высілкамі, што дай бог, каб гэта ўдалося захаваць. Калі гэта ўдасца захаваць альбо падтрымліваць прыкладна так, то гэта ўжо нядрэнна. Але справа ў тым, што адна пазыцыя сыстэмы падыходаў — яна нічога не вырашае. І вы ведаеце, што адразу экспартэры скажуць, што гэта прыцісканьне экспартэраў.

А што да астатніх пазыцый — у нас жа мітусьня, у нас толькі ёсьць дэкляратыўныя заявы, парушэньне законаў, і ёсьць многа-многа абяцаньняў, якія не выконваліся і ня могуць быць выкананыя. Сыстэмы няма. І мне здаецца, што такі ідэалягічны крах прэзыдэнцкай каманды, яе нізкая адукаванасьць, яна ўсё больш і больш праяўляецца. Можна напісаць многа ўказаў, але жыцьцё людзей ня зьменіцца, як вы бачыце, пакуль што яно зьмяняецца толькі ў горшы бок.

Мне больш за ўсё крыўдна па-дзяржаўнаму за тое, што мы прынялі Канстытуцыю, якая не дазваляе выходзіць з тупікоў. Але астатнія пазыцыі — гэта яшчэ крыўдна за выканаўцаў, за старшыню Вярхоўнага Савету, які дэманструе такі дзіцячы падыход, што ў нас няма, нават у

межах гэтай Канстытуцыі, няма ніякай гаворкі пра нейкую раўнавагу ўладаў, пра падзяленьне ўладаў. Нават і гаворкі аб гэтым няма!

Яшчэ справа ня толькі ў Канстытуцыі і ў выканаўцах, я такога, дарэчы, недарэчнага кіраўніка, як цяперашні кіраўнік Вярхоўнага Савету ў гэтай сытуацыі, проста яшчэ ня бачыў. Крыўдна, што тое, што нам удалося заваяваць, — гэта ўсе кажуць, што нам прынесьлі на талерцы, што гэта само сабой зваліласяn… Трэба працаваць галавой, а не зьбіраць нараду па пытаньнях, што рабіць.

*Радкевіч:* Ці не адчувае Станіслаў Шушкевіч асабістай адказнасьці за тое, што адбываецца сёньня на Беларусі, маючы на ўвазе непрыняцьце ім у свой час ідэі рэфэрэндуму аб датэрміновай адстаўцы парлямэнту?

*Шушкевіч:* Мне здаецца, што само жыцьцё дало адказ на гэтае пытаньне, таму што не было выбарчага закону. І што б там Фронт ні гаварыў пра гэта, новага выбарчага закону не было. Спадзявацца, што быў бы вялікі энтузіязм па старым выбарчым законе, што там адбыліся б рашучыя зьмены, я думаю, што на гэта разьлічваць таксама нельга. І мне здаецца, што гэтая настальгія аб, так сказаць, правільных дзеяньнях Фронту — гэта настальгія фронтаўцаў, якія і цяпер ня ведаюць, што рабіць. Я ня думаю, што катэгарычна нешта б зьмянілася.

## «У Беларусі хапіла розуму і такту, каб выйсьці з СССР бяз кроплі крыві»

6 сьнежня 1995
Віталь Тарас

*8 сьнежня 1991 году былі падпісаныя Белавескія пагадненьні.*

Карэспандэнт Радыё Свабода папрасіў даць ацэнку Белавескім пагадненьням Станіслава Шушкевіча, чалавека, чый подпіс, сярод іншых, стаіць пад гэтым гістарычным дакумэнтам.

*Шушкевіч:* Быў прыстойна, дастойна выкарыстаны момант, калі Беларусь заняла сваё пачэснае месца як нацыя, яна сфармавала сваю дзяржаву, аб’явіла аб гэтым сьвету, і сьвет гэта прызнаў. Ну, раней гэта адбылося з прыбалтамі, але, як вы ведаеце, сусьветная супольнасьць, вялікія дзяржавы — яны не прызнавалі таго, што Літва, Латвія, Эстонія зьяўляюцца часткай Саюзу.

*Тарас:* Як вядома, у прэсе неаднойчы выказвалася думка, што самі сабе пагадненьні аб стварэньні СНД былі неблагія і адыгралі станоўчую ролю, але потым незалежныя дзяржавы пачалі прымаць рашэньні, якія ішлі ўразрэз зь віскулёўскімі рашэньнямі. І наогул, ці існуе рэальны мэханізм іх ажыцьцяўленьня?

*Шушкевіч:* Мы ж усе постсавецкія людзі, больш савецкія, чым «пост», — усё жыцьцё мы жылі гэтымі пастановамі ЦК КПСС і Саўміна. У пэўным сэнсе пагадненьні — яны зьяўляюцца

такімі пастановамі. Які мэханізм існуе ў сьвеце? У сьвеце, калі прымаецца міжнароднае пагадненьне і калі яно ратыфікуецца парлямэнтам, пасьля гэтага ўсе дзяржаўныя структуры працуюць на тое, каб прывесьці ўнутранае заканадаўства ў адпаведнасьць з гэтым пагадненьнем. А ў нас так: прымаюцца гэтыя пагадненьні, і яны застаюцца заклінаньнямі. Але гэта ня проста, гэта цяжкая работа. У нас што адбылося: прынялі пагадненьні, ратыфікавалі парлямэнтам, ну, а пасьля проста зьелі тыя праблемы існуючыя штодзённыя. І гэтыя праблемы паглынаюць увесь рабочы час заканадаўчых органаў — гэта адзін аспэкт праблемы.

А другі аспэкт праблемы — палітычная сьвядомасьць, у тым ліку і парлямэнтарыяў нашых, у тым ліку і структураў Вярхоўнага Савету, яна не такога ўзроўню, які патрабуецца для таго, каб такія пагадненьні працавалі. Я думаю, што жыцьцё можа паказаць, што ня ўсе зь іх могуць працаваць, таму што пэўныя зьяўляюцца пажаданьнямі доўгатэрміновымі, на пэрспэктыву, а сорак маглі б працаваць. Арганізацыя, напрыклад, мытнага саюзу, тое, што было прапанавана ў межах саміту СНД. Але калі ён будзе такім нягеглым чынам ажыцьцяўляцца, то, акрамя стратаў, Беларусі ён нічога не прынясе.

*Тарас:* Сёньня існуюць палітычныя сілы, зацікаўленыя ў вяртаньні назад да савецкай імпэрыі. Камуністы, напрыклад, не аднойчы заклікалі да дэнансацыі Белавескіх пагадненьняў.

*Шушкевіч:* Да дэнансацыі Белавескіх пагадненьняў заклікаюць перш за ўсё тыя, хто іх не чытаў. Яны прапануюць менавіта тое, што ў іх запісана. Але камуністы ня могуць уцяміць адной простай рэчы: яны проста забыліся аб тым, што разьвіцьцё сьвету, разьвіцьцё чалавецтва ідзе ня толькі па законах клясавай барацьбы, ёсьць шэраг законаў, і многія зь іх невядомыя іх камуністычнаму розуму, які заняты клясавай барацьбой.

Дзяржавы ўтвараюцца і зьнікаюць, і калі прымусова зьядналі нацыі з рознымі традыцыямі, гэтае зьнікненьне адбываецца час ад часу вельмі крывава, вось гэтае падзяленьне. Я думаю, што абавязак палітыкаў у такой сытуацыі — прадухіліць адмоўнае, я нават не падбяру такое слова больш мяккае, чым «крывавае», разьвіцьцё падзей.

Я хачу вам сказаць адно, што ў Беларусі хапіла розуму, хапіла такту і падыходу і ва ўраду, і ў Вярхоўнага Савету, і ў асобных кіраўнікоў, каб выйсьці з гэтай сытуацыі бяз кроплі крыві. І вось я лічу, што гэта галоўны вынік Белавежы, таму што мы вырашылі так: давайце гэтыя пытаньні вырашаць за сталом перагавораў. Трэба гэта рабіць спакойна, паволі, трэба выпрацоўваць канцэпцыю, прымальную для ўсіх бакоў.

У нас пакуль што заклінаньні, заклінаньні да аб'яднаньня, да ўзнаўленьня Саюзу. Я ня ведаю, я не імкнуся ўзнаўляць ГУЛАГі, я не імкнуся ўзнаўляць аўтарытарызм партыі, я не імкнуся ўзнаўляць бюракратычны цэнтралізм. Ён мне

некалі падаваўся… мне здавалася, што гэта вельмі правільна. А цяпер я бачу, што гэта… ведаеце, калі 51% будзе за адно рашэньне, а 49% за другое, і прымаецца рашэньне большасьці — то што ж гэта, 49% трэба ўтаптаць у зямлю, як у нас гэта рабілася?

А мы проста ня ведалі, што існуе тэорыя правоў чалавека, падзяленьне ўладаў, непрыемнасьці, якія могуць быць за дэмакратыю ў неадукаваных работнікаў. Гэтыя праблемы ў нас усплываюць, і гэта трэба вырашаць, а не спасылацца на тое, што «разбурылі», «парвалі сувязі». Нелягічныя сувязі, яны не патрэбныя.

Галоўная наша цяпер памылка, галоўны недахоп — што палітыкі, замест таго каб людзям тлумачыць, у чым справа, і тлумачыць, на чым грунтуюцца грамадзтвы, якія ўсталявалі прыстойнае, заможнае жыцьцё грамадзян, дык мы ўвесь час клічам іх да зруйнаваньня, да прыгнятаньня тых, хто інакш думае, да ўстанаўленьня плянавай эканомікі. Няма ніводнай дзяржавы ў сьвеце, якая б на падставе цэнтралізаванай плянавай эканомікі дасягнула добрага жыцьця сваіх грамадзян. Няма такога прыкладу ў сьвеце, наогул няма. Шкада, што палітыкі клічуць назад, а не наперад.

## «Духоўны Чарнобыль — гэта 70 гадоў савецкай улады»

Алена Панкратава
26 красавіка 1996

*Панкратава:* Я пачну з таго, што гэты запіс робіцца позна ўвечары 26 красавіка, у дзень 10-й гадавіны чарнобыльскай катастрофы. І я думаю, што, улічваючы нават толькі тыя падзеі, якія адбыліся сёньня на вуліцах Менску, можна зрабіць выснову, што Чарнобыль зьяўляецца чымсьці большым, чым нават самая вялікая экалягічная катастрофа. Пра гэта размова з маімі суразмоўцамі ў Менску і ў Боне.

І мне хацелася б пачаць размову з кнігі былога амэрыканскага амбасадара ў СССР Джэка Мэтлака, якая называецца «Аўтапсія імпэрыі». Мэтлак піша, што адкрыцьцё праўды пра Чарнобыль у свой час выклікала нянавісьць савецкага грамадзтва да рэжыму. У вельмі важны момант чарнобыльскі выпадак даў легітымнасьць антысавецкім рухам, прычым ня дзе-небудзь на пэрыфэрыі ў Прыбалтыцы, а ў сэрцы былога СССР. Злосьць прывяла ў палітыку асобаў, якія кіравалі далейшымі падзеямі, напрыклад, фізык Станіслаў Шушкевіч, які адыграў ключавую ролю ў развале СССР. Мой суразмоўца ў Менску Станіслаў Шушкевіч, добры вечар!

*Шушкевіч:* Добры вечар! Вы ведаеце, я знаёмы са спадаром Мэтлакам, я, праўда, не знаёмы з гэтай кніжкай, пра тое, што ён так пісаў. Фак-

тычна, я вам скажу, што прычына чарнобыльскай аварыі — гэта сыстэма, наша савецкая, камуністычная сыстэма. Гэта не тэхнічныя аспэкты, не недасканаласьці нейкія тэхнічныя, хаця яны там мелі месца, але не яны былі прычынай, таму што рабіць такія выпрабаваньні маглі толькі ў Савецкім Саюзе. Гэта тое самае, што рабіць выпрабаваньні на самалёце пасажырскім, які ляціць з пасажырамі.

*Панкратава:* Спадар Шушкевіч, прабачце, я перапыню, бо далей ідзе размова пра нашага іншага суразмоўцу, хоць імя і не называецца, але напісана літаральна так: «Колькі яшчэ лекараў, навукоўцаў сталі радыкаламі ў выніку Чарнобылю, мы ніколі не даведаемся, але іх шмат». І мне здаецца, што вось гэтая фраза, яна тычыцца нашага другога суразмоўцы, Генадзя Грушавога, які сёньня ў Боне. Добры вечар.

*Грушавы:* Добры вечар. Канечне, я гатовы пагадзіцца з такімі словамі. Існуюць розныя падыходы да Чарнобылю, да прычын і да вынікаў, але ж для мяне асабіста Чарнобыль мае два вымярэньні. Першае — гэта чалавечае. Гэта канкрэтная трагедыя канкрэтных людзей, соцень тысяч, можа, мільёнаў людзей, якія апынуліся ў вельмі цяжкім становішчы. І другое вымярэньне — гэта палітычнае. Тут я гатовы пагадзіцца са спадаром Шушкевічам, гэта паводзіны дзяржавы ва ўмовах, калі народ пастаўлены на мяжу існаваньня.

## «У Беларусі большасьць людзей хварэе не ад радыяцыі, а ад страху перад радыяцыяй»

*Панкратава:* Джэк Мэтлак у сваёй кнізе піша пра праўду пра Чарнобыль, якая ў свой час многа адыграла ў барацьбе нашага грамадзтва супраць таталітарызму. Сёньня, праз 10 год пасьля катастрофы, чытаючы замежны і айчынны друк, прэсрэлізы розных канфэрэнцыяў, робіш выснову, што няма рэчы больш заблытанай, чым гэтая самая праўда. Лічбы ахвяраў розьняцца ў тысячы разоў, у залежнасьці ад імпрэзаў і тых арганізацый, якія праводзяць гэтыя імпрэзы. Няма ніякіх дадзеных адносна хваробаў, таму што няма і зыходных рэгістраў гэтых хваробаў. Прыводзяцца самыя розныя хваробы, але доказаў, што менавіта яны вынік Чарнобылю, няма. У якасьці контраргумэнтаў прыводзяцца тыя ж японцы, якія ня могуць даць сапраўдную карціну наступстваў Хірасімы. Мяняецца ў грамадзтве стаўленьне да дапушчальных радыяцыйных нормаў, стаўленьне да праблемы з боку кіраўніцтва, навукі. Што ж такое сёньняшняя праўда пра Чарнобыль?

*Шушкевіч:* Вы ведаеце, я б сказаў так, што больш за ўсё гавораць пра ахвяры Чарнобылю і пра наступствы чарнобыльскай аварыі тыя, хто, прабачце, абсалютна несьвядомы ў галіне радыяцыйных узьдзеяньняў, у галіне радыяцыйнай фізікі, у галіне радыяцыйнай мэдыцыны. Ёсьць вельмі простыя падыходы, і можна ўсё ўсьвядоміць, але сытуацыя палітычная звычайна такая, што на гэтай чарнобыльскай бядзе многія

імкнуцца зрабіць сабе пэўны палітычны імідж, пэўныя разважаньні, пэўны, так сказаць, клопат аб людзях праявіць, не ўсьведамляючы, што яны робяць. І людзі хварэюць пераважна, я бяру ўсю адказнасьць за гэтыя словы на сябе, у Беларусі большасьць людзей хварэе не ад радыяцыі, а ад страху перад радыяцыяй, таму што фактычна мы і на сёньняшні дзень, хаця навукоўцы гэта зрабілі, выкладчыкі гэта зрабілі, мы ня маем дастатковай колькасьці кніжак, памятак, тлумачэньняў прафэсіяналаў, спакойных людзей. Як толькі яны пачынаюць гаварыць нешта памяркоўнае, іх абвінавачваюць у здрадзе, і пераважна абвінавачваюць тыя, хто ў гэтым нічога не разумее.

*Грушавы:* Ну, я вельмі задаволены тым, што спадар Шушкевіч вось так адказаў на тое, што вас цікавіць. Таму што гэта добры прыклад, я лічу, таго, як падыходзяць да пытаньня Чарнобылю сёньня розныя людзі. І хто б ні спрачаўся са мной, я ўжо слухаў тысячы і тысячы навукоўцаў, я вельмі так сур'ёзна стаўлюся да іх поглядаў, але ж ніхто мне сёньня ня мог адказаць на пытаньне: ёсьць нейкая ўжо дакладная тэорыя ці гэта яшчэ толькі такі працэс навуковых дасьледаваньняў? А таму вось у такіх умовах ужо пачынаеш разважаць як чалавек, каторы павінен думаць, можа, нават не аб лёсе нацыі, а аб тых дзецях, якія жывуць у тваёй сям'і. Таму я лічу, што ўсё ж такі ня столькі палітыка, колькі вось такія думкі аб лёсе сваіх дзяцей штурхаюць людзей і на тыя дэманстрацыі, якія адбываюцца, напрыклад, сёньня ў Менску, і на тыя выступы, якія гучаць на розных

канфэрэнцыях. Гэта не палітыка, у першую чаргу, гэта заклапочанасьць лёсам сваіх дзяцей.

## «Мы дэфэктнае грамадзтва»

*Шушкевіч:* Я абавязкова павінен сказаць пару слоў. Калі чалавек не разумее, што адбываецца, і імкнецца дапамагчы, ён, можа, час ад часу больш нашкодзіць, чым дапаможа. Ёсьць вельмі простыя рэчы, якія добра было б ведаць усім тым, хто дапамагае чарнобыльцам. І гэтых простых рэчаў, на жаль, ня ведаюць і падмяняюць іх чалавечымі пачуцьцямі. А тут я вам скажу так, добры ня той лекар, які шкадуе, які гладзіць па галоўцы, які дае смачныя пілюлі, а той, які ставіць правільны дыягназ. У чарнобыльскіх справах пераважна невукі даюць парады. Вельмі добра, што існуюць тыя, хто хоча дапамагаць, але добра было б, каб яны разумелі, як трэба дапамагаць. Калі навуковыя падставы невядомыя, то гэтая дапамога можа быць і, так сказаць, контрпрадуктыўнай. І гэта вельмі часта здараецца.

*Панкратава:* Спадар Шушкевіч, я хачу зьвярнуцца вось да тых словаў, якія вы сказалі ў самым пачатку размовы, што Чарнобыль — гэта, іншымі словамі, савецкая ўлада, прыкладна так. І ці ў стане навука сёньня штосьці вырашыць, штосьці зрабіць, калі ў такім стане знаходзіцца грамадзтва?

*Шушкевіч:* Вы ведаеце, гэта адно з самых цяжкіх пытаньняў, якія вы перада мной паставілі. Фактычна з-за таго, што мы ўсе савецкія людзі

і вось гэты, фактычна, духоўны Чарнобыль, а гэта 70 гадоў савецкай улады, ён так адбіваецца сёньня, што я, ведаеце, лаўлю час ад часу сябе на той думцы, што я ўсё час ад часу разьвіваю нейкі клясавы падыход, што я думаю марксісцка-ленінскімі катэгорыямі, — гэта наша бяда. І ведаеце, што самае страшнае? Што ў грамадзтве не праводзіцца работа, каб зразумець. Ну вось я Генадзя Ўладзімеравіча вельмі паважаю, ён філёзаф па адукацыі, але скажыце, я хачу ў вас запытаць, Генадзь Уладзімеравіч, калі вы Карла Попэра прачыталі «Адкрытае грамадзтва»… ведаеце, ну мне сорам за гэта, я прачытаў, можа, паўгода таму, і многае я зразумеў і так, дарэчы, і ў пляне радыяцыйнай бясьпекі. Фактычна былі ўсе матэрыялы, як паступаць, у кожнай структуры грамадзянскай абароны, але ж было больш важнае, што не было загаду зьверху. І мы ўсе гэтага загаду чакаем і думаем, як там неяк вырашыцца пытаньне. Мы дэфэктнае грамадзтва, і гэта, відавочна, даволі доўга будзе выпраўляцца.

*Грушавы:* Ну, дзякуй за тое, што вы зьвярнуліся да мяне, спадар Шушкевіч, калі я прачытаў… Я ня вельмі добры прыклад, таму што я, відаць, усё ж такі выключэньне, я выкладаў ва ўнівэрсытэце якраз-такі сучасную заходнюю філязофію, таму прачытаў гэтую кнігу амаль 15 год таму. І, канечне, можа, і падыходы мае да таго, што адбываецца і адбывалася ў той краіне, у якой мы ўсе жылі, мае ацэнкі таго, што адбываецца, сёньня неяк адрозьніваюцца ад іншых падыходаў. І, можа, я таму больш памяркоўны, нават вось у

такой палеміцы, калі зусім непрыемна слухаць тое, што я таксама вось аказаўся ў гэтым лягеры невукаў. Але ж усё ж такі пагадзіцеся са мной: калі б навука сёньня — а яна ж усё ж такі навука, гэта ня толькі паленіка, гэта навука — калі б яна сёньня мела дакладную тэорыю, можа, і вам бы не прыйшлося вось так горача спрачацца з тымі навукоўцамі і невукамі, якія не разумеюць вашыя падыходы.

*Шушкевіч:* Ня ў гэтым справа. Паглядзіце, што значыцца «хворае грамадзтва», яно ж ідэалягізаванае. Я ўжо нават слова гэтае выгаварыць не магу! Ведаеце, гэтая ідэалёгія пануе, і таму яны не ідуць па гэтым шляху, таму што яны трымаюцца за гэтыя месцы, яны хочуць адбіраць і дзяліць. І чыноўнікі па Чарнобылі сёньня трымаюцца за свае месцы, у іх ня будзе іншай работы ў нашым грамадзтве, і таму толькі бюракратыя расквітнела ў нас чарнобыльская! Паглядзіце, які кабінэт стварылі, якіх на месцах пасадзілі чыноўнікаў, якія павінны дапамагаць чарнобыльцам, а каму яны дапамагаюць? І наш прэзыдэнт крычыць: я іх паздымаю! І ўсе складанасьці з-за гэтага. Паглядзіце, што робіцца ў хворым грамадзтве.

*Панкратава:* У нашым хворым грамадзтве робіцца наступнае: чарнобыльскія праблемы спрабуюць вырашаць шляхам магутнага падаткаабкладаньня тых жа ахвяраў. На нядаўняй сустрэчы экспэртаў МАГАТЭ ў Вене беларускі прэзыдэнт гаварыў пра тое, што Беларусь са свайго бюджэту выдаткоўвае прыкладна чвэрць на чарнобыльскія праграмы. Што такое гэтая

чвэрць, як у абсалютных, так і ў параўнальных лічбах? Наколькі вам вядомыя гэтыя лічбы?

*Грушавы:* На сёньняшні дзень, наколькі я ведаю, дзесьці каля 400 мільёнаў даляраў, так, наш бюджэт на Чарнобыль разьлічаны, крышачку менш.

*Шушкевіч:* Я б сказаў так. На Чарнобыль афіцыйна па бюджэту, хоць ніколі так не выдаткоўвалася, ідзе ў нас гэтулькі… вось лепшае параўнаньне… абсалютныя лічбы ў нашым бюджэце — гэта цяжка… а столькі, колькі ідзе на абарону, адукацыю і навуку разам узятыя, гэта 95-ы год…

*Грушавы:* Ну добра, але ж усё ж такі вось гэтыя абсалютныя лічбы, яны таксама цікавыя, таму што я падлічыў, што, напрыклад, на 96-ы год на ўсе праграмы, калі браць толькі тых людзей, якія жывуць у чарнобыльскай зоне, толькі тых, нават перасяленцаў я ня ўлічваў і ліквідатараў, прыходзіцца дзесьці 170 даляраў у год на чалавека. Дык вось я лічу, што калі б гэтыя грошы, вельмі невялікія грошы, былі выкарыстаны выключна на падтрымку стану здароўя гэтых людзей, гэта быў бы добры падыход. Можа, крышачку нехта атрымае больш, напрыклад, хворыя дык увогуле павінны.

## «Верагоднасьць захворваньня на рак шчытападобнай залозы найбольшая»

*Шушкевіч:* А што значыць падтрымка стану здароўя? Растлумачце мне, калі ласка.

*Грушавы:* Ну, першае — гэта, відаць, пагодзіцеся і вы з гэтым. Першае — гэта тычыцца ня толькі тых, хто пацярпеў ад Чарнобылю. Сёньня кожнае наша дзіця, яно павінна атрымліваць полівітаміны. І вось калі б мы забясьпечылі, у першую чаргу чарнобыльскія зоны, кожнае дзіця, што там жыве, полівітамінамі, гэта ўжо быў бы вельмі добры пачатак. А 180 даляраў нам якраз-такі і хопіць, каб кожны чалавек, які жыве ў гэтай зоне, атрымаў на працягу году гэтыя вітаміны. Вось і ўсё.

*Шушкевіч:* Я хачу вам сказаць, што на 100% з вамі згодзен, і ня трэба чыноўнікаў, ня трэба дурной той будоўлі, якая была. Трэба падтрымліваць актыўнасьць арганізму, трэба рабіць збалянсаванае харчаваньне. А калі людзям, заўважце, нашых беларускіх 6 тысяч даюць на нос, прабачце, на чалавека, — што гэта такое?! Гэта зьдзек фактычна! Цяпер арыентацыя: куды павінна быць накіраваная гэта дапамога? Пераважна на тых, хто былі дзецьмі ў час чарнобыльскай аварыі, таму што ёд радыяактыўны больш за ўсё ўтварыў небясьпеку, і верагоднасьць захворваньня на рак шчытападобнай залозы найбольшая. Я б многа мог бы пра гэта гаварыць. І хачу вам сказаць так, але ў нас камісія цісьне на што? «Вось давайце захаваем 12% чарнобыльскі падатак, і ўсё будзе добра». Нічога добрага ня будзе, таму што трэба зразумець, што лепей: альбо падтрымаць эканоміку, і людзі будуць больш тых полівітамінаў прымаць, чым яны прымаюць сёньня, пра якія вы гаворыце, альбо загубіць эканоміку і даць ім

больш грошай, яны тады будуць іх менш прымаць. Вось альтэрнатыва для палітыкаў.

*Грушавы:* Вы гаворыце аб тых грошах, якія сёньня мае бюджэт, як іх разьмеркаваць. А чаму такі жабрацкі бюджэт? А чаму так мала грошай? Чаму мы зыходзім з таго, што вось так атрымалася? Чаму дзяржава на працягу ўжо колькі гадоў не спрабавала знайсьці іншыя крыніцы для фінансаваньня вось тых жа самых эканамічных ці, можа, чарнобыльскіх праблем? Чаму ня ўтвораны за ўсе гэтыя гады, напрыклад, міжнародны фонд падтрымкі тых народаў, якія пацярпелі…

*Шушкевіч:* Ну, прабачце, гэта прасіць грошай ці дзяржава павінна зарабіць грошы? У мяне да вас адно пытаньне. Прасіць — гэта ваша спэцыяльнасьць.

*Грушавы:* Можна тады я вам прыклад нагадаю з той аварыі, якая была ў ЗША ў 80-м годзе? Гэта ўсё ж такі не жабрацкая дзяржава, так? Гэта ўсё ж такі багатая краіна. Чаму ж тады 5 мільярдаў на тое, каб пакрыць выдаткі на ўсе гэтыя наступствы, яна атрымала ад Японіі? Чаму вы гаворыце аб тым, што дзяржава, якая пацярпела ад такой велізарнай катастрофы, ня мае права, нават з пункту гледжаньня міжнародных падыходаў, на тое, каб зьвяртацца з такой прапановай? Гэта не «прасіць», а прапанова ўтварэньня міжнароднага фонду. І я вельмі зьдзіўлены, што вось гэтае пытаньне на працягу столькіх гадоў нават і ня ставіцца, хаця я добра ведаю, што ёсьць краіны…

*Шушкевіч:* Гэта пытаньне для іншых. Ведаеце што, грамадзкая дзейнасьць, я яшчэ раз кажу…

*Грушавы:* Ну, гэта палітычная дзейнасьць. Гэта дзяржаўная дзейнасьць.

*Шушкевіч:* Давайце мы з вамі будзем разважаць як навукоўцы. Адкуль грошы возьмуцца ў фондзе? Адкуль? Гэта будуць беларускія грошы?

*Грушавы:* Не.

*Шушкевіч:* Хто нам іх дасьць?

*Грушавы:* А вось я гатовы адказаць. Вось тыя, хто будаваў, будуе гэтыя станцыі, павінен такі страхавы фонд рабіць.

*Шушкевіч:* Гэта трэба быць спачатку застрахаваным, каб такі фонд мець. А цяпер трэба быць жабраком і прасіць. Дык от я вам хачу сказаць, я займаюся ня тым, каб прасіць, гэта вы займаецеся тым, каб прасіць. Гэта, прабачце, вы робіце гэта прафэсіяй. А я хацеў бы заняцца тым, каб наша дзяржава здольная была дапамагчы. Для гэтага нам трэба будаваць здаровую эканоміку.

*Грушавы:* Ну, вы толькі жадаеце гэта зрабіць, так? І вы можаце жадаць яшчэ 20 год і нічога не зрабіць. А вось тое пакаленьне, якое сёньня атрымлівае ўсё ж такі адмоўны ўплыў гэтай радыяцыі, яно будзе хворым. І вось мы тады з вамі сустрэнемся праз 10 год, вы будзеце мне гаварыць аб тым, як вы змагаліся, змагаліся, змагаліся і нічога не атрымалі. Вось гэта дрэнна.

*Шушкевіч:* Я хачу вам сказаць так: я жадаю вам посьпехаў у жабрацтве, але, прабачце, гэта не мая прафэсія прасіць. Прасіце, калі ласка. Многія зрабілі гэта сваёй спэцыяльнасьцю, яны езьдзяць па сьвеце і просяць. Я да гэтага дачыненьня ня маю.

Дзяржава павінна ставіць сваіх людзей на ногі і сваю дзяржаву рабіць прыстойнай і дастойнай.

*Панкратава:* Спадар Шушкевіч, я жадаю посьпехаў дзяржаве, тым разумным людзям, якія змогуць штосьці зьмяніць. Але калі назваць папрашайніцтвам тое, што ў выніку працы фонду «Дзецям Чарнобылю» дзясяткі тысячаў нашых дзяцей паехалі за мяжу, ці можа гэта быць кепскім?

*Шушкевіч:* Гэта добра, калі яны паехалі за мяжу. Але вы ведаеце, я ведаю такія фонды, мы аналізавалі іх на Вярхоўным Савеце, я не гавару пра суразмоўцу свайго, калі выдаткі на фонд складалі 87%, а на дапамогу — 13%. Іх было фондаў за 30, усе з назвай «Чарнобыль». І ведаеце, я яшчэ раз скажу: галоўнае — трэба вырашаць дзяржаўнае пытаньне. Ніякія фонды ня могуць пайсьці ў параўнаньне з тым, што можа даць дзяржава, калі яна становіцца на свае ногі.

*Панкратава:* Але згадзіцеся з тым, што гэта не павінна адно выключаць другое.

*Шушкевіч:* Не, ні ў якім разе. Але я гавару, адны павінны займацца фондамі і ствараць іх за кошт некага, але ж нехта павінен і сваёй дзяржавай займацца.

## «Грамадзянскую вайну вядзе наш прэзыдэнт супраць нашага народу»

*Панкратава:* Спадар Грушавы, сёньня вы выступалі перад дэпутатамі Бундэстагу з нагоды 10-й гадавіны гэтай катастрофы, і ў тым ліку па-

ведамілі пра тыя падзеі, якія адбываліся сёньня ў Менску, у вас была такая сувязь. Скажыце, калі ласка, як вы ацэньваеце гэтую сустрэчу?

*Грушавы:* Гэта, я лічу, вельмі важная падзея, таму што фракцыя сацыял-дэмакратаў Германіі сёньня вырашыла падтрымаць ня толькі непасрэдна чарнобыльскую дзейнасьць, непасрэдна чарнобыльскія арганізацыі, а падтрымаць спробы захаваць тое, што застаецца ў Беларусі ад дэмакратыі, падтрымаць сёньня ўсімі палітычнымі сродкамі. Сёньня прынятае такое рашэньне нават — зьвярнуцца да Эўрапейскай Рады, каб яна вельмі добра падумала, ці можна прымаць у гэтую раду дзяржаву, якая не паважае правы чалавека, якая ніяк ня хоча падтрымаць тыя дэмакратычныя захады, якія ўсё ж такі былі пабудаваны, якія яшчэ пакуль што, можа, застаюцца на Беларусі, але могуць быць зьнішчаныя, нават, можа, заўтра.

*Панкратава:* Спадар Шушкевіч, у мяне такое пытаньне да вас. Вось сёньня таксама для вас быў важны дзень. Скажыце, калі глядзець на гэтую падзею зь яе вынікамі, часам сумнымі, мяркуючы па тым, што перадавалі нашы карэспандэнты. Сёньняшні вось Чарнобыльскі шлях — ён наблізіў нашае грамадзтва да дэмакратыі? Ці, наадварот, даказаў, што гэта ў нас…

*Шушкевіч:* Ведаеце, я думаю, што сёньняшні дзень — ён у значнай ступені паказаў, што ўрад аганізуе, таму што гэта агонія, калі выстаўляюць тысячы амонаўцаў супраць многіх дзясяткаў тысяч мірных дэманстрантаў, і калі з дубінкамі,

і калі правакатары перакульваюць — я перакананы, што гэта правакацыя міліцэйская — перакульваюць міліцэйскі аўтамабіль, каб паказаць, якія гэта агідныя тут людзі. Сёньняшні дзень паказаў гнілоту вось нашай выканаўчай улады. І я маю толькі адну надзею на аздараўленьне нашага Вярхоўнага Савету, дзякуючы выбарам дадатковым, і мне здаецца, што ён здольны стаць на ногі. Таму што ў Менску наўрад ці хто-небудзь цяпер падтрымае гэтую ўладу.

*Панкратава:* Спадар Грушавы, а вам вядома — дзеці Чарнобылю, вось тыя дзеці, які пяць год таму ўпершыню паехалі, яны бралі ўдзел у гэтай дэманстрацыі?

*Грушавы:* Безумоўна. Я б хацеў дадаць тое, што амаль усе студэнты былі папярэджаныя ў Менску аб тым, што той, хто прыме ўдзел у гэтай дэманстрацыі, будзе выключаны з інстытуту. Я павінен вам сёньня дакладна прадставіць інфармацыю, што шмат аўтобусаў, якія мы накіравалі ў розныя раёны — у нас сёньня на Беларусі 70 раённых арганізацыяў, якія падтрымліваюць вось гэтыя чарнобыльскія праграмы самадапамогі, амаль усе гэтыя раёны выказаліся за тое, каб прыняць удзел у Чарнобыльскім шляху, у гэтым маршы, і мы дапамаглі часткай нашымі аўтобусамі ці дапамаглі заказаць гэтыя аўтобусы, — дык вось усе аўтобусы былі затрыманыя на пад’езьдзе да гораду, людзей высадзілі з аўтобусаў, і нехта ўсё ж такі здолеў пешшу дайсьці да фонду і прыняць удзел у гэтай дэманстрацыі, а некаторыя так і не дайшлі. 26 красавіка, 10 год пасьля Чарнобылю,

гэта не такі шараговы дзень, гэта 26 красавіка. І ніякая ўлада, ніякі кіраўнік, ніякі прэзыдэнт ня меў права сёньня забараніць людзям у гэты трагічны дзень выйсьці на любую плошчу, на любую вуліцу. І калі гэта здарылася менавіта сёньня, і калі людзей, гэта было ня тры, чатыры, не 15 і нават не 100 чалавек, а гэта былі дзясяткі тысяч чалавек — і сярод іх, я магу дакладна вам назваць, былі і дзеці, якія прыехалі з чарнобыльскай зоны, усё ж такі мы прывезьлі некалькі аўтобусаў; канечне, мы іх вельмі баранілі, мы іх потым неяк так убок адвялі, каб яны зноў не зьявіліся ахвярамі новага Чарнобылю ў гэтай уніформе міліцэйскай; былі інваліды Чарнобылю, было шмат перасяленцаў, — нават супраць гэтых людзей падымаецца рука ўлады! Дык якая ж гэта ўлада? Гэта ж грамадзянская вайна супраць свайго народу! Вось я сёньня так канкрэтна і называю гэты факт.

*Панкратава:* Спадар Шушкевіч, калі разьвіваць гэтую тэму, на ваш погляд, ці застанемся мы ў выніку ўсіх гэтых апошніх падзеяў, у тым ліку сёньняшняй, у якой вы бралі ўдзел, краінай у Эўропе?

*Шушкевіч:* Мы абавязкова застанемся краінай у Эўропе, у нас эўрапейская мэнтальнасьць. Але ў нас так многа перашкод, таму што народ пераканалі ў тым, што без Расеі мы нічога ня значым, а я б сказаў — не, мы вельмі многа значым, і мы здольныя самі ўсё рабіць, і мы здольныя мець прыстойныя дружалюбныя адносіны з Расеяй, але ня трэба паўзьці туды на пузе і гаварыць: «Вось забірайце нас, бо мы без Расеі ня можам».

Толькі менавіта гэта робіць сёньня наш урад. Калі мы будуем адкрытае грамадзтва, пра якое так добра гаварыў Генадзь Грушавы, то мы павінны быць адкрытымі ня толькі для Расеі. На жаль, прыйдзецца прайсьці празь цяжкасьці, і сёньня многія людзі былі пабітыя, пабітыя фізычна, паразьбіваны галовы, было многа крыві! Гэта я бачыў сваімі вачыма, гэта ў мяне было перад вачыма гэта ўсё! Ведаеце што, мы перажывем гэтыя цяжкасьці, я прыхільнік, як вы ведаеце, такіх памяркоўных падыходаў, але сёньня ўтаймаваць гэтых людзей было практычна немагчыма, яны на нянавісьць адпавядаюць нянавісьцю. І тут я пабойваюся разам з Генадзем, што гэта фактычна падставы для грамадзянскай вайны ў нас. І гэтую грамадзянскую вайну вядзе наш прэзыдэнт супраць нашага ўласнага народу.

*Панкратава:* Але ўсё ж такі вы сказалі, што перажывем.

*Шушкевіч:* Перажывем.

## «Прэзыдэнт хлусіць знарок, хлусіць усяму народу»

22 кастрычніка 1996
Віталь Цыганкоў

*На прэзыдэнцкім усебеларускім сходзе часта згадвалася імя Станіслава Шушкевіча, і толькі ў нэгатыўным кантэксьце. Наш карэспандэнт прапанаваў спадару Шушкевічу самому выказаць свае ацэнкі апошніх падзеяў у дзяржаве.*

*Цыганкоў:* Было сказана, што ўсе ўдзельнікі Белавескіх пагадненьняў будуць праклятыя, хаця, як кажуць, пры жывым Ельцыну. Ці лічыце вы гэта нейкай агаворкай, ці гэта сьвядомыя такія словы?

*Шушкевіч:* Апошнім часам адбываецца такая падзея: прэзыдэнт нешта гаворыць, ну, час ад часу ён кіруецца ўласным розумам, а пасьля гэта яго ідэалягічны штаб выкрэсьлівае. Таму гэта не агаворка, гэта пазыцыя. Прэзыдэнт наш, як заўсёды, павінен шукаць вінаватых.

*Цыганкоў:* Як вы ацэньваеце крок Лукашэнкі па прызнаньні даты рэфэрэндуму па зьмене Канстытуцыі, прызначанай Вярхоўным Саветам 24 лістапада, і прапанову прэзыдэнта Вярхоўнаму Савету зьняць свае пытаньні? Ці можна меркаваць, што Вярхоўны Савет тут праявіць трываласьць, цьвёрдасьць і пакіне свае пытаньні на рэфэрэндум?

*Шушкевіч:* Перш за ўсё я б лепей сказаў, як я ацэньваю вынікі сходу. Лукашэнка адназначна хацеў на гэтым сходзе зацьвердзіць дату 7-га лістапада і пакінуць толькі свае пытаньні. Ён спадзяваўся, што ён будзе вымушаны гэта зрабіць, таму што ён бы сказаў: «Глядзіце, Вярхоўны Савет сваёй палітыкай прывёў да правакацый, да боек, да крыві». Пра гэта гаварылі дэпутаты, прапрэзыдэнтаўскія прыхвасьні, яны запужвалі Вярхоўны Савет крывёй. Малумаў, намесьнік старшыні Вярхоўнага Савету, гаварыў, што ў яго ўзьнікала жаданьне біць, біць, біць. І вось такія людзі вакол прэзыдэнта. Але тое, што яны называюць тлумам, гэты тлум — гэта значыць людзі, якія сабраліся на плошчы адной і другой… я, на жаль, ня мог быць, у мяне памёр мой блізкі чалавек, я быў на пахаваньні ў Жодзіне. І ведаеце, гэты тлум спакойна ўсё гэта ўспрыняў, не было ніякіх правакацый, і яго немагчыма было справакаваць. І што ж рабіць у гэтых умовах? Як растлумачыць? Законапаслухмяны мітынг, законапаслухмяная апазыцыя — і адзін законанепаслухмяны прэзыдэнт і ягоная хеўра? Што ў гэтай рабіць сытуацыі? Трэба рабіць крок назад. На жаль, прэзыдэнт не зрабіў дастойны крок назад. Ён павінен быў заявіць, што я бачу дастойную апазыцыю, я адмяняю ўсе свае ўказы неканстытуцыйныя, я адмяняю свае неканстытуцыйныя жаданьні, і гэтак далей. Ён зрабіў маленькі крок у рэчышча канстытуцыйнасьці, няхай робіць астатнія, іншага шляху няма.

*Цыганкоў:* Ці можна гэтае маленькае адступленьне назваць паражэньнем прэзыдэнта?

*Шушкевіч:* Ня можа быць перамог і паражэньняў у справе, калі справа ідзе аб унутраных праблемах у дзяржаве. Хто можа пацярпець паражэньне? Хто? Асабіста Лукашэнка? Гэта наогул ніякай ролі не адыгрывае. Галоўнае тое, што ў нас увесь час цярпіць паражэньне беларуская дзяржава. Увесь час цярпіць паражэньне той пачатак дэмакратыі, які мы ўсталявалі ў Беларусі. І, я б сказаў, прэзыдэнт спыніўся на хвілінку ў гэтым працэсе наступленьня, але ж адразу ён робіць другі захад: ён патрабуе, каб пакінулі толькі ягоныя пытаньні. Гэта зноў антыканстытуцыйна. Яго пытаньні засталіся. Чаму трэба праводзіць яшчэ адзін рэфэрэндум асобна? Давайце паглядзім, што трэба мясцовыя ўлады на месцах абіраць праз насельніцтва рэгіёна, альбо трэба, каб іх прызначаў прэзыдэнт. Што гэта за жарты такія? Давайце вырашым гэтае пытаньне! Яно, дарэчы, адкажа, як народ разумее, што такое Канстытуцыя. Я вам больш за тое скажу, такая пастаноўка пытаньня наогул антызаконная, таму што закон абавязвае сфармуляваць пытаньні мінімум за два месяцы да рэфэрэндуму. Значыцца, пытаньні не сфармуляваныя, усё, што прэзыдэнт расказваў па Канстытуцыі, — я ня ведаю, дзе гэта надрукавана, я ня бачу гэтага экзэмпляру. Акрамя таго, прэзыдэнт ізноў пайшоў у рэчышча хлусьні, ён сказаў, што ён запрасіў дэпутатаў. Сёньня ў нас больш за 100 дэпутатаў паставілі свае подпісы, што іх ніхто

не запрашаў на гэты сход. Ён застаўся такі, які ён быў: ён хлусіць, хлусіць знарок, хлусіць усяму народу для таго, каб выглядаць чалавекам, які клапоціцца аб гэтым народзе. Ён яго ўводзіць у зман, таму што нікому другому, акрамя тых, хто па пляну павінен быў выступіць, слова ня даў і нават не запрасіў старшыню Вярхоўнага Савету на такое паседжаньне. Я думаю, што гэта проста злачынства.

# «Беларусь мае дыктатарскую Канстытуцыю замест скасаванай дэмакратычнай»

27 лютага 1997

*У расейскай газэце «Известия» апублікаваны артыкул Станіслава Шушкевіча, дзе аўтар дае ня толькі грунтоўны аналіз мэханізму беларуска-расейскай інтэграцыі, але і задае пытаньне: чым абернецца для расіянаў уладкаваньне іх дзяржавы на беларускі ўзор.*

Паводле аналітыкаў, Барыс Ельцын, які накіраваў Аляксандру Лукашэнку ліст з прапановай перавесьці працэс інтэграцыі з тэорыі на практыку і даць у гэтай справе канкрэтныя, перадусім эканамічныя прапановы, тым самым перахапіў ініцыятыву ў свайго беларускага візаві. Пагатоў даць такія прапановы шматкроць цяжэй, чым выкопваць памежны слуп альбо разьбіваць келіх за вялікае сяброўства, — гаворыць у сваім артыкуле Станіслаў Шушкевіч. — Аж да цяпер прэзыдэнт Беларусі канкрэтна не адказаў на ніводнае пастаўленае сваім расейскім калегам пытаньне. Больш за тое, прапрэзыдэнцкія сродкі масавай інфармацыі ператварылі ліст Ельцына ў звычайны прыватны ліст, сэнс і значнасьць якога ня трэба перабольшваць.

У чым справа? Чаму вялікі інтэгратар, палымяны змагар з ворагамі расейска-беларускага сяброўства пасьпяхова абвяргае толькі тое, што

ім жа самім і прадугледжана? Чаму ня піша Ельцыну так, як кажа беларускім тэлегледачам: «Я, маўляў, за найцясьнейшую палітычную інтэграцыю з Расеяй, але пры захаваньні сувэрэнітэту Беларусі», альбо «Я за ваенную інтэграцыю, пры якой беларускія вайскоўцы будуць браць удзел у канфліктах толькі на тэрыторыі Беларусі».

Ды таму, лічыць Шушкевіч, што вялікі інтэгратар папросту ня ў стане прапанаваць тут хаця б што-небудзь больш-менш уцямнае.

І ўсё ж расейскія палітыкі, якія збольшага нават не ўспрымаюць сур'ёзна амбітныя прэтэнзіі Лукашэнкі на славянскі трон, часам заяўляюць пра сваю падтрымку Лукашэнкі і легкадумна спадзяюцца, што гэткім чынам яны могуць павялічыць свой электарат.

Да чаго гэта можа прывесьці? Адказ дае беларуская мадэль упарадкаваньня краіны, якая пачала ўвасабляцца, як ужо адзначалася, пры актыўнай дапамозе Масквы.

У выніку, лічыць Шушкевіч, Беларусь мае дыктатарскую Канстытуцыю замест скасаванай дэмакратычнай, прапрэзыдэнцкі двухпалатны парлямэнт замест усенароднаабранага, кішэнькавы Канстытуцыйны суд замест суду аб'ектыўнага, у якога адзіным крытэрам ісьціны ёсьць закон, а ня воля дыктатара.

Усе гэтыя зьмены агульнаэўрапейскія ўстановы прызналі недэмакратычнымі. Але чаго ж яшчэ можна чакаць ад гэтых далёкіх нашым народам камісіяў? Ніводная зь іх нават не пацікавілася, ці падтрымліваюць гэткі падыход

найбольш дасьведчаныя расейскія парлямэнтарыі Селязьнёў і Строеў. А яны ж падтрымалі.

Згаданыя расейскія палітыкі спадзяюцца, што прэзыдэнт Расеі дасьць санкцыі на ўвод досьведу беларускага ўпарадкаваньня ў расейскае жыцьцё. Падставаў для гэтага больш чым трэба. У выніку ягоныя прэзыдэнцкія паўнамоцтвы стануць сапраўды звышцарскімі, больш чым у цара Мікалая II і генэральнага сакратара ЦК КПСС разам узятых, яны стануць такімі, як у Лукашэнкі. Больш за тое, іх падаўжэньне адбудзецца аўтаматычна, безь якіх бы там ні было выбараў.

Станіслаў Шушкевіч заўважае, што ўсе навацыі Лукашэнкі вядуць да скасаваньня якіх бы там ні было формаў апазыцыі, што азначае стабільнасьць, якая будзе цалкам залежаць толькі ад волі прэзыдэнта.

Расея сталася адзінай краінай у сьвеце, якая падтрымала дзяржаўны пераварот на Беларусі. Цяжка зразумець, навошта людзі, якія маюць вялікую ўладу, заляцаюцца да палітычнага авантурніка. Усе заявы Лукашэнкі пра тое, што ён вядзе Беларусь да збліжэньня і нават зьліцьця з Расеяй, — поўны блеф. А ягоныя расейскія часовыя спадарожнікі і супольнікі выглядаюць сьмешна, бо яны абдураныя гранічна прымітыўнымі мэтадамі. Кароль голы, спадарства! — канстатуе Станіслаў Шушкевіч у маскоўскіх «Известиях».

## «Які можа быць сувэрэнітэт без маёмасьці?»

9 красавіка 1997
Віталь Цыганкоў

*У афіцыйнай прэсе апублікаваны праект статуту «Беларуска-расейскага саюзу».*

*Цыганкоў:* Першы старшыня Вярхоўнага Савету незалежнай Беларусі Станіслаў Шушкевіч зьвярнуў увагу найперш на праблему агульнага грамадзянства ўтворанага саюзу.

*Шушкевіч:* Адно, што для мяне канчаткова ясна, — што ствараецца новы вялізарны бюракратычны апарат, які ня вельмі добра будзе ведаць, што рабіць. Калі стваралі СНД, там было дакладна запісана, якія пытаньні вырашаюцца ў штаб-кватэры СНД, і пасьля зацьвярджалася палажэньне аб гэтай кватэры. Тут можна напладзіць чыноўнікаў, ну, я вам скажу так, пасадзіць на карак і беларускага, і рускага народу іх цэлую плойму, і яны невядома што будуць рабіць, яны будуць пладзіцца яшчэ болей. Таму я тут таксама ня бачу падыходаў. Ёсьць шэраг пытаньняў, якія паказваюць, што рыхтавалі гэтае пагадненьне ідэолягі, а не прагматыкі.

*Цыганкоў:* Адносна найбольш важнага 27 артыкула статуту, у якім запісана, што выканаўчы камітэт мае права ў межах сваёй кампэтэнцыі прымаць рашэньні прамога дзеяньня, абавязковыя для ўсіх галіновых і іншых органаў саюзу,

Станіслаў Шушкевіч мае своеасаблівае меркаваньне.

*Шушкевіч:* Заявы расейскіх кіраўнікоў і палітыкаў цяпер такія, што будзе выкрасьлена ўсё, што ўступае ў супярэчаньне з Канстытуцыямі Беларусі і Расеі. Дык тут, я вам скажу так, першае, што будзе выкрасьлена — чаму гэта Ельцын будзе дзяліцца ўладай… Тут вельмі незразумелы пункт, ён таксама ідэалягізаваны. Адна дзяржава — адзін голас, і восем членаў гэтага вышэйшага савету — што яны будуць рабіць, калі яны ўсе чатыры маюць адзін голас? Што яны, будуць ва ўнісон сьпяваць, ці гэта будзе нарада? Што гэта будзе, палітбюро?

*Цыганкоў:* На пытаньне, ці стварае гэты праект пагрозу беларускай дзяржаўнасьці, спадар Шушкевіч адказвае адназначна.

*Шушкевіч:* Ну зразумела, што ён стварае пагрозу беларускаму сувэрэнітэту хаця б па пытаньні маёмасьці, таму што сувэрэнітэт, калі вашу маёмасьць могуць расьцягнуць на аднолькавых правах з грамадзянамі Беларусі грамадзяне іншай краіны, і няма ніякіх абмежаваньняў, і прыватызацыя ў Беларусі не адбылася, — ну зразумела, які ж тут можа быць сувэрэнітэт без маёмасьці? А магчымасьць для аддачы такой маёмасьці вельмі простая, яна адкрываецца вельмі шырока.

## «Галоўная перашкода для беларускіх дэмакратычных выбараў — гэта антыдэмакратызм Расеі»

17 ліпеня 1998
Радыё Свабода

*У Страсбургу Эўрапейскі парлямэнт прыняў жорсткую рэзалюцыю па Беларусі.*

У ёй патрабуецца выкананьне Беларусьсю ўзятых на сябе міжнародных абавязаньняў. У рэзалюцыі гаворыцца, што прэзыдэнцкія выбары на Беларусі павінны адбыцца ў 1999 годзе. Эўрапарлямэнт заклікаў беларускае кіраўніцтва абяцаць поўную падтрымку маніторынгава-кансультацыйнай групе АБСЭ, якая працуе ў Менску па аднаўленьні на Беларусі дэмакратычных структур. Такім чынам, Эўрапарлямэнт чарговы раз заявіў прэзыдэнту Лукашэнку, што пасьля траўня 1999 году ён губляе сваю прэзыдэнцкую легітымнасьць.

*Шушкевіч:* На практыцы гэта азначае падтрымку эўрапейскімі структурамі тых падыходаў, якія робіць у Беларусі апазыцыя сыстэме лукашызму. І я вельмі цешуся з той нагоды, што такое рашэньне прынята. Больш за тое, я цешуся, што прынята рашэньне, у аснове якога паложана прапанова Зялёных. На жаль, дэмакратычныя рухі ў Беларусі ня маюць ніякай фінансавай падтрымкі, і больш за тое — ні ўнутранай, ні вонкавай. І тое, што наш прэзыдэнт Лукашэнка ня хоча

падтрымкі дэмакратыі нават у сваіх урадавых колах, гэта паказвае, што ён яе шалёна баіцца, ён нічога ня хоча, акрамя ўлады. А пры яго ўладзе, пры яго разуменьні таго, што адбываецца, ну, Беларусь коціцца ў цясьніну.

…У эўрапейцаў ёсьць многа мэханізмаў, але палітыка эўрапейская — штука вельмі складаная. Эўропа — вельмі няпростая структура, асабліва цяпер. Галоўная перашкода для правядзеньня беларускіх дэмакратычных выбараў, для правядзеньня прэзыдэнцкіх выбараў на Беларусі, — гэта антыдэмакратызм Расеі ў адносінах да Беларусі.

Афіцыйныя ўлады Расеі разьвіваюць двайныя падыходы — адны для сябе і другія да іншых. І перш за ўсё Расея бачыць тут свае геапалітычныя інтарэсы, вялікія, і яе вельмі задавальняе Лукашэнка, таму што, маючы парады пэўнага псыхіятра, яны могуць тут рабіць усё што хочуць, затрачваючы вельмі малыя сродкі. І таму я думаю, што галоўнае, што можа зрабіць Эўропа, — гэта трэба ўзьдзейнічаць на Расею, каб яна ня ўтрымлівала гэты ўрад і гэтага прэзыдэнта, таму што кожны год яна дазваляе павялічыць Беларусі доўг на 800 мільёнаў даляраў, Беларусь ня сплачвае гэтыя даўгі, і фактычна яна ўтрымлівае гэты антыдэмакратычны рэжым.

## «Выбірайце Лукашэнку і жывіце далей у галечы»

13 студзеня 1999

*У ліпені 1999 завяршаўся вызначаны Канстытуцыяй пяцігадовы тэрмін прэзыдэнцтва Лукашэнкі, аднак ён адмовіўся праводзіць прэзыдэнцкія выбары. Ён заявіў, што адлік павінен пачынацца ад лістапада 1996 году, калі рэфэрэндум унёс папраўкі ў Канстытуцыю. Дэпутаты Вярхоўнага Савету 13-га скліканьня, якія не прызналі вынікі рэфэрэндуму і лічылі сябе легітымнымі прадстаўнікамі заканадаўчай улады, прызначылі прэзыдэнцкія выбары на травень 1999-га. Старшынём «альтэрнатыўнай» Цэнтральнай выбарчай камісіі быў прызначаны Віктар Ганчар.*

*Шушкевіч:* Гэтае рашэньне законнае, а вынікі рэфэрэндуму, калі нават дапусьціць, што яны не сфальсыфікаваныя, яны — у адпаведнасьці з запісам у кожным бюлетэні — насілі выключна дарадчы характар. Таму сьмеху вартыя ўсе тыя намаганьні прыслужнікаў рэжыму, якія хочуць надаць гэтаму гучаньне незаконнасьці. Гэта важная палітычная акцыя. Амаль пяць гадоў цягнецца праўленьне чалавека, які абяцаў праз два гады зрабіць жыцьцё беларусаў заможным. Замест гэтага ўвесь час пагаршаецца жыцьцё людзей, увесь час павялічваецца працэнт людзей, якія па старых крытэрыях — 1990 году — жывуць за рысай беднасьці. Цяпер ён складае каля 85%

і ўвесь час павялічваецца. Вось жа, трэба законным шляхам сказаць народу: альбо выбірайце таго прэзыдэнта, які ёсьць, і жывіце далей у галечы, альбо падтрымайце тых людзей, якія могуць зрабіць ваша жыцьцё больш прыстойным.

## «Лукашэнка будзе адказваць перад судом»

10 лютага 1999
Юры Дракахруст

*Падчас нарады ў пытаньнях сацыяльна-эканамічнага стану Беларусі Лукашэнка ўпершыню выказаў сваё стаўленьне да ініцыятывы Вярхоўнага Савету аб правядзеньні ў траўні 1999 году прэзыдэнцкіх выбараў.*

З папярэджаньнямі на адрас ініцыятараў прэзыдэнцкіх выбараў ужо неаднойчы выступалі і пракуратура, і Міністэрства юстыцыі. Учора ўпершыню на гэты конт выказаўся і прэзыдэнт. На нарадзе з вэртыкальнікамі ён заявіў: «Як толькі гэтыя дзеячы ў выглядзе рознага кшталту шарэцкіх, грыбаў і шушкевічаў дойдуць да пэўных узроўняў, галава ім будзе скручаная на працягу сутак. У нас хопіць сілы, каб супрацьстаяць гэтаму ахвосьцю».

Паводле словаў прэзыдэнта, ён можа пайсьці на выбары, толькі абвясьціўшы аб сваёй адстаўцы. «Але калі я пайду ў адстаўку — дзе гарантыя, што гэтыя фашыствуючыя малойчыкі заўтра не перавернуць краіну?» — пытаўся Лукашэнка.

*Шушкевіч:* Я прыехаў толькі што з Сэулу, дзе абмяркоўвалася пытаньне — ці можна выхаваць чалавека так, калі ён паходзіць зь нейкай невядомай сям'і, каб ён стаў прыстойным чалавекам, грамадзянінам для будучыні? Дык вось, у пэўным

узросьце гэта можна зрабіць, лічыць канфэрэнцыя, на якой я быў. Але мне здаецца, што для нашага прэзыдэнта гэта ўжо страчана. А тое, што ён на ўсіх злуецца, — гэта факт. І першае, што зрабіў прэзыдэнт у сваім выказваньні, — ён пацьвердзіў, што ён быў і застаецца хамам.

Другое, што ён тут зрабіў, — ён паказаў, што ён парушае тую самую Канстытуцыю, якую ён зацьвердзіў як быццам бы на «рэфэрэндуме» і як быццам бы гэтую Канстытуцыю прыняў народ. Ну калі ж ты падпарадкоўваесься Канстытуцыі, як жа ты можаш гаварыць, што ты прызначыш выбары? Прэзыдэнт жа не прызначае выбары! Іх прызначае, паводле ягонай Канстытуцыі, гэтак званы «парлямэнт», а паводле нармальнай Канстытуцыі — законны парлямэнт, што ён і зрабіў.

Трэцяе. Ён пацьвердзіў, што ён абсалютна ня лічыцца з гэтай «палатай», а таксама і з астатняй намэнклятурай.

Чацьвёртае, што я тут бачу, — прэзыдэнт пацьвердзіў, што бандытызм зьяўляецца афіцыйнай палітыкай Беларусі, якую ён узначальвае — вось той «Беларусі». Таму што калі раней ён зьбіваў паветраныя шары, калі раней ён кідаў у турму людзей ні за што ні пра што, дык цяпер ён кажа, што ён паскручвае галовы тым, хто яму не падабаецца. Гэта ягоны стыль.

Цяпер далей. Пятае. Пра што ён гаворыць? Ён гаворыць пра «фашыствуючых малойчыкаў». Вы ведаеце што, у нас сапраўды ёсьць малойчыкі, вельмі падобныя да фашыстаў. Але ж гэта — спараджэньне прэзыдэнта. Яны ж падтрымваюць

прэзыдэнта, гэта прадстаўнікі гэтак званага «Русского национального единства». Іх ненавідзяць у Расеі, іх ужо б’юць і выганяюць з Расеі. Я думаю, што яны будуць законам забароненыя ў Расеі, і яны тут знаходзяць прытулак. І я не выключаю, што калі ім не спадабаецца прэзыдэнт, дык і яго прытаўкуць. Але яны — ягонае спараджэньне.

Іншымі словамі — эканоміка ў нас ідзе ўніз, выхаду няма, і трэба нешта гаварыць. Паглядзіце, як зруйнаваўся міт аб тым, што наш прэзыдэнт папулярны ў народзе. Каб ён быў папулярны, ён бы пайшоў на гэтыя выбары. Але ён баіцца народу і баіцца выбараў. Гэты міт аб яго высокім рэйтынгу — гэта чыстае глупства. Гэта тое, што зроблена на заказ прэзыдэнта і за ягоныя грошы. І цяпер ужо ясна, чаго ён баіцца. Ён больш за ўсё баіцца ўласнага народу. І таму Вярхоўны Савет вельмі правільна пастанавіў, што прызначыў выбары. Я лічу, яны павінны паказаць — каго народ падтрымвае, за кім ён пойдзе.

*Дракахруст:* Які сэнс, на ваш погляд, маюць словы Лукашэнкі пра гарантыі ў выпадку, калі ён сыйдзе з пасады прэзыдэнта?

*Шушкевіч:* Няма ніякіх гарантыяў. Ён будзе адказваць перад судом — перад судом справядлівым. Гарантыі ягоныя няхай абараняюць любыя юрысты, але парушаць закон дзеля яго нельга. Ён будзе адказваць паводле таго закону, паводле той Канстытуцыі, на якой прысягаў. І суд вырашыць — якую ён павінен атрымаць кару. Таму што — я так лічу — ёсьць падставы лічыць яго злачынцам.

*Дракахруст:* А вы ня лічыце, што ён можа ўсё ж такі пайсьці на выбары?

*Шушкевіч:* Гэта будзе самы разумны крок у ягонай нягеглай сытуацыі. Але ён разумее, што ён іх прайграе, таму ён на іх ня пойдзе.

Наконт пагрозаў з боку прэзыдэнта Станіслаў Шушкевіч сказаў:

*Шушкевіч:* Ён страшыць і кажа: я з вамі паступлю так, як зь Лявонавым. Але ведаеце што, тут баяцца трэба болей, бо за нашымі сьпінамі вельмі многа актыўных выбаршчыкаў, у тым ліку і ў Менску. Я думаю, што ён проста не рызыкуе, ён хоча нас застрашыць, але застрашыць яму ня ўдасца.

## «Бяззубая місія АБСЭ паводзіць сябе ня так, як трэба»

09 сакавіка 1999

*Сябры Цэнтральнай камісіі ў справе выбараў прэзыдэнта зьвярнуліся да дзейнага старшыні АБСЭ Кнута Волебэка. Аўтары звароту выказваюць недавер кіраўніку кансультацыйна-назіральнай групы АБСЭ ў Менску Гансу-Георгу Віку.*

*Шушкевіч:* Мы доўга сочым за тым, як дзейнічае тут група АБСЭ. Яна імкнецца рабіць дабро, імкнецца як бы наладзіць кантакт паміж двума бакамі — афіцыёзам і апазыцыяй. Але вось бяда ў чым: за ўвесь час знаходжаньня тут місіі АБСЭ з боку афіцыйных уладаў, з боку нашага дыктатарскага рэжыму ня зроблена ніводнага кроку ў накірунку да дэмакратыі, да забесьпячэньня правоў чалавека. І калі рэжымам быў зроблены чарговы напад на мірныя акцыі — я падкрэсьліваю, мірныя, ня зьвязаныя ні з парушэньнем грамадзкага парадку, ні з парушэньнем нават нейкага дэкрэту альбо ўказу, і калі людзі былі зусім незаконна кінутыя ў турму, — мы, зразумела, зьвярнулі свой погляд у бок АБСЭ. А нам яны даюць паведамленьне для прэсы, дзе гаворыцца, што рэжым у нас сапраўды нядобры, але разам з тым нагадваюць апазыцыі, што яна павінна прытрымлівацца канструктыўнага падыходу.

Я асабіста лічу гэта абразаю для апазыцыі. Гэта перапоўніла межы нашага цярпеньня, і мы

неадкладна накіравалі ліст кіраўнікам АБСЭ і ў шмат якія іншыя адрасы. Гэтая бяззубая місія паводзіць сябе ня так, як трэба, бо калі блытаецца той, хто топча, з тым, каго топчуць, — прабачце, гэта ня місія. Былі выказаныя пажаданьні, каб яна дзейнічала належным чынам. У мяне такое ўражаньне, што гэта неяк узьдзейнічала. Таму што імі цяпер накіраваны ліст да кіраўніцтва Беларусі, дзе няма ніякіх закідаў у бок апазыцыі, бо і ня можа іх быць, апазыцыя дзейнічае ў адпаведнасьці з нашай Канстытуцыяй. І ёсьць толькі папрокі ў адрас рэжыму і патрабаваньне неадкладна вызваліць зьняволеных. Я думаю, што, можа, гэтае здарэньне паслужыць на карысьць таго, каб місія пачала працаваць нармальна, а не глядзець у вочы адным, другім і паводзіць сабе як кот Леапольд, але нічога ў гэтым накірунку не рабіць.

# «Шукаць лёгіку ў выступах „прэзыдэнта“ — гэта справа псыхіятраў»

16 жніўня 1999
Юры Дракахруст

*Тэмаю № 1 у беларускім палітычным жыцьці застаюцца будучыя перамовы паміж уладаю і апазыцыяй. Напрыканцы мінулага тыдня Аляксандар Лукашэнка заявіў, што ня хоча весьці перамовы з дэпутатамі Вярхоўнага Савету і лідэрамі апазыцыйных партыяў. Ён мае намер сесьці за стол перамоваў толькі з тымі прадстаўнікамі апазыцыі, хто канструктыўна крытыкуе ўладу.*

*Шушкевіч:* Шукаць нейкі здаровы сэнс у выступах грамадзяніна Лукашэнкі, які незаконна прысвоіў сабе правы прэзыдэнта пасьля 21 ліпеня, мне здаецца ўсё цяжэй і цяжэй.

З аднаго боку, рэжым аб’яўляе, што ён зацьвердзіў дэлегацыю для вядзеньня перамоваў. І пасьля гэтага сам жа ж грамадзянін Лукашэнка аб’яўляе аб тым, што ён перамовы весьці ня будзе — ён лічыць апазыцыю неканструктыўнай і г.д.

Неканструктывізм выяўляецца з боку рэжыму, які пацярпеў поўны крах. Можна езьдзіць і гаварыць усялякія глупствы, прывабліваць да сябе людзей, якія пазбаўленыя крыніцаў інфармацыі… Але крах будзе яшчэ большым. І калі ён вядзе сябе да краху, то відавочна, што будзе значна горшы варыянт за варыянт перамоваў.

І цяпер пра апазыцыю. Апазыцыя якраз вельмі канструктыўна цяпер дзейнічае. Няма аніякіх супярэчнасьцяў паміж бальшынёю ўплывовых партыяў. Яны выпрацавалі аднолькавы падыход. Даверылі фармаваньне дэлегацыі Вярхоўнаму Савету. Сваім мэмарандумам яны папрасілі Вярхоўны Савет так паступіць.

Вярхоўны Савет зьбярэцца на сэсію і зацьвердзіць гэтую дэлегацыю. Іншымі словамі, мы дзейнічаем у адпаведнасьці з дамоўленасьцямі з АБСЭ і выконваем патрабаваньні АБСЭ.

Мы доўга спрачаліся, дыскутавалі — як гэта лепей зрабіць? І выпрацавалі пэўную праграму.

Зь ёю спачатку пагаджаўся ўрад. Калі ўрад убачыў, што на перамовах мы пакажам, што сабою які бок уяўляе, ён гэтага забаяўся. І Лукашэнка абʼявіў аб тым, што ён гэтага баіцца. Аніякае іншае заявы зь ягонага боку фактычна не было.

*Дракахруст:* Вы лічыце, што гэта ўжо канчатковая адмова ад перамоваў?

*Шушкевіч:* Гаварыць пра нейкія канчатковыя вынікі і шукаць нейкую лёгіку ў выступах «прэзыдэнта» — гэта, ведаеце, справа псыхіятраў. Таму што супярэчнасьцяў у гэтых выступах так шмат, што гэта можа быць чарговым блефам — як ён спачатку «арыентаваўся на Расею», а пасьля ён «арыентаваўся на Захад», а пасьля ізноў «на Расею». І дзе ў яго праўда, а дзе хлусьня — вельмі цяжка ўявіць… І ён сам, я баюся, не разумее падчас выступу, што гаворыць…

# «Лукашэнка вырашае пытаньне, як захавацца ва ўладзе»

08 сьнежня 1999
Сяргей Навумчык

*Барыс Ельцын і Аляксандар Лукашэнка ў Маскве падпісалі дамову аб утварэньні «саюзнай дзяржавы». Васіль Быкаў назваў гэта «злачынствам стагодзьдзя». Сваё стаўленьне ў інтэрвію Свабодзе выказаў Станіслаў Шушкевіч.*

*Навумчык:* Сёньня Лукашэнка ў аэрапорце заявіў, што гэты акт робіцца «сымбалем пачатку маральнага аднаўленьня справядлівасьці». Відавочна, ён меў на ўвазе падпісаньне дамовы ў Віскулях. Ці адчуваеце вы, што тады, 8 год назад, была парушаная нейкая справядлівасьць, аднаўленьне якой неабходнае? І ваша стаўленьне да таго, што адбылося сёньня ў Маскве?

*Шушкевіч:* Мне здаецца, што ваша пытаньне некарэктнае. Тады была проста замацаваная справядлівасьць, і было вырашанае тое пытаньне, якое неабходна было вырашыць. Таму што ўсе ўдзельнікі гэтага падпісаньня фактычна прызнавалі, што Расейская імпэрыя і апошняя яе форма — Савецкі Саюз — былі турмой народаў. І фактычна ўпершыню Расея афіцыйна прызнала незалежнасьць Украіны, Беларусі і ўсіх астатніх рэспублік Савецкага Саюзу. Яна заявіла, што можа будаваць адносіны не на імпэрскай аснове,

але на нармальнай чалавечай аснове. На жаль, доўга гэта не пратрывала.

*Навумчык:* Дзякуй, Станіслаў Станіслававіч. Хачу сказаць, што гэта не мая некарэктнасьць, а некарэктнасьць фармулёўкі ў вуснах Лукашэнкі. Гэта ён так заявіў.

*Шушкевіч:* Тут зусім іншае пытаньне вырашаецца. Таму што ён вырашае пытаньне, як захавацца пры ўладзе. Як вы ведаеце, цяпер у Беларусі шырокамаштабны крызіс, ратунку фактычна няма, дурнота ўсплыла на паверхню, бо няма простых рашэньняў у дзяржаўнай эканоміцы. Трэба прымаць разумныя, складаныя рашэньні, а прымітыўныя рашэньні, якія можна растлумачыць каму хочаш… Гэта, ведаеце, можна вырашаць на ўзроўні дробнай гаспадаркі, паміж суседзямі. А дзяржаўная эканоміка — яна ў нас антырынкавая, і заняпад — у наяўнасьці, крызіс — у наяўнасьці, абвал рубля беларускага — фантастычны. І таму трэба ратавацца. Гэта для яго ратунак.

На жаль, расейскі бок бачыць толькі адзін бок: што Беларусяй разьлічваецца Лукашэнка за тое, што Расея яго захоўвае пры ўладзе і паставіла ўзурпатарам.

*Навумчык:* Цяпер да вас пытаньне як да лідэра Сацыял-дэмакратычнай партыі. Ці бачыце вы нейкія рэальныя мэханізмы, нейкія рэальныя мэтады, каб пазьбегчы гэтага працэсу анэксіі Беларусі?

*Шушкевіч:* Вы бачыце, пытаньне вельмі няпростае. Бо што да спрашчэньня адносінаў эка-

намічных — гэта трэба рабіць, трэба пашыраць адносіны з Расеяй, што да чалавечых — таксама…

Але ў гэтым дагаворы тут новая пазыцыя, тут палітычнае яднаньне. І супрацьстаяць можна чаму? Ня добрым адносінам з Расеяй, яны павінны быць добрымі. А супрацьстаяць трэба таму, што не павінна быць палітычнага яднаньня, не павінны беларусы бараніць Расею ў Чачні альбо дзе-небудзь ля Курылаў. Гэтыя канфлікты будуць там спрадвеку, там нічога не мяняецца. Праблемы існуюць. Беларусаў загінула больш за ўсё ў Афганістане ў пераліку на душу насельніцтва.

Як сябе паводзіць у межах зьдзейсьненага акту — будзем вырашаць. Ясна, што пратэставаць трэба, і трэба тлумачыць людзям, што адбылося і якая мэта. Мэта ж — бесчалавечная.

Таму калі паглядзіш, каго зараз зьбіраюць перад тэлебачаньнем, — гэта ж усе старыя намэнклятурныя адкіды. І калі яны гавораць, што няма нічога больш важнага, чым гэты дагавор, і калі ніхто не гаворыць, як навесьці парадак у родным доме, у Беларусі, — агідна чуць, агідна бачыць, агідна слухаць.

## «Захад вялікія надзеі ўскладае на Пуціна»

21 красавіка 2000
Сяргей Навумчык

*Новаабраны прэзыдэнт Пуцін абверг заявы Лукашэнкі пра стварэньне беларуска-расейскае 300-тысячнае вайсковае групоўкі. Упершыню пра яе стварэньне нелегітымны прэзыдэнт Беларусі заявіў на мінулым тыдні ў выступе перад нелегітымным парлямэнтам. Пасьля сустрэчы з Пуціным у мінулую нядзелю Лукашэнка зноў пацьвердзіў пляны стварэньня антынатаўскага кулака. Сёньня Пуцін даў зразумець, хто зьяўляецца лідэрам у дачыненьнях паміж афіцыйным Менскам і Масквой. Па камэнтар да сёньняшняй падзеі мы зьвярнуліся да экс-сьпікера беларускага парлямэнту, дэпутата Вярхоўнага Савету Беларусі Станіслава Шушкевіча, які цяпер на запрашэньне амэрыканскіх палітолягаў знаходзіцца ў ЗША.*

*Шушкевіч:* Вы ведаеце, мне цалкам зразумела, што адбываецца — адбываецца вялікі крызіс. Чалавек, які ня мае ніякай прыстойнай адукацыі, ня мае разуменьня таго, што такое дзяржава, што такое дабрабыт людзей, — ён можа ісьці толькі тымі захадамі, якія былі ў савецкі час. І, маючы адукацыю палітрука, ён можа толькі заклікаць — пойдзем змагацца з тымі, хто нам пагражае. Хоць нам ніхто не пагражае.

Я думаю, што гэта проста паказвае, што крызіс. У эканоміцы ён нічога не разумее, а трэба там выпраўляць сытуацыю, і пры гэтым паказаць сваё неразуменьне вельмі лёгка, і таму ён спадзяваўся, што калі Пуцін прыйшоў да ўлады ў Расеі, ён падтрымае ягонае такое пачынаньне. Але Пуцін мае нармальную адукацыю і ніколі ня пойдзе на такія захады. І таму ён Лукашэнку паставіў на тое месца, на якім яму належыць быць: калі табе нехта будзе пагражаць, мы табе дапаможам. Лягічны і просты адказ. А паколькі табе ніхто не пагражае, дык прабач, мы не разумеем, пра што ты гаворыш. Гэта называецца — вярнуць на сваё месца чалавека, які пляце бязглузьдзіцу.

*Навумчык:* Станіслаў Станіслававіч, давайце пагаворым пра матывацыі з боку Пуціна. І Беларусь, і Расея залежаць ад заходніх інвэстыцыяў, і калі Лукашэнку пасьля дэманстрацыйных брутальных паводзінаў у дачыненьні да палітычных апанэнтаў крэдытаў, як кажуць, ня сьвеціць, дык у Пуціна, нягледзячы на вельмі няпростую для яго сытуацыю ў Чачні, шанцы на інвэстыцыі застаюцца. І вось у гэтым кантэксьце паводзіны Пуціна — гэта імкненьне асадзіць ня надта стрыманага менскага калегу, каб той раней часу не сказаў іншага, ці сапраўды нічога такога падобнага, ніякага сумеснага антынатаўскага кулака Масква на мэце ня мае?

*Шушкевіч:* Я гляджу на гэта крышку інакш, чым вы. Мне здаецца, што, як заўважылі ўсе расейскія газэты, калі Пуцін прыехаў у Менск, то ён паказаў, што ёсьць Расея, ёсьць расей-

скі прэзыдэнт, і што калі нехта хацеў абняцьрасцалаваць яго, як раней Чарнамырдзіна, гэтага ўжо ня будзе, і што гэтыя прымітыўныя калгасна-саўгасныя захады не працуюць у дачыненьні да кіраўніка вялікай дзяржавы, законна абранага. І, акрамя таго, ён паказаў, што ён законна абраны прэзыдэнт, у адрозьненьне ад нейкага тут незаконнага. Я лічу, што ён проста паказаў веліч Расеі ў параўнаньні зь нелегітымным беларускім кіраўніком дзяржавы. Ён ня можа рэзка зьмяніць гэтую сытуацыю, але накірунак тут зразумелы.

Цяпер другое. Мне здаецца, што ўсё ж Пуцін — чалавек, які будзе шукаць для Расеі дастойны шлях. Дай Бог, каб гэты шлях быў шляхам дэмакратыі, правоў чалавека. Тады і Беларусі будзе добра, і будуць лягічна разьвівацца нашы адносіны.

*Навумчык:* Вы цяпер знаходзіцеся ў Вашынгтоне, удзельнічалі ў слуханьнях беларускага пытаньня ў Кангрэсе, вы фактычна кожны дзень сутыкаецеся з амэрыканскімі палітыкамі і палітолягамі. Скажыце, ці мела нейкі рэзананс гэтая заява Лукашэнкі пра групоўку войскаў?

*Шушкевіч:* Я бачу тут вялікую зацікаўленасьць у тым, каб расшыфраваць, каб падыйсьці да таго, што будзе рабіць Пуцін у Расеі. І, я б сказаў, Захад вялікія надзеі ўскладае на яго асабістыя дзеяньні, на яго стаўленьне да Думы, на яго стаўленьне да новай праграмы расейскай. А такой праграмы няма. І пакуль абнадзейваючымі зьяўляюцца два фактары — у Расею запрошаныя для распрацоўкі праграмы людзі высокасьвядомыя, высокаадука-

ваныя, і людзі лібэральных, рынкавых перакананьняў. У гэтым тут сумненьняў няма.

І вельмі спачатку зьдзівіла заява беларускага дыктатара аб тым, што будзе ўтвораная 300-тысячная групоўка войскаў, і гэта выдавалася як тое, што ўзгоднена з Пуціным. Ну, а пасьля ўсё стала на месца — гэта чарговы выбрык, маўляў, мы яго не зразумелі. І цяпер тут няма, мне здаецца, ніякай рэакцыі на гэта.

## «Сумленная апазыцыя ня можа знаходзіцца ў Палаце прадстаўнікоў»

10 верасьня 2000
Юры Дракахруст

*Чым будзе новаабраная Палата прадстаўнікоў: стане яна пляцдармам ці пасткаю для тых апазыцыянэраў, якія туды трапяць?*

*Дракахруст:* Тыя спрэчкі, якія ідуць у Беларусі наконт удзелу-няўдзелу ў выбарах, проста зьвязаныя са статусам будучага парлямэнту. На ваш погляд, ці будзе ён прыдаткам да прэзыдэнцкай Адміністрацыі, ці можа стаць супрацьвагай прэзыдэнцкай уладзе? Вам слова, Станіслаў Станіслававіч.

*Шушкевіч:* Для чаго рабіўся дзяржаўны пераварот? Для таго, каб утрымаць уладу ў адных руках. Як бы цяпер у нас рэфэрэндумам зацьверджаная Канстытуцыя 1996 году. У гэтай Канстытуцыі вызначаныя функцыі парлямэнту. Так званага парлямэнту, так званай палаты. Яны нікчэмныя ў заканадаўчым сэнсе. Таму што ў кіраўніка выканаўчай улады — у нашага прэзыдэнта — паводле гэтай Канстытуцыі значна большая заканадаўчая ўлада, чым ва ўсяго парлямэнту. Гэта будзе прыдатак прэзыдэнцкай Адміністрацыі. Але, каб і там не было асаблівых хваляваньняў, робіцца так, каб туды быў абраны такі люд, у якога ніякіх інтарэсаў, апроч далучэньня да дзяржаўных падачак, мне здаецца, ня можа і быць.

## «Немагчыма ўзарваць сьметнік зь сярэдзіны, бо там нічога няма, акрамя сьмецьця»

*Дракахруст:* Частка апазыцыі, асабліва тая, якая выказваецца за байкот, гаворыць, што выбары ў парлямэнт трэба байкатаваць, а ўсе сілы кінуць на прэзыдэнцкія выбары. З пункту гледжаньня пэрспэктываў прэзыдэнцкіх выбараў як вы лічыце, дзе лепш быць апазыцыі — ці па-за сьценамі парлямэнту, ці ў ім, выкарыстоўваючы яго ў якасьці пляцоўкі для пэўных дзеяньняў?

*Шушкевіч:* Я не пагаджаюся з апраўданьнем тых, хто здрадзіў агульнай пазыцыі аб'яднанай апазыцыі. Каб высьветліць, хто да чаго імкнецца, зьбіраўся кангрэс дэмакратычных сілаў. Ён сказаў: «Нельга ўдзельнічаць у фарсе, гэта ня выбары». І хто гэтаму не падпарадкаваўся — той здрадзіў тым сілам, якія аб'яднаў гэты кангрэс, здрадзіў гэтаму саюзу апазыцыйных партыяў.

Наконт таго, ці можна ўзарваць гэтую структуру зь сярэдзіны. Немагчыма ўзарваць сьметнік зь сярэдзіны, бо там нічога няма, акрамя сьмецьця. Нават калі туды ўляціць адзін грам таго, што гарыць, гэта не падпаліш у гэтым гноі. Таму гэтае параўнаньне абсалютна недапушчальнае.

Цяпер наконт прэзыдэнцкіх выбараў. Калі б была сумленнасьць з боку тых, хто зьдзейсьніў дзяржаўны пераварот і ўтрымлівае ўладу, то спачатку павінны былі б быць прэзыдэнцкія выбары, таму што парлямэнт быў абраны на два

гады пазьней. Дзеля чаго робяцца так званыя выбары, гэты фарс? Для таго, каб правесьці рэпэтыцыю шырокай фальсыфікацыі прэзыдэнцкіх выбараў. Цяпер ні ў кога няма пытаньняў, што няма падтрымкі ў Лукашэнкі. Развал у дзяржаве, паніжэньне ўсіх паказчыкаў — трэба адпрацаваць магутны рэпрэсіўны мэханізм фальсыфікацый. Для гэтага робяцца так званыя парлямэнцкія выбары. Партыі ўжо пачалі падрыхтоўку да прэзыдэнцкіх выбараў, бо толькі дурні могуць у іх ня ўдзельнічаць. Таму што там ёсьць шанец і атрымаць нейкую падтрымку, хаця б маральную, і ёсьць шанец арганізаваць нагляд. У пляне ўнутранага нагляду гэтыя выбары маглі б быць пробаю сілаў. Але ж бачыце, што сталася. Да іх так ставяцца апазыцыйныя партыі, што іх прыйдзецца прызнаць. Калі яны будуць прызнаныя, тады ў нас будзе дадатак да Адміністрацыі прэзыдэнта, якая разам з гэтай так званай палатай ужо так сфальсыфікуе прэзыдэнцкія выбары, што мы яшчэ 5 гадоў будзем сядзець у гэтых неверагодных умовах. Распрацаваная схема: распрацуем рэжым фальсыфікацыі, а потым узмоцнім яго на прэзыдэнцкіх выбарах. І хто гэтага не разумее — трэба, каб зразумеў, трэба навучыць людзей гэтаму, у тым ліку і кіраўнікоў апазыцыйных партыяў. Мы гэта і робім.

*Дракахруст:* Іншымі словамі, вы лічыце, што апазыцыя найбольшы шанец на прэзыдэнцкіх выбарах будзе мець, калі яна ня будзе знаходзіцца ў Палаце прадстаўнікоў. Ці правільна я вас зразумеў?

*Шушкевіч:* Сумленная апазыцыя ня можа знаходзіцца ў Палаце прадстаўнікоў, таму што яна ня высунула ніводнага кандыдата. Таму яе там няма. Гэта яе разьлік. Там ёсьць толькі людзі, якія здрадзілі агульнай пазыцыі апазыцыйных партыяў, менавіта той пазыцыі, якую зацьвердзіў Кангрэс аб'яднаных дэмакратычных сілаў. 800 галасоў было за тую пазыцыю, якой гэтыя партыі прытрымліваюцца, і 16 галасоў — пераважна тых, хто зараз удзельнічае ў выбарах, так званых апазыцыянэраў. Але яны ж не апазыцыянэры, у пэўным сэнсе яны адышлі ад гэтай пазыцыі. Я не хачу ўжываць слова «здрадзілі», таму што яны маюць права на такі пераход як індывідуўмы, але ў пэўным сэнсе ў нас і партыі, якія заяўлялі аб сваёй прыхільнасьці да дэмакратыі, да правоў чалавека, да аб'яднаных дзеяньняў апазыцыі, сёньня ў такім становішчы, што іншае слова цяжка падабраць. Таму я яго і ўжываю.

## «Многія стаміліся ў гэтай апазыцыйнай барацьбе»

*Дракахруст:* Цалкам магчыма, што ў дэпутацкім корпусе будуць некаторыя з апазыцыянэраў, ці, паводле вызначэньня спадара Шушкевіча, «здраднікаў-апазыцыянэраў», «як бы то апазыцыянэраў». Узьнікне новая сытуацыя. Мой калега Віталь Цыганкоў напісаў у «Народнай Волі», што ўзьнікне праблема ўзаемаадносінаў паміж тымі апазыцыянэрамі, якія трапяць у Палату, і тымі, што байкатуюць выбары ў гэтую Палату. Спа-

дара Цыганкова бянтэжыць, што гэтыя адносіны могуць быць канфліктнымі. А як вы лічыце, як складуцца адносіны?

*Шушкевіч:* 13 чалавек, нават калі ўсе яны будуць абраныя, ніякага ўплыву на парлямэнт мець ня будуць. І яны будуць сядзець у гэтым так званым парлямэнце, будуць там кукарэкаць, і ніхто пра гэта ведаць ня будзе. І яны зноў будуць прыбівацца да апазыцыйных сілаў. Чаму я час ад часу ўжываю слова «здрада»? Многія стаміліся ў гэтай апазыцыйнай барацьбе. Гэта цяжка. І матэрыяльна цяжка, і эканамічна цяжка, і маральна цяжка. Значна лепей гаварыць, што мы такія лагодныя, мы наплявалі на свае прынцыпы, мы наплявалі на 4 умовы, якія сфармулявалі ўсе разам (а па ніводнай умове ніякага зруху няма). І таму фактычна мы пайшлі на такую зьдзелку з уласным сумленьнем. Але гэта ня можа быць перашкодаю. Ня трэба ж гаварыць, што ўсе астатнія, хто высоўваецца па-за партыямі… Я не выключаю, што там ёсьць і сумленныя прадпрымальнікі, і людзі, прыхільныя рэфармаваньню і дэмакратычным падыходам — яны яшчэ ня ведаюць, што тут нароблена. Могуць быць маладыя людзі, якія спадзяюцца, што выбары прыносяць зьмены. Так што працаваць трэба будзе, які б там парлямэнт ні быў. Я хачу заўважыць, дарэчы, што мы і з гэтай Палатай кантактавалі. Там жа многія людзі сядзелі, вады ў рот набраўшы, і яны фактычна гаварылі: «Прабачце, для таго, каб абараніць сям'ю, каб не папасьці ў вязьніцу, мы павінны былі так паступіць — падаць за-

яву». Шмат хто там гэтага не хаваў. І я мяркую, што павінна быць разумнае ўзаемадзеяньне. А тое, што раскалоўся гэты падыход з-за такой пазыцыі, — цяпер, калі я паслухаў Уладзімера Нісьцюка, я бачу, што са здрадніцкай пазыцыі. Таму што спадзявацца на ўласныя тактычныя падыходы, калі вы даверыліся Кангрэсу дэмакратычных сілаў, калі вы высунулі туды сваіх 80 ці нават 90 чалавек, зь якіх толькі 16 ад адной партыі галасавалі за іншы, у пэўным сэнсе «вольны» падыход, а іншыя, усьвядоміўшы, што да чаго, катэгарычна гэта адкінулі, — гэта гаворыць пра тое, што няма жаданьня падпарадкавацца разумнай, цывілізаванай большасьці, якая выпрацавала тактыку. Значыць, гэтага жаданьня ня будзе і ў далейшым. Таму я бачу, што могуць быць дрэнныя варыянты на прэзыдэнцкіх выбарах, калі захаваць такі падыход, калі несумленныя крокі тлумачыць тактычнымі, вельмі «разумнымі» дзеяньнямі сваёй партыі.

*Дракахруст:* Мне неяк досьвед падказвае, што ў Вярхоўным Савеце 12-га скліканьня, якім вы ў свой час кіравалі, апазыцыя налічвала таксама 30 чалавек з трохсот зь нечым — амаль 10 адсоткаў. У Вярхоўным Савеце 13-га скліканьня таксама апазыцыя была каля 10 адсоткаў, але гэтая апазыцыя, кажучы вашымі словамі, Станіслаў Станіслававіч, «накукарэкала» і незалежнасьць Беларусі, і забарону кампартыі, і амаль «накукарэкала» імпічмэнт Аляксандру Лукашэнку.

*Шушкевіч:* Вы мне прабачце. Было адно катэгарычнае адрозьненьне. Адно. Вярхоўны Савет

быў паўнаўладным органам. Заўважце. Паводле Канстытуцыі БССР ён мог прыняць да разгляду любое пытаньне, і яго рашэньне было б канчатковым. Другое. Ён прыняў рашэньне, каб перадаваць гэта па тэлебачаньні. І ўсе бачылі. І таму нельга было адкінуць грамадзкую думку. А гэты парлямэнт сядзіць у нейкай авальнай залі, і ніхто ня ведае, хто там і пра што гаворыць. Доступу да СМІ няма. Таму тут няма параўнаньня.

## «Цяпер у значнай ступені існаваньне Вярхоўнага Савету ўмоўнае»

*Дракахруст:* Пасьля восеньскіх выбараў якім будзе статус Вярхоўнага Савету 13-га скліканьня, які цяпер міжнароднай супольнасьцю прызнаецца адзіным легітымным заканадаўчым органам Беларусі? У Беларусі зьявіцца які-ніякі, але сьвежаабраны парлямэнт. Да таго ж я хачу нагадаць, што сярод кандыдатаў шмат дэпутатаў Вярхоўнага Савету. І калі, напрыклад, гэтыя людзі складуць зь сябе паўнамоцтвы дэпутатаў Вярхоўнага Савету перад ізноў абраным парлямэнтам, ці захаваецца гэтая пазыцыя Захаду і міжнароднай грамадзкасьці — пазыцыя прызнаньня Вярхоўнага Савету адзіным легітымным заканадаўчым органам Беларусі? Як вы мяркуеце, спадар Шушкевіч?

*Шушкевіч:* Калі Захад прызнае гэтыя выбары, то Вярхоўны Савет ня мае ніякіх падставаў для існаваньня. Таму што цяпер у значнай ступені існаваньне Вярхоўнага Савету ўмоўнае. Ён ня

можа моцна ўплываць на сытуацыю, таму што, апроч маральнай падтрымкі, ён іншай ня мае. Адзін з адмоўных вынікаў удзелу апазыцыі ў выбарах — гэта тое, што шанцы на існаваньне Вярхоўнага Савету 13-га скліканьня зьмяншаюцца. Калі ж новы так званы парлямэнт ня будзе абраны, то функцыі захоўваюцца.

## «Рэжым Лукашэнкі быў зручны для Ельцына, бо прыпаўзьлі на пузе»

05 лютага 2001
Юры Дракахруст

*У дні 70-годзьдзя першага прэзыдэнта Расеі пра Барыса Ельцына разважае Станіслаў Шушкевіч.*

*Шушкевіч:* Ельцын пачаў змагацца з той сыстэмай, якая яго спарадзіла і прадстаўніком якой ён быў. Калі пачытаць яго мэмуары, яго кнігі, мэта яго жыцьця — змаганьне з камуністычнай сыстэмай, зь яе адмоўнымі рысамі. Я думаю, у гэтым сэнсе ён многае зрабіў. Але мне здаецца, што ў пэўных сэнсах ён застаўся бальшавіком і камуністам, дзейнічаў бальшавіцкімі мэтадамі, таму ён быў як бы супярэчлівым. З аднаго боку, ён змагаўся з сыстэмай, а зь іншага — ён і не разышоўся зь ёй. Мне здаецца, што для Беларусі ён зрабіў тое, што ён паказаў прыклад, як з гэтай сыстэмай можна змагацца, і ў пэўным сэнсе ўзьдзейнічаў на нашыя рашэньні, накіраваныя на абмежаваньні дзейнасьці старой партнамэнклятуры і камуністычнай партыі Беларусі.

…Калі я задумваюся над тым, што ўзьдзейнічала на Ельцына, калі ён дзейнічаў у накірунку стварэньня СНД, я думаю, перш за ўсё ён хацеў стаць сапраўдным прэзыдэнтам Расеі. Ельцын ніколі ня думаў пра Беларусь і ніколі ня думаў зрабіць што-небудзь людзкае для Беларусі. Ён думаў пра Расею. Каб ажыцьцявіць рэфармаваньне

Расеі, трэба было пазбыцца Гарбачова-прэзыдэнта. Ельцыну перашкаджаў Гарбачоў, і гэта, мне здаецца, было галоўным матывам яго дзеяньняў у Белавескай пушчы. З другога боку, зразумела, што і з украінскага, і зь беларускага боку мы прытрымліваліся іншага падыходу. Мы шчыра хацелі, каб была Садружнасьць Незалежных Дзяржаваў. Я маю на ўвазе Леаніда Макаравіча Краўчука ды сябе. І, здаецца, гэта спалучалася з тым, чаго хацеў Ельцын. Супярэчлівым ён быў чалавекам, але мудрым чалавекам. Мне здаецца, што для Расеі ён зрабіў многае і зрабіў даволі пасьлядоўна. Хоць, як кажуць, ён быў непрадказальным, але ў пэўным сэнсе, у стратэгічным, ён аказаўся прадказальным, таму што рэфармаваньне пачалося пры ім.

*Дракахруст:* На ваш погляд, Беларусі няма за што сказаць дзякуй Ельцыну?

*Шушкевіч:* Ёсьць. Ёсьць, бясспрэчна. Але лічыць, што гэта было ягонай мэтай — тое, што ён зрабіў, я думаю, памылкова. Але тое, што ён разумеў, што ён гэта робіць, — гэта адназначна. І не імкнуўся супрацьстаяць такому падыходу — гэта таксама адназначна. Таму ёсьць за што сказаць яму дзякуй і пажадаць добрага здароўя.

…Ён увесь час больш за ўсё баяўся аднаўленьня камуністычных парадкаў і баяўся ўмацаваньня на няправільнай аснове гэтых камуністычных лідэраў расейскіх. Ён зь імі ўвесь час змагаўся. А ім гэта ўсё было даспадобы, што робіцца ў Беларусі. Тое, што яму не хапіла мужнасьці ім супрацьстаяць, — я думаю, што яго нельга аб-

вінавачваць, бо ён перадусім клапаціўся пра сябе, пра сваю ўладу і сваё становішча. Калі б ён гэтым займаўся, у яго былі б дадатковыя цяжкасьці з расейскімі левымі. А ён на гэта не хацеў ісьці. Тое, што ў яго пэрсанальна не было шчырай прывязкі да прыстойнасьці, да справядлівасьці, дэмакратыі, правоў чалавека, — ну, скажам праўду: не было.

…Я думаў, што Ельцын — гэта шчыры, адкрыты чалавек, які змагаецца за правы чалавека, за дэмакратыю, за рынкавыя рэфармаваньні. І быў вельмі зьдзіўлены, калі даведаўся аб тым, што ён, напрыклад, абураны быў паводзінамі таго самага Лукашэнкі, які фактычна зьневажаў яго, і яго атачэньне займалася ня тым, каб зьмяніць палітыку ў дачыненьні да Лукашэнкі ці рэжыму, незаконнага, на чале якога Лукашэнка.

І чаму? Бо гэты рэжым быў зручны для Ельцына, бо, так бы мовіць, прыпаўзьлі на пузе да яго і сказалі: бярыце нас з трыбухамі, мы вашыя, рабіце з намі што хочаце. Дык ён жа не супрацьстаяў гэтаму рэжыму, але абразы ён не цярпеў, не паважаў Лукашэнку, гэта зразумела. Але яму вельмі проста сказалі: ну паслухайце, вы цар, і вы па-царску дзейнічаеце, і не зьвяртайце ўвагі на выхадкі дробнага начальніка дробнага народца. Яму гэта вельмі падабалася. Ён так і дзейнічаў.

# «Прэзыдэнт Гавэл заарыентаваны ў беларускіх справах найлепшым чынам»

13 сьнежня 2000
Алена Ціхановіч

*Сёньня прэзыдэнт Чэхіі Вацлаў Гавэл прыняў у сваёй праскай рэзыдэнцыі прадстаўнікоў беларускай аб'яднанай апазыцыі — Алеся Бяляцкага, Вінцука Вячорку, Анатоля Лябедзьку, Алеся Міхалевіча і Станіслава Шушкевіча.*

*Ціхановіч:* Ваш візыт даволі падрабязна асьвятляе чэскі друк, у прыватнасьці, вашае наведваньне Альшанскіх могілак, дзе пахаваныя прэзыдэнты БНР. Але вось сустрэча зь дзеючым прэзыдэнтам — гэта першая сустрэча на такім высокім узроўні з часоў новай дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі і Чэхіі. Які характар насіла гэтая сустрэча?

*Шушкевіч:* Вы маеце рацыю. Я дагэтуль сустракаўся з прэзыдэнтам Гавэлам тры разы — у Хэльсынкі, у Вене і на пахаваньні Дубчака, але афіцыйнай пратакольнай размовы не было. Яшчэ ў чэскай амбасадзе ў Менску нас папярэджвалі, маўляў, прабачце, калі вам ня ўдасца сустрэцца з прэзыдэнтам, справа ня ў тым, што ён ня хоча, а справа ў тым, што ён можа быць хворы. Ведаючы дыпляматычны пратакол, я разумеў, што гэта папярэджаньне на ўсялякі выпадак — калі прэзыдэнт не захоча з намі сустрэцца, то ён спашлецца

на хваробу. Пасьля сёньняшняй сустрэчы хачу сказаць, што раней неяк дыстанцыйна ўспрымаў інтэлект і ўзьдзеяньне гэтага чалавека. Я проста лічу, што нам пашчасьціла спакойна, пасьлядоўна абмеркаваць усе беларускія пытаньні і перакanацца ў тым, што прэзыдэнт Гавэл заарыентаваны ў беларускіх справах найлепшым чынам.

*Ціхановіч:* Якія пытаньні цікавілі прэзыдэнта?

*Шушкевіч:* Мы яму расказвалі пра Беларусь, а яго не цікавілі пытаньні. Ён гаварыў пра сваё стаўленьне да таго, што адбываецца ў Беларусі, ён гаварыў як чалавек, які валодае інфармацыяй пра тое, што ў Беларусі адбываецца. Вось яго галоўныя словы: Эўропа з 45-га году зьмяншае колькасьць дыктатараў на сваёй тэрыторыі, і я, кажа, перакананы, што ў першы год новага тысячагодзьдзя зь імі будзе ўсё скончана ў Эўропе, і мы ўсе павінны дзейнічаць так, каб людзі ў Эўропе адчулі свабоду, каб дзейнічалі паводле перакананьняў, каб былі абароненыя правам. Гэта самы лепшы паказчык таго, як ён да нас ставіцца.

*Ціхановіч:* Вы асабіста знаёмыя з многімі прэзыдэнтамі і маеце магчымасьць параўнаць. Чым вылучаецца сярод іх Гавэл, стыль яго прэзыдэнцкага кіраваньня? Што на вас зрабіла найбольшае ўражаньне?

*Шушкевіч:* Мяне найбольш уразіла Прага. Мне проста было непамысна, калі я думаў, што нейкія краіны, што прэтэндавалі на галоўную ролю ў сьвеце, імкнуліся навучыць гэты народ жыць па не сваіх канонах. Я ўбачыў, што Гавэл — гэта кіраўнік дзяржавы, які клапоціцца не аб тым, каб

заціснуць тут нейкі накірунак, не каб зрабіць некаму папрок, а каб ісьці цывілізаваным шляхам да паразуменьня. Мы ўбачылі чалавека, які клапоціцца толькі аб тым, каб толькі прыстойным чынам спаборнічалі гэтыя накірункі.

*Ціхановіч:* Прэзыдэнт Гавэл, як вядома, быў дысыдэнт, быў вязень. Ці ўздымалася падчас сустрэчы праблема дапамогі беларускім палітычным вязьням або іх сем'ям?

*Шушкевіч:* Уздымалася праблема — як палітычная праблема. Што да пытаньняў дапамогі, я лічу, што гэта пытаньне, якое нелягічна ўздымаць перад прэзыдэнтам, таму што час абмежаваны, а ў нас былі ўсе магчымасьці ўзьняць гэтыя пытаньні і перад прадстаўнікамі ўраду, і перад прадстаўнікамі праваабарончых структураў, і перад прадстаўнікамі абедзьвюх палат парлямэнту. І яшчэ хачу выказаць падзяку і прэзыдэнту Гавэлу, і іншым чэскім дзеячам за тое, што таленавітая беларуская моладзь, якая ня мае магчымасьці дзеля палітычных меркаваньняў вучыцца ў Беларусі, атрымала магчымасьць вучыцца ў Чэхіі.

# «Беларусь будзе перажываць Чарнобыль некалькі пакаленьняў»

17 сьнежня 2000
Віталь Тарас

*Закрыцьцё Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі стала адной з галоўных падзеяў мінулага тыдня.*

*Шушкевіч:* Закрыцьцё Чарнобыльскай АЭС праблему не закрывае. Але гэта вельмі важны і вельмі адказны крок, каб зрабіць гэтую праблему неіснуючай.

Што да таго блёку, што знаходзіцца пад саркафагам, я думаю, праблема гэтая застаецца. І трэба рабіць інвэстыцыі — і фінансавыя, і разумовыя, трэба з усёй адказнасьцю стварыць праграму. Я думаю, такая праграма Ўкраінай распрацаваная, каб ніякай пагрозы ад гэтага не было. Праблема там існуе, але, я думаю, вырашальная.

*Тарас:* Ускосна можна сказаць, што пра самую праблему сьвет быццам бы не забыўся. Прынамсі, Эўрапейскі Зьвяз, як вядома, вылучыў украінскаму ўраду на закрыцьцё станцыі, ці, больш дакладна, — у сувязі з закрыцьцём станцыі, суму, эквівалентную 80 мільёнам даляраў. І гэта толькі на разьвіцьцё энэргаашчадных тэхналёгіяў ва Ўкраіне.

Зараз, магчыма, ня час высьвятляць, хто больш пацярпеў у выніку чарнобыльскай катастрофы — Беларусь ці Ўкраіна? Але, відавочна, Беларусь

у гэтай сытуацыі апынулася ў большым пройгрышы, хаця б матэрыяльна. Што вы думаеце?

*Шушкевіч:* Падзялю два пытаньні. Пытаньне было пастаўленае так: ці вырашаная праблема Чарнобыльскай АЭС? Я кажу, што робіцца рашучы крок. Праблема цалкам ня вырашаная, але гэты крок патрэбны, і яна можа быць вырашаная. Цяпер што да наступстваў.

Беларусь гэта будзе перажываць на працягу жыцьця некалькіх пакаленьняў! А існуюць пазыцыі, па якіх няма дакладных навуковых дадзеных. Цяпер да таго, каб вярнуць гэтыя вялікія плошчы Беларусі, каб яны не былі крыніцай захворваньняў альбо нейкіх жывёльных небясьпечных мутацыяў. Гэта вялікая праграма. Яна патрабуе пэўных укладаньняў. Але тое, што ня будзе вісець вось гэты меч небясьпекі над галавой, гэтая сякера, так бы мовіць, — гэта адназначна, што зьменшыцца пагроза.

Наступствы трэба ліквідаваць. І я думаю, што было б вельмі добра, каб у нас былі добра сфармуляваныя дзяржавай пазыцыі, але вельмі малаверагодна, што нейкія ўрады адгукнуцца на гэта.

## «Ёсьць блытаніна ў тым, каго адсяляць, каго падтрымліваць»

Трэба, каб былі навукова абгрунтаваныя нормы дапамогі насельніцтву ў межах той магчымасьці, якую можа дазволіць сабе дзяржава. Наша дзяржава можа дазволіць сабе вельмі сьціплую падтрымку.

І другое — гэта адпачынак дзяцей. Гэта міжнародная супольнасьць і дабрачынныя арганізацыі. У гэтым накірунку ўсё робіцца, што можна зрабіць.

Іншая справа, што ёсьць блытаніна ў тым, каго адсяляць, каго падтрымліваць. Спачатку была гарачыня такая — трэба было адразу прыняць меры, і там блытаніна была непазьбежная. Акрамя таго, у нас былі старшыні камісіяў у парлямэнце, якія былі перакананыя, што Расея, Масква дапамогуць. Ніхто не дапамог, і ўнесьлі блытаніну. Патрабавалі падтрымкі, запалохалі людзей. Таму стрэсавы эфэкт — эфэкт, ня выкліканы радыяцыяй, значна больш адбіваецца цяпер на людзях, чым тое, што выклікана радыяцыяй. Я ў гэтым пляне кажу, што няма ў нас дакладнай інфармаванасьці ўраду, няма празрыстых мераў дзеля паляпшэньня сытуацыі і мэтанакіраванага выкарыстаньня вельмі-вельмі сьціплых сродкаў.

Зразумела, што багата дапамагчы гэтым людзям мы ня можам. Значыць, дзяржава на гэта ня здольная, бо мы перажываем эканамічны крызіс. А вось што сьвядомая блытаніна ёсьць — гэтага можна было б пазьбегчы.

Што да інстытуту, які дае інфармацыю, — я думаю, што разуменьне гэтай праблемы ў інстытутах ёсьць, а ў дзяржаўных структурах малавата.

## «Ва ўраду і ў эўрапейскіх структураў няма праграмы»

*Тарас:* Небезьвядомы экс-дэпутат Яўгені Новікаў у перадачы БТ «Правы чалавека» абвінавáціў вас, сп. Шушкевіч, у тым, што вы, маўляў, упусьцілі магчымасьць дапамогі з боку Захаду ў сувязі з аварыяй на ЧАЭС, што на вас ляжыць адказнасьць. Ясна, што гэта палітычнае абвінавачаньне, зразумелыя яго матывы. Але я хацеў запытаць — ці не здаецца вам, што апазыцыйная прэса стала менш пісаць пра Чарнобыль, праблемы, зьвязаныя зь ім? І што цяпер ініцыятыва перайшла да ўлады, і яна пачала выкарыстоўваць гэтую тэму ў сваіх мэтах?

*Шушкевіч:* Я не хацеў бы тут прыгадваць такія імёны, якія вы прыгадалі. Таму што «лепшыя гінэколягі сярод дэпутатаў» і «лепшыя дэпутаты сярод гінэколягаў» — гэтак характарызуюць гэтага чалавека — яны ня маюць уяўленьня, што такое Чарнобыль і што тут трэба рабіць! Гэта не прафэсійнае, а эмацыйнае палітычнае абвінавачваньне чалавека, які, мне здаецца, запляміў сябе такім неразуменьнем беларускіх праблемаў, такой угодлівасьцю перад розным збродам, што абмяркоўваць гэта не выпадае.

А што да Захаду — я пад Захадам маю на ўвазе перш за ўсё прыватную ініцыятыву. І тут, у Празе, і ў Італіі мы абмяркоўвалі гэтае пытаньне і пашырэньне гэтай ініцыятывы. І, мне здаецца, я пра гэта гаварыў. Таму што ва ўраду няма праграмы. У эўрапейскіх структураў няма праграмы. Былі

пэўныя праграмы, зь якімі не пагадзіўся наш рэжым: напрыклад, праграмы выкарыстаньня перапрацоўкі паліва для дызэльных рухавікоў. Гэта затратныя тэхналёгіі, але на іх можна было знайсьці эўрапейскія грошы. І тут належнай ініцыятывы не было.

У свой час, я цалкам згодзен, былі прынятыя ня тыя меры, якія павінен быў прыняць Вярхоўны Савет. Але гэта з-за недасьведчанасьці нашых камісіяў. Я выступаў як старшыня Вярхоўнага Савету на камісіі Смоляра і думаў, што людзі задумаюцца над тым, над чым трэба зрабіць акцэнты. А яны як былыя партыйныя функцыянэры прасілі як мага болей. А тое, што сродкаў няма дзе ўзяць, — яны гэтага не ўлічылі.

І таму, мне здаецца, імкнуцца разблытаць гэты вузел проста немагчыма. Трэба зыходзіць з таго, што сёньня ёсьць. І падлягае ўпарадкаваньню адна пазыцыя — пазыцыя мэтавай і навукова абгрунтаванай дапамогі. Ёсьць інтэлектуальныя адпаведныя сілы ў Беларусі, і трэба, каб гэта было разумна збалянсавана, з улікам эканамічных магчымасьцяў дзяржавы. Я не хачу сказаць, што гэта ёсьць, але да гэтага трэба імкнуцца.

# «Гарбачоў не цярпеў заўвагаў у пляне дзяржаўнай палітыкі ў СССР»

02 сакавіка 2001
Сяргей Навумчык

*Міхаілу Гарбачову спаўняецца 70 гадоў. Пра асобу Гарбачова, ягоную ролю ў рэфармаваньні савецкага грамадзтва і стварэньні ўмоваў, пры якіх зрабілася магчымым дасягненьне незалежнасьці Беларусі, разважаюць пісьменьнік Васіль Быкаў, старшыня Прэзыдыюму Вярхоўнага Савету 11-га скліканьня, старшыня камісіі ў справе міжнацыянальных адносінаў Вярхоўнага Савету СССР Георгій Таразевіч і старшыня Вярхоўнага Савету 12-га скліканьня Станіслаў Шушкевіч.*

*Навумчык:* Калі ў 1985 годзе Гарбачоў заняў пасаду генэральнага сакратара ЦК КПСС, ён быў больш як на 20 гадоў маладзейшы за свайго папярэдніка Чарненку. Гэта былі часы, калі на чале Савецкага Саюзу былі асобы, чыя палітычная кар'ера фармавалася яшчэ пры Сталіну. Прыход новага лідэра з надзеяй быў успрыняты як партыйнай элітай, так і народам.

Першымі крокамі новага лідэра была галоснасьць — у часопісах і газэтах, праўда, пераважна маскоўскіх, пачало зьяўляцца тое, што раней выходзіла ў самвыдаце. Станіслаў Шушкевіч пацьвярджае, што гэта выклікала асаблівую сымпатыю ў інтэлігенцыі.

*Шушкевіч:* Я некалі павесіў партрэт Гарбачова ў сябе на катэдры. Я ніколі ніякіх партрэтаў ня вешаў, але мне тады здавалася, што за цуд такі, што ўрэшце ёсьць такі палітык. Я вельмі пакрыўдзіўся на Гарбачова пасьля Чарнобылю, калі на пачатку траўня 1986 году ён выступаў і фактычна заспакойваў усіх, што, маўляў, нічога, што там нічога страшнага. А я як прафэсіянал ужо тады разумеў, што адбылося, бо мы рабілі замеры. Адбыўся ядзерны выбух.

*Быкаў:* Памятаю, як незабыўны Алесь Адамовіч паехаў у Маскву, каб давесьці Гарбачову праўду пра тое, што сапраўды здарылася ў Беларусі, пятая частка якой апынулася пад радыянуклідамі. Вядома ж, пра тое яму не дакладвалі ні навукоўцы, ні беларускае кіраўніцтва, якое поўнілася аптымізмам кшталту таго, што савецкаму чалавеку атам ня страшны. У бясьпецы атама ўсё ж давялося ўсумніцца генсеку Гарбачову і пераканаць у тым беларускіх гаўляйтараў, якія ўзьненавідзелі разам з Гарбачовым таксама і Адамовіча. Першага — за тое, што парушыў партыйную субардынацыю, а другога — за тое, што выскачыў наперад тагачаснага беларускага «бацькі» Яфрэма Сакалова.

*Навумчык:* Нагадаю, што на мяжы 1980–1990-х гадоў Яфрэм Сакалоў быў першым сакратаром ЦК КПБ.

*Шушкевіч:* Калі ён шукаў адказы на ўсе пытаньні ў ленінскай спадчыне — гэта па тэлебачаньні даволі часта паказвалі, ён там перагортваў томік Леніна і ўсё там шукаў адказы на пытаньні

сучаснасьці, — я крышку іранічна да гэтага ставіўся.

## «Былі толькі два варыянты: альбо прымалася рашэньне Гарбачова, альбо ніякага не прымалася»

*Навумчык:* Прыгадвае Георгі Таразевіч, які ў 1989–1991 гадах быў старшынём камісіі ў справе міжнацыянальных адносінаў Вярхоўнага Савету СССР.

*Таразевіч:* Яго абіраюць прэзыдэнтам. Уносяцца зьмены ў Канстытуцыю. Ствараецца прэзыдэнцкі савет. Вырашаецца, што рашэньні будуць прымацца кансэнсусам. Я іду да яго і кажу: з гэтага нічога не атрымаецца. Вось, скажам, Ніязаў галасуе «супраць» — і рашэньня няма. Ён мне гаворыць: «А чаму ж у нас у Палітбюро ўсё было аднагалосна?» Ну што тут я мог сказаць? Прэзыдэнцкі савет — не Палітбюро…

*Навумчык:* Цікава, што і пасьля путчу 1991 году, калі КПСС была забароненая, Гарбачоў прытрымліваўся ранейшага стылю кіраўніцтва ўжо з новымі лідэрамі рэспублік, што пацьвярджае і Станіслаў Шушкевіч.

*Шушкевіч:* Калі мы прыяжджалі на Дзяржсавет і Гарбачоў прыходзіў з праектам нейкага рашэньня, дык былі толькі два варыянты: альбо прымалася рашэньне Гарбачова, альбо ніякага рашэньня не прымалася, таму што ён фактычна быў выхаваны па-камуністычнаму і не цярпеў заўвагаў у пляне дзяржаўнай палітыкі ў СССР.

*Навумчык:* Сёньня адны лічаць, што Гарбачоў вінаваты ў спробах сілай стрымаць распад СССР, другія закідаюць яму тое, што ён, наадварот, быў у гэтым памкненьні нерашучы. Гарбачоў, бясспрэчна, ня быў прыхільнікам незалежнасьці былых савецкіх рэспублік. І ўсё ж задамося пытаньнем — якая ягоная роля ў аднаўленьні беларускай дзяржаўнасьці? Спачатку — пра ягонае стаўленьне да Беларусі.

*Таразевіч:* Прыяжджаеш у Маскву, у Крэмль, калі «шэф» дома — гэта значыць, у Крамлі, — не праблема была сустрэцца. Але я ведаю, што кіраўнікі некаторых іншых рэспублік не маглі…

*Навумчык:* А чым патлумачыць такое стаўленьне Гарбачова да Беларусі, як вы лічыце?

*Таразевіч:* Тым жа, чым і цяпер. Беларусь лічыцца стратэгічным накірункам, стратэгічнай тэрыторыяй.

*Навумчык:* У 1988 годзе, калі артыкул Зянона Пазьняка і Яўгена Шмыгалёва «Курапаты — дарога сьмерці» распачаў працэс нацыянальнага абуджэньня, калі ўтварыўся Народны Фронт, а мітынг на Дзяды ля менскіх Усходніх могілак быў разагнаны міліцэйскімі дубінкамі, — кіраўніцтва ЦК КПБ паставіла сабе на мэце захаваць Беларусь у якасьці запаведніка сацыялізму і вельмі спадзявалася ў гэтым на падтрымку Генэральнага сакратара.

*Быкаў:* Міхаіл Гарбачоў на нарадзе з творчай інтэлігенцыяй у ЦК КПСС запатрабаваў ад мяне распавесьці, што на самой справе адбылося ў Менску на славутыя «Дзяды»? Выслухаўшы мой

аповед, Гарбачоў выказаў недавер і зьдзіўленьне пазыцыяй Яфрэма Сакалова, які ўжо рыхтаваўся атрымаць чарговую зорку Героя за надта пасьпяховую апэрацыю па падаўленьні прошукаў нацыяналістаў і ЦРУ. Пасьля ў мяне было яшчэ некалькі сустрэчаў і канфідэнцыйных гутарак з Гарбачовым на гэтую ж тэму. Гутарак, дзе ён, у прынцыпе, падтрымліваў беларускую дэмакратыю супраць жорсткага рэакцыйнага дубаломнага партыйнага кіраўніцтва Беларусі.

*Навумчык:* Канешне, той давер, якім карысталіся ў Гарбачова Васіль Быкаў і Алесь Адамовіч, нэрваваў менскую партыйную эліту і прымушаў яе шукаць падтрымкі ў кансэрватыўных асобаў, якіх у гарбачоўскім Палітбюро хапала.

*Быкаў:* Калі на зьезьдзе народных дэпутатаў СССР ствараўся Вярхоўны Савет, і якраз ад Беларусі выбралі мяне таксама ў гэты Вярхоўны Савет, але я на першым жа паседжаньні старэйшынаў зрабіў самаадвод, і тады на перапынку да мяне падышоў Гарбачоў і пытаўся, чаму я не хачу быць дэпутатам Вярхоўнага Савету СССР. Ну, і таксама зайшла гаворка пра тое, што адбываецца ў Беларусі. Але, на жаль, у гэтым антракце не давялося нам паразмаўляць, бо адразу насунуліся на нас чужыя непатрэбныя вушы збоку, і ён спыніў сваю размову. Хаця гэтая гаворка, я думаю, была б вельмі карысная і для яго, і для мяне таксама.

## «Гарбачоў хацеў зрабіць „сацыялізм з чалавечым тварам“»

*Навумчык:* Аднак наўрад ці генэральны сакратар ЦК і прэзыдэнт СССР мог пагадзіцца з тым, што дэмакратыя гэтая будзе стымуляваць сувэрэнізацыю самай, здавалася, прарасейскай савецкай рэспублікі. Станіслаў Шушкевіч, які ў якасьці старшыні Вярхоўнага Савету наваствoранай Рэспублікі Беларусь падпісаў гістарычныя Белавескія пагадненьні, мае адназначны адказ на пытаньне — дзякуючы ці насуперак жаданьню Гарбачова Беларусь атрымала незалежнасьць.

*Шушкевіч:* Я мяркую, што — катэгарычна насуперак! Ён пасьля вельмі шкадаваў, што Савецкі Саюз разваліўся. Хаця развaліў у значнай ступені яго ён, таму што ён фактычна нічога не рабіў, каб існавала такая дзяржава на новых прынцыпах аб’яднаньня, на новых, на дэмакратычных, а ён фактычна хацеў зрабіць «сацыялізм з чалавечым тварам», як ён тады казаў, — гэта фактычна замяніць сабой Палітбюро і праводзіць нейкую больш лагодную палітыку. А дэмакратыя — гэта зусім ня тое. Трэба ўлічваць іншыя думкі, іншыя падыходы.

*Навумчык:* Гарбачоў і сёньня пастаянна выказвае настальгію па Савецкім Саюзе і падтрымлівае Аляксандра Лукашэнку менавіта як прыхільніка інтэграцыі — што, зрэшты, псыхалягічна і палітычна вытлумачальна для былога прэзыдэнта СССР. Цяжэй патлумачыць падтрымку дыктатара, які ў дачыненьні да апазыцыі

абраў тактыку судоў, турмаў, запалохваньняў ды бясьследных зьнікненьняў, — з боку ляўрэата Нобэлеўскай прэміі міру. І гэта яшчэ адна супярэчнасьць асобы Гарбачова.

Тым ня менш на Захадзе Горбі мае ўстойлівы аўтарытэт і папулярнасьць, зь якой, як я пераканаўся, могуць канкураваць хіба толькі галівудзкія зоркі. Апошні раз я бачыў Гарбачова ў Нью-Ёрку, у першы год эміграцыі — на Пятай авэню ў кнігарні Barnes & Noble ён падпісваў толькі што выдадзеную кнігу мэмуараў. Чарга па аўтограф расьцягнулася на пяць кварталаў.

*Быкаў:* На дэмакратычным Захадзе Гарбачова любяць нязьмерна больш, чым на постсавецкім усходзе. І гэта зразумела. Там наступствы гарбачоўскай палітыкі выніковыя і адназначныя. Міхаіл Гарбачоў — чалавек Захаду. Гэта значыць — будучыні. Хоць, як гэта нярэдка здараецца ў гісторыі, ягоная дзейнасьць ужо цалкам адышла ў мінулае. Што ж, мабыць, ён не пасьпеў за часам, даганяць які дадзена ягоным наступнікам, якія павінны быць шчасьлівейшыя, а галоўнае — болей удачлівыя за свайго ініцыятыўнага папярэдніка.

*Навумчык:* Сёньня можна шмат гаварыць пра тое, якія магчымасьці не скарыстаў Гарбачоў. Аднак паспрабуем уявіць, што, прыйшоўшы да ўлады ў 1985 годзе, Гарбачоў пажадаў бы абмежавацца мінімальнымі зьменамі — напрыклад, па мадэлі Дэн Сяопіна. Улічым, што да паслугаў генсека былі апарат КГБ і адно з самых магутных войскаў сьвету. Зусім магчыма, савецкая

імпэрыя існавала б і да гэтага часу, падобная да сёньняшняга Кітаю, дзе эканамічныя рэформы не скасавалі камуністычную ідэалёгію, а партыйныя ідэолягі зацьвярджаюць далай-ламаў на пасаду ў Тыбэце, дзе забароненае само слова «сувэрэнітэт».

У гісторыі XX стагодзьдзя Міхаіл Гарбачоў застаецца тым, кім ён і быў: адданым камуністычнай ідэалёгіі партыйным функцыянэрам, які здолеў узьняцца на вяршыню таталітарнай улады, і рэфарматарам, пры якім гэты таталітарызм сканаў.

# «Прэзыдэнт мусіць быць асобаю, якая гарантуе ў Беларусі праўную дзяржаву»

29 красавік 2001
Юры Дракахруст

Днямі шмат у якіх беларускіх гарадох прайшлі «Чарнобыльскія шляхі» — масавыя акцыі апазыцыі. Паводле досьведу апошніх гадоў, якраз такая нагода зьбірала найбольшую колькасьць людзей. Якія высновы можна зрабіць з гэтай акцыі?

*Шушкевіч:* Я б не рабіў высновы з гэтай акцыі, я б рабіў высновы з таго, што адбываецца ў нашым грамадзтве. Я зараз шмат ежджу, шмат кантактую. Пратэст павінен быць супраць тых дзеяньняў, якія вядзе ўлада. Калі рэжым мабілізуе некага на сваю падтрымку, калі зьбіраюцца нейкія зьезды і г.д. Павінен быць пратэст супраць такіх дзеяньняў.

Што тычыцца паказчыкаў па «чарнобыльскаму шляху». Чарнобыль — гэта вялікае гора, і я б не разглядаў гэта як палітычны пратэст супраць рэжыму. У гэтым рэжыме таксама шмат тых, што пацярпеў і цярпіць ад Чарнобылю. Галоўная віна рэжыму ў тым, што ён катэгарычна ня здольны наладзіць вытворчасьць, наладзіць эканоміку, дазволіць людзям праявіць уласную ініцыятыву, каб нашыя магчымасьці пашыраліся, каб заробак людзей падымаўся. Супраць гэтага трэба пратэставаць перш за ўсё, бо гэта ад рэжыму залежыць. А дапамога ахвярам Чарнобылю ад

гэтага рэжыму залежыць у вельмі малой ступені. Ён бы, можа, нават і хацеў дапамагчы ахвярам Чарнобылю.

Час ад часу наш «прэзыдэнт», які незаконна займае гэтую пасаду, заяўляе: «Я паеду, я дапамагу». Ён нічым дапамагчы ня можа, ён разбурыў тыя структуры, якія могуць дапамагчы, і трэба іх аднаўляць.

## «У нас хопіць мужнасьці і талерантнасьці дамовіцца паміж сабою і мець аднаго кандыдата»

*Дракахруст:* Адна з галоўных тэмаў сёлетняй передвыбарчай кампаніі — праблема адзінага апазыцыйнага ці альтэрнатыўнага кандыдата. Беларуская апазыцыя натхняецца досьведам сэрбскіх дэмакратаў, якія ў мінулым годзе здолелі аб’яднацца вакол Ваіслава Каштуніцы і перамагчы. Ці здолеюць беларускія дэмакраты паўтарыць гэты досьвед? Днямі зьявілася інфармацыя пра супольны зварот да народу пяцёх патэнцыйных кандыдатаў. Маё пытаньне не пра зьмест звароту, а пра сэнс — пяцёра ня могуць стаць адным? Як вы мяркуеце — ці будзе на выбарах адзіны кандыдат ад апазыцыйных сілаў, як гэта адбылося летась ў Сэрбіі?

*Шушкевіч:* Я хацеў бы заўважыць, што пяцёра чалавек — гэта зусім ня дрэнна. Ёсьць пытаньне — як выбраць найлепшага зь лепшых? Усе тыя працэдуры, якія зараз адбываюцца, паказваюць, што, па-першае, людзі могуць паміж сабою

дамовіцца. Спачатку дамоўленасьць была толькі паміж трыма кандыдатамі. Цяпер ужо пяцёра прыйшлі да агульнай высновы: «Трэба мяняць сытуацыю, мы ведаем, што трэба рабіць».

Хто б ні стаў прэзыдэнтам з гэтых людзей, ён павінен будзе зрабіць фактычна адно: быць за незалежнасьць і за праўную дзяржаву Беларусь і правесьці справядлівыя парлямэнцкія выбары, а ня той сьмех і агіднасьць, якую ўтварылі ў нас. І парлямэнт мусіць вызначыць палітыку. Будзе перавага камуністаў — будзе ў нас плянавая эканоміка. Будзе перавага правых сілаў альбо цэнтрыстаў — будзе пэўны балянс. І вызначыць накірунак мусіць парлямэнт, заканадаўчая ўлада. І ўсе гэтыя кандыдаты з гэтым згодныя. Яны зрабілі агульную заяву.

Кожны зь іх імкнецца ўтварыць штаб. Нельга цяпер ствараць гэтыя штабы, нельга парушаць выбарчае заканадаўства. Але людзі павінны згрупавацца. Давайце паглядзім, у каго будзе лепей атрымоўвацца, хто арганізацыйна больш магутны. Ёсьць дамоўленасьць пра тое, што хто адчуе сябе слабейшым, у каго будзе менш подпісаў, можа зьняць сваю кандыдатуру на любым этапе. Зараз прыйшлі да разумнага падыходу, які адпавядае і пачатковаму падыходу Каардынацыйнай рады дэмакратычных сілаў, каб мець аднаго кандыдата, і адначасна не дае перавагі тым, хто рабіў выгляд, што ён ужо ўсіх аб’яднаў.

Я мяркую, што ў нас хопіць мужнасьці і талерантнасьці дамовіцца паміж сабою і мець аднаго кандыдата. Крок наперад у наяўнасьці. Мы

павінны перамагчы, калі будзем такімі крокамі рухацца да выбараў.

## «Гэта маразм, а ня права»

*Дракахруст:* Паводле дзеючага закону прэтэндэнты на прэзыдэнцкую пасаду ў любым выпадку мусяць зьбіраць подпісы грамадзянаў, каб стаць кандыдатамі. Юрыдычна партыі ня могуць непасрэдна вылучаць кандыдатаў. Але ёсьць і сымбалічны бок. Некаторыя выказваюць меркаваньне, што «асьвячэньне» кандыдата апазыцыйнымі партыямі — гэта для яго «пацалунак сьмерці», гарантыя паразы, а шанцы мае незалежны, народны кандыдат. Ці згодны вы з гэтым меркаваньнем?

*Шушкевіч:* Людзі б хацелі, каб чалавек ня быў зьвязаны зь нейкай палітычнай структурай, адназначна арыентаванай. Але і гэта мы перадолелі. Заўважце — ніхто зь лідэраў партыяў не прэтэндуе на прэзыдэнцкую пасаду. Яны адышлі ад партыйных праграмаў і гавораць: «Для нас галоўнае — праўная дзяржава, незалежнасьць Беларусі і справядлівыя парлямэнцкія выбары, падзел уладаў». Гэты падыход ні на кога не накладае кляйма.

Тут шмат штучнага. Кандыдатаў застрашваюць: «Калі вас будзе падтрымліваць БНФ, вас не падтрымаюць сацыял-дэмакраты», і г.д. Усё гэта хлусьня. Сёньня партыі зразумелі, што прэзыдэнт мусіць быць асобаю, якая гарантуе ў Беларусі праўную дзяржаву і нармальнае за-

канадаўства, а ня той ідыёцкі закон, адпаведна якому чалавек можа быць кіраўніком адначасна заканадаўчай і выканаўчай улады. Гэта маразм, а ня права.

Я лічу ўсіх пяцёх кандыдатаў людзьмі прыстойнымі і сумленнымі. Можа, я асабіста хацеў бы быць крышку правей самага левага зь іх і крышку лявей самага правага зь іх. Я спадзяюся, што мы зможам пераканаць людзей, што ўсе пяцёра маюць вопыт працы, усе дасьведчаныя, і ніхто зь іх не прэтэндуе на тое, што ён рэдагаваў праграму «500 дзён», ня маючы ніякага разуменьня, што такое эканоміка.

## «У Беларусі не было і няма антырасейскіх настрояў»

*Дракахруст:* Спадар Шушкевіч, вы маеце досьвед узаемадзеяньня з расейскаю ўладаю на самым высокім узроўні. Калі яны падтрымаюць на выбарах апазыцыйнага, альтэрнатыўнага кандыдата, то, зразумела ж, не за так. А за што? Ці не запатрабуюць яны ад гэтага кандыдата нават больш, чым патрабуюць ад Лукашэнкі?

*Шушкевіч:* Я ўвесь час спадзяюся, што сумленнасьць расейскіх літаратараў, дзеячоў культуры ў нейкай ступені адаб’ецца іператворыцца ў сумленнасьць расейскай улады. Найлепшая форма добрага стаўленьня да Беларусі — гэта неўмяшальніцтва ў яе ўнутраныя справы. У Беларусі не было і няма антырасейскіх настрояў, ёсьць настрой супраць расейскага нахабства, але ён

і ў самой Расеі ёсьць. Ёсьць спадзяваньне, што расейскае кіраўніцтва ўздымецца да таго, каб ня ўмешвацца ў нашыя ўнутраныя справы. Сёньня, што вы ні кажыце, рэжым трымаецца на расейскай падтрымцы. Лепшая падтрымка дэмакратычнага кандыдата — гэта неўмяшальніцтва. Але спадзявацца на гэта цяжка. Расея крадзе перш за ўсё ў самой сябе, вывозіць капітал у замежжа. Яна б і за Беларусь узялася мацней, але пакуль што ў Расеі шмат чаго красьці і чаго вывозіць. У Беларусі значна меней.

*Дракахруст:* Пажаданьне, каб Расея ня ўмешвалася, — гэта не «красавіцкія тэзісы». Вы самі сказалі, што яна, хутчэй за ўсё, будзе ўмешвацца. Я дазволю сабе паўтарыць пытаньне. Калі яна будзе ўмешвацца, што найбольш верагодна, і калі нават яна будзе ўмешвацца на баку апазыцыйнага кандыдата, — чаго яна можа ад яго запатрабаваць? Не расейскія літаратары ці музыканты, а Крэмль?

*Шушкевіч:* Гэта сфармулявана ў тэзісах да расейскай ваеннай дактрыны. Там даслоўна сказана: «Трэба затармазіць працэсы самадасьведчанасьці, нацыянальнай сьвядомасьці беларусаў, трэба таньней заплаціць зараз, каб у геапалітычным сэнсе Беларусь была нашай, каб не ізалявалася Калінінградзкая вобласьць». Гэта гаворыць старшыня Савету зьнешняй і абароннай палітыкі Сяргей Караганаў. І гэта — арыентацыя ўраду, у якога Караганаў і ягоны Савет лічацца лепшымі экспэртамі. Нельга чакаць, што гэты рэжым, арыентуючыся на гэтую дактрыну, падтрымае ў

нас прыстойныя, прагрэсіўныя сілы. Трэба ўсё рабіць, каб мы здолелі перамагчы і ў такіх умовах. У гэтым сэнс майго заклінаньня. А спадзявацца, што Расея вам дапаможа ўсталяваць тут дэмакратычную ўладу, — прабачце. Хай спачатку ў сябе ўсталюе.

*Дракахруст:* Мы пачалі нашую размову з таго, што набліжаецца невядомая дата выбараў. Але, як паведамляецца, у так званай «палаце прадстаўнікоў» ужо падрыхтаваны праект пастановы пра гэтую дату, дзе пазначаны тэрмін — 2 верасьня. Раней размова ішла пра 23 верасьня. Ці мяняе гэта нешта ў плянах апазыцыі?

*Шушкевіч:* Я мяркую, што рэжым выбраў найвыгаднейшы для сябе тэрмін выбараў. У гэты час яшчэ ня вернецца шмат студэнтаў, моладзі, якая актыўна супрацьстаіць рэжыму і актыўна падтрымлівае антылукашэнкаўскія сілы. Апазыцыі прыйдзецца больш працаваць, каб перамагчы ў гэтых больш цяжкіх умовах.

# «Сьлед галасаваньня ў 1991-м надоўга будзе ў беларускай памяці і паспрыяе адраджэньню і сьцяга, і „Пагоні“»

19 верасьня 2001
Радыё Свабода

*У 10-ю гадавіну наданьня бел-чырвона-беламу сьцягу, гербу «Пагоня» статусу дзяржаўных сымбаляў і зьмены назвы краіны Станіслаў Шушкевіч узгадвае атмасфэру 19 верасьня 1991 году.*

*Шушкевіч:* Рыхтаваліся мы да гэтага даволі доўга — тая частка Вярхоўнага Савету, якая хацела станоўча вырашыць гэтае пытаньне. Але была вялікая небясьпека, што большасьць не падтрымае гэтага, напрыклад, тая праслойка камуністычных, вышэйшых партыйных кадраў, Камай і кампанія, альбо тыя вэтэраны, якія былі ў нас, як Качан і кампанія. Яны ці то па недасьведчанасьці, ці то ад азлабленьня на ўсё беларускае хацелі не прыняць гэтую сымболіку.

Мы параіліся і пайшлі вось па якім шляху. Я вырашыў запрасіць тых людзей, аўтарытэт якіх заставаўся высокім, з аднаго боку, сярод партыйнай намэнклятуры, а з другога боку — і сярод тых дэпутатаў, якія з павагай ставяцца да навукі. Былі запрошаныя па маёй ініцыятыве, я іх запрасіў, прэзыдэнт Акадэміі навук акадэмік Платонаў і былы старшыня Прэзыдыюму Вяр-

хоўнага Савету — Таразевіч. Яны зрабілі, адзін і другі, выступленьні.

Платонаў, як чалавек высокаадукаваны, зрабіў цудоўнае выступленьне, гаварыў, што ёсьць навуковае пацьверджаньне, што гэта даўняя беларуская сымболіка, яна адпавядае гэтым людзям, гэтай мясьціне. А Георгі Станіслававіч Таразевіч як бы абвяргаў вэрсію, якая існавала тады ў партыйных колах, што гэта сымболіка часоў нямецкай акупацыі, часоў Другой сусьветнай вайны, што фашысты забівалі тут усіх пад гэтымі сьцягамі. Вось гэтыя два чалавекі фактычна і вырашылі лёс гэтага галасаваньня.

Трэба было набраць ня менш як 173 галасы. Вынік галасаваньня быў такі — 173 галасы «за».

І вельмі я цешыўся з гэтай нагоды, таму што, калі ўжо гаварыць зусім шчыра, то маім настаўнікам у Вярхоўным Савеце быў той самы Лук'янаў, старшыня Вярхоўнага Савету СССР — вораг Беларусі і беларускасьці, заядлы камуніст, натхняльнік перавароту, які быў у 1991 годзе, але ён быў вялікім майстрам выбраць момант для галасаваньня, выбраць сытуацыю. Я ў яго таму-сяму навучыўся, і мне здаецца, што ў патрэбны момант паставіў гэтае пытаньне на галасаваньне, і яно набрала 173 галасы.

Думаю, што сьлед гэтага галасаваньня надоўга будзе ў беларускай памяці і паспрыяе ў свой час адраджэньню гэтай сымболікі — і сьцяга, і «Пагоні».

## «Як і Краўчук, падзеямі 1991 году ганаруся больш за ўсё на сьвеце»

13 сьнежня 2001

*РС:* Напярэдадні 10-й гадавіны ўтварэньня СНД у менскім бюро беларускай службы Радыё Свабода — адзін з падпісантаў таго гістарычнага пагадненьня, старшыня Вярхоўнага Савету 12-га скліканьня Станіслаў Шушкевіч, які пасьля атрымаў мянушку «белавескі зубар». Спадар Шушкевіч, праз 10 гадоў вы пачуваеце сябе «белавескім зубром»?

*Шушкевіч:* Так, пачуваю. Я нават пераканаўся, што гэта вельмі добрая і прыемная мянушка. Асабліва калі бываеш у замежжы, нехта можа запамятаваць прозьвішча, але хто такі «белавескі зубар» — памятаюць усе. Да таго ж усе схіляюцца, што «зуброў» было тры. Так што я вельмі задаволены, што ўрэшце добрыя прыстойныя мянушкі ёсьць ня толькі ў мяне, але і ў Ельцына, і ў Краўчука.

### «Хопіць ужо СС»

*РС:* Станіслаў Станіслававіч, а хто прыдумаў саму назву СНД, якая замацавалася, стала рэальнасьцю? Вядома, чыё гэта аўтарства?

*Шушкевіч:* Усё, што было прыдумана, — гэта калектыўнае аўтарства. Але што да назвы, тут былі даволі гарачыя спрэчкі. Спачатку было жаданьне назваць ССД — Садружнасьць Сувэрэн-

ных Дзяржаваў. Чаму? Таму што ўсе рэспублікі — і гэтыя тры, што былі прадстаўленыя ў Віскулях, і іншыя — прынялі дэкляарацыі аб дзяржаўным сувэрэнітэце.

Але вельмі моцны аргумэнт кінуў Барыс Ельцын. Кажа: гэтых «СС» ужо было вунь колькі. І СССР, і КПСС, і СС. Хопіць ужо СС. Ну, і ўсе пагадзіліся.

*РС:* А чаму менавіта Віскулі?

*Шушкевіч:* Ну, гэта ўжо, прабачце, ідэя мая. Пачалося гэта так. Чарговы сэанс абурэньня, і майго, і Ельцына, быў 21 кастрычніка 1991 году ў падмаскоўным Нова-Агарове. Тады Гарбачоў паклаў на стол праект новай саюзнай дамовы. Хоць гэта быццам і называлася канфэдэрацыяй, але рэальна канфэдэрацыяй і ня пахла.

Як я чалавек ня вельмі спрактыкаваны ў партыйна-дзяржаўных гульнях, дык наўпрост сказаў: «Слоўнікаў не чыталі вашыя аўтары, што гэты тэкст пісалі». І разам рашуча супраць тады выказаўся Ельцын. Гарбачоў абурыўся і пайшоў, пакінуў нас і гэты стол, дзе было паседжаньне першых асобаў дзяржаваў.

Тады паўжартам, паўсур’ёзна Карымаў кажа: «Як вы разам з Барысам Мікалаевічам нас з Гарбачовым пасварылі, дык зараз ідзіце ўсталёўвайце адносіны нанова». І мы пайшлі. Мне, прыкладам, было вельмі прыемна ісьці зь Ельцыным. Я яго вельмі паважаў, таму што ён быў новай прывабнай фігурай у Міжрэгіянальнай дэпутацкай групе, эфэктыўным сустаршынём.

Але яшчэ я памятаў пра тое, што Беларусі пагражае цяжкая зіма. Калі толькі Кебіч мяне бачыў, заўсёды казаў: у цябе добрыя адносіны зь Ельцыным, запрасі яго ў Беларусь, зробім паляваньне. Маўляў, мы яго пераканаем, што ня трэба рашуча ісьці да рынку ў гэтую зіму. Валюты ў нас няма, купляць нафту і газ няма за што.

Дый я таксама пераканаўся, што трэба гэта рабіць. І кажу: «Барыс Мікалаевіч, у вас тут цудоўны краявід, але таго-сяго ўсё ж няма. А ў Белавескай пушчы вы зможаце ўбачыць тое, чаго нават у Сібіры ня бачылі». Зрэшты, я да таго часу ў Віскулях і сам ніводнага разу ня быў. І тут Ельцын нечакана кажа: добра, прыеду, ты толькі паляваньне арганізуй! Я ў адказ — зробім. І аддаю Кебічу пасьля гэтай размовы распараджэньне: рыхтуй! І ў рабочым парадку ўзгоднім час. Узгаднілі, а пасьля хутка і сабраліся.

## «Я саромеўся, што прамажу»

*РС:* Але паляваньня не было?

*Шушкевіч:* Было паляваньне. У апартамэнтах Ельцына было ўсё, каб пайсьці са сваёй, так бы мовіць, сьвітай на паляваньне. Усё было цудоўнай якасьці. Тое ж самае было і ва ўкраінскай дэлегацыі, і ў беларускай. Але менавіта я і ня думаў ісьці на паляваньне, бо саромеўся, што прамажу.

Ды каб і хацеў пайсьці, то ня здолеў бы: працы было вельмі шмат, трэба было працаваць і думаць. А што да Краўчука? Ведаеце, у яго ёсьць звычкі, ад якіх ён не адыходзіць. Напрыклад,

штоЧацьвер у шэсьць гадзінаў ён ходзіць у лазьню. І кажа так: няхай нават Дняпро пацячэ на поўнач, усё роўна ён пойдзе на гэтае паляваньне. Маўляў, калі прыехалі на паляваньне, то трэба на паляваньне схадзіць. Яны з Фокіным схадзілі на паляваньне, якое потым абрасло шэрагам мітаў.

Вітольд Фокін, які лічыцца паляўнічым слабейшым за Краўчука, падстрэліў кабанчыка. Краўчук стрэліў як быццам два разы і не патрапіў. Але егеры распаўсюдзілі праз паўгадзіны такі міт, і я да гэтага часу ня ведаю, праўда ці не: маўляў, абодвум прывязалі за нагу добрых кабанчыкаў, але Краўчук не захацеў падстрэльваць прывязанага парсючка і перабіў вяроўку, якой той быў прывязаны. І той уцёк. Ельцын на паляваньне не хадзіў. І ніхто не хадзіў болей. Хоць запрашалі ўсіх.

*РС:* Але наконт Ельцына хадзіла такая байка, што ён не пайшоў не таму, што не хацеў, а таму, што ўжо ня мог фізычна…

*Шушкевіч:* Я вам афіцыйна заяўляю яшчэ і яшчэ раз: нічога, што адцягвала б ад працы, ніякіх уліваньняў у Белавескай пушчы не было. Была толькі ўвечары — позна, амаль уначы — лазьня.

І мне здаецца, што легенда гэтая народжаная тымі, хто быў за кілямэтар — вашымі калегамі-журналістамі, але не найлепшага кшталту. Я чытаў гэтыя ўспаміны — дарэчы, людзей з украінскай сьвіты. Яны добра ведалі, што Краўчук ніколі ня п’е, не бывае нават зварушаны да выпіўкі.

Адносна Барыса Мікалаевіча — пасьля, вы ведаеце, быў і Бэрлін, і Ташкент, і я сам многа раз пераконваўся, што бывае. Замест яго і прэсавую канфэрэнцыю праводзіў, гэта цяпер магу адкрыта сказаць, бо ён ужо не прэзыдэнт Расеі. Пры ўсёй павазе да яго. Але ў Белавежы гэтага не было.

І што яшчэ спадабалася. Цудоўныя мастакі намалявалі цудоўныя шаржы, у мяне дома дагэтуль вісяць — трое паляўнічых, на матывы пэўнай расейскай клясыкі. Я люблю гэтыя жарты, але калі гаварыць сур'ёзна — гэтага не было і быць не магло.

## «Мы адчувалі, што пойдзем далей»

*РС:* Тады пытаньне рубам: усё, што адбылося ў Віскулях, было экспромтам ці заплянаванай акцыяй? Бо газэты таго часу пісалі пра трохбаковыя кансультацыі напярэдадні сустрэчы ў Маскве, дзе павінен быў прысутнічаць і Гарбачоў. Альбо сапраўдную інфармацыю хавалі ад журналістаў?

*Шушкевіч:* Я ехаў бяз загадзя акрэсьленых намераў, якія ўрэшце зьдзейсьніліся.

Калі я добра зарыентаваўся, Краўчук таксама ехаў без рашучых намераў. Але ён пасьля рэфэрэндуму аб незалежнасьці ехаў на белым кані. І ён мог сябе паводзіць вельмі па-ўкраінску. Гэта значыць, з пазыцыі незалежнай Украіны, за якую выказаліся 90% насельніцтва. І гэта было добра.

І калі мы зь ім спачатку перагаварылі (а ў нас сапраўды былі агульныя інтарэсы па эканаміч-

ных пытаньнях), ён кажа: калі б толькі па гэтых пытаньнях, можа, і ехаць ня трэба было б. Гэта мяне вымусіла задумацца. Я напрасіўся да Краўчука ў самалёт, і мы зь ім абмяркоўвалі сытуацыю. Але ў мяне хапіла рашучасьці ў гэтым паўгадзінным палёце сказаць, што мы падпішам: СССР як геапалітычная рэальнасьць спыняе сваё існаваньне.

Але абодва мы адчувалі, што пойдзем далей. Мы казалі: Гарбачоў не кіруе дзяржавай, яму не падпарадкоўваюцца, сілавікі могуць утварыць што хочуць. Быў жнівеньскі путч, чаму б ня стацца іншаму. І мы гэтым занепакоеныя. Калі мы зьбіраемся разам, адразу пачынаюцца спрэчкі.

На 25 пытаньняў з 26 мы з Краўчуком адказалі сынхронна журналістам аднолькава. Што тычыцца фармулёўкі па Саюзу, то Краўчук лічыць, што аўтар ён. Я думаю, што ўсё ж Бурбуліс. Але гэта была калектыўна насьпелая неабходнасьць заявіць: мы бачым, што Саюз развальваецца, і гэта небясьпечна, і знайшлі прыстойныя словы, як гэта выказаць.

## «Мы выйгралі, што не было Назарбаева»

*РС:* Адносна тых, каго ў Віскулі не запрасілі — гэта кіраўнікі закаўкаскіх рэспублік, сярэднеазіяцкіх. Яны, відаць, пакрыўдзіліся?

*Шушкевіч:* Гэтае пытаньне няпростае. Калі мы зразумелі, што гэта падпішам, і канцэптуальна стала ясна, якім будзе гэтае пагадненьне, тады мы запрасілі рабочую групу і пачалі фармуля-

ваць ёй заданьне. Што значыць рабочая група? Ну, гэта больш шырока, чым утраіх, і нават больш шырока, чым ушасьцёх — Козыраў прысутнічаў і іншыя.

І тут узьнікла такая думка. Глядзіце, што будзе. Саюз славянскіх рэспублік. Мы як быццам супрацьстаім, і гэта ня вельмі добра. Тады Ельцын кажа: о, выдатна, ляціць Назарбаеў у Маскву, трэба яго запрасіць. І тэлефануе. Але, вы ведаеце, Назарбаеў у Маскве зрабіў выгляд, што з тэхнічных прычын ня можа вылецець, а сам пайшоў да Гарбачова. Думаю, нам пашчасьціла, што гэта адбылося. Таму што гэта быў бы вялікі тормаз.

У Алматы ўжо Назарбаеў прэтэндаваў на тое, што яны не далучаюцца да Садружнасьці, а яны… утвараюць Садружнасьць. Там так і запісана ў алматынскай дэклярацыі, але, прабачце, на гэта ўжо ніхто не зьвярнуў увагі. А паміж 8-м і 20-м ён зрабіў заяву, якая і нашым, і вашым. Назарбаеў выказаўся, што ніколі б не падпісаў Белавескія пагадненьні. Але падпісаў ён тыя ж самыя, і яшчэ больш шырокія.

Так што нам проста пашчасьціла, што гэтая так званая «ўсходняя мудрасьць» перашкодзіла б прыняць гэта кансэнсусам. А зацяжка часу была недапушчальнай. Таму, з аднаго боку, шкада, што гэта трактуецца як саюз славянскіх рэспублік, але гэта ўсяго 10 дзён было. Так што, я думаю, мы выйгралі ад гэтага. Толькі.

*РС:* Хто яшчэ рабіў палітычнае надвор’е ў Віскулях? Хто працаваў над тэкстам дамовы ў складзе рабочай групы ад Беларусі?

*Шушкевіч:* Я быў нядаўна ў Маскве, сустракаўся з удзельнікамі тых падзеяў. Доўга гаварылі, успаміналі, што гэта была за рабочая група.

Ну, я проста на ўзроўні пасадаў назаву. Гэта Мясьніковіч наш зь Менску, гэтак званы прэзыдэнт Акадэміі Навук. Краўчанка, сёньняшні амбасадар у Японіі. Пасьля супрацоўнікі МЗС. І Лінг там быў, усе пляскалі ў далоні, падпісвалі паперы.

Але рэальна ў нас, зь беларускага боку, пісалі тыя чыноўнікі, якія былі, так бы мовіць, у сьвіце. А хто пэрсанальна — цяжка сказаць. Адстойваў пазыцыі пасьля Краўчанка. Вельмі яскрава і добра праявіў сябе ўкраінскі бок на чале зь міністрам замежных справаў. Група была вельмі моцная. Што да боку расейскага: зоркі першай велічыні. Гайдар — тагачасны шэф кабінэту міністраў (кіраўніком ураду быў Ельцын, а дзяржсакратаром Бурбуліс). Таксама Шахрай, Козыраў.

Для мяне асабіста галоўнай дзейнай фігурай стаў Шахрай. Бо калі мы заходзілі ў тупік, ніводзін з гэтых пунктаў ня быў прыняты ў тым выглядзе, у якім прапаноўвала рабочая група. Але самыя складаныя пытаньні ў адпаведнасьці з заўвагамі шасьцёркі вырашаў фактычна Шахрай. Я пранікся тады да яго вялікай павагай. Мне ўжо пасьля не падабалася ягоная імпэрскасьць, я зразумеў, як перакладаецца на беларускую ягонае прозьвішча, але тады для мяне гэты чалавек быў вельмі дасьведчаным і вельмі разумным. Тут ягоная рука адчуваецца.

## «Гарбачоў заўсёды да мяне зьвяртаўся на „ты“. А тут — „вы“. Я нават апешыў!»

*РС:* А хто першы даведаўся пра існаваньне СНД па-за Віскулямі?

*Шушкевіч:* Зараз пра гэта можна распавесьці ў дэталях. Спачатку мы селі ўтраіх і вырашылі так: першай справай трэба інфармаваць Гарбачова. Гэта наш абавязак. І пазіраюць на мяне: маўляў, у цябе зь ім лепшыя адносіны, і мы (Ельцын і Краўчук) галасуем, каб ты яму і тэлефанаваў.

Я паклаў перад сабой расейскамоўны тэкст заявы, якая на той момант яшчэ не была падпісаная (подпісы стаялі толькі пад пагадненьнем). Заява трактавала сутнасьць пагадненьня для простага люду. І я пачаў тэлефанаваць Гарбачову. Па спэцсувязі, па якой у ідэале мяне павінны зь ім злучыць імгненна.

Але гэтая спэцсувязь спрацоўвала па-бальшавіцку, па-савецку. Спачатку я трапіў на адзін спэцкамутатар, пасьля на другі, пасьля доўга дакладвалі Гарбачову, хто яму тэлефануе, пасьля пыталіся дазволу. Мне здавалася, што прайшло хвілінаў 5–7. Козыраў сьцьвярджае, што відавочна прайшло хвілінаў 20. Чаму? Бо мы разам вырашылі інфармаваць і міжнародную супольнасьць.

І найбольш уплывовы чалавек у замежжы — гэта прэзыдэнт Буш, Буш-старэйшы, зразумела. І тут мы з Краўчуком таксама сказалі: ну, як вы, Барыс Мікалаевіч, лепшы сябар Буша, то пасьля таго, як я адтэлефаную Гарбачову, будзеце гава-

рыць з Амэрыкай. Але я так доўга стукаўся да Гарбачова, што яны, седзячы ў куце, вырашылі, што я ўжо ўсё растлумачыў.

Козыраў, у сваю чаргу, меў толькі тэлефон Дзяржддэпартамэнту Злучаных Штатаў. Калі ён туды затэлефанаваў — па звычайным тэлефоне, заўважце — і сказаў, кім ёсьць насамрэч, то яму адказалі: можа, вы яшчэ Рональд Рэйган? Але ён цярпліва пачаў тлумачыць, што важныя падзеі адбываюцца.

Урэшце яго злучылі зь Белым домам, там быў прыняты нейкім чыноўнікам, якога ведаў, нават абмяняўся парай словаў па-ангельску, і фактычна імгненна выйшаў да Буша. Такім чынам, бальшавіцкія парадкі перашкодзілі таму, каб Гарбачоў даведаўся пра гэта першым.

Але ў мяне зьявіўся фантастычны козыр. Гарбачоў заўсёды па-патэрналісцку ставіўся да мяне, заўсёды зьвяртаўся на «ты». А тут — «вы». Я нават апешыў! Пасьля, як я сутнасьць заявы расказаў, ён пытае: а вы можаце сабе ўявіць, як на гэта паглядзіць міжнародная супольнасьць? Вы ж ведаеце, што яны ўспрымаюць Саюз толькі цалкам!

Аргумэнт быў вельмі моцны. Бо незадоўга перад гэтым, у кастрычніку, быў Буш у Кіеве і сказаў: мы ўспрымаем СССР як цэласную структуру з атамнай зброяй, і г.д.

Я кажу: вы ведаеце, нармальна ўспрымае. Вось Барыс Мікалаевіч Бушу сказаў, і той вітае, віншуе. Ну, тады не было ўжо чаго гаварыць, была нямая сцэна. На гэтым мы разьвіталіся, і гутарка з Гарбачовым скончылася».

## «За 200 гадоў упершыню кіраўнік Расеі падпісаў пагадненьне, што прызнае незалежнымі Беларусь і Ўкраіну»

*РС:* На юбілейным саміце кіраўнікоў СНД у Маскве прэзыдэнт Расеі Пуцін уручыў вышэйшую дзяржаўную ўзнагароду — «За заслугі перад Айчынай І ступені» — аднаму з падпісантаў Белавескіх пагадненьняў, Барысу Ельцыну. Ці чакаеце вы, што гэтаксама ўшануе вас і Аляксандар Лукашэнка?

*Шушкевіч:* Я катэгарычна па-рознаму стаўлюся да Пуціна — высокаадукаванага, адказнага прэзыдэнта вялікай дзяржавы. Мне ня вельмі падабаліся ягоныя захады, напрыклад, яго артыкул «На мяжы тысячагодзьдзя», бо паводле гэтага артыкула можна было быць і супэрдэмакратам, і супэрбальшавіком.

Але цяпер я бачу, што, відавочна, гэта былі ўмовы, у якіх ён ня мог дзейнічаць інакш. І, як тое ні трагічна, як тое ні сумна, але толькі трагічныя падзеі 11 верасьня ў ЗША, мне здаецца, вымусілі Пуціна адкрыта заявіць пра сваю пазыцыю. І я вітаю гэтую пазыцыю. І адзін з фрагмэнтаў гэтай пазыцыі — заслужаная ўзнагарода Ельцыну.

Адзін папрок толькі маю на адрас Ельцына — гэта Чачня, першая вайна. Гэта вялікая памылка, якой ён да гэтага часу не прызнаў. Але нават гэта ня можа зацьміць уплыў Ельцына на прыняцьце Белавескага пагадненьня.

Фактычна за 200 гадоў, з трэцяга падзелу Польшчы, упершыню кіраўнік Расеі, законна і

дэмакратычна абраны прэзыдэнт, падпісаў пагадненьне, што Расея прызнае незалежнымі Беларусь і Ўкраіну. І пагадненьне ён такім чынам падаў Вярхоўнаму Савету Расейскай Фэдэрацыі, што яно было ратыфікаванае пераважнай большасьцю. Таму я лічу, што за гэта яму можна было б даць і беларускую ўзнагароду — самую высокую, якая існуе.

А што тычыцца другой часткі пытаньня… Ня трэба параўноўваць чалавека, які розумам і дзеяньнямі ўзьняўся да ўзроўню прэзыдэнта, з чалавекам, які хлусьнёй, абманам і падтасоўкамі стаў начальнікам рэспублікі.

Я сёньня атрымліваю пэнсію ў 225 разоў меншую, чым Краўчук, у 130 разоў меншую, чым дзеячы беларускай кампартыі, саўмінаўцы ды іншыя. І гэта асабістае дасягненьне розуму, калі яго можна назваць розумам, нашага прэзыдэнта і яго жыцьцёвай пазыцыі. У гэтага чалавека няма пачуцьця дзяржаўнай адказнасьці. У яго пачуцьцё помсты пераважае над усім.

Я ганаруся, што я сустракаюся з Гавэлам, Квасьнеўскім, з многімі найвышэйшымі кіраўнікамі дзяржаваў. А яго ніхто не пускае на парог. Вось што ён зарабіў. Я за два даляры пражыву. Няхай ён жыве на некалькі тысяч даляраў на месяц. Так што іншыя гэта зусім людзі.

## «Я маніпуляваў дзеля Беларусі, дзеля незалежнасьці»

*РС:* Вы ўзгадалі, што Вярхоўны Савет Расейскай Фэдэрацыі ратыфікаваў пагадненьне пераважнай большасьцю. У вас быў сумнеў, што Вярхоўны Савет 12-га скліканьня прагаласуе інакш?

*Шушкевіч:* У мяне ня тое што сумнеў быў, у мяне страх быў. Я не дазволіў сабе расслабіцца нават пасьля падпісаньня пагадненьня. Я думаў: як я павінен гэта падаць Вярхоўнаму Савету, які, вы ведаеце, быў супэрпракамуністычны? Але было многа пазыцыяў, на якіх можна было згуляць.

Прыкладам: дарагія мае, навошта пытаньне пра асфальтаваньне плошчы Незалежнасьці вырашаць у Маскве, калі мы можам гэта тут вырашыць? Асабліва гэта добра дзейнічала на гаспадарчых і партыйных работнікаў.

Я памятаю, як праводзіў паседжаньні Вярхоўнага Савету СССР Лук'янаў, гэта мой вялікі настаўнік, ён толькі пра гэта ня ведае. У яго катэгарычна іншыя пазыцыі, але ягоныя маніпуляцыі былі мне вельмі зразумелыя. І я маніпуляваў, гэта быў мой абавязак, я рабіў гэта дзеля Беларусі, дзеля незалежнасьці.

Але заўважце: выступілі ў падтрымку ўсе старыя камуністы. Я думаю, у душы яны былі людзі сумленныя. Іх доўга падманвалі, і яны ўрэшце зразумелі: тут нешта ня так. Але хто выступіў супраць? Прадстаўнікі Беларускага Народнага Фронту. І што яны ў заўвагу вынесьлі: адзін з пунктаў, што ў нас адкрытыя межы для інфарма-

цыі і грамадзян, можна трактаваць як жаданьне аднавіць Саюз па-старому. Выратавала, што гэта была лагодная заўвага, і яе ўдалося неяк нэўтралізаваць.

*РС:* Аляксандар Лукашэнка ўвесь час цьвердзіць, што ён быў адзіным, хто прагаласаваў супраць ратыфікацыі белавескіх пагадненьняў. Хто насамрэч быў тым «адзіным»?

*Шушкевіч:* Значыцца, галасаваньне было патаемнае. Але так як супраць — адкрыта, з грунтоўнай матывацыяй — выступіў Валеры Ціхіня, які вырас да ўзроўню сакратара кампартыі Беларусі, я думаю, што гэта ён галасаваў супраць. А далей былі два, што ўстрымаліся, і некалькі тых, хто адсутнічаў, уключна і з Лукашэнкам, які страшыў усіх… Ну, як і прынята. Хлусьня — гэта спосаб ягоных дзеяньняў.

*РС:* Пасьля 1991 году вы бывалі ў Віскулях?

*Шушкевіч:* Я там ня быў пасьля 1994 году. Але там я сустракаўся з кіраўнікамі некаторых дзяржаваў. Ведаеце, каб прыцягнуць іх для перамоваў, я фактычна падстаўляў гэтыя Віскулі. Мне трэба было, прыкладам, узлагодніць пытаньні зь Літвой, асабліва ў справе не заўсёды своечасовай аплаты за электраэнэргію, і я адразу кажу: рыхтуй Віскулі, Кебіч. Таму быў там шмат да 1994 году.

Але зараз там зробленая кантора Адміністрацыі прэзыдэнта, якая здабывае валюту дзякуючы гістарычнай вядомасьці гэтага месца. Мне скардзіліся маскоўскія тэлевізійшчыкі: на гадзіну заехаць за браму для тэлевізійных здымак — трэба заплаціць 200 даляраў, у пакоі зайсьці — 500,

недзе яшчэ болей. Так што гэта камэрцыйная структура, якая дае прыбытак у не кантраляваны нават «палаткай» паралельны бюджэт.

У свой час мне прэзыдэнт Польшчы Квасьнеўскі сказаў, што меў за шчасьце сядзець за тым сталом, дзе я ставіў свой подпіс. Цяпер яго туды наўрад ці нават пусьцяць.

*РС:* З таго часу вы сустракаліся і зь Ельцыным, і з Краўчуком?

*Шушкевіч:* Я апошні раз зь Ельцыным сустракаўся 13 студзеня, за дзесяць дзён да адстаўкі, у Маскве. Пасьля гэтага яшчэ быў візыт Клінтана, і зь Ельцыным я больш не сустракаўся. А што да Краўчука, я многа разоў зь ім сустракаўся. Нават пералічыць цяжка. І, дарэчы, ён падзеямі 1991 году ганарыцца больш за ўсё на сьвеце. Як і я.

## «Кебіч быў упэўнены, што будзе абраны прэзыдэнтам Беларусі»

*РС:* На архіўных кадрах побач з вамі мы бачым тагачаснага прэм’ер-міністра Вячаслава Кебіча, які апошнімі гадамі завуаляваў сваю чыннасьць у гістарычным акце. Але тады вы былі адной камандай. Чаму Кебіч дыстанцыяваўся ад сваёй ролі ў той лёсавызначальнай падзеі?

*Шушкевіч:* Я скажу шчыра. Калі Кебіч у нармальным стане, гэта добры кіраўнік, добры працаўнік, сумленны чалавек. Але час ад часу ён ад гэтага стану адыходзіў, і тады ягоныя так званыя найбліжэйшыя паплечнікі тварылі што

хацелі. Гэта была вялікая бяда, і мне больш за ўсё крыўдна вось за што.

У 1996 годзе Кебіч сказаў, што ён чэснай і справядлівай працай і ўчынкамі змые тую ганьбу, якую адбілі на ім Віскулі. Значыць, ён пакаяўся, што зрабіў ня тое. Думаю, ранавата ён гэта сказаў. Пачаў зарана прыслужнічаць чалавеку значна меншых здольнасьцяў, меншай адукаванасьці, меншага клопату пра Беларусь.

Мне здаецца, сёньня ён пра гэта шкадуе. Але я зь ім не сустракаюся. Няма сэнсоўных кантактаў і, зрэшты, патрэбы ў іх.

*РС:* Як вы лічыце, ваша адстаўка ў 1994 годзе была ў нейкай ступені помстай за Віскулі?

*Шушкевіч:* Віскулі гучалі. Але калі я запытаў у некаторых людзей — чаму тады вы выступалі «за», а цяпер ужо маеце іншае гледзішча? Ці тады вы былі хворыя, ці зараз? — і тады яны змоўклі. Але галоўная дзейная сіла тады была менавіта Кебіч. Ён лічыў, што заслугоўвае большага, чым мае, і быў упэўнены, што будзе абраны прэзыдэнтам Беларусі, бо ўвесь урад на яго працаваў.

Я, дарэчы, нічога дрэннага ў гэтым ня бачу — каб ён не злоўжываў прыстойнасьцю і каб не карыстаўся недастойнымі мэтадамі. Фактычна ўсе матэрыялы так званай карумпаванасьці маёй (калі ўявіць сабе, што гэта праўда, яна па ўсіх ацэнках складае 8–10 даляраў) падсоўваў Кебіч праз свае службы.

Бяда для яго была, што я ня меў права фінансавага подпісу. Нават заработную плату ў Вярхоўным Савеце падпісваў кіраўнік спраў Анціпенка,

і таму не было да чаго прыдрацца. І таму знайшлі, што, згодна зь іх разуменьнем, ужыта было больш цьвікоў, хоць усё на лецішчы я рабіў сам. Ва ўсім сьвеце з гэтае «вялікай праблемы» вялікі сьмех. Але гэта ўзровень мысьленьня нашага начальніка рэспублікі. Нехта называе яго прэзыдэнтам. Я рэдка.

## «Мэта цывілізаванай ліквідацыі гвалтоўна заключанага шлюбу выкананая»

*РС:* Адзначаецца 10-годзьдзе стварэньня Садружнасьці. Праводзяцца афіцыйныя імпрэзы. Вас запрашаюць?

*Шушкевіч:* Я нікуды не запрошаны і ня маю ніякага да гэтага дачыненьня. Летась я атрымаў запрашэньне, але потым ад імя Ярава патэлефанавалі і сказалі: паколькі ўрачыстасьці будуць у Маскве, то ў Менску яны адмяняюцца.

Я гэта ўспрымаю нармальным у межах нашай дзяржаўнай і міждзяржаўнай ненармальнасьці. Чаго чакаць іншага? Калі быў Каратчэня, ён паводзіў сябе бездакорна карэктна. Ён заўсёды дасылаў запрашэньні, ніколі не было адменаў. І наогул ён ганарыўся тым, што ў Менску штабкватэра СНД.

Ну, і можа яшчэ, што гэта я прапанаваў ягоную кандыдатуру на кіраўніка, бо бачыў у ім энэргічнага чалавека. І каб астатнія пабачылі, што ў Беларусі ня толькі зломкі, якія даходзяць да ўлады і робяць невядома што.

Але калі эканамічны камітэт перанесьлі ў Маскву, то мы ня маем ніякага кіруючага органа СНД у Менску. Нават адміністратыўна. Ёсьць проста Камітэт па скліканьні нарадаў кіраўнікоў дзяржаваў, міністраў і г.д. Больш нічога яны ня робяць. І ня ведаюць, што рабіць. Бо яны пазбавіліся асноўнай работы — узгадненьняў эканамічнага пляну. Гэта цяжкая праца, яны ня цягнуць на гэта. А аргкамітэт падрыхтаваць — гэта яны могуць, як у савецкі час падрыхтаваць праект ЦК КПСС і Саўміну. І вярнуцца да папярэдняй важкасьці менскай штаб-кватэры практычна немагчыма.

*РС:* А Садружнасьць наогул ці жыцьцяздольная? Якім вы бачыце ейны век?

*Шушкевіч:* Давайце сфармулюем з пазыцыі дзесяці прамінулых гадоў. Якая галоўная задача стаяла перад Садружнасьцю? Цывілізаваная ліквідацыя гвалтоўна заключанага шлюбу. Я перакананы, што гэтая задача выкананая самым дасканалым чынам. З утварэньнем СНД было спыненае кровапраліцьце, утаймаваныя канфлікты паміж былымі суб'ектамі СССР (Азэрбайджанам і Армэніяй, Абхазіяй і Грузіяй).

Другая задача — утварэньне цывілізаванай супольнасьці. Дык вось супольнасьць утвораная, а цывілізаванасьці… Заўважце, першую спробу надаць сабе нешта кшталту эўрапейскай цывілізаванасьці зрабіла Ўкраіна.

Яна не ратыфікавала гэтае пагадненьне ў чыстым выглядзе. Прынамсі той пункт, дзе межы адкрытыя для грамадзянаў і інфармацыі. Пераяжджаць можна, але вы ня маеце віду на жыхар-

ства, права на працу і г.д. Але потым на гэтыя дробязі неяк забыліся. Што адбывалася далей? Прымаліся рашэньні, якія не праводзіліся праз нацыянальныя заканадаўствы.

Эўрапейская супольнасьць, якая пачалася з Супольнасьці вугалю і сталі — не праходзіла нешта праз нацыянальныя заканадаўствы, яны ўсё карэктавалі да таго, каб эканамічныя і падатковыя законы сталі аднолькавыя, банкаўскія працэнтныя стаўкі сталі аднолькавыя. Тады ўжо можна было гаварыць пра аб'яднаньне грашовых сыстэмаў. 50 гадоў на гэта спатрэбілася.

А што тут? Ускоквае чалавек, як, прабачце, Мясьніковіч, альбо Пракаповіч, альбо Кебіч: заўтра аб'яднаем грашовыя сыстэмы, нам без расейскіх грошай няма куды, нашы грошы глупства, яны трацяць вартасьць. Гэта трэба мець такую галаву — рашыць, што грошы трацяць вартасьць у нас з-за расейскага глупства.

Гэта з-за нашага беларускага глупства ўсё адбываецца! Не хапіла мужнасьці пайсьці на манэтарныя прынцыпы рэгуляваньня. Таму пачалася страшэнная карупцыя. Таму гаварыць, ці будзе супольнасьць існаваць…

Супольнасьць можа набыць эўрапейскі характар, калі добра вывучыць досьвед Эўропы. Ён вядомы большасьці палітыкаў. І калі хопіць цярпеньня крок за крокам зблізіць заканадаўствы. Дарэчы, далей за іншых адышла ад гэтага Беларусь. Параўнайце падатковае заканадаўства, маёмаснае Расеі і Беларусі — гэта неба і зямля. На карысьць Расеі.

## Пэнсія Шушкевіча — адзін даляр 89 цэнтаў

11 сакавіка 2002

*Станіслаў Шушкевіч падаў у суд на ўлады, бо цягам пяці гадоў ён атрымлівае пэнсію ў 3196 рублёў, або 1 (адзін) амэрыканскі даляр і 89 цэнтаў.*

Да 1997 году Станіслаў Шушкевіч паводле закону, прынятага Вярхоўным Саветам 12-га скліканьня, атрымліваў пэнсію ў памеры 75% ад зарплаты дзейнага кіраўніка дзяржавы. Аднак у 1997 годзе Аляксандар Лукашэнка прыняў адмысловы дэкрэт, якім быў вызначаны сьпіс тых асобаў, якія маюць права на атрыманьне пэрсанальнай пэнсіі, а таксама на карыстаньне дзяржаўным лецішчам, машынай, аховай ды мэдычным абслугоўваньнем.

У гэты сьпіс трапілі былыя першыя сакратары ЦК КПБ савецкіх часоў, былы прэм’ер Вячаслаў Кебіч ды іншыя кіраўнікі савецкай Беларусі, але толькі не апазыцыянэр Станіслаў Шушкевіч, які ўзначальваў беларускую дзяржаву з 1991 па 1994 год

Апошні раз прыстойную пэнсію Станіслаў Шушкевіч атрымаў у траўні 1996 году. Пасьля ягоная пэнсія ўвесь час так і заставалася на роўні 3 тысяч 196 рублёў, што недапушчальна нават паводле беларускіх законаў. (Цяпер мінімальная беларуская пэнсія складае 41 тысячу рублёў.)

Шушкевіч шмат разоў зьвяртаўся ў гэтай справе ў Міністэрства працы і сацыяльнай абароны, Савет міністраў, але безвынікова. І тады ён падаў пазоў у суд.

*Шушкевіч:* Гэта проста зьдзек. Наагул у Беларусі няма такой пэнсіі, і ў іншых краінах, як высьветлілася, таксама няма пэнсіі такога ўзроўню. Увесь час такое крывадушша, і таму відавочна, што адзіны працэс, які можа зрабіць гэта транспарэнтным, празрыстым, вядомым, — гэта суд.

Лепей, як кажуць, з разумным згубіць, чым з дурнем знайсьці. І таму, калі нехта выдае такі дэкрэт, паводле якога адбываецца такое нялюдзтва, гэта характарызуе таго чалавека. Гэта палітычная помста.

Думку Шушкевіча падзяляе і яшчэ адзін былы старшыня Вярхоўнага Савету Мечыслаў Грыб, які сёньня прыйшоў у суд падтрымаць свайго калегу:

*Грыб:* Яны так абышліся з чалавекам, які быў кіраўніком дзяржавы. Нават у дурным сьне гэтага не прыдумаеш. Гэта ж немагчыма так ставіцца да людзей, якія займалі такія пасады. Я гэта ацэньваю як помсту і бясправуе».

Пэрсанальную пэнсію як былы старшыня парлямэнту спадар Грыб таксама не атрымлівае (ён мае толькі пэнсію як генэрал-лейтэнант міліцыі). Мечыслаў Грыб таксама не выключае, што падасьць у суд падобны пазоў, але гэта будзе залежаць ад таго, якое рашэньне прыме суд у справе Шушкевіча.

Сёньня прадстаўніцы Міністэрства працы і сацыяльнай абароны спрабавалі давесьці судзьдзі Вользе Гусаковай, што Станіслаў Шушкевіч сам вінаваты ў тым, што ў яго такая мізэрная пэнсія, бо, маўляў, ён ня хоча перааформіць яе як пэнсію па старасьці.

Былы ж старшыня Вярхоўнага Савету заявіў, што ніколі ня пойдзе на такі ганебны крок. Паводле Станіслава Шушкевіча, ён быў кіраўніком дзяржавы, мае права на належную пэнсію і ня мусіць яе выпрошваць. Дарэчы, сёньня судзьдзя адхіліла хадайніцтва Станіслава Шушкевіча аб вядзеньні працэсу на беларускай мове.

Пакуль жа Станіслаў Шушкевіч, каб забясьпечыць сваю сям’ю, выкладае ў шэрагу эўрапейскіх і амэрыканскіх унівэрсытэтаў.

Канчатковае рашэньне ў гэтай справе, хутчэй за ўсё, будзе абвешчана заўтра. Станіслаў Шушкевіч кажа, што абавязкова накіруе судовае рашэньне ў кнігу рэкордаў Гінэса, каб заняць там першае месца ў намінацыі «Былы кіраўнік дзяржавы, які атрымлівае самую мізэрную пэнсію».

# «Ганчар быў больш высокаадукаваным за іншых»

14 сакавіка 2002

*Станіслаў Шушкевіч ацэньвае асобу Віктара Ганчара, які ў 1994-м дапамагаў Лукашэнку прыйсьці да ўлады.*

*Шушкевіч:* Што яго адрозьнівала ад вялікай колькасьці дэпутатаў? Як бы там ні было, ён быў значна больш высокаадукаваным, значна больш таленавітым, чым іншыя. У мяне было ўражаньне, што многія закаранелыя практыкі савецкай партыйнай работы, альбо выканкамаўскай работы, былі ня супраць зь ім неяк аб'яднацца і выкарыстаць ягоны талент. І часам ён накіроўваўся, мне здаецца, не зусім туды, куды мне хацелася б.

Ён вельмі яскрава выступаў і супраць мяне, і супраць іншых. Але фактычна, калі ты выступаеш супраць каго-небудзь, — ты выступаеш у падтрымку некага. І вось яму здавалася, што тупая воля і пэўная інтэлектуальная абмежаванасьць, якая ёсьць у Лукашэнкі, — калі яна будзе спалучаная зь яго інтэлектам, гэта будзе прабіўная сіла. Ён не хацеў займацца нейкай чорнай працай, хацеў быць мазгавым цэнтрам. І, мне здаецца, гэта подлым чынам было выкарыстана праз іншых.

## «У нас можа дайсьці да любога ідыятызму»

20 траўня 2002

*Прайшло паседжаньне беларуска-расейскай экспэртнай групы ў справе распрацоўкі канстытуцыйнага акту «саюзнай дзяржавы».*

*Шушкевіч:* Калі бюракратыя робіць выгляд, што яна нечым займаецца, дык гэта лепшы спосаб пагубіць гэтую справу. А гэтым ужо так даўно займаюцца, мне здаецца, што ўжо сем пагадненьняў падпісана… Канстытуцыйны акт — гэта пытаньне, якое пярэчыць і адной, і другой Канстытуцыі, яно павінна прымацца і тут, і там, відавочна, рэфэрэндумам. І, як мне падаецца, хоць у нас можа дайсьці да любога ідыятызму, я не дапускаю нават думкі, што ў Расеі можа быць на гэтую тэму рэфэрэндум, таму што не звар'яцела ж яшчэ Расея. Там ёсьць шэраг праблемаў для вырашэньня, якія можа толькі пагоршыць сытуацыя, так сказаць, братаньня зь Беларусьсю, а больш дакладна — анэксіі Беларусі.

# «Ігар Гермянчук ніколі не прынізіўся»

01 траўня 2002

*Галоўны рэдактар часопіса «Кур’ер», былы рэдактар газэты «Свабода» і дэпутат Вярхоўнага Савету 12-га скліканьня Ігар Гермянчук памёр пасьля працяглай хваробы 29 красавіка ва ўзросьце 41 году.*

*Шушкевіч:* Так ужо наканавана лёсам, што мы трацім найлепшых людзей у Беларусі. Я ў свой час глядзеў на Ігара Іванавіча як на дэпутата, быў перакананы, што за такімі людзьмі будучыня. Але, відавочна, ён аддаў занадта многа гэтай рабоце, гэтай справе, барацьбе зь несправядлівасьцю. Але ён ніколі не прынізіўся, каб паводзіць сябе па-прыстасаванску. Няхай беларуская зямля, Ігар Іванавіч, будзе табе пухам. Ты ў нашым усьведамленьні будзеш жыць вечна.

# «Без уліку народнай думкі будаваць АЭС у Беларусі нельга»

28 траўня 2002
Віталь Тарас

*Намеры пабудаваць на тэрыторыі Беларусі АЭС былі і ў часы СССР, але ў 1988 годзе грамадзкасьці Віцебску ўдалося спыніць працы па ўзьвядзеньні атамнай станцыі ў Гарадоцкім раёне. Аднак з прыходам да ўлады Аляксандра Лукашэнкі тэма ядзернай энэргетыкі пачала гучаць усё часьцей, а грамадзтва было фактычна пазбаўленае права голасу.*

*Тарас:* Дырэктар акадэмічнага беларускага інстытуту энэргетычных і ядзерных дасьледаваньняў «Сосны» Аляксандар Міхалевіч заявіў у інтэрвію «Белорусской деловой газете», што ў хуткім часе ў Беларусі можа быць прынятае палітычнае рашэньне аб будаўніцтве атамнай станцыі, і адзінае, што гэтаму замінае, — гэта так званы чарнобыльскі сындром. Адмыслоўцы, кажа ён, баяцца падтрымліваць гэтую ідэю, бо ня хочуць выклікаць на сябе шквал крытыкі. На ягоную думку, цеплавыя электрастанцыі ў Беларусі гадоў праз пяць выпрацуюць свой рэсурс, і пачнецца энэргетычны крызіс. Тады ўжо прымаць рашэньне будзе позна…

Ці згодныя вы з тым, што атамная энэргія можа стаць панацэяй для вырашэньня энэргетычных праблемаў? Ці сапраўды яна нашмат таньнейшая,

чым энэргія цеплавых альбо гідраэлектрастанцыяў, альбо ёсьць яшчэ нейкая альтэрнатыва?

*Шушкевіч:* Ядзерная энэргія даражэйшая ў нашым рэгіёне за іншыя віды энэргіі. Калі будаваць станцыю, патрэбныя вельмі вялікія інвэстыцыі. І мне здаецца, што пытаньне тут дзеліцца на тры часткі. Па-першае, мець сваю энэргетычную сыстэму — гэта, з аднаго боку, праблема дзяржаўнай бясьпекі. Таму што можна дыктаваць табе якія хочаш умовы, калі ў цябе не хапае электраэнэргіі. З другога боку, гэта пытаньне эканамічнае: што таньней будаваць? Я вялікай лёгікі ня бачу ў той заяве, пра якую вы толькі што нагадалі. Таму што калі зношваюцца цеплавыя электрастанцыі, дык можна будаваць новыя ЦЭЦ, калі гэта эканамічна больш рацыянальна. Павінны эканамісты добра пралічыць.

А што наагул да будаўніцтва ядзерных станцыяў, дык я лічу, што без уліку народнай думкі, без рэфэрэндуму ў пытаньні — ці можна будаваць ядзерную станцыю ў Беларусі? — рабіць гэта нельга. Цяпер такі рэфэрэндум праводзіць немагчыма, таму што ў нас няма вольных масмэдыя, якія маглі б растлумачыць людзям, што да чаго і як.

## «У рамках зманапалізаванага энэргетычнага сэктару будаўніцтва АЭС бессэнсоўнае»

*Тарас:* Варта нагадаць, што праблемы энэргетыкі тычацца кожнага спажыўца. Як вядома, з 1 чэрвеня павышаюцца тарыфы на электрычнасьць для насельніцтва Беларусі. Праўда, пакуль плата за электраэнэргію ўсё адно меншая, чым яе сабекошт. А колькі рэальна каштуе кіл985 электраэнэргіі ў Беларусі і чаму краіна вымушаная імпартаваць энэргію? Вось, паводле зьвестак тыднёвіка «Белорусская газета», 17% ад гадавога аб'ёму спажываньня электраэнэргіі забясьпечвалася пастаўкамі з Расеі. Ці здольная Беларусь забясьпечыць сябе сама?

## «Практыкі выкарыстаньня ядзерных энэргетычных установак у Беларусі няма»

*Тарас:* Вось нядаўна зьявілася такое паведамленьне, што ў Маскве быў затрыманы грамадзянін Беларусі, і ў яго было 500 грамаў «збройнага ўрану». Наколькі можна давяраць такой інфармацыі?

*Шушкевіч:* Гэта чарговае захапленьне журналістаў ардынарнай падзеяй. Ну, зразумела, што чалавек сьцягнуў недзе ўран. Заўважце, было сказана, што гэты ўран ужываецца ў баявых снарадах: г.зн. цяжкое рэчыва, якое робіць больш якаснымі звычайныя снарады для гармат. І калі называліся там лічбы — прабачце, гэта зусім дро-

бязь, што там 780 мікрарэнтгенаў на паверхні. У нас мікрарэнтгены на кожнай паверхні на кожным кроку ў чарнобыльскай зоне існуюць.

Зразумела, што гэта скрадзены матэрыял. Але для якіх мэтаў? Толькі не для ядзернай бомбы.

*Тарас:* Доля Літвы ў энэргапастаўках і раней была невялікая. А цяпер, пасьля таго як на Ігналінскай АЭС першы энэргаблёк быў пастаўлены на рамонт, магчымасьці літоўскіх партнэраў зрабіліся яшчэ больш абмежаванымі. А вось што тычыцца пытаньня бясьпекі. Згаданы ўжо сп. Міхалевіч кажа, што ўжо зараз ня робяцца рэактары таго тыпу, што ў Чарнобылі. А на Ігналіне і ў Смаленску рэактары якога кшталту стаяць, і наколькі яны бясьпечныя?

*Шушкевіч:* І Смаленск, і Ігналіна працуюць на такіх самых рэактарах. Гэта першае. Па другое, яны так блізка знаходзяцца да Беларусі, што ўсё роўна, ці яны на тэрыторыі Беларусі, ці па-за ёй — для нас гэта вялікая небясьпека, як гэта было з украінскай станцыяй у Чарнобылі. Так што гаварыць, што нешта там катэгарычна зьмянілася, думаю, пакуль што рана.

І ёсьць міжнародная структура, арганізацыя, якая дае заключэньні, — гэта МАГАТЭ. Гэта яе кампэтэнцыя. Трэба думаць аб тым, каб была экспэртыза такіх структур, а не на ўзроўні нейкіх эмацыйных заяваў. Таму што фактычна практыкі выкарыстаньня ядзерных энэргетычных установак у Беларусі няма. Гэта трэба адзначыць.

Мне вельмі спадабалася тое, што сказаў сп. Раманчук: трэба лічыць грошы. Таньней у Расеі —

купляць у Расеі. Заўважце, трэба везьці сюды мазут, перапрацоўваць яго ў электраэнэргію. Гэта расейскі мазут. У нас свайго амаль што няма. Альбо іншае паліва — калі можна там яго перапрацаваць і атрымаць больш экалягічна чысты прадукт, калі электраэнэргія там больш танная, гэта нам эканамічна павінна быць больш зручна. І, я паўтараю, гэта пытаньне эканамічнае, і трэба, каб эканамісты зрабілі людзкі нармальны праект: што і як выгадней выкарыстоўваць.

## «Павінен быць нармальны эканамічны разьлік»

*Тарас:* Спадар Шушкевіч ужо казаў на пачатку размовы, што пытаньне энэргазабесьпячэньня наўпрост зьвязанае і з эканамічнай незалежнасьцю. Як вядома, нядаўна Аляксандар Лукашэнка выказаў прапанову выкупіць Ігналінскую АЭС. Што, гэта была, так бы мовіць, чарговая імправізацыя, ці нешта ў гэтай прапанове ёсьць?

*Шушкевіч:* Гэта з такіх самых прапановаў і меркаваньняў, як ён вучыў «вершы Быкава»! Павінен быць нармальны эканамічны разьлік, сур'ёзны. Я думаю, наўрад ці такое калі-небудзь можа быць.

Я хацеў бы яшчэ дадаць. Спажываньне насельніцтвам электраэнэргіі ёсьць паказчыкам узроўню цывілізаванасьці і разьвітасьці краіны. У Беларусі спажываецца электраэнэргіі крыху больш за 3000 кіляват-гадзін на чалавека. Гэта ў шэсьць разоў менш, чым, напрыклад, у Нарвэгіі,

і ў два з паловай разы менш, чым у ЗША. І трэба падвышаць гэтую лічбу. Але ня проста падвышаць — гэта будзе вынікам разьвіцьця эканомікі. Калі мы дасягнем большага, да чатырох з паловай — пяці тысяч, тады, я думаю, можна будзе сказаць, што ў нас разьвітая краіна. А пакуль што тры-чатыры тысячы квт — гэта малавата.

## «Сёньня чыстая энэргія ў Беларусі — вецер, вада, сонца — значна даражэйшая, чым цеплавая электраэнэргія»

*Тарас:* Калі вяртацца да пачатку нашай размовы. Сапраўды, напэўна, існуе нейкі псыхалягічны бар'ер у большасьці беларускіх грамадзянаў у стасунку да АЭС. Але калі размову весьці на побытавым узроўні — на ўзроўні квартплаты, калі яна будзе апярэджваць рост заробкаў, можа, большасьць людзей гатовая будзе махнуць рукой на крыніцы электраэнэргіі? Зрэшты, якая розьніца звычайнаму чалавеку — адкуль яна, абы танна. А зь іншага боку, мы ведаем пра пляны будаваць АЭС на Браслаўскіх азёрах. Ці ёсьць гарантыя, што ня будуць дабітыя рэшткі яшчэ некранутай прыроды Беларусі?

*Шушкевіч:* Я хачу сказаць, што кошт станцыі — гэта два-тры гадавыя бюджэты Рэспублікі Беларусь. Таму гаварыць пра яе будову — гэта тое самае, што ў звычайнай сялянскай сям'і гаварыць пра набыцьцё «Мэрсэдэса-600». І правільна гаворыць Раманчук, што трэба адцягнуць увагу людзей на такія размовы.

А што ў далёкай пэрспэктыве — тут усё можа быць, таму што ёсьць новыя прынцыпы пабудовы рэактараў. Калі яны будуць добра распрацаваныя, магчыма, гэта будзе самая чыстая электраэнэргія. Але сёньня такога няма. Небясьпека існуе, і таму ня трэба заблытваць беларускіх людзей, ня трэба ўводзіць у зман, што ядзерная энэргетыка можа ім неяк дапамагчы. У бліжэйшыя некалькі гадоў не дапаможа.

*Тарас:* А ўвогуле экалягічныя праекты могуць прыносіць прыбытак? Я маю на ўвазе разьвіцьцё так званых альтэрнатыўных крыніцаў электраэнэргіі — выкарыстаньне энэргіі ветру, сонца. Ці ёсьць нейкія пэрспэктывы ў такіх праектаў у Беларусі, ці адзіная, хоць і далёкая, пэрспэктыва — ядзерная энэргетыка?

*Шушкевіч:* Пакуль што тыя дадзеныя, якія ёсьць у мяне, і галяндзкі вопыт, і іншы паказваюць, што няма такіх праектаў, якія б давалі больш танную электраэнэргію, хаця экалягічны выйгрыш тут, канечне, вялікі. Я ня ведаю такіх праектаў, паводле якіх, спальваючы сьмецьце, можна было б атрымліваць тую колькасьць электраэнэргіі, якая патрэбная Беларусі. Абгрунтаванасьць такіх праектаў, мне здаецца, пакуль ня вельмі сур'ёзная, і трэба над гэтым працаваць. А што да прыродных умоваў, дык, на жаль, у сучасны момант чыстая энэргія ў Беларусі — вецер, вада, сонца — яна значна даражэйшая, чым цеплавая электраэнэргія, атрыманая за кошт таго ж расейскага газу. Эканамічны разьлік павінен быць галоўным пры забесьпячэньні электраэнэргіяй Беларусі.

# «Усе антынародныя сілы на пахаваньні Быкава адсутнічалі»

26 чэрвеня 2003

*У праграме «Панарама» сюжэт пра пахаваньне Васіля Быкава пачаўся толькі на 25-й хвіліне.*

*Шушкевіч:* Я лічу, што пахаваньне народнага пісьменьніка прайшло па-народнаму. Таму што тут было многа сумленных людзей, і так многа, што я нават гэтага не чакаў, хаця думаў, што будзе вельмі многа. І яно яшчэ таму па-народнаму, што ўсе антынародныя сілы тут адсутнічалі.

*РС:* А як вы ацэньваеце тое, што Лукашэнкі тут не было?

*Шушкевіч:* Вось я і кажу: усе антынародныя сілы тут адсутнічалі, таму прайшло чыста, прыстойна, духоўна. І, ведаеце, крыўдна, што дажыліся мы да таго, што гэты ўвесь гэты «зброд» не разумее, што такое Быкаў, і пэўныя асобы сцьвярджаюць, што вучыліся на яго вершах, і ня прыйдуць папрасіць прабачэньня за сваё невуцтва і за сваё хамства.

## «Не хацелі нашы цемрашалы, каб Клінтан наведаў Курапаты»

15 студзеня 2004
Ганна Соўсь

*15 студзеня 1994 году 42-і прэзыдэнт ЗША Ўільям Джэфэрсан Клінтан наведаў Беларусь. Старшыня Вярхоўнага Савету Беларусі 12-га скліканьня Станіслаў Шушкевіч згадвае для Радыё Свабода найбольш цікавыя моманты яго наведваньня Беларусі.*

«Я ў той час вельмі добра разумеў, што маё старшынёўства ў Вярхоўным Савеце ўжо фактычна скончылася. І таму я лічыў важнай задачай для Беларусі, каб Клінтан прыехаў, каб пра Беларусь ведалі ў сьвеце, і ўсё рабіў, каб гэта адбылося. Сам візыт цяжка было ажыцьцявіць, але адной з найвялікшых перашкод было тое, што не хацелі нашы цемрашалы, людзі старога казармавага камуністычнага кшталту, каб ён наведаў Курапаты. Нашыя службы заявілі, што яны ня здольныя гарантаваць бясьпеку прэзыдэнта, калі ён будзе наведваць Курапаты. Вельмі проста ўдалося дамовіцца з амэрыканскім бокам, з амэрыканскай амбасадай. Адтуль прыйшоў адказ, што яны самі гарантуюць бясьпеку на гэтым маршруце, і няма ніякай праблемы», — кажа Шушкевіч.

Ва ўрочышчы амэрыканскага прэзыдэнта чакаў адкрывальнік Курапатаў старшыня Беларускага Народнага Фронту Зянон Пазьняк. І тут жа

адбылася ўрачыстая цырымонія адкрыцьця мэмарыяльнага знаку «Ад народу Злучаных Штатаў Амэрыкі народу Беларусі дзеля памяці». Пасьля гэты памятны знак у выглядзе лавы неаднойчы разбуралі невядомыя вандалы. Апошні раз гэта адбылося якраз напярэдадні дзясятай гадавіны візыту прэзыдэнта ЗША ў Беларусь — была парушаная канструкцыя лавы.

Сёньня я наведала Курапаты і паглядзела, у якім стане мэмарыяльны знак, усталяваны амэрыканскім прэзыдэнтам. У Курапатах сёньня было бязьлюдна, на белым сьнезе вылучалася толькі лыжня, што ішла на курапацкі пагорак. Ля «лавы Клінтана» стаіць вянок зь бел-чырвона-белымі стужкамі, яго прынесьлі 9 студзеня актывісты Кансэрватыўна-хрысьціянскай партыі БНФ. На самой лаве ляжаць белы і чырвоны гвазьдзікі. На мэмарыяльным знаку добра бачнае месца расколу, а на ім цярновы вянок — гэткім чынам аўтар мэмарыяльнага знаку скульптар Алесь Шатэрнік два гады таму адрэстаўраваў свой твор.

Але ж вернемся да падзеяў дзесяцігадовай даўнасьці. Станіслаў Шушкевіч згадвае, што ў часе візыту Біла Клінтана ў Беларусь многае ладзілася экспромтам. Прыкладам, падыход амэрыканскага прэзыдэнта да людзей пасьля ўскладаньня кветак на плошчы Перамогі — гэта была ініцыятыва самога амэрыканскага лідэра. Адметны быў і выступ Біла Клінтана ў Акадэміі навук Беларусі.

«Адзін з маладых навукоўцаў выступіў на добрай ангельскай мове, — прыгадвае Шушкевіч, —

і пасьля гэтага Клінтан у мяне пытаецца: „Заля ж не разумее ангельскай мовы?“ Я яму кажу: „Не непакойцеся, у нас арганізаваны сынхронны пераклад“. Ён вельмі цікава выступаў. Пасьля была паездка па горадзе. Калі адбываецца візыт прэзыдэнта, звычайна прылятае яго ўласны аўтамабіль. І ён мяне запрасіў у гэты аўтамабіль. Нават такія бытавыя дробязі. Я быў у вельмі ўзбуджаным стане, бо вельмі баяўся, каб ня здарылася якога выпадку. А Клінтан езьдзіў гэтак па-студэнцку, са сваім тэрмасам. Ён дастае тэрмас і запытвае: „Хочаш кавы?“ А кажу: „Кавы не хачу, дзякуй, бо і так узбуджаны“. А амэрыканскі амбасадар Дэйвід Суорц, які перакладаў, кажа: „Не клапаціцеся. У нас прэзыдэнт ніколі ня п’е кавы з кафэінам“».

Я запыталася ў Станіслава Шушкевіча: калі, на яго думку, можа адбыцца наступны афіцыйны візыт прэзыдэнта Злучаных Штатаў Амэрыкі ў Беларусь?

«Пакуль цемрашалы і невукі з прымітыўным мысьленьнем, якія клапоцяцца толькі аб сабе і аб сваёй уладзе і бароняць толькі сябе, будуць пры ўладзе, то такое наагул немагчыма. Але я думаю, што канец гэтаму будзе хутка. Тады і візыт будзе», — адказаў Станіслаў Шушкевіч.

## «Калі б ня Бонэр, то Сахараўскага каледжу ў Беларусі не было б»

20 чэрвеня 2011

*У Бостане памерла ўдава акадэміка Андрэя Сахарава Алена Бонэр. Ёй было 88 гадоў.*

Станіслаў Шушкевіч быў знаёмы з Андрэем Сахаравым і Аленай Бонэр. Ён кажа, што Алена Бонэр была для яго вялікім аўтарытэтам чалавечнасьці і павагі да дэмакратыі, правоў чалавека: «Жанчына гэта была вельмі рашучая, і яна нікога, нічога і ніколі не баялася. Яна паходзіла з інтэлігентнай сям'і, у якой усе прытрымліваліся прыстойных прынцыпаў. Таму гэта вялікая страта».

Спадар Шушкевіч адзначае, што Алена Бонэр багата зрабіла для Беларусі і дала дазвол на тое, каб навучальнай установе ў Менску было прысвоена імя Андрэя Сахарава.

«Калі ў Беларускім дзяржаўным унівэрсытэце паўсталі пытаньні ўдасканаленьня адукацыі пасьля чарнобыльскага выбуху, — прыгадвае Шушкевіч, — то яна праявіла ініцыятыву, каб дапамагчы стварыць у Беларусі каледж, у якім вывучалі б асновы бясьпекі пры працы зь ядзернымі крыніцамі энэргіі. Яна прыцягнула прафэсара Рычарда Вілсана з Гарвардзкага ўнівэрсытэту. У 1989 годзе быў утвораны камітэт, які паставіў сваёй задачай стварыць у Беларусі навучальную ўстанову экалягічнага профілю па ядзернай фізыцы і па ядзернай бясьпецы. Вельмі актыўны

ўдзел у гэтай працы браў Аляксандар Люцко, які тады быў дацэнтам катэдры, якую я ўзначальваў. І Бонэр яму дапамагала. Калі б не яна, то Сахараўскага каледжу ў Беларусі не было б. Бо яе аўтарытэт быў такі вялікі, што калі прафэсару Вілсану казалі — дзякуй вам, што вы ўзялі ўдзел, — ён казаў: як жа ж, сама Алена Бонэр сказала, што гэта трэба, і таму я падтрымліваў і буду падтрымліваць».

# «Я разумеў, што гэта дзяржаўны пераварот»

19 жніўня 2011

*Пра жнівеньскі путч 1991 году ўзгадвае Станіслаў Шушкевіч, які ў тыя дні займаў пасаду першага намесьніка старшыні Вярхоўнага Савету БССР.*

«Я сеў у свае „жыгулі“, бо быў на дачы, прыехаў у Вярхоўны Савет, я быў тады першым намесьнікам, пайшоў да Дземянцея, старшыні ВС, і сказаў, што трэба зьбіраць нам сэсію, і вы маеце на гэта права, і біце, калі ласка, так сказаць, у звон. Трэба зьбіраць дэпутатаў, бо падзеі дрэнныя. Гэта адназначна было, бо я ведаў, хто такі Янаеў, таму што больш агіднай постаці не было. Яго цягнуў за вушы Гарбачоў, таму што гэта толькі яму ўдавалася з добрымі людзьмі кансультавацца, дык ён рабіў добрыя справы. А гэтага абібока, якога ён цягнуў у віцэ-прэзыдэнты СССР, гэта ж было зразумела зусім, што гэта ня той чалавек, што гэта хлюст. Янаеў нават, калі я яго запытаўся як народны дэпутат СССР у крамлёўскай залі, якая тэма вашай кандыдацкай дысэртацыі, дык ён ня мог адказаць на гэтае пытаньне. Было зразумела, што ня ён яе рабіў, што ён з тых, каму ўсё рабілі. Таму такі чалавек на чале — для мяне гэта азначала, што гэта вельмі дрэнная падзея, гэта здрадніцтва, гэта адступленьне ад тых прынцыпаў, да якіх мы імкнуліся ісьці. Тут у мяне не было

ніякага сумневу, я быў абсалютна перакананы, і, акрамя таго, я яшчэ ведаў пэўных там асоб у гэтым ГКЧП, і даверу яны ў мяне не выклікалі ніякага — Старадубцаў, напрыклад. І таму я разумеў, што гэта здрада нашым прынцыпам, гэта дзяржаўны пераварот.

Мяне пачаў супакойваць Дземянцей, што вось я званіў толькі што ў Маскву, усё нармальна, ніякіх страшных падзей няма, з Лук'янавым я гаварыў, ён мне сказаў, што ўсё абсалютна нармальна, усё добра. Ну, я зразумеў, што нічога ня зробіш.

Пасьля там зьявіўся Зянон Станіслававіч Пазьняк, іншыя дэпутаты. Але сэсіі Дземянцей не зьбіраў, і нашыя патрабаваньні выкананыя не былі».

## «Пазыцыя ЗША ў дачыненьні да Расеі — вельмі далікатная. Яны ня робяць Расеі ніякіх заўвагаў»

31 студзеня 2012
Аляксандар Лукашук

*20 год таму адкрылася амбасада ЗША ў Менску. Першым амэрыканскім амбасадарам у Беларусі стаў Дэйвід Суорц. Даверчыя лісты прымаў старшыня Вярхоўнага Савету Станіслаў Шушкевіч.*

*Лукашук:* Спадар Суорц, чаму менавіта вас прызначылі першым паслом у незалежнай Беларусі? Наколькі ў Вашынгтоне тады ведалі і разумелі, што такое Беларусь? Якая галоўная задача была пастаўлена перад вамі?

*Суорц:* Ну, чаму менавіта мяне выбралі быць першым паслом у Беларусі — я ня маю ўяўленьня. Скажу толькі, што я працаваў да таго дастаткова шмат гадоў у самім Саюзе і ў Вашынгтоне па справах Савецкага Саюзу. Да таго ж я працаваў некалькі гадоў у Польшчы ў часы «Салідарнасьці». Дык, можа, з гэтых прычынаў.

Што датычыць таго, добра ці нядобра Беларусь ведалі ў Вашынгтоне ў той час. Адна перавага была ў тым, што дзякуючы Сталіну Беларусь усё ж стала адным з заснавальнікаў ААН, і таму ў Нью-Ёрку заўсёды былі прадстаўнікі зь Беларусі. Гэта, вядома, не азначае, што Вашынгтон добра разумеў Беларусь, асабліва звычайных беларусаў.

Таму я лічу, што Беларусь у Вашынгтоне ў тыя часы ня вельмі добра ведалі.

Што да таго, якія былі самыя галоўныя задачы ў пасла… Самае нуднае, але, напэўна, самае неабходнае было тое, што трэба было добра арганізаваць само пасольства. Пры гэтым трэба было таксама разьвіваць дыпляматычныя сувязі і дачыненьні зь Беларусьсю. На шчасьце, мне тады давялося вельмі часта — амаль кожны дзень — мець справы са Станіславам Шушкевічам. Мы сталі трывалымі партнэрамі, нават магу сказаць — сябрамі.

Вядома, што да сутнасьці справаў, то ў тыя часы вельмі важнай задачай для Вашынгтону ў Беларусі — а таксама ва Ўкраіне і ў Казахстане — быў вывад ядзернай зброі з тэрыторыяў новых рэспублік, каб засярoдзіць усе яе запасы ў Расеі. Над гэтым мы таксама працавалі разам з Станіславам Шушкевічам 20 гадоў таму.

## «Я ведаў, што пераканаю парлямэнт без усякіх перадумоў вывесьці ядзерную зброю»

*Лукашук:* Спадар Шушкевіч, цяпер некаторыя кажуць, што Беларусь занадта лёгка і танна разьвіталася з савецкай ядзернай спадчынай, не паспрабаваўшы захаваць ядзерны арсэнал ці атрымаць за адмову ад яго добрыя грошы. Вы згодны з такой ацэнкай?

*Шушкевіч:* Давайце падзелім гэтае пытаньне на два.

Першае. Што азначала ядзерная зброя на тэрыторыі Беларусі? Яна, заўважце, была ня ў шахтах, як ва Ўкраіне альбо ў Казахстане, яна была на паверхні, і зброі гэтай было вельмі многа. Я як фізык, які загадваў 20 гадоў катэдрай ядзернай фізыкі, вельмі добра разумеў, што азначае гэтая зброя. Мы былі закладнікамі ядзернай вайны. Калі б нейкі канфлікт пачаўся, то беларуская нацыя была б зьнішчаная цалкам, бо трэба было зьнішчаць гэты арсэнал ядзернай зброі.

І таму я ў Белавескай пушчы фактычна ў першы дзень сказаў, што Беларусь згодная — я ведаў, што мяне падтрымаюць, я ведаў, што пераканаю парлямэнт у гэтым — згодная без усякіх перадумоў вывесьці ядзерную зброю. Я гэта разумеў як ратаваньне нацыі. Гэта была вышэйшая каштоўнасьць, чым нейкая там кампэнсацыя альбо нешта іншае.

Больш за тое, я цяпер бачу, калі вывучаю творы палітыкаў таго часу і цяперашняга, што гэта быў вельмі добры дыпляматычны ход. Праўда, гэта мне пасьля растлумачыў Бураўкін. Калі я пачынаў, я гэтага не разумеў — я лічыў, што трэба выратаваць нацыю.

Што да вываду зброі. Так, тут я цешуся, што гэта добра памятае пасол Суорц. Гэта была няпростая задача — каб зброя не папала ў неналежныя рукі, і мне здаецца, што тут у нас узаемадзеяньне было вельмі карэктнае, вельмі дастойнае. І калі Дэйвід Суорц лічыць, што мы сталі прыяцелямі, я проста гэтым ганаруся. Мне прыемна мець такога сябра.

*Лукашук:* Спадар Шушкевіч, амбасадар Суорц расказаў, што першай задачай было ўсталяваць амбасаду. Якое вы знаходзілі паразуменьне ва ўрадзе, МЗС, у сілавых структурах у тым, каб даць такое месца для амбасады — знайсьці яго і вылучыць?

*Шушкевіч:* Шчыра кажучы, я тут не адыгрываў амаль ніякай ролі, бо тады мы ўсе былі пераканаными — і ўрад, і Міністэрства замежных спраў, і міністар — што трэба, каб у нас была амэрыканская амбасада. Гэта рабіў урад.

## «Спадзяваліся, што Расея можа вырашаць усе пытаньні ня толькі самой Расеі, але і краінаў вакол яе»

*Лукашук:* Некаторыя відавочцы і ўдзельнікі здабыцьця Беларусьсю незалежнасьці кажуць, што яна была здабытая насуперак ня толькі саюзнаму цэнтру, але і насуперак Захаду, які насамрэч зусім не хацеў і не спрыяў распаду СССР. Пры гэтым прыгадваецца знакамітая прамова ў Кіеве прэзыдэнта Джорджа Буша, які папярэджваў наконт «эксцэсаў нацыяналізму». Вы згодны з тым, што Захад, і ЗША ў прыватнасьці, былі супраць беларускай незалежнасьці?

*Суорц:* Гэта цікавае пытаньне. Я таксама, вядома ж, вельмі добра памятаю прамову Буша ў Кіеве. На жаль, на мой погляд, тады ў Вашынгтоне існавала, і да пэўнай ступені існуе і дагэтуль, меркаваньне, што бясьпека Злучаных Штатаў залежыць ад таго, ці стане Расея або Савецкі

Саюз у цэлым больш канструктыўным партнэрам Злучаных Штатаў.

З другога боку, было таксама такое адчуваньне, што мы ведаем «Вялікую Расею» і што можна было спадзявацца на тое, што Расея можа вырашыць або вырашаць усе пытаньні ня толькі самой Расеі, але і краінаў вакол яе. Гэта, вядома, была амаль што трагічная пазыцыя, але такая філязофія была і, паўтараю, у пэўных колах ЗША існуе і дагэтуль.

Што да мяне, то я меў шчасьце ўжо ў 70-я гады працаваць у Саюзе па-за Расеяй, бо мяне прызначылі кіраўніком перадавой групы консульства ЗША ў Кіеве. Таму я меў магчымасьць на ўласныя вочы бачыць карэнную розьніцу паміж, скажам, украінцамі і расейцамі, паміж Украінай і Расеяй. І калі я некалі меў такія «вашынгтонскія» погляды, як я толькі што сказаў, то на падставе майго досьведу ва Ўкраіне я карэнным чынам зьмяніў свае погляды, і ўсё гэта дапамагло мне падчас працы паслом у Беларусі.

Тым ня менш пазыцыя Буша-старэйшага, пра якую вы толькі што згадалі, існавала тады і да пэўнай ступені існуе сёньня.

## «Я адчуваў, што амбасадар Суорц зьяўляецца гарачым прыхільнікам незалежнасьці Беларусі»

*Лукашук:* Спадар Шушкевіч, візыт у Беларусь прэзыдэнта Біла Клінтана стаў кульмінацыяй беларуска-амэрыканскіх стасункаў. І амаль адразу

пасьля гэтага візыту адбылася ваша адстаўка з пасады старшыні Вярхоўнага Савету. Гэтыя падзеі былі неяк зьвязаныя, справа магла пайсьці інакш, калі б ЗША занялі тады іншую пазыцыю, больш рашуча вас падтрымалі?

*Шушкевіч:* Думаю, што гэта ні ў якай ступені не залежала ад пазыцыі Злучаных Штатаў, бо гэта такая агульная рыса на постсавецкай прасторы — што старыя камуністычныя кадры выводзяць наверх тых, хто думае па-камуністычнаму. Я нават не цікавіўся, якую пазыцыю тут могуць заняць Злучаныя Штаты, і не шукаў падтрымкі ні ў Злучаных Штатаў, ні ў Расеі.

Але вось што мне было прыемна адчуваць — нягледзячы на тую заяву Буша-старэйшага ў Кіеве — я адчуваў, што амбасадар Суорц зьяўляецца гарачым прыхільнікам незалежнасьці Беларусі. І калі набліжаўся візыт Клінтана, я лічу, што толькі гераічныя дзеяньні амбасадара Суорца прывялі да таго, што гэты візыт адбыўся. Бо калі наша служба КДБ за подпісам Шыркоўскага паклала мне на стол паперу, што яна ня можа забясьпечыць бясьпеку прэзыдэнта падчас візыту — гэта ж вы разумееце, які быў крок, што я павінен быў рабіць — мяне папярэджвае КДБ, што яны ня могуць гарантаваць бясьпеку прэзыдэнту Злучаных Штатаў Амэрыкі.

І тады я хапаю тэлефон, тэлефаную амбасадару Суорцу і кажу, што я хачу яго бачыць. І мушу сказаць, што праз імгненьне ён быў у мяне. І ведаеце, тут для мяне быў абсалютна нечаканым такі паварот падзеяў, што праз дзьве гадзіны

амбасадар Суорц прынёс мне паперу — а ня тое што на словах — што ў сувязі са складанасьцямі амэрыканскі бок падчас візыту бярэ бясьпеку свайго прэзыдэнта на сябе.

*Лукашук:* Фантастычная гісторыя… Спадар амбасадар, мы абмяркоўваем візыт Клінтана ў Беларусь — што было найбольш складаным для вас у арганізацыі гэтага візыту?

*Суорц:* Ведаеце, калі гаворка ідзе пра гісторыю, то ўжо да таго часу, як прэзыдэнт Клінтан прыехаў у Беларусь, ужо было вядома, што я падаў у адстаўку з пасады амбасадара ЗША ў Беларусі. Ня з той прычыны, як піша Кебіч у сваёй кнізе, што нібыта Вашынгтон мяне адклікаў. Нічога падобнага. Я пайшоў сам, з сваіх прычынаў, вырашыў, што павінен пакінуць гэтую пасаду. Між іншым, часткова гэтае рашэньне датычыла пытаньня пра Расею, пра якое я толькі што гаварыў. Але гэта ўжо іншая справа.

Што да візыту Клінтана ў Беларусь, я б сказаў, што самым складаным было пераканаць прэзыдэнта празь ягоны штат, каб ён не выступаў там, дзе ня трэба было выступаць падчас вельмі кароткага візыту. Ягоныя людзі, напрыклад, настойвалі на тым, каб ён выступіў на гадзіньнікавым заводзе, і амаль да апошняга моманту я сварыўся зь імі і казаў, што ня трэба наведваць гэтую на 100 працэнтаў камуністычную ўстанову. У апошнюю хвіліну мы пераканалі яго выступіць ня там, а ў Акадэміі навук перад маладым пакаленьнем беларускіх навукоўцаў. Мы арганізавалі гэта з дапамогай Шушкевіча вельмі хутка і апэратыўна. Усё

гэта скончылася тым, што прэзыдэнт выступіў вельмі пасьпяхова.

Вось такія пытаньні трэба было вырашаць, бо ягоны штат проста не разумеў, хто ёсьць хто ў Беларусі.

## «Наведваньне Клінтанам Курапатаў ніколі ня зьнікне зь летапісу нашых адносін са Злучанымі Штатамі Амэрыкі»

*Лукашук:* Спадар амбасадар, для многіх у Беларусі гэты візыт запомніўся тым, што прэзыдэнт адведаў Курапаты і там была пастаўленая лава памяці — падарунак ад амэрыканскага народу ў памяць ахвяраў сталінізму. Як адбылася гэтая частка візыту?

*Суорц:* Што датычыць Курапатаў, дык, вядома, гэта быў вельмі вялікі скандал для ўраду Беларусі — Кебіча, Краўчанкі, можна было б назваць яшчэ і іншых, такіх, якія і да сёньня яшчэ застаюцца на сваіх месцах, але ў гэтым няма патрэбы.

І тады, якраз тады, у гэтым кантэксьце ўзьнялася пытаньне аб забесьпячэньні бясьпекі прэзыдэнта. Вядома ж, гэта была лухта. Насамрэч яны проста не хацелі, каб Клінтан наведаў Курапаты. Вядома ж, спадар Шушкевіч вельмі добра ведае пра ўсё гэта, бо Кебіч і яго сябры — Краўчанка і іншыя — хацелі, каб Шушкевіч заставаўся ўбаку ад рашэньня гэтага пытаньня. Гэта было страшна для яго, для мяне, для ўсіх, бо наведаць Курапаты было вельмі важна.

З другога боку, былі і іншыя людзі — не з ураду, а, скажам, з апазыцыі — якія трымаліся думкі, што калі прэзыдэнт не наведае Курапаты, яны ніяк ня будуць удзельнічаць у ягоным візыце наагул.

Таму гэтая сытуацыя разьвівалася вельмі складана. Вырашылася яна ў рэшце рэшт з дапамогай спадара Шушкевіча, і мы былі і застаемся да сёньня вельмі яму ўдзячныя, бо візыт у Курапаты быў вельмі пасьпяховы і карысны — каб паказаць беларускаму народу, усім, што ў рэшце рэшт Злучаныя Штаты ведаюць, прынамсі трошкі, пра трагічныя падзеі, якія адбыліся на тэрыторыі Беларусі.

*Шушкевіч:* Ведаеце, я вельмі цешуся, што амбасадар Суорц так усё памятае і так усё разумее. Але я хачу сказаць, што было два захады. Спачатку візыт наогул не хацелі дапусьціць. А ўжо другое — быў другі ліст шэфа КДБ. Я не паказваў ліст шэфа КДБ амбасадару Суорцу, але я яго запрасіў і кажу так: наша КДБ баіцца, што пры наведваньні Курапатаў можа быць цяжкая сытуацыя, там могуць быць снайпэры, у нас няма належных сіл…

Я быў амаль што ў стане шоку. Але я вам скажу, што тут было. Я пасьля гэта зразумеў. Тады ў Расеі было створана міністэрства новае замест КДБ. Я думаю, што нашы кансультаваліся там, як перашкодзіць, і ім далі такую параду: скажыце, што ня можам гарантаваць бясьпеку. А амэрыканскі бок сказаў: ня можаце вы — зробім мы. Гэта было для мяне поўнай нечаканасьцю, калі гэта сказаў мне амбасадар Суорц, і я яму па сёнь-

няшні дзень за гэта ўдзячны, таму што Клінтан наведаў Курапаты, выслухаў што яму распавёў Зянон Пазьняк, і лаўку гэтую адкрыў скульптара Шатэрніка. Гэта быў цудоўны падарунак, гэта ніколі ня зьнікне зь летапісу нашых адносін са Злучанымі Штатамі Амэрыкі.

## «Існуюць яшчэ да сёньняшняга дня прарасейскія настроі ў пэўных колах ЗША»

*Лукашук:* Нядаўна Зьбігнеў Бжэзінскі апублікаваў свой прагноз разьвіцьця падзеяў у выпадку рэзкага аслабленьня моцы Злучаных Штатаў. Паводле яго, гэта спародзіць восем крызісаў, і адзін зь іх — паглынаньне Беларусі Расеяй. Вы згодны з гэтым прагнозам, што моц Злучаных Штатаў — канчатковая гарантыя беларускага сувэрэнітэту, гарантыя, якая дзейнічае незалежна ад рэжыму, які існуе ў Беларусі?

*Суорц:* Што да Бжэзінскага, то я ніяк не магу спрачацца з тым, што ён сьцьвярджае. З другога боку, мой досьвед што да асобы Бжэзінскага трошкі сьведчыць пра іншае. Калі я працаваў у Кіеве — гэта было ў канцы 70-х — Савецкі Саюз напаў на Афганістан. Бжэзінскі, які тады быў дарадцам па нацыянальнай бясьпецы ў Белым доме, пераканаў Картэра «пакараць» Савецкі Саюз закрыцьцём прадстаўніцтва ЗША ў Кіеве. І гэта было зроблена. Мы з калегамі выехалі, і ўсё.

Я нагадваю пра гэта, бо калі б трэба было сапраўды пакараць Савецкі Саюз, то хутчэй тым, каб не закрываць прадстаўніцтвы ЗША ў СССР,

а пашыраць іх. Калі б гэта было зроблена яшчэ тады — у канцы 70-х гадоў, Злучаныя Штаты нашмат лепей разумелі б рэаліі, праблемы, памкненьні народаў тагачаснага СССР, а цяпер незалежных краінаў, у тым ліку Беларусі.

Гэта важна, таму што калі існуюць яшчэ да сёньняшняга дня прарасейскія настроі ў пэўных колах ЗША, то гэта стварае вялікую небясьпеку для новых краінаў, бо могуць сказаць Расеі: добра, рабіце як хочаце, гэта, так сказаўшы, ваша сфэра ўплыву, і мы ня будзем вам замінаць. Гэта была б вялікая памылка.

І якраз пра гэта піша Бжэзінскі, і з гэтым я цалкам згодны. Толькі нагадваю пра тое, што той самы Бжэзінскі, калі ён меў магчымасьць паўплываць на палітыку, абраў супярэчлівае рашэньне праблемы — зачыненьне дзьвярэй, а не пашырэньне.

Але па сутнасьці ён, вядома, на 100% мае рацыю — трэба засяродзіць увагу на разьвіцьці падзеяў у вашай частцы сьвету, бо калі засяроджвацца толькі на Блізкім Усходзе, Іране або Кітаі, гэта толькі дасьць магчымасьць цёмным сілам былога Саюзу рабіць вельмі дрэнныя справы ў вашых краях.

*Лукашук:* Спадар Шушкевіч, ці пагаджаецеся вы з тым, што Злучаныя Штаты па-ранейшаму застаюцца гарантам незалежнасьці Беларусі, і калі так — як гэта сумяшчаецца з эканамічнымі санкцыямі супраць Беларусі, палітычнымі санкцыямі ў сувязі з парушэньнямі правоў чалавека? Бо гэта

ж таксама ў пэўным сэнсе аслабляе сувэрэнітэт Беларусі.

*Шушкевіч:* На вялікі жаль, Злучаныя Штаты ня робяць аднаго, што трэба было б зрабіць. Яны павінны былі б зрабіць адну заўвагу Расеі: калі ласка, паважаная Расея, вы бачыце, як у Беларусі парушаюцца правы чалавека, бачыце, што ў Беларусі даўно няма выбараў, ніхто не прызнае, бачыце, што тут робіцца — чаму вы падтрымліваеце гэты агідны рэжым? І вось гэтага Злучаныя Штаты ня робяць, і зь вельмі простай і зразумелай прычыны: для іх вельмі важнымі зьяўляюцца адносіны з Расеяй, і яны ня хочуць неяк на іх дрэнна ўзьдзейнічаць, гаворачы пра Беларусь.

Бо ніводная ж краіна ў сьвеце, якая самастойна вырашае пытаньні, не прызнае выбараў у Беларусі, бо фальсыфікацыя відавочная. А Расея прызнае, і заўсёды накіроўвае сваіх прадстаўнікоў, якія і не разьбяруцца, у чым тут справа, і заяўляюць, што выбары адбыліся і што ўсё ў парадку. І таму пазыцыя Злучаных Штатаў у дачыненьні да Расеі вельмі далікатная. Яны ня робяць Расеі ніякіх заўвагаў. А нам іншае нічога не дапаможа.

*Суорц:* Гэта, я б сказаў, ключавое пытаньне ў амэрыканска-беларускіх дачыненьнях. Ці не супярэчаць патрабаваньне павагі да правоў чалавека, з аднаго боку, і ўмацаваньне сувэрэнітэту Беларусі — з другога… У прынцыпе, ЗША, як і Заходняя Эўропа, ды наагул цывілізаваныя краіны, хочуць таго, каб усе краіны належалі да сусьветнай сыстэмы каштоўнасьцяў. Як у палітычнай, гэтак у сацыяльнай і эканамічнай сфэрах. Калі

той ці іншы ўрад гэтага ня хоча, тады трэба пераканаць яго шляхам розных захадаў, улучна з санкцыямі. Ёсьць такое расейскае выслоўе: ня ўмееш — дапаможам, ня хочаш — прымусім. Неяк так.

З аднаго боку, вядома, Злучаныя Штаты хочуць падтрымліваць сувэрэнітэт Беларусі як краіны, а не беларускага ўраду такога, якім ён ёсьць сёньня.

Задача палягае ў тым, каб Беларусь увайшла і належала да сусьветнай сыстэмы каштоўнасьцяў. І мы ўсе ведаем, што гэта за каштоўнасьці. Правы чалавека — адна зь іх. Дык я і ня бачу тут супярэчнасьці ў палітыцы ЗША ў тым сэнсе.

## «Наш урад паказвае сябе як нецывілізаваная структура»

*Лукашук:* Спадар Шушкевіч, 20 гадоў таму вы прынялі даверчыя лісты амэрыканскага ўраду ў якасьці кіраўніка дзяржавы. За гэтыя 20 гадоў было ўжо некалькі выпадкаў, калі пасольства ЗША ў Менску магло быць зачыненае. Апошні раз гэта адбылося ў сакавіку 2008 году, калі пасол Ст’юарт была фактычна выдаленая зь Беларусі, а пэрсанал пасольства істотна скарочаны. Кажуць, што часовы паверааны ЗША ўжо ехаў у МЗС, каб уручыць ноту аб ад’езьдзе пасольства ў поўным складзе. Але ў апошні момант рашэньне было зьмененае. Як вы лічыце, разрыў афіцыйных стасункаў быў бы больш эфэктыўным і моцным сродкам ціску на афіцыйны Менск?

*Шушкевіч:* Я так ня думаю. Мне здаецца, што ўяўленьне пра тое, што робіцца ў Беларусі, можа быць толькі дзякуючы існуючаму тут прадстаўніцтву. Тое, што яно сёньня так абмежаванае, вельмі дрэнна. Проста наш урад паказвае сябе як нецывілізаваная структура. Гэта ж сьмешна, калі нехта ў сьвеце не паважае краіну — ну, ня будзем даваць там першы нумар, другі, але эканоміка наймацнейшая ў сьвеце, і такі палітычны падмурак, дэмакратыя — і з гэтай краінай абыходзіцца так, як у нейкім дрэнным калгасе ставяцца да брыгадзіра… гэта немагчыма, гэта паказвае вельмі нізкі, прымітыўны ўзровень нашага сёньняшняга кіраўніка. Гэта проста ганьба.

Але ён так робіць, магчыма, таму, што Расеі гэта прыемна. Расея ніколі ня пойдзе на такі крок, але каб паказаць, што на такі крок могуць пайсьці іншыя — яна ў пэўным сэнсе падбухторвае нашага кіраўніка, які, прабачце, у пытаньнях пратаколу, дыпляматычных адносінаў нічога не разумее.

*Лукашук:* Спадар амбасадар, які ваш самы дарагі ўспамін пра Беларусь? Якое самае вялікае шкадаваньне?

*Суорц:* Самая вялікая прыемнасьць палягала ў тым, што я змог пазнаёміцца ў шырокім маштабе з многімі беларусамі розных пластоў грамадзтва, і гэта было вельмі прыемна. Ад самых высокіх асобаў ва ўрадзе, скажам, ад Станіслава Шушкевіча, да рабочых на заводах. Беларусы прымалі мяне вельмі і вельмі цёпла і гасьцінна.

Што да шкадаваньня — найбольшае маё шкадаваньне, якое мае дачыненьне і да маёй адстаўкі, — мае моцныя намаганьні пераканаць Вашынгтон ужыць канкрэтныя спэцыфічныя захады ў справе спрыяньня і дапамогі беларускаму народу, каб, з аднаго боку, было відаць, што ЗША нешта робяць, а з другога боку, гэта маглі б быць праекты, мерапрыемствы, якія б мелі неадкладны эфэкт на разьвіцьцё дзяржаўнасьці Беларусі і, што яшчэ важней, жыцьця звычайных беларусаў.

Усе два гады, што я быў там, Вашынгтон адмаўляўся гэта рабіць, і ў рэшце рэшт было відаць, што як амбасадар я ня здолеў паўплываць на палітыку ЗША ў гэтай галіне. І гэта для мяне асабіста было вялікае расчараваньне.

## «Дэйвід Суорц палюбіў Беларусь, зразумеў што тут за людзі, — і гэта на ўсё жыцьцё»

*Лукашук:* Спадар Шушкевіч, як бы вы ацанілі ролю першага амбасадара ЗША ў Беларусі і значэньне таго, што ён зрабіў?

*Шушкевіч:* Перш за ўсё, я не чакаў, што ў абыходжаньні, у кантактах буду мець справу з чалавекам, якога можна цалкам зразумець — ніякага снабізму, ніякай «важнасьці», нічога такога ў сэнсе «я амбасадар вялікай дзяржавы і хачу тут моцна стаяць сваёй нагой» — гэтага нічога не было.

І я вельмі ганаруся тым, што ён вельмі добра ставіцца да мяне аж да сёньняшняга дня.

Але я яшчэ па-свойму трактую тое, што ў нас быў першы амбасадар Дэйвід Суорц. Ён «захварэў» Беларусьсю на ўсё жыцьцё. Я гляджу, што ён робіць у Злучаных Штатах Амэрыкі для Беларусі, для розных сыстэмаў адукацыі тут у Эўропе. Я гляджу, якую ён праяўляе актыўнасьць, як працуе ў Вінфілдзе ў Канзасе Беларускі цэнтар. Нічога б гэтага не было, каб не намаганьні першага амбасадара Злучаных Штатаў у Беларусі Дэйвіда Суорца. Мы павінны быць яму вельмі ўдзячныя.

Мне здаецца, што ён палюбіў Беларусь, зразумеў, што тут за людзі, — і гэта на ўсё жыцьцё. Я зь вялікай удзячнасьцю стаўлюся да яго, як і амаль усе тыя, хто яго ведаў.

*Лукашук:* Спадар амбасадар, вы маеце магчымасьць у гэты дзень 20-годзьдзя адкрыцьця амэрыканскай амбасады ў Менску зьвярнуцца да слухачоў Радыё Свабода, да грамадзянаў Беларусі.

*Суорц:* Па-першае, я вельмі крануты словамі спадара Шушкевіча. Было прыемна кантактаваць зь ім, калі ён быў лідэрам, кіраўніком сваёй дзяржавы. У ім я бачыў, так сказаўшы, звычайнага беларуса. Тысячы і тысячы беларусаў, зь якімі я быў у кантакце, выяўлялі тыя самыя каштоўнасьці, такі самы падыход да пытаньняў, як спадар Шушкевіч.

Па-другое, цяпер, на 20-я ўгодкі дыпляматычных дачыненьняў паміж Беларусьсю і ЗША, хацелася б выказаць ад усяго сэрца найлепшыя пажаданьні ўсім беларусам, дзе б вы ні былі, ва ўсіх кутках вашай краіны — ад мяне асабіста і ад маіх суграмадзянаў з Злучаных Штатаў.

Што датычыць мяне асабіста і Цэнтру беларускіх дасьледаваньняў, пра які згадваў спадар Шушкевіч, — я яшчэ раз хацеў бы паўтарыць, што ёсьць такая арганізацыя, ёсьць такія людзі ў ЗША, якія займаюцца Беларусьсю. І мы ня будзем забывацца пра Беларусь і беларусаў. Можаце быць упэўненыя, дарагія беларусы, у тым, што я і мае калегі вельмі вас паважаем і не забываемся пра вас і жадаем усяго самага найлепшага ў будучыні. Па магчымасьці мы будзем рабіць усё ад нас залежнае, каб ажыцьцявіць усё тое, што мы хацелі б бачыць у вашай краіне. Усяго найлепшага!

# Станіслава Шушкевіча ня выпусьцілі зь Беларусі

18 сакавіка 2012

*18 сакавіка на станцыі Гудагай на беларуска-літоўскай мяжы ссадзілі зь цягніка «Менск — Вільня» Станіслава Шушкевіча, старшыню Вярхоўнага Савету 12-га скліканьня.*

Памежнікі заявілі Станіславу Шушкевічу, што ён ня мае права выезду за мяжу, але не патлумачылі чаму.

«Сказалі, што ў Менску патлумачаць. Гэтая групоўка пры ўладзе парушае 30-ы артыкул Канстытуцыі, для іх яна ня пісаная. Увогуле гэта яшчэ і парушэньне маіх эканамічных правоў, бо на радзіме мне працаваць не даюць, я зарабляю, працуючы за мяжой, дык зараз і гэты шлях закрываюць. Гэта беззаконьне», — пракамэнтаваў Станіслаў Шушкевіч.

# Лукашэнка заявіў, што можа пасадзіць Шушкевіча «на ўсё астатняе жыцьцё»

21 сакавіка 2012

*На просьбу расейскіх СМІ Лукашэнка пракамэнтаваў забарону на выезд з краіны экс-сьпікера парлямэнту Беларусі Станіслава Шушкевіча.*

«Што тычыцца „выпусьцілі — ня выпусьцілі“. Сёньня ў Эўразьвязе прыняты сьпіс так званых „неўязных“, дзе і ваш пакорны слуга, і гэтак далей, і да таго падобнае. Гэты сьпіс прыняты з падачы нашай пятай калёны, якую ўзначальвае адзін зь яе кіраўнікоў — Станіслаў Станіслававіч Шушкевіч. Шушкевіч цяпер у вас робіцца ў РФ героем, ледзь ня кожны дзень на ўсіх каналах. Толькі вы не забывайце, што пры Шушкевічу ўсіх расейцаў пасадзілі на чамаданы. Яны ўжо ўсіх падзялілі: вось беларус, рускі, паляк. І калі б ня дрэнны Лукашэнка, то расейцам бы рабіць ужо ў Беларусі не было чаго. Вы гэта не забывайце. А што тычыцца яго палітыкі — ну, аднаго досыць акту, калі ён і Краўчук настойвалі перад тым на развале Савецкага Саюзу. Я ведаю занадта шмат пра Шушкевіча, і дастаткова было аднаго факту, каб ён зачыніўся на ўсё астатняе жыцьцё. Але я гэтага не рабіў і рабіць ня буду».

## «Яны змагаюцца з маім правам на жыцьцё»

06 красавіка 2012
Ганна Соўсь

*Першы кіраўнік незалежнай Беларусі адказаў на пытаньні Радыё Свабода.*

*Соўсь:* Найперш віншую вас з мэдалём Свабоды ад Фонду ахвяраў камунізму, якім вас уганаравалі ў Вашынгтоне, у які вы дабіраліся праз многія межы, у тым ліку і расейскую. Выглядае, што цяпер такі шлях для вас закрыты. Якая была ваша першая рэакцыя, калі вы даведаліся пра тое, што выезд з Расеі закрыты для тых, хто ня мае права выезду зь Беларусі?

*Шушкевіч:* Я пакуль што ня ўпэўнены, што так можа быць. Мне здаецца, што ўсё ж Расея прававая дзяржава і павінна пастунаць паводле права. Яшчэ тут існуе так званая «саюзная дзяржава». І думаю, што яны павінны дзейнічаць у адпаведнасьці з Канстытуцыяй, законамі і гэтак далей. Я буду вельмі зьдзіўлены, калі Расея будзе дзейнічаць такім чынам, як вы гаворыце.

*Соўсь:* Я абапіраюся на заяву кіраўніка памежнай службы фэдэральнай службы бясьпекі Расеі, генэрала арміі Пронічава, які сказаў, што выключаныя такія варыянты, калі грамадзянін Беларусі, які ня мае права выезду з краіны, уцякае на тэрыторыю Расеі і празь яе межы — у іншыя дзяржавы…

*Шушкевіч:* Я пакуль што ня маю адпаведнага досьведу. Рэч у тым, што ў мяне пэнсія складае 40 амэрыканскіх цэнтаў на месяц. Гэты наш галоўны вырашыў, што я да яго прыпаўзу на пузе прасіць, каб ён яе павысіў, таму што ён яе змарнаваў, зьнішчыў насуперак Канстытуцыі, насуперак закону. Я б сказаў, што я, у адрозьненьне ад яго, карыстаюся пэўным попытам у замежжы, чытаю лекцыі ва ўнівэрсытэтах. Дарэчы, і цяпер, калі я езьдзіў у Злучаныя Штаты, я гэта рабіў. А тут, значыцца, мне забараняецца зарабляць грошы на жыцьцё. Гэта значыць, змагаюцца з маім правам на жыцьцё, таму што іншае крыніцы прыбытку ў мяне няма. Ня ведаю, як тое можа быць, калі Расея лічыцца нейкай там прыстойнай дзяржавай.

## «Я нідзе не магу жыць, акрамя Беларусі»

*Соўсь:* Што ў гэтай сытуацыі вы будзеце рабіць? Падаваць у суд, каб вам прызначылі пэнсію як кіраўніку дзяржавы? Падаваць у суд, каб вам дазволілі выяжджаць за мяжу?

*Шушкевіч:* Ведаеце, я з гэтай уладай, якая парушае заканадаўства, парушае Канстытуцыю, трыццаты артыкул… Мне ж ніхто не сказаў, што я пазбаўлены права выезду, ніхто не паведаміў. Значыць, паводле Канстытуцыі я маю права выезду. Я не зьвяртаюся ў гэтыя інстанцыі, бо ведаю, што ўсе службы аднолькавыя. Яны працуюць па прынцыпе: мы дурні, таму што ў нас ёсьць кіраўнік. Ён наш начальнік, а мы выконваем тое,

што ён скажа, мы не зьвяртаем увагі на Канстытуцыю. Калі я сказаў капітану, які не выпускаў мяне ў замежжа: вы ўсьведамляеце, што вы парушаеце Канстытуцыю? Ён кажа: так, я ўсьведамляю. — А чаму ж вы яе парушаеце? — А калі я яе не парушу, то ў мяне жонка, дзеці, і з заўтрашняга дня я буду ў турме, калі я вас выпушчу ў замежжа.

*Соўсь:* Вы шмат разоў казалі пра тое, што не разглядаеце для сябе сытуацыю эміграцыі…

*Шушкевіч:* Я ня буду вам называць імёны высокапастаўленых асоб, і, дарэчы, ня толькі ў заакіянскай тэрыторыі, але і тут, на эўрапейскім кантынэнце, якія прапаноўвалі мне палітычнае сховішча на вельмі прыстойных умовах. Але я нідзе не магу жыць, акрамя Беларусі. Таму для мяне гэтага пытаньня не існуе. Я шмат людзей спатыкаю ў замежжы, якія захоўваюць беларускасьць, разьвіваюць беларускую культуру і якія заўважаныя там. Таму я нічога ня маю супраць тых, хто эміграваў, хто вымушаны быў эміграваць, хто ратаваўся шляхам эміграцыі. Але я іншага складу чалавек. Я магу жыць толькі ў Беларусі.

### «Расейскім уладам падабаецца тое, што тут робіцца»

*Соўсь:* Калі параўнаць сытуацыю з савецкім часам, то тады большая палова людзей былі невыязнымі, нават і не спрабуючы выехаць за мяжу. Як вам падаецца, ці дойдуць беларускія ўлады да тых савецкіх стандартаў, што да закрытасьці краіны?

*Шушкевіч:* У савецкі час была іншая Канстытуцыя, іншая кіраўнічая партыя, і сёньня гэта асуджана. Сталінізм і сталінскі камунізм, як і фашызм, асуджаныя сусьветна. Я ня ведаю такога пункту ў савецкай Канстытуцыі, што чалавек мае права свабодна выяжджаць за межы Савецкага Саюзу і вяртацца. А ў нашай Канстытуцыі, нават у гэтай Канстытуцыі, куцай, якая не адпавядае дэмакратычным нормам, трыццаты артыкул так і заяўляе, што грамадзянін Беларусі мае права свабодна пакідаць тэрыторыю Беларусі і свабодна вяртацца, калі хоча.

*Соўсь:* А ці былі вы невыязным за савецкім часам?

*Шушкевіч:* За савецкім часам я выконваў савецкае заканадаўства. Спачатку я ня меў сродкаў, каб куды-небудзь паехаць, і разумеў, што гэта абсалютна нерэальна. Але пасьля я накіроўваўся ў замежжа шмат разоў. Я тры разы быў у ГДР, быў у Югаславіі, праяжджаў праз Вугоршчыну і шмат разоў быў у Польшчы. Таму што я быў візыт-прафэсарам у тамтэйшых унівэрсытэтах. Так што я быў выязным у савецкі час.

*Соўсь:* Як вам падаецца, калі расейскія ўлады насамрэч пагадзіліся прызнаць беларускія сьпісы невыязных, чаму яны гэта зрабілі?

*Шушкевіч:* А расейскім уладам падабаецца тое, што тут робіцца. Цяпер у Расеі ёсьць нейкія крокі лібэралізацыі палітычнай. Напрыклад, новы закон аб партыях. Але вось каб там адміністрацыйны рэсурс працаваў так моцна, як ён працуе ў Беларусі, мне здаецца, ім хочацца. Расейскае

кіраўніцтва хоча такога ж самага. Яны хочуць рабіць усё, што захочуць. Пакуль што іх абмяжоўвае закон. У Беларусі нашага, як кажуць, адзінадушна абранага, праўда, фальшывым чынам, ніякі закон ня стрымлівае, у тым ліку ў справе дазволу выезду за мяжу.

*Соўсь:* Калі абмежаваны выезд за мяжу, застаецца камунікацыя праз інтэрнэт. Магчыма, вы зможаце чытаць лекцыі праз вэб-камэру скайпу?

*Шушкевіч:* Пра што вы гаворыце! Вы ведаеце, што гэта тое самае, што мець каханьне праз інтэрнэт. Патрэбны нармальны кантакт з аўдыторыяй… Я зараз за шэсьць дзён побыту ў Злучаных Штатах прачытаў сем лекцыяў, і для мяне галоўнае — тое, пра што казаў Сэнт-Экзюпэры: найвялікшая раскоша — гэта радасьць чалавечых узаемінаў. У інтэрнэце многа рознай інфармацыі, чалавек можа вучыцца ў інтэрнэце. Асабіста я многаму магу навучыць. Але праз інтэрнэт — значна меней.

## «Пуцін забыўся пра ГУЛАГ і аднаўляе СССР»

22 лістапада 2012
Міхась Скобла

*У маскоўскім выдавецтве «Росспэн» выйшлі ў сьвет успаміны Станіслава Шушкевіча «Маё жыцьцё, крах і ўваскрошаньне СССР». Першы кіраўнік незалежнай Беларусі прысьвячае нямала старонак свайму радаводу, прыгадвае сваю навуковую і палітычную дзейнасьць. Расказваецца ў кнізе і пра падзеі ў Белавескай пушчы ў сьнежні 1991-га. Аўтар мэмуараў — госьць «Вольнай студыі».*

*Скобла:* Станіслаў Станіслававіч, чаму вашыя мэмуары выйшлі ў Маскве, а не ў Беларусі?

*Шушкевіч:* У Беларусі быў выдавец, які хацеў выдаць маю кнігу. Ён падрыхтаваў яе да выданьня яшчэ ў сакавіку гэтага году, але пасьля прызнаўся: «Мне сказалі, што кніга Шушкевіча будзе апошняй, якая пабачыць сьвет у маім выдавецтве». І я зразумеў, што лепш выдаць яе ў замежжы. Дарэчы, «Росспэн» («Расейская палітычная энцыкляпэдыя») — гэта вельмі прэстыжнае выдавецтва.

*Скобла:* Калі вы сказалі, што вашу кнігу не адважыліся выдаць беларускія выдаўцы, я прыгадаў, што і папярэднія вашы кнігі траплялі пад забарону.

*Шушкевіч:* Так, за «Нэакамунізм у Беларусі» (выйшла ў 2002-м у Смаленску) супраць мяне хацелі нават распачаць судовую справу. Дэтэктыўная гісторыя была з кніжкай Класкоўскіх пра мяне. Калі Кебіч як старшыня ўраду даў загад зьнішчыць увесь наклад гэтай кнігі, мне патэлефанаваў незнаёмы чалавек і сказаў, што хоча са мной сустрэцца. Калі мы сустрэліся, ён мне паведаміў, што атрымаў загад зьнішчыць маю кнігу — 1500 асобнікаў. Чалавек прапанаваў такі варыянт: ён складзе акт аб зьнішчэньні, а я забяру кнігі ў свае «жыгулі». Што я і зрабіў. І па сёньняшні дзень усім, хто цікавіцца, хто я такі і адкуль, я магу падараваць тую ўратаваную кнігу.

## «Гарбачоў быў савецкім чалавекам»

*Скобла:* Назва вашых мэмуараў трохступеньчатая — «Маё жыцьцё, крах і ўваскрошаньне СССР». Я не зусім зразумеў апошняе — хіба Савецкі Саюз можа ўваскрэснуць?

*Шушкевіч:* Вы хіба жартуеце? Жывучы ў Беларусі, нельга не заўважыць, што ўваскрошаньне Савецкага Саюзу адбылося ў Беларусі ў значнай ступені. Калі мы будзем разглядаць нашу краіну як таталітарную дзяржаву і г.д., то гэта абсалютнае ўваскрошаньне. Больш за тое, пасьля таго як Пуцін распавёў, што распад СССР — найвялікшая трагедыя… Забыўся ён, прафэсійны шпіён, пра ГУЛАГ, пра пакуты мільёнаў людзей. Пуцін аднаўляе СССР, бо ў Расеі пачынаюць панаваць тыя прынцыпы, якія панавалі ў Савецкім Саюзе.

А калі СССР недзе ўваскрос, то ёсьць пагроза і для астатніх.

*Скобла:* Адначасова з вашымі мэмуарамі ў сьвет выйшлі і мэмуары Міхаіла Гарбачова. Дык вось ён піша, што першым вестку зь Белавескай пушчы пра тое, што Савецкі Саюз перастаў існаваць, атрымаў ня ён, а прэзыдэнт ЗША Джордж Буш. Чаму вы тады вырашылі так прынізіць Крэмль?

*Шушкевіч:* Гэта няпраўда. Гарбачоў хлусіць, я тлумачу ў сваёй кніжцы, як усё адбывалася. Мы ўтрох — Ельцын, Краўчук і я — вырашылі, што Гарбачову павінен патэлефанаваць Шушкевіч, таму што ў мяне зь ім заўсёды былі нармальныя адносіны. Я патэлефанаваў. Доўга ніхто ня браў слухаўку, а пасьля адгукнуўся нейкі афіцэр сувязі ці нехта, хто быў у пакоі побач з Гарбачовым, і пачаў дапытвацца, хто я такі і адкуль званю. А мы дамовіліся так: як толькі я паведамлю Гарбачову, то адразу ж Ельцын патэлефануе Бушу. І вось я гавару то з адным чалавекам, то з другім, а Гарбачова ня чую. Ніхто іншы ня мог тэлефанаваць зь Белавескай пушчы з таго тэлефона — толькі я, Ельцын і Краўчук. А Гарбачоў ведаў, што мы там сабраліся. Нарэшце ён узяў слухаўку. Я патлумачыў, што адбылося, ён зрабіў паўзу і сказаў такім павучальным тонам: «А вы можаце сабе ўявіць рэакцыю міжнароднай супольнасьці на гэтую вашу акцыю?» Я кажу: «Вы ведаеце, нічога страшнага. Барыс Мікалаевіч цяпер размаўляе з Бушам, і той усё ўспрымае станоўча». Я разумею, чаму Гарбачоў так гаварыў. Спачатку і Буш, і

Тэтчар, і Коль былі супраць так званага сэпаратызму. Яны не разумелі, што міжнацыянальныя адносіны ў СССР былі ў стане вялікага напружаньня. Трэба было знайсьці спосаб, каб разьвязаць гэты вузел. І мы ў Віскулях знайшлі гэты спосаб. Але не такім лабавым чынам, як бачыў гэта Гарбачоў. Ён жа, калі зьяўляліся дэкларацыі аб незалежнасьці ў саюзных рэспубліках, кожны раз падпісваў указ аб неадпаведнасьці такой дэкларацыі Канстытуцыі СССР! Гарбачоў быў савецкім чалавекам, як і ўсе мы, але ў ім гэтая савецкасьць праяўлялася ў найбольшай ступені.

### «Беларускага варыянту Белавескага пагадненьня няма ў дэпазытарыі МЗС»

*Скобла:* Летась да дваццатых угодкаў падзеяў у Белавескай пушчы афіцыйны беларускі тэлеканал ОНТ прысьвяціў ім паўтарагадзінны этэр. Ваша імя там не прагучала ні разу. Галоўным выступоўцам і сьведкам быў Пётра Краўчанка. Ці сапраўды ён адыгрываў у Віскулях такую істотную ролю?

*Шушкевіч:* Краўчанка ўваходзіў у групу экспэртаў, якая ноччу рыхтавала праект пагадненьня. Але ён быў не на тым узроўні, каб наўпрост кантактаваць з нашай шасьцёркай, якая часта не пагаджалася з тымі ці іншымі фармулёўкамі. Скажам, мы чытаем артыкул першы, нам нешта не падабаецца, мы выклікаем экспэрта, які рыхтаваў той артыкул. Заходзіць, напрыклад, Шахрай. Мы яму тлумачым. Ён выходзіць, потым вяртаецца

з новым варыянтам… Урэшце артыкул прымаецца кансэнсусам. Дзьве асобы былі там галоўнымі — Шахрай і Гайдар. Што да Краўчанкі, то ён ня выканаў свой сьвяты абавязак. Перачытайце перадапошні артыкул пагадненьня. Што там напісана? Дакумэнт складзены на расейскай, беларускай і ўкраінскай мовах і падпісаны, і кожны экзэмпляр мае аднолькавую сілу. Я нядаўна пісаў ліст у Міністэрства замежных спраў, хацеў на беларускай мове ўзяць першасны варыянт. Ведаеце — там яго няма. Мне прыслалі на расейскай мове. І вось тут у мяне вялікае падазрэньне, што беларускі варыянт заціснуў Краўчанка, як і ўкраінскі. Таму што ён вельмі хоча мець розныя ўнікальныя дакумэнты, а важкасьць Белавескага пагадненьня зь цягам часу расьце. А дакумэнт гэты павінен захоўвацца ў дэпазытарыі Міністэрства замежных спраў.

*Скобла:* Пятро Краўчанка — бібліяфіл, знаны зьбіральнік старых беларускіх кніг і рукапісаў. Гэта агульнавядома, але каб…

*Шушкевіч:* Учыніць злачынства? Я вам яшчэ раз кажу — беларускага варыянту Белавескага пагадненьня няма ў дэпазытарыі міністэрства, якое ўзначальваў Краўчанка. Хутчэй за ўсё, ён яго прысвоіў. Ён меў на гэта час і магчымасьці, нам было не да гэтага. Краўчанка ведае вагу і каштоўнасьць гэтага дакумэнту.

## «Калі на тэрыторыі Беларусі ўжо была дзяржава — Полацкае княства, — расейцы яшчэ ня ведалі, як дзяржавай кіраваць»

*Скобла:* Нягледзячы на тое, што мэмуары вашы выйшлі ў Маскве, вы крытычна ставіцеся да крамлёўскай палітыкі. Гаворыце нават пра расейскі комплекс непаўнавартаснасьці ў дзяржаўным будаўніцтве. У чым ён палягае?

*Шушкевіч:* Вось глядзіце — першае ўпамінаньне пра Полацкае княства датуецца 862 годам. А ў мяне ўвесь час сядзіць у галаве 861 год, калі наўгародцы зразумелі, што самі дзяржавай кіраваць ня могуць, і запрасілі Рурыкаў. Заўважце, з таго часу аж да 12 чэрвеня 1991 году Расея ніколі не абірала расейскага кіраўніка сваёй дзяржавы. Калі на тэрыторыі Беларусі ўжо была дзяржава — Полацкае княства, — расейцы яшчэ ня ведалі, як дзяржавай кіраваць. Дык чаму не пажартаваць на гэтую тэму?

*Скобла:* Ці не праявай згаданага вамі расейскага комплексу быў вядомы падарунак Ельцына ў Вярхоўным Савеце Беларусі — гэтак званая Аршанская грамата?

*Шушкевіч:* І пра гэта гаворыцца ў маёй кнізе, але ў зусім інакшым аспэкце. Справа ў тым, што Ельцына падвяла яго каманда. І я думаю, што не было тады ў той камандзе дасьведчаных людзей, якія належным чынам патлумачылі б, што гэта за грамата. Ельцын думаў, што ён робіць добрую справу, паказвае, што мы даўно разам, што мы даўно ўзаемадзейнічаем і г.д. Але тут выдатны

гісторык і дэпутат Голубеў устаў і сказаў, што значыць для беларусаў тая грамата, і да яго словаў далучыліся ўсе. Трэба сказаць, што ў Вярхоўным Савеце 12-га скліканьня інтэлектуальны ўзровень быў вельмі высокі. Я б не сказаў што сярэдні ўзровень усіх дэпутатаў, але была такая група, дзе сканцэнтраваліся і мовазнаўцы, і гісторыкі, і палітолягі, і знаўцы нацыянальных пытаньняў. І таму яны задавалі тон, і камуністы вымушаныя былі іх слухаць. Фракцыя БНФ налічвала ўсяго 25 чалавек, але яны былі ініцыятарамі многіх прагрэсіўных законаў.

## «Страты, якія нанесьлі нашай літаратуры бальшавікі, адчуваюцца і сёньня»

*Скобла:* У сваіх мэмуарах вы даволі скептычна выказваецеся пра ўдзел беларускіх пісьменьнікаў у палітыцы…

*Шушкевіч:* Такога ў мяне няма, я так не выказваюся.

*Скобла:* Прабачце, вось цытата: «Большасьць пісьменьнікаў і сёньня ня маюць адчувальнай палітычнай дасьведчанасьці. Бяз стомы павучаючы, яны не спрабуюць разабрацца ў азах паліталёгіі нават на ўзроўні падручнікаў сучаснай сярэдняй школы».

*Шушкевіч:* Я ня толькі да пісьменьнікаў маю такую прэтэнзію. Але тут я адразу выключаю нашых вялікіх пісьменьнікаў. Я ня маю маральнага права мець прэтэнзіі да вялікага Быкава, да вялікага Караткевіча, да вялікага Барадуліна —

гэта для мяне сьвятыя постаці. Але, ведаеце, у сучаснай беларускай літаратуры няма таго, што прываблівала б сёньняшнюю моладзь. Вельмі добра апісваецца мінуўшчына: родная вёска, рэчка, маці, бліны і г.д. Дык пра гэта напісаў яшчэ Якуб Колас! Вы ж далей гэта слабей разьвіваеце. А хто зь пісьменьнікаў сёньня паказвае, да чаго павінны імкнуцца людзі, чаго можна дасягнуць, калі мы будзем захоўваць беларускія традыцыі і ісьці беларускім шляхам? Няма такіх.

*Скобла:* Ёсьць. І нямала. Магчыма, вы проста мала знаёмыя з творчасьцю тых, каму сёньня 30–40 гадоў.

*Шушкевіч:* Я сваю кнігу прысьвяціў моладзі і напісаў так: не паўтарайце нашых памылак. Я добра стаўлюся да беларускіх пісьменьнікаў, але ўпэўнены, што тыя страты, якія нанесьлі нашай літаратуры бальшавікі, адчуваюцца і сёньня. Я не ў захапленьні ад тых пісьменьнікаў, якія выяжджаюць у замежжа, там бязьбедна жывуць і падказваюць адтуль, як нам жыць. Мне гэта не падабаецца. Такіх падказчыкаў хутка забудуць.

## «Такога ўзроўню хлусьні, якую генэруе Лукашэнка, больш не знайсьці»

*Скобла:* У іменным паказьніку вашых мэмуараў — больш за 500 імёнаў. Назавіце дзьве асобы са знакам плюс і дзьве са знакам мінус. Маю на ўвазе тых людзей, зь якімі вы былі добра знаёмыя.

*Шушкевіч:* На першае месца са знакам плюс я пастаўлю Ельцына як палітыка. А зь пісьмень-

нікаў я на першае месца пастаўлю Барадуліна — ён для мяне сьвяты чалавек.

*Скобла:* А якая самая вялікая заслуга Ельцына?

*Шушкевіч:* Самая вялікая заслуга Ельцына ў тым, што ён не мітусіўся і не адступаў ад таго, што гаварыў. У яго не было такога, што ён гаварыў адно, а рабіў другое.

*Скобла:* А хто ў вас заслугоўвае мінусы?

*Шушкевіч:* Са знакам мінус першым я называю Лукашэнку, а другім — Кебіча. Такога ўзроўню хлусьні, якую генэруе Лукашэнка, больш не знайсьці. А Кебіч — гэта найвялікшы ўзровень крывадушша. Я нават ня маю на ўвазе яго мэмуары, якія ён, дарэчы, ня сам пісаў. Я маю на ўвазе яго паводзіны. Ён пачынае, напрыклад, гаварыць, што я здрадзіў бацьку, калі ён быў арыштаваны і высланы. Кебіч ужо ўзяў гэта на ўзбраеньне, ён не заўважае, што робіць.

*Скобла:* Сэнсацыйна выглядае ў вашай кнізе згадка пра ўнука Янкі Купалы, зь якім вы сустракаліся ў ЗША. Гэта сапраўды ўнук паэта?

*Шушкевіч:* Так, Вісьвідас Матуліс — гэта ўнук Янкі Купалы. Яго бацька — пазашлюбны сын паэта.

*Скобла:* Ад каго?

*Шушкевіч:* Я ніколі не задаю такіх далікатных пытаньняў. Але ўся беларуская дыяспара ў Злучаных Штатах пра гэта ведае, ведае таксама амбасадар Літвы ў ЗША. Яны нас і пазнаёмілі, я зь ім гаварыў. Вісьвідас ведае, чый ён унук, і шкадуе, што ня вельмі добра валодае беларускай мовай.

*Скобла:* Урывак вашых мэмуараў нядаўна перадрукавала «„Комсомольская правда“ в Беларуси». У тым самым нумары зьмешчанае інтэрвію сатырыка Міхаіла Жванецкага пад кідкім загалоўкам: «Усе мэмуары праўдзівыя, апрача прэзыдэнцкіх». Што скажаце на гэты конт?

*Шушкевіч:* Пра тое, што выйшла мая кніга, Жванецкі ня ведаў. Відаць, ён мае на ўвазе мэмуары Гарбачова… Дарэчы, мы са Жванецкім знаёмыя. А яшчэ адзін мой добры знаёмец у гэтым жанры — Хазанаў. Шчыра кажучы, што на сцэне, што ў жыцьці — гэта сапраўдныя гумарысты. Ні пра кога іншага я такога сказаць не магу.

*Скобла:* І апошняе пытаньне — ці будзе беларускі варыянт вашых мэмуараў?

*Шушкевіч:* Кніга перакладзеная ўжо на беларускую мову. Я сам гэта зрабіў. Прызнаюся, мне і пісаць яе па-беларуску было б лягчэй. Чаму напісаў усё ж па-расейску? Вы ж ведаеце, я пэнсіі ня маю. Лукашэнка пазбавіў мяне пэнсіі сваім хітрасплеценым указам. А тут для маёй кнігі знаходзіцца расейскі выдавец, знаходзіцца падтрымка. Але я вельмі хачу, каб мая кніга выйшла на беларускай мове. Шукаю штодзень такія магчымасьці, маю пэўныя прапановы і думаю, што ў бліжэйшы час гэта стане рэальнасьцю.

## «Мяне бесіць, калі кажуць, што незалежнасьць нам прынесьлі на сподачку»

07 сьнежня 2012

*Ад новага году штодня ў этэры Радыё Свабода будуць гучаць успаміны Станіслава Шушкевіча.*

*Але адна частка мэмуараў былога старшыні Вярхоўнага Савету прагучыць 8 сьнежня, у дзень, калі ў 1991 годзе сьвет даведаўся пра распад СССР. Пад дакумэнтам пра ліквідацыю камуністычнай імпэрыі подпісы ад імя незалежнай Беларусі паставілі сьпікер Станіслаў Шушкевіч і тагачасны прэм'ер-міністар Вячаслаў Кебіч. Напярэдадні спадар Шушкевіч расказаў пра сваю мэмуарную кнігу і пра месца, якое ў ёй займаюць сьнежаньскія 1991 году падзеі ў Віскулях.*

*Шушкевіч:* Ведаеце, я больш за ўсё баяўся пісаць мэмуары, таму што гэта ўжо канец жыцьця… Я як бы расказваю пра сваё жыцьцё, а гэтыя лірычныя адступленьні — гэта альбо палітычныя падзеі, альбо, наадварот, гаворка ідзе пра палітычныя падзеі і нешта іншае ўзьнікае. Прыкладам, я паехаў у Сібір, дзе на адным з заводаў робяць мой прыбор вельмі даўняй канструкцыі, а там я сустракаю вядомага акадэміка. І ён на мяне робіць такое ўражаньне! Ну, але не пісаць жа мне асобны разьдзел пра гэтага акадэміка, таму што гэта ня вельмі цікава, а калі гэта ўпісана ў іншы тэкст… І вось я рабіў такую мяшанку.

…Мяне проста бесіць, калі кажуць, што нам гэтую незалежнасьць прынесьлі на сподачку і што мы ня ведаем, што зь ёю рабіць, — гэта проста забыліся людзі, што за гэтую незалежнасьць злажыла свае галовы так многа дзеячоў беларускай літаратуры, культуры, простых беларусаў, простых сялян, што нельга гэтага ня памятаць. Гэтыя людзі загінулі, каб Беларусь была незалежнай, і мне здалося, што трэба пра гэта сказаць.

А да таго ж былі такія пачвары!.. Напрыклад, Панамарэнка. Я калі знайшоў у інтэрнэце яго ліст да таварыша Сталіна — ну, большай пачвары на дзяржаўным узроўні Беларусі я ня ведаю. І калі яго імя прысвоена вуліцы — гэта кажа пра непісьменнасьць нашай улады, кіраўнікоў гораду. Я ж ня буду даваць ім парады гэта зьмяніць — я проста пішу, што тады было, як гэта можна было ўспрыняць. Проста мне набалела.

# «Хлопцы, дык вы не працуеце з народам, — значыць, нічога і ня ведаеце пра ягоную думку»

28 траўня 2013
Віталь Цыганкоў

*Кампанія «Гавары праўду», рух «За свабоду» і партыя БНФ абвясьцілі пра стратэгічнае партнэрства дзеля правядзеньня «Народнага рэфэрэндуму». Галоўнай мэтай кампаніі павінна стаць аб'яднаньне дэмакратычнай апазыцыі і актывізацыя грамадзтва дзеля дэмакратычных зьменаў у краіне. Аднак ужо першыя рэакцыі іншых апазыцыйных палітыкаў паказалі, што гэтая ініцыятыва не прывяла да аб'яднаньня. У перадачы «Праскі акцэнт» удзельнічаюць намесьнік кіраўніка руху «За свабоду» Юрась Губарэвіч, старшыня Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады Станіслаў Шушкевіч і намесьнік старшыні КХП-БНФ Юрась Беленькі.*

## «У мяне вялікі недавер да гэтай „тройкі"»

*Шушкевіч:* Нельга ўдзельнічаць у тых мерапрыемствах, якія робяць легітымнымі нелегітымную ўладу. А ў гэтых людзей, вы мяне прабачце, няма ніякага жаданьня аб'яднаць апазыцыю альбо выказаць нейкую плятформу. У іх такая блытаніна ў галаве… Калі яны гавораць, што зробяць народны рэфэрэндум, то я хачу ім параіць пачытаць Канстытуцыю пра тое, хто аб'яўляе рэфэрэндум.

Вы будзеце са скуры лезьці, зьбіраць подпісы, але гэта ня зрушыць справу.

У мяне вялікі недавер да гэтай «тройкі». Нельга дзейнічаць на жаданьні некаму даказаць, што мы можам быць карыснымі беларускай дэмакратыі і вы мяне падтрымайце за гэта. Я не давяраю гэтым людзям і выказаў менавіта свой пэрсанальны недавер.

*Губарэвіч:* Калі шчыра, я нават ня ведаю, на што і як тут адказваць. Папрокі мы чуем, недавер чуем — але што ў сухім астатку? Бо ёсьць ініцыятыва. Добрая ці кепская — пакажа час і наша яе рэалізацыя. Але мы ня чуем заўвагаў менавіта па сутнасьці гэтай ініцыятывы і нейкіх канкрэтных прапановаў.

Я б хацеў нагадаць паважанаму Станіславу Станіслававічу іншы артыкул Канстытуцыі, дзе сказана, што адзінай крыніцай улады ў Беларусі зьяўляецца народ. І менавіта да народу мы зьбіраемся апэляваць, праводзячы кампанію «Народны рэфэрэндум».

*Шушкевіч:* Вы пярэчыце самі сабе. Вы нібыта зьвяртаецеся да народу, хочаце ад яго пачуць, што вам рабіць. Гэта значыць, што вы перасталі быць лідэрам.

Вы перасталі быць лідэрам асабіста, калі разбурылі БНФ, сапраўдны Фронт. Трэба пакаяцца, адрадзіць сапраўдныя структуры, а потым гаварыць пра аб'яднаньне. Калі няма ў Фронце Cадоўскага, Марачкіна, Хадыкі, вядомых, прыстойных людзей, бо яны вымушаныя былі пакінуць БНФ, — пра які Фронт вы гаворыце?

Я вітаю Беленькага. У іх, у КХП, ёсьць свая пазыцыя, сваё разуменьне таго, хто разбурыў і калечыць Фронт.

## «У палітыцы вырашаюць кампрамісы»

*Цыганкоў:* Спадар Шушкевіч, я проста хачу нагадаць адну рэч. Вы тут так горача выступаеце за БНФ, але ў пачатку і сярэдзіне 90-х у вас з БНФ былі вялікія разыходжаньні. Многія з БНФ менавіта вас лічаць галоўным ворагам, які заваліў рэфэрэндум у 1992 годзе і стаў прычынай паразы беларускай дэмакратыі ў 1994-м…

*Шушкевіч:* Вы не паўтарайце тое, што піша і гаворыць ваш сябра Навумчык. Ён вышуквае нейкія дробныя дэталі ў пратаколах… У мяне была свая пазыцыя. Цудоўна, што існаваў БНФ. Я зь ім ніколі ня быў на сто працэнтаў салідарным. Што да нацыянальнага пытаньня, — яны заўсёды былі сымбалем і сьцягам. Але Пазьняк быў непахісным, і да сёньня застаўся. Аднак у палітыцы вырашаюць кампрамісы, а ён не ішоў на кампрамісы.

Народ не абраў ніводнага прадстаўніка БНФ у Вярхоўны Савет 13-га скліканьня. Як я ні стараўся, каб Фронт быў крыху больш гнуткім, — ён ня стаў гнуткім. Яны пачалі больш працаваць у Вярхоўным Савеце і перасталі працаваць з народам. Гэта было ўпушчэньне.

## «Удзел у рэжымных выбарах — гэта подыгрыш рэжыму»

*Цыганкоў:* Той БНФ раскалоўся яшчэ ў 1999 годзе, і ад таго часу кіраўніцтва КХП-БНФ называе большую частку беларускай апазыцыі «псэўдаапазыцыяй». Спадар Беленькі, ці можаце вы ўсёткі назваць у сёньняшнім палітычным краявідзе саюзьнікаў, якія блізкія вам у палітычным сэнсе? Ці КХП-БНФ стаіць асобна ад усіх іншых партыяў і мае свае асобную стратэгію?

*Беленькі:* Вернемся ў 2010 год. 10 кандыдатаў ідуць на так званыя «прэзыдэнцкія выбары», і толькі адна палітычная структура — КХП-БНФ — пасьлядоўна і ясна заяўляе: «Толькі байкот!». Бо ўдзел у рэжымных выбарах — гэта подыгрыш рэжыму. Фактычна ўсе ўдзельнікі выбараў рабілі падтанцоўку рэжыму. Так яно і атрымалася — рэжым абвясьціў чарговую перамогу, а тых людзей, якім (дзеля таго каб прыцягнуць выбаршчыкаў) дазволіў з экранаў тэлевізараў крытыкаваць рэжым, — пасадзіў у турму, расправіўся. Праўда, некаторыя, як высьветлілася, ад пачатку працавалі на ўлады…

## «Байкот наўрад ці падтрымаюць Эўропа і Амэрыка, якія не разумеюць сытуацыю тут»

*Цыганкоў:* Спадар Шушкевіч, вось вы зрабілі раней камплімэнт Юрасю Беленькаму, аднак ён, тым ня менш, рашуча скрытыкаваў тых, хто браў

удзел у выбарах 2010 году. Вы, як вядома, бралі актыўны ўдзел у кампаніі кандыдата Андрэя Саньнікава. Ці лічыце вы, што менавіта няўдзел у наступных выбарах павінен стаць стратэгічным падыходам апазыцыі? Калі так, то якім чынам трэба дабівацца пераменаў у краіне?

*Шушкевіч:* Палітыка байкоту шмат разоў разглядалася. Але я б сказаў, што на прэзыдэнцкіх выбарах мы яшчэ не сасьпелі, каб мабілізаваць грамадзтва на байкот. Трэба было паказаць людзям, што ў нас выбараў даўно няма. Мы, палітыкі, гэта ведаем, але ня ўсе людзі гэта ведаюць.

Пэўную працу станоўчую ў гэтым накірунку КХП-БНФ зрабіла. Але яе мала хто слухае. Тыя палітычныя структуры, якія хочуць знайсьці нейкія сродкі, каб існаваць, — яны ніколі ня будуць за байкот. Бо байкот наўрад ці падтрымаюць Эўропа і Амэрыка, якія не разумеюць сытуацыю тут. Бо яны кажуць — «ах, у вас усё-ткі ж ёсьць выбары». І пазыцыя КХП-БНФ тут значна больш прыстойная.

Байкот на сёньня — вельмі зайздросная прапанова. Але трэба працаваць, каб ён быў. Вось дзеля гэтага і можна аб’яднацца.

*Цыганкоў:* Спадар Шушкевіч, хачу ўдакладніць адну рэч, наконт легітымізацыі ўлады. Дапусьцім, мы стараемся нават не называць Лукашэнку прэзыдэнтам, ужываем словы «кіраўнік краіны», «афіцыйны лідэр». Але дэ-факта ён кіруе краінай, паслы яму ўручаюць даверчыя граматы. Зь іншага боку, заходнія структуры не прызнаюць беларускія парлямэнцкія структуры, пытаньне пра

іхную легітымізацыю, здаецца, нідзе не стаіць. Што могуць «легітымізаваць» сваёй дзейнасьцю, удзелам ці няўдзелам, беларускія апазыцыянэры?

*Шушкевіч:* Лукашэнка ўтрымлівае ўладу з пазыцыі сілы і страху, з пазыцыі падтрымкі Расеі. Гэта лабавое парушэньне Канстытуцыі, таму ён нелегітымны. Палітыкі павінны шукаць шлях, як зрабіць, каб у нас была легітымная, абраная народам улада.

*Цыганкоў:* Спадар Шушкевіч, які шлях да пераменаў вы бачыце найбольш актуальным?

*Шушкевіч:* Давайце шукаць гэты шлях. Але выступіць з ініцыятывай, ня ўносячы пытаньняў рэфэрэндуму, маўляў, мы спытаем у народу… Хлопцы, дык вы не працуеце з народам — значыць, нічога і ня ведаеце пра ягоную думку.

## «Лепшага арганізатара за Івашкевіча я проста ня ведаю»

5 кастрычніка 2013
Іна Студзінская

*У Менску разьвіталіся з адным з заснавальнікаў БНФ Віктарам Івашкевічам.*

Пра Віктара Івашкевіча ўзгадвае Станіслаў Шушкевіч: «Зь ім было прыемна спрачацца на карысьць справы. Знаходзілі заўсёды рашэньне. Для мяне ён застанецца назаўсёды чалавекам, верным нашай беларускасьці, нашым дэмакратычным прынцыпам. І лепшага арганізатара, чым ён, я проста ня ведаю. Калі ўсе прыціхлі, здавалася б, нічога няма, — нейкая акцыя ўзьнікае. Глядзіш, Віктар ужо ўсіх сабраў, усе паспрачаліся, а потым выпрацавалі адзіны падыход. Нам вельмі будзе яго не хапаць».

# Шушкевіча аштрафавалі на 6 мільёнаў 300 тысяч рублёў

15 траўня 2016

*У судах Менску пачаліся працэсы над удзельнікамі Беларускага нацыянальнага кангрэсу, які прайшоў у менскім сквэры Янкі Купалы 15 траўня.*

Адным зь першых быў асуджаны да штрафу былы старшыня Вярхоўнага Савету Станіслаў Шушкевіч. Судзьдзя Цэнтральнага раённага суду Вікторыя Шабуня прызнала яго вінаватым ва ўдзеле ў несанкцыянаванай вулічнай акцыі і аштрафавала на 30 базавых велічынь, гэта 6 мільёнаў 300 тысяч рублёў.

Сам Станіслаў Шушкевіч на судзе не прысутнічаў — ён знаходзіцца ў Польшчы, дзе ўдзельнічае ў канфэрэнцыі.

Назіральнікі адзначаюць вялікі штраф, якім пакаралі вядомага палітыка, першага кіраўніка Беларусі з часоў здабыцьця незалежнасьці. Звычайна беларускія суды выносяць падобныя пакараньні за шматразовыя парушэньні закону аб масавых мерапрыемствах. Між тым Станіслаў Шушкевіч прыцягваўся да адказнасьці паводле гэтага закону больш за 10 гадоў таму, да таго ж быў апраўданы.

Устаноўчы сход Беларускага нацыянальнага кангрэсу прайшоў пад адкрытым небам 15 траўня, паколькі гарадзкія ўлады не далі дазволу на правядзеньне сходу ў памяшканьні.

## «Элітная частка насельніцтва была прарасейскай і ня вельмі хацела, каб у нас была незалежнасьць, каб была беларуская Беларусь»

29 жніўня 2016
Ганна Соўсь

*У цыклі «Пасьля СССР. 25 гадоў незалежнасьці» — інтэрвію зь першым кіраўніком Беларусі Станіславам Шушкевічам, чые імя назаўсёды застанецца ў гісторыі як аднаго з падпісантаў Белавескіх пагадненьняў, у выніку якіх Савецкі Саюз спыніў існаваньне.*

*Соўсь:* Станіслаў Станіслававіч, а ці магло б быць інакшай — ці мог бы СССР існаваць і сёньня?

*Шушкевіч:* Ні ў якім разе. У той форме, у якой існаваў тады, пасьля жнівеньскага путчу ён фактычна перастаў быць кіруемай дзяржавай. Хаця Савецкі Саюз існуе ў галовах нашых людзей, у тым ліку і ў галовах беларусаў, таму што многія звычкі Савецкага Саюзу засталіся. Савецкая мэнтальнасьць, якую падтрымлівае наша прапаганда, застаецца ў галовах людзей і перашкаджае добраму рэфармаваньню краіны.

*Соўсь:* Працягніце фразу: «Незалежнасьць — гэта…»

*Шушкевіч:* Незалежнасьць — гэта ўсьведамленьне таго, што мы незалежныя. Юрыдычна мы незалежныя. Усё дэ-юрэ адбылося ў Белавескай пушчы. Але сумленьне наша вельмі залежнае.

І было залежнае ў многіх дзяржаўных дзеячоў, у таго самага Кебіча, Мясьніковіча… Яны не ўяўлялі, што мы можам існаваць без Расеі, так ужо перлі наперад, каб засталася ў нас расейская валюта, што стрымаць іх было цяжка. Прыйшлося аб'яднацца з Багданкевічам, каб супрацьстаяць гэтай прарасейскай навале з боку нашых кіраўнікоў.

## «Сымболіка, герб і сьцяг, зацьвярджалася вельмі цяжка»

*Соўсь:* Тагачасны старшыня Вярхоўнага Савету БССР Мікалай Дземянцей, які фактычна падтрымаў путч, быў вымушаны пакінуць гэтую пасаду. 25 жніўня 1991 году вы як ягоны намесьнік старшынявалі на той гістарычнай сэсіі, на якой Дэкларацыі аб сувэрэнітэце быў нададзены статус закону. Зянон Пазьняк піша, што ніколі ў жыцьці не адчуваў такой радасьці, як увечары 25 жніўня 1991 году. А вы памятаеце свае адчуваньні ў той дзень? Што найперш згадваецца, што стаіць перад вачыма?

*Шушкевіч:* Як ні дзіўна, мне найперш згадваецца той самы Мікалай Іванавіч Дземянцей. Па маім перакананьні, ён быў прыстойным чалавекам камуністычнага выхаваньня і з камуністычнай галавой. Ён мне тлумачыць: «Я тэлефанаваў Лук'янаву. Гэта ніякі ня путч». Я думаю: «Божа ты мой, ты ў Лук'янава пытаесься, што адбылося ў Маскве, калі Янаеў на чале, калі Старадубцаў з тых агідных народных дэпутатаў СССР там

удзельнічае… А ты цешысься, што Лук'янаў…» Мне шкада яго проста.

Сымболіка, герб і сьцяг, зацьвярджалася вельмі цяжка. Каб аднаго голасу не дабралі, яна не існавала б у нас некалькі гадоў. А так праіснавала.

*Соўсь:* Тады вы фактычна сталі кіраўніком Беларусі. А можаце згадаць, які ў вас быў заробак? Што вы маглі сабе на яго дазволіць?

*Шушкевіч:* Я ня памятаю гэта ўсё ў лічбах. Але калі я ў тыя часы пабываў у CERN у Швайцарыі, дзе працавалі мае студэнты, і нават ня лепшыя студэнты, якія выконвалі функцыі тэхнікаў, то ў іх у пераліку на даляры заробак быў значна большы, чым у мяне.

*Соўсь:* Я памятаю, што мая маці ў тыя часы неяк сустрэла вас у тралейбусе і была вельмі ўражаная, што кіраўнік дзяржавы езьдзіць грамадзкім транспартам. Ёй гэта вельмі імпанавала тады… Ужо ў верасьні вы афіцыйна ўзначалілі Вярхоўны Савет 12-га скліканьня і праз некалькі месяцаў падпісалі Белавескія пагадненьні. Як вам уяўлялася 25 гадоў таму, якой будзе Беларусь праз чвэрць стагодзьдзя?

*Шушкевіч:* Я не будаваў пляны на доўгі пэрыяд. Павінен сумленна ў гэтым прызнацца. Мяне проста бянтэжыла тое, што ў нас былі дзяржаўныя інстытуты, якія займаліся плянаваньнем разьвіцьця Беларусі наперад. Я ж прыйшоў з унівэрсытэту, там дасьледчыкі маглі думаць, што будзе зь Беларусьсю. А тут да мяне прыходзяць і кажуць, што распрацоўваюць пэрспэктыўны плян разьвіцьця Беларусі да 2015 году. Я думаю: «Ці

звар’яцелі вы? Тут трэба перажыць гэты цяжкі пэрыяд, у нас няма паліва, нам трэба вырашаць не стратэгічныя, а тактычныя задачы». Калі быць абсалютна шчырым, я ня вельмі думаў. Я толькі цешыўся, што мы незалежныя і што знойдзем спосаб пабудаваць прыстойную беларускую дзяржаву.

*Соўсь:* Дэклярацыя аб сувэрэнітэце была прынятая ў Беларусі ў ліпені 1990 году, пасьля таго як аналягічныя дэклярацыі былі прынятыя ў Эстоніі, Літве, Латвіі, Азербайджане, Грузіі, РСФСР, Узбэкістане, Малдове, Украіне…

*Шушкевіч:* Мы на дзясятым месцы.

## «Калі я выступаў на сэсіі па-беларуску, удзельнік вайны казаў: „Говорите на нормальном языке“»

*Соўсь:* Пасьля Беларусі дэклярацыі аб незалежнасьці прынялі толькі 5 краінаў — Туркмэністан, Армэнія, Таджыкістан, Казахстан і Кіргізстан. Скажыце, на вашу думку, а чаму ў Беларусі не праводзілі рэфэрэндум аб незалежнасьці, такі, як, напрыклад, прайшоў у Грузіі, Украіне, Туркмэністане, Азербайджане і Армэніі? Ці гэта ня сьведчыла пра тое, што проста народ не сасьпеў тады да незалежнасьці і, магчыма, не прагаласаваў бы за яе, таму зрабілі гэта эліты, ці авангард, як кажа Зянон Пазьняк? Магчыма, таму мы і маем Лукашэнку…

*Шушкевіч:* Я думаю, што ўмоваў для правядзеньня нармальнага рэфэрэндуму, калі ўсе мо-

гуць агітаваць за тое, што лічаць патрэбным, фактычна не было. Па-другое, а навошта рэфэрэндум, калі ёсьць пэўная рызыка? Напрыклад, калі я выступаў на сэсіі Вярхоўнага Савету па-беларуску, вельмі паважаны дэпутат, заслужаны ўдзельнік вайны Качан казаў: «Говорите на нормальном языке». У такіх абставінах, калі ў нас было шмат вайскоўцаў, вайсковых пэнсіянэраў з усяго Саюзу, я ня думаю, што было б добра праводзіць такі рэфэрэндум, бо была рызыка. Элітная частка беларускага насельніцтва была прарасейскай і ня вельмі хацела, каб у нас была незалежнасьць, каб была беларуская Беларусь. Я ня быў прыхільнікам такога рэфэрэндуму. Ва Ўкраіне іншая справа. І рэфэрэндум 1 сьнежня 1991 году там шмат вызначыў. Ён і цяпер зьяўляецца важкім аргумэнтам у адстойваньні незалежнасьці Ўкраіны пры ўсім расейскім бандытызьме.

## «Зянон Пазьняк зрабіў на мой лёс вялікі ўплыў»

*Соўсь:* Лідэр Апазыцыі БНФ у Вярхоўным Савеце Зянон Пазьняк выдаў стэнаграму пазачарговай сэсіі ВС, на якой Дэклярацыі аб незалежнасьці надалі статус закону. У прадмове да кнігі «Сэсія незалежнасьці» ён піша пра тое, што ў жніўні 1991-га на пачатку сэсіі, на ягоную думку, вы яшчэ не былі гатовыя, цалкам не ўсьведамлялі магчымасьць незалежнасьці для Беларусі. А вы самі ў кнізе «Маё жыцьцё. Крах і ўваскрошаньне СССР» згадваеце, што калі Бурбуліс прапана-

ваў паставіць свой подпіс пад дакумэнтам, што СССР фактычна спыніў існаваньне, вы падумалі, што самі не наважыліся б такое прапанаваць. Ці памятаеце вы, як прыходзіла ўсьведамленьне неабходнасьці незалежнасьці Беларусі і выхаду з СССР?

*Шушкевіч:* Тут няправільна вы ставіце пытаньне. Я наважыўся б, але справа ў тым, што я люблю дасканалыя фармулёўкі. І казаў, што мне вельмі крыўдна, што такую дасканалую фармулёўку прыдумаў марксіст-ленінец, выкладчык курсаў гісторыі КПСС і марксісцка-ленінскай філязофіі Бурбуліс. З той пары я пачаў паважаць савецкіх філёзафаў. Усё ж нешта чалавечае ў іх было, і нават людзкае нешта было, што яны дайшлі да такой высновы…

*Соўсь:* Пятро Садоўскі ў сваёй кнізе «Мой шыбалет» піша, што яму падаецца, што Зянон Пазьняк зрабіў пэўны станоўчы ўплыў на ваш лёс. Ці вы згодныя?

*Шушкевіч:* Так. Бясспрэчна, Зянон Пазьняк зрабіў на мой лёс вялікі ўплыў. Хоць я ўсе гады быў падпісчыкам газэты «Літаратура і мастацтва», але я не прачытаў нічога пра Курапаты ў той час, калі быў той артыкул надрукаваны. У мяне была вельмі цікавая праца. Я а 7 гадзіне выходзіў з дому, у лепшым выпадку аб 11 гадзіне вяртаўся. Мае фізычныя прыкладныя дасьледаваньні былі для мяне асновай жыцьця. Я не заўважаў нічога іншага. І не заўважыў, што быў Зянон Пазьняк і што былі Курапаты. Я адмаўляўся ўвесь час быць вылучаным кандыдатам у народныя дэпу-

таты, але калі мяне ва ўнівэрсытэце вылучылі і я ня зьняў сваю кандыдатуру, было патаемнае галасаваньне на сходзе з 600 чалавек. І я набраў 450 галасоў, другі прарэктар, цудоўны чалавек, набраў 70 галасоў, і Зянон Пазьняк, якога ніхто ня ведаў, які не працаваў ва ўнівэрсытэце, набраў 50 галасоў. Мне стала сорамна, што я яго ня ведаю. Я на наступны дзень пайшоў і знайшоў яго. Вельмі цешыўся, што я знаёмы, ганарыўся, што ў нас ёсьць такія людзі.

А пасьля пачалася другая гісторыя. Я быў у захапленьні ад Зянона Пазьняка і ад таго, што зрабілі. А пасьля я вельмі пасябраваў з тымі, хто працаваў у Інстытуце гісторыі. Цудоўныя людзі Скалабан, Чарняўскі і іншыя зрабілі вельмі шмат. І ўсе дасягненьні адносіць на адрас Зянона Станіслававіча не зусім справядліва… Палітычнай каманды ў мяне не было, у мяне да гэтага захоўваецца мая фізыка-матэматычная каманда. Гэта мае сябры, якія мяне разумеюць. А ў палітычным сэнсе я не рыхтаваўся да такой працы. Мне сорамна, што я не пратэставаў супраць таго, што было ў Чэхаславаччыне, што я не пратэставаў супраць таго, што адбывалася ў Саюзе. Дзякуй Богу, што былі гэтыя дысыдэнты.

*Соўсь:* А ў тыя часы, калі вы былі на чале беларускай дзяржавы, ці было што-небудзь, за што вам сорамна?

*Шушкевіч:* Тут, прабачце, не. Мне было сорамна за тое, што робіцца ў Беларускім Народным Фронце, што там быў адзін сьвяты чалавек, а ўсе яго слухалі, дзякавалі і кланяліся. А за мае

ўчынкі — за ніводзін, бо я спачатку думаў, пасьля пра гэта гаварыў, а потым прымаў рашэньні.

## «Я не разумеў, што ўсё напрыдумваў Кебіч, а Лукашэнка агаласіў»

*Соўсь:* У сваёй кнізе вы пішаце пра тое, што трэба вучыцца на памылках мінулага і не паўтараць іх. Ці можна тады было не прапусьціць Лукашэнку? Ці думалі вы пра гэта?

*Шушкевіч:* Я ня думаў пра гэта, бо была чыстая здрада. Кебіч змагаўся са мной, я гэта зразумеў пасьля, як з галоўным канкурэнтам. А я яго паважаў і лічыў, што ён добры працаўнік, выключна добры чалавек, які ва ўрадзе самы разумны, які праводзіць нармальную палітыку, які памяркоўны, які быў цудоўным дырэктарам заводу. Многа было ў яго такіх якасьцей, што можна было пазайздросьціць.

І я не разумеў, што патаемна ён… Гэта ж не Лукашэнка прыдумаў, што я цьвікі скраў, гэта ён усё напрыдумваў, а Лукашэнка агаласіў. Таму што Кебіч меў пачуцьцё сораму, адрозна ад Лукашэнкі, і ня мог такое сказаць глупства, што я скраў цьвікі. А Лукашэнка мог, калгасныя меркі такія былі. Галоўным быў Кебіч, і гэта была патаемная здрада. І тут ён перастараўся, выступаючы супраць мяне, ён дапамог не сабе, а Лукашэнку.

*Соўсь:* Як вы лічыце, а што за мэтамарфоза адбылася яшчэ з адным падпісантам Белавескіх пагадненьняў, былым кіраўніком ураду Вячаславам Кебічам? І ці мяняўся ён? У сваіх апошніх кнігах

ён фактычна выступае прыхільнікам «русского мира» і фактычна адмаўляе Беларусі ў існаваньні як незалежнай дзяржаве.

*Шушкевіч:* Калі б мне нехта сказаў раней, што такое можа зь ім здарыцца, я пабіць быў бы гатовы яго, бо я лічыў, што гэта разумны кіраўнік. А фактычна ён быў вельмі хітры. І асяродзьдзе «дапамагала» яму, яны яго спойвалі да 12 гадзіны дня, пасьля яго ўжо фактычна не было… Гэта было ў апошнія месяцы, калі я быў старшынём Вярхоўнага Савету. Ён адыходзіў ад нейкіх пытаньняў, не паказваў, што там і як. Ён клапаціўся аб сваім лёсе. Цяпер ён клапоціцца таксама аб сваім лёсе, баіцца адыйсьці далёка ад кармушкі. Таму што сказаць, што я вымусіў яго падпісаць Белавескае пагадненьне… Прабачце, ён так там хацеў паставіць свой подпіс, што ратунку не было. Кажа: «Трэба, каб і выканаўчая ўлада паказала, што яна падтрымлівае». Я кажу: «Добра. Зараз мы дамовімся, усе падпішам». Так яно і адбылося.

*Соўсь:* Удзельнік цыклю «Пасьля СССР. 25 гадоў незалежнасьці» былы прэм’ер Міхаіл Чыгір, адказваючы на пытаньне «Хто ваш асабісты герой незалежнасьці?», назваў ваша імя. А як бы вы адказалі на пытаньне пра вашага асабістага героя незалежнасьці?

*Шушкевіч:* Так, як паводзіў сябе Міхаіл Чыгір, гэта вышэйшы ўзровень прыстойнасьці, разумнасьці і слушнасьці падыходу. У нас яшчэ было многа людзей, якія, на вялікі жаль, не змаглі аб’яднацца, таму што ў нас былі тыя сьвятыя, на

якіх мы павінны былі арыентавацца. У прыватнасьці, Зянон Станіслававіч. Не было іншай думкі ў дэпутатаў БНФ, акрамя ягонай. Як ён сказаў, так яны і робяць. Хоць бы нейкі выгляд быў дэмакратыі, сур’ёзнага абмеркаваньня пытаньня, а ня так, як глядзіць ён. Усё ж, як бы там ні было, пры ўсіх адмоўных якасьцях я лічу, што ягоны ўнёсак быў найбольшым у тое, што мы ператварыліся ў незалежную дзяржаву, таму што ён задаў тон. А далей крокаў зрабіць зь ім не ўдалося. Таму што ён павінен быў мець абсалютную рацыю заўсёды, у любых умовах і абставінах у любым асяродзьдзі.

*Соўсь:* У сваіх мэмуарах вы пішаце, што даводзілася памыляцца ў многіх людзях, бо першапачаткова ўяўлялі іх лепшымі, чым яны былі насамрэч. А ў кім вы не памыліліся за 25 гадоў незалежнасьці Беларусі? Можаце тры імені назваць?

*Шушкевіч:* Я не хацеў бы называць тры імені, бо такіх людзей было значна болей. Калі чалавек меў іншую думку, я меў толькі пачуцьцё павагі, таму што мы маглі дыскутаваць. І я часам адчуваў, што мне трэба скарэктаваць свой падыход дзякуючы такім размовам. Такіх людзей было вельмі-вельмі многа. У Вярхоўным Савеце ўсе прадстаўнікі БНФ такія былі, калі б не абавязковае падпарадкаваньне. Можа, гэта і ня дрэнна было… Асуджаць за гэта нельга, таму што чалавек не імкнуўся да ўласных мэтаў, ён думаў, што робіць лепей. На жаль, гэта аказалася ня так. А цяпер што да маёй памылкі. Я сапраўды не магу ні перад кім пакаяцца, што думаў пра яго горш, чым ён быў на самой справе. Бабка мая Франя,

фанатычная каталічка, казала: «Шукай у людзях добрае. Дрэннае любы дурань знойдзе. І вучыся добраму». І я шукаў і вучыўся, у тым ліку ў Вярхоўным Савеце. А пра катэдру і гаварыць ня буду. Няма ніводнага супрацоўніка катэдры, якую я ўзначальваў, зь якім у мяне былі б дрэнныя адносіны.

*Соўсь:* А калі б вы шукалі і хацелі пабачыць добрае ў Аляксандру Лукашэнку, якія б якасьці назвалі?

*Шушкевіч:* Аб немагчымым не задумваюся. Пры наяўнасьці такіх якасьцяў, як ілжывасьць і фанабэрыстасьць, ня буду шукаць добрых якасьцяў. Але гэтыя добрыя якасьці шукалі нашы паважаныя дэпутаты Віктар Ганчар, Дзьмітрый Булахаў, Анатоль Лябедзька і нават сьветлай памяці Юры Захаранка, які таксама быў у камандзе Лукашэнкі. Калі Захаранка раней зразумеў, што ён памыліўся, то гэтыя пазьней зразумелі, што памыліліся, што яны хацелі абапірацца на магутную палітычную волю, а самі хацелі быць мазгавым цэнтрам. Такога не бывае. Абапірацца можна на сумленьне. А калі сумленьня няма, абапірацца на нейкія іншыя станоўчыя якасьці бессэнсоўна.

## «Вярхоўны Савет прыняў тыя рашэньні, якімі мы ганарымся сёньня»

*Соўсь:* Той жа Міхаіл Чыгір у інтэрвію для нашага цыклю «Пасьля СССР. 25 год незалежнасьці» сказаў, што ён лічыць, што незалежнасьць усё ж

звалілася на галаву, што яна не была заваяваная. І ці мае гэта значэньне сёньня — заваяваная ці звалілася на галаву?

*Шушкевіч:* Я зьдзіўлены, што такое гаворыць Міхаіл Чыгір, бо ён многа зрабіў, каб гэтая незалежнасьць адбылася. Я думаю, што ня будзе так гаварыць ніхто, хто за гэтую незалежнасьць змагаўся. І ніхто б не гаварыў, хто за гэтую незалежнасьць загінуў. Іншая справа, што ў нас не было такіх гераічных учынкаў, якія былі ў паўднёвых народаў. Напрыклад, 26 бакінскіх камісараў, украінскія змагары. Беларусы больш спакойныя, разважлівыя. Гэта іх дасягненьне, але гэта і іх бяда, што яны перажывуць вялікі страх, вялікую недарэчнасьць, вялікую беднасьць і выжывуць. Гэта наша бяда. Не шукаў бы я асобных герояў. Вярхоўны Савет прыняў тыя рашэньні, якімі мы ганарымся сёньня, і ратыфікаваў Белавескае пагадненьне пры адным голасе супраць, Ціхіні, майго калегі па ўнівэрсытэце. У нас цудоўная краіна, ёсьць чым ганарыцца. І вось далей працуе правіла Караткевіча: краіна цудоўная, а начальства паганае.

*Соўсь:* Хто найбольш выйграў ва ўмовах незалежнасьці?

*Шушкевіч:* Я думаю, што ўсе. Ва ўмовах незалежнасьці магла б панаваць дэмакратыя. Гэта адно з другім зьвязана. Можна было будаваць дэмакратычную дзяржаву, якая ёсьць залогам посьпеху і эканамічнага разьвіцьця… Мы не навучыліся паважаць уласнасьць, быць прававой дзяржавай. І таму трэба гэтаму вучыцца…

## «Гэтай уладзе ў Курапаты лепш ня лезьці»

21 красавіка 2017
Міхась Скобла

*Чаму ўладзе раптам спатрэбіўся мэмарыял у Курапатах і што перашкодзіла выканаць урадавую пастанову аб ушанаваньні ахвяраў сталінскага тэрору на пачатку 90-х? Госьцем перадачы «Вольная студыя» — Станіслаў Шушкевіч.*

*Скобла:* Спадар Станіслаў, амаль 23 гады гэтая ўлада нічога не рабіла, каб належным чынам ушанаваць Курапаты як месца масавых расстрэлаў. Наадварот, праз урочышча то акружную дарогу вялі, то розныя «бульбаш-холы» там будавалі. І раптам ні з пушчы ні з поля дзяржава намерылася ўзьвесьці там мэмарыял, прычым у сьціслы тэрмін. Адкуль і для чаго такая надзвычайшчына?

*Шушкевіч:* Камуністычная ўлада мае ў Беларусі дастойнага пераемніка — уладу лукашэнкаўскую. Дык як жа апошняя магла дазволіць раскрыць злачынства, учыненае сваёй папярэдніцай? Прыгадайце, якая супярэчлівая інфармацыя зьяўлялася пра Курапаты яшчэ зусім нядаўна — і пра колькасьць ахвяраў, і пра тых, хто расстрэльваў. І тут напрошваецца аналёгія з далёкай гісторыі. Успомніце Катынь. Як адразу пасьля вайны вядомыя грамадзкія дзеячы СССР падпісаліся пад пратаколам камісіі, дзе сьцьвярджалася, што польскіх афіцэраў у Катыні расстрэльвалі

фашысты. І многія, калі ня ўсе, пабачыўшы там подпіс пісьменьніка Аляксея Талстога ды іншых аўтарытэтных творцаў, паверылі, што, акрамя фашыстаў, такога ніхто зрабіць ня мог. Вы кажаце, лукашэнкаўская ўлада ў Беларусі нічога не рабіла? Улада зрабіла «Лінію Сталіна», таму што якраз такі «мэмарыял» адпавядае яе інтарэсам. Улада і яе адэпты паўтараюць: не забывайце таго добрага, што было ў Савецкім Саюзе. А галоўны расейскі камуніст Зюганаў піша, што не мільёны невінаватых былі ў СССР расстраляныя, а «ўсяго 800 000». Васямсот тысяч — гэта яму мала... Увогуле, мы жывём у страшны час са страшнымі кіраўнікамі, якіх ужо ўвесь сьвет адрынуў. Таму і даводзіцца ім прыкідвацца больш-менш сучаснымі, ляяльнымі, каб спадабацца МВФ, каб Захад лепей ставіўся. Іх да гэтага эканоміка прымушае, хоць нам даводзяць, што ёсьць нейкі там прырост у прамысловасьці. Насамрэч у нас спад эканамічны, фактычны крызіс, і набліжаецца дэфолт. А дэфолт — страшная рэч для дзяржавы. І вось неабходна, каб МВФ даў тыя 3 мільярды даляраў, якія просіць Беларусь. Таму і было абвешчана пра намер мэмарыялізаваць Курапаты, абвясьцілі мастацкі конкурс. Ці ж так абвяшчаюцца конкурсы? Ці ж так працуюць мастакі?

## «Узначаліць такую справу маральнае права мае толькі Зянон Пазьняк»

*Скобла:* Адкрывальнік Курапатаў Зянон Пазьняк заклікаў беларускіх скульптараў ня ўдзельнічаць у тым конкурсе. Сумняваюся, каб яны да яго прыслухаліся. Паводле маёй інфармацыі, праекты ўжо паступаюць у Мінкультуры.

*Шушкевіч:* А вы пастаўце сябе на месца скульптара. Вось абвешчаны конкурс па Курапатах. І калі ён ня ўдзельнічае, то тэма Курапатаў для яго як бы не існуе. Я думаю, Зянон трошкі пасьпяшаўся зрабіць такую заяву. Трэба ўсё ж шукаць шчыліну, у якую можна ўлезьці зь цікавай прапановай. Хоць я яго ў гэтай сытуацыі добра разумею. Курапаты — гэта ягонае дзецішча, а яго адтуль імкнуцца адсунуць… На месцы Пазьняка я б напісаў ліст і прыехаў бы сюды гэтым займацца.

*Скобла:* Нават калі б ён і прыехаў, наўрад ці яго дапусьцяць да канкрэтнай справы. Занадта рознае разуменьне праблемы. Лукашэнка, гаворачы пра Курапаты, казаў пра мэмарыял усім загінулым…

*Шушкевіч:* Пра мэмарыял усім загінулым, з усіх бакоў, у Беларусі можна толькі марыць. Дарэчы, я падобны мэмарыял бачыў у Гішпаніі. Прабачце, гэта зусім іншая тэма, і месца павінна быць іншае. Наш усенароднаабраны, як заўсёды, прайшоўся па версе, яшчэ і тут стварыўшы праблему. І сапраўды, да мэмарыялу «ўсім загінулым» прыйдзе і ўнук загінулага там пісьменьніка, і кіраўнік МУС у форме НКВД. І гэта будзе блюзьнерства.

Дык жа да гэтага ўсё і вядзецца. Паглядзіце даведнікі сьветлай памяці Леаніда Маракова — колькі людзей загінула… Я не выключаю, што ў Курапатах маглі загінуць і прыстойныя супрацоўнікі таго ж НКВД. Усё магло быць. Але там ляжаць тысячы забітых менавіта энкавэдзістамі, і гэта трэба абазначыць. Сёньня тысячы загінулых у Курапатах патрабуюць помніка. І крывадушнічаць тут недапушчальна. Добра сказала Сьвятлана Алексіевіч, што ўзначаліць такую справу маральнае права мае толькі Зянон Пазьняк. І калі ўлада не крывадушнічае, калі яна шчыра хоча зрабіць у Курапатах помнік, яна павінна яго запрасіць.

*Скобла:* Думаю, прапанова наконт Курапатаў была нечаканай і для самой Алексіевіч. Навошта ў такой ролі ўладзе спатрэбілася менавіта яна?

*Шушкевіч:* Мне здаецца, каб прынізіць Алексіевіч. Тэлефанаваньне ад нейкага чыноўніка з Адміністрацыі прэзыдэнта — гэта прыніжэньне для нобэлеўскай ляўрэаткі. Калі б ёй патэлефанаваў сам прэзыдэнт і запрасіў на размову, каб абгрунтаваць сваю прапанову, а заадно папрасіць прабачэньня, што належным чынам не павіншаваў яе з атрыманьнем Нобэлеўскай прэміі, гэта была б іншая справа. А так… Быўшы старшынёй Вярхоўнага Савету і прачытаўшы «Ў вайны не жаночы твар» і «Цынкавыя хлопчыкі», я патэлефанаваў Алексіевіч і прапанаваў ёй пасаду старшыні Канстытуцыйнага суду. Яна адмовілася, маўляў, «я ж не юрыст-прафэсіянал». А я сказаў, што дам ёй дастаткова прафэсіяналаў, на такой пасадзе галоўнае — быць сумленным

чалавекам. Заўважце, Алексіевіч не была тады нобэлеўскім ляўрэатам, але яна была для мяне аўтарам, які напісаў праўдзівыя кнігі. Паўтаруся, не супрацоўнікі Адміністрацыі павінны былі ёй тэлефанаваць, а толькі прэзыдэнт. Нобэлеўскі ляўрэат — не такая частая зьява.

## «Пастанова аб ушанаваньні Курапатаў была, але ажыцьцявіць яе было цяжка»

*Скобла:* Як на добры розум, Курапаты мусілі стаць нацыянальным мэмарыялам яшчэ на пачатку 90-х гадоў. Была ж і адпаведная пастанова ўрадам прынятая. Што перашкодзіла яе выканаць у той час, калі кіраўніком Беларусі былі вы?

*Шушкевіч:* Вы не зусім правільна ставіце акцэнты. У пачатку 90-х ішлі спрэчкі, хто расстрэльваў у Курапатах — камуністы ці фашысты. І пракуратура спачатку заявіла, што гэта злачынства фашыстаў, гучалі і іншыя заявы. Мы тады не дайшлі яшчэ да таго этапу, калі трэба ставіць мэмарыял. Паўтаруся, не было прамога дакумэнтальнага пацьверджаньня. Была заява Зянона Пазьняка, усе яго паважалі і яму верылі, але неабходна было тую заяву юрыдычна канчаткова аформіць і паставіць кропку. А гэта не было зроблена.

*Скобла:* Але ж урадавая пастанова была?

*Шушкевіч:* Была. Але ж былі і спосабы затармазіць яе выкананьне. І мне цяжка канкрэтна назваць тыя спосабы. Я доўга не разумеў, хто быў галоўным тормазам у Белавескай пушчы.

Гэта высьветлілася толькі пасьля таго, як Кебіч напісаў успаміны. Я іх прачытаў і зразумеў, што галоўным тормазам быў Кебіч, а я «прымусіў» яго падпісаць Белавескае пагадненьне. А я ж добра памятаю, як ён, наадварот, вельмі хацеў яго падпісаць. Але сёньня, каб Лукашэнка на яго скоса не паглядзеў, ён і прыкідваецца мяккім і пушыстым. Што да тае пастановы, то, ведаеце, прыняць рашэньне пра ўшанаваньне — гэта адно. А вось знайсьці сродкі — гэта іншае. Пастанова аб ушанаваньні Курапатаў была, але ажыцьцявіць яе было цяжка, мы тады былі вельмі бедныя. Я ня думаю, што можна было знайсьці такія сродкі, каб ушанаваць па-сапраўднаму.

*Скобла:* Розныя выказваюцца прапановы, розныя гучаць ідэі, якім павінен быць курапацкі мэмарыял. Лукашэнку ён бачыцца ў выглядзе сьціплай капліцы, Пазьняку — як Сьцяна памяці… А як вам той мэмарыял уяўляецца? Ну, напрыклад, што рабіць з тымі памятнымі камянямі і іншымі знакамі памяці, якія ўжо ёсьць у Курапатах?

*Шушкевіч:* Найперш трэба стварыць камітэт ці раду, куды ўвайшлі б людзі зь незаплямленай рэпутацыяй. І ўжо яны мусяць вырашыць, што, як і калі павінна быць зроблена. Такіх людзей наша сёньняшняя ўлада наўрад ці зьбярэ. Таму па-ранейшаму будзе працаваць піраміда: «Я начальнік — ты дурань». І як скажа самы высокі начальнік, так зьнізу і будзе рабіцца. Скажа Лукашэнка зрабіць капліцу — зробяць капліцу, але гэта будзе помнік яму, а не ахвярам камуністычнага тэрору. І ўсё ж у кожным выпадку ў Курапа-

тах трэба захаваць і крыжы, і камяні, і лаву Клінтана, якая была ўстаноўленая па ўзгадненьні зь беларускім бокам. Захавацца ўсё гэта можа толькі ў тым выпадку, калі Курапаты будуць пад аховай дзяржавы. А так там і лаўку ламалі, і крыжы. Я не выключаю, што гэта сама дзяржава і рабіла, яе «людзі ў цывільным». Кіраўнік Беларусі ня раз публічна шкадаваў, што ня стала СССР, а гэта ж была дзяржава ГУЛАГаў, якая мільёны бязьвінных людзей пахавала. Таму пра якое належнае ўшанаваньне можа быць гаворка? Гэтай уладзе ў Курапаты лепш ня лезьці.

*Скобла:* Мы гутарым з вамі акурат напярэдадні Радаўніцы. Каго вы памінаеце, чые магілы адведваеце ў гэтыя дні?

*Шушкевіч:* Радаўніца для мяне — сьвята радзіннае. Мы адведваем магілы родных на Кальварыі, дзе пахаваныя мае дзед з бабуляй, і на Паўночных могілках, дзе пахаваная мая маці. Таксама мы з жонкай езьдзім у Шчытомірычы пад Менскам, на магілу бацькі — ён там, на радзіме, захацеў быць пахаваным.

# «Беларуская нацыянальная дзяржава будзе пабудаваная, што б ні рабілі прарасейскія людзі, якія дарваліся да ўлады»

Сьнежань 2019
Кацярына Маркоўская

*Маркоўская:* Станіслаў Станіслававіч, у вас даволі часта бяруць камэнтары пра тое, як у Беларусі ўсё кепска. Скажыце, ці ёсьць нейкія рэчы, на якія вы гледзіце і радуецеся? У сучаснай Беларусі.

*Шушкевіч:* Ну, вы ведаеце, напрыклад, я сёньня адчуў вялікую радасьць, калі ехаў да вас. І калі шафёр гаварыў па-беларуску, на добрай беларускай мове. А часам, калі я ў горадзе сустракаюся і мяне пазнаюць маладыя людзі і гавораць па-беларуску, — гэта мяне цешыць, таму што да гэтага мы імкнуліся. І калі я яшчэ ўсьведамляю, што яны гавораць насуперак той уладзе, якая ў нас ёсьцека антыбеларуская, мяне гэта цешыць яшчэ больш. Значыцца, беларуская нацыянальная дзяржава будзе пабудаваная, што б ні рабілі тыя прарасейскія людзі, якія дарваліся да ўлады, якія ня хочуць беларускасьці, што б яны ні меркавалі, а беларускае насельніцтва стане беларускім народам.

*Маркоўская:* То бок людзі? Моладзь вас натхняе? Гэта тое, на што вы гледзіце і разумееце, што ўсё тое было не дарэмна, за што вы калісьці змагаліся?

*Шушкевіч:* Вы ведаеце, і нават не такія старэчы, як я, але таксама дарослыя людзі часамі кажуць: «Прабачце, мы не говорим по-белорусски, извините нас, у нас жизнь такая была». Ну і стараюцца гаварыць па-беларуску. Цяпер, прабачце, я паглядзеў на Tut.by спатканьне з Румасам, сям'я… яго жонка гаворыць: «Мы з мужам вечарамі гаворым на мове». Гэта ж ужо гаворыць ня хто-небудзь, а прэм'ер, што яго сям'я дарасла да таго. Значыць, нават ва ўмовах гэтага ганебнага ціску на беларускасьць, фактычнага ціску, калі недавумкі, недавучкі прарасейскія навязваюць толькі рускую мову і рускую паганую культуру. Калі сапраўдную рускую культуру нам навязваюць, я гарачы яе прыхільнік, таму што гэта вялікая культура, і наогул культуры дадаюцца адна да адной са знакам плюс. Беларуская, руская, польская, якая хочаце.

*Маркоўская:* Вам зараз ужо будзе 85 гадоў…

*Шушкевіч:* Ну, калі дажыву…

*Маркоўская:* Вы бачылі Беларусь абсалютна розную — даваенную, паваенную, пасьля савецкую, пасьля часу аднаўленьня незалежнасьці. Зрэшты, і пры Лукашэнку Беларусь была даволі розная. Вось у якой з гэтых Беларусяў вам жылося найлепей?

*Шушкевіч:* Вы ведаеце, як тое ні дзіўна, я зараз вельмі часта ўспамінаю Сьляпянскую вуліцу, якая зьнікла, якая там праходзіла, дзе цяпер Філярмонія стаіць, з тылу, і там усе мы гаварылі па-беларуску. І лічылася, што толькі вельмі набожныя людзі, такія, як мая бабка, яны ведалі

крыху польскую мову, таму што маліліся па-польску, каталікі. І вера была альбо «польская», альбо «руская», значыцца, праваслаўе і каталіцызм, але вельмі добра адно да аднаго ставіліся. І вось такіх добрых адносін паміж людзьмі, якія былі на гэтай беднай Сьляпянскай вуліцы, я проста ня ведаю. Тры гады фактычна захоўвалася таямніца, што ў нас быў хлопчык (ён памёр, ужо ня хлопчык, ён памёр перад мінулым Новым годам) габрэй — Шыфрын. Ён выдаваў сябе за армяніна, яго маці была армянкай, а бацька быў габрэем. І, ведаеце, гэтую таямніцу захоўвала ўся вуліца, а абавязаныя былі, калі не даносіш, але ведаеш, што нехта габрэй, — расстрэл. За ўсё быў расстрэл у час акупацыі. Дык вось гэты час я ўспамінаю як адзін з самых добрых часоў, калі людзі згуртаваліся і былі ўсе адно з адным аб'яднаныя агульнай ідэяй — што мы дажывем да лепшага жыцьця. І дажылі.

*Маркоўская:* Гэта часы вайны? Час акупацыі?

*Шушкевіч:* Часы вайны.

## «Я люблю чытаць лекцыі»

*Маркоўская:* Давайце цяпер перанясемся ўжо ў наш час. Два дні таму назад мы пабывалі на вашай платнай лекцыі ў Менску. І гэта не адна лекцыя, а цэлы цыкль з чатырох лекцыяў. І быў аншляг. Як вы адказваеце для сябе на пытаньне — чаму людзі гатовыя плаціць за тое, каб паглядзець і паслухаць вас?

*Шушкевіч:* Вы ведаеце, тое, што вы мне сказалі, я даведаўся пазьней. Я ня ведаў, што гэта платная лекцыя. Я думаў, што… Мяне даволі часта запрашаюць прачытаць лекцыю, так? Каб я ведаў, што яна платная, я б сказаў: «Хлопцы, рабіце, без…» Мне сорамна чытаць нейкую платную лекцыю. Я платныя лекцыі чытаў толькі ў Японіі, такія лекцыі публічныя. І пасьля я ўжо даведаўся, калі мне прыслалі паперку, што я нешта павінен запоўніць, што платна… Я сказаў, што, дарагія мае, не плаціце мне за лекцыю, бо мне гэта павінны вылічыць з пэнсіі згодна з нашым беларускім заканадаўствам. Так што давайце пра платнасьць гаварыць ня будзем. Я пайшоў чытаць гэтую лекцыю не для платнасьці, а таму што я люблю чытаць лекцыі. Што я магу з сабой зрабіць?

*Маркоўская:* Ня важна, што вы ведалі ці ня ведалі. Людзі прыйшлі, і яны ведалі, што там будзе Шушкевіч, гэта будзе каштаваць 15 рублёў. І вось я таксама заплаціла за вашую лекцыю… Чаму людзі гатовыя плаціць за тое, каб на вас паглядзець і вас паслухаць? Як вы думаеце?

*Шушкевіч:* Я хутчэй думаю, што мною, такім дзедам, пужаць малых дзяцей можна, а аказваецца, яшчэ нешта бывае. Я вам скажу так: я люблю чытаць лекцыі, і ў мяне нядрэнная рэпутацыя. У пяці вядучых амэрыканскіх унівэрсытэтах я чытаў лекцыі. Нават калі там не знаходзіўся перакладчык прафэсійны, дык я заўсёды знаходзіў студэнта, а адзін раз гэта быў Франак Вячорка ў American University. Я чытаў на рускай мове. У Японіі і Карэі ў мяне ёсьць мой любімы

перакладчык. Ён мяне разумее — я яшчэ сказаць не пасьпеў… І гэта мой любімы занятак. Ведаеце, я, можа, і жыву так доўга, прабачце, дзякуючы таму, што час ад часу магу нешта людзям сказаць тое, што іншы, можа, скажа горш, чым я.

*Маркоўская:* Вы стварылі вельмі пасьпяховы брэнд чалавека, які разваліў Савецкі Саюз, і зараз дзесьці зарабляеце, дзесьці выступаеце як чалавек, які расказвае пра тое, як ён гэта зрабіў. Можна так сказаць?

*Шушкевіч:* Проста высоўваеце мне абвінавачаньне неабгрунтаванае…

*Маркоўская:* Чаму абвінавачаньне?..

*Шушкевіч:* Таму што ня мы развалілі Савецкі Саюз у Белавескай пушчы.

*Маркоўская:* Гэта зразумела. Савецкі Саюз разваліўся па шэрагу розных іншых фактараў і прычын…

*Шушкевіч:* Вы ведаеце, ён канчаткова разваліўся, калі быў ГКЧП.

## «У Белавескай пушчы ўсе падпісанты былі цьвярозыя, і Ельцын у першую чаргу»

*Маркоўская:* Скажыце, вашыя калегі па Віскулях, яны даюць такія лекцыі? Бурбуліс, Краўчук…

*Шушкевіч:* Не, мае калегі… Я ня ведаю, можа, Бурбуліс дае. Можа, Бурбуліс дае. Мы зь ім вельмі салідарныя ў разуменьні таго, што адбылося, як адбылося. І матэрыялы аб гэтым многія я атрымаў ад яго. Але іншыя калегі, яны ж паступілі

непасьлядоўна. Мяне ў свой час абразіла, што Краўчук 5 чэрвеня 2005 году, калі прэзыдэнтам быў Ючшанка, ён сказаў на Радзе: «Каб я ведаў, што будзе рабіцца ва Ўкраіне, я б хутчэй даў адрубіць руку, чым падпісаў Белавескія пагадненьні». Ён па сёньняшні дзень плача, што ён гэта сказаў, ён шкадуе аб гэтым. Ён уразумеў, што гэта быў парыў такі, калі ён такое сказаў. Ён на старых пазыцыях. Ну, а ў нас жа ёсьць вялікі здраднік, які для таго, каб быць каля кармушкі, брэша, калі гаварыць чыста па-беларуску. Гэта Кебіч. Вячаслаў Францавіч.

*Маркоўская:* Ці дае такія лекцыі Кебіч?

*Шушкевіч:* А я наогул ня ведаю, ці можа ён лекцыю прачытаць.

*Маркоўская:* А вы зь ім не кантактуеце? Не падтрымліваеце?..

*Шушкевіч:* Я зь ім не кантактую, таму што калі ён напісаў у кніжцы, што я вымусіў яго падпісаць Белавескае пагадненьне… А ён вельмі хацеў яго падпісаць, гэта ж быў гонар — падпісаць такое пагадненьне, калі Беларусь… Для мяне найважнейшая пазыцыя ў Белавескім пагадненьні — гэта тое, што Беларусь як незалежная краіна, Украіна як незалежная краіна і Расея як незалежная краіна робяць гэтую заяву, робяць гэтае пагадненьне. І яму гэта тады падабалася. Больш прыстойную пазыцыю меў Вітольд Фокін. Ён кажа так — «Я паступаў так, як належыць у добрай дзяржаве. Як паступае мой кіраўнік, так паступаю і я». Ён ніколі не адракаўся, але і не пацьвярджаў,

што гэта было яго жаданьне. Ён гаварыў, што ён падтрымлівае кіраўніка, абранага прэзыдэнта.

*Маркоўская:* Безумоўна, вам пасьля лекцый задаюць пытаньні. Як гэта было і на платнай лекцыі ў Менску. Якое пытаньне вас паставіла ў тупік? На якое вы ня ведалі, як адказаць?

*Шушкевіч:* Пэўныя пытаньні, народжаныя ці то жартамі, ці то жоўтай прэсай. Напрыклад, не было яшчэ такога выпадку, каб на любую тэму я прачытаў лекцыю ў Злучаных Штатах і, дарэчы, у Паўднёвай Карэі, дарэчы, у Японіі, каб у мяне пасьля не запыталіся — а Ельцын быў п'яны ў Белавескай пушчы? Ну, ведаеце, вось поўнае глупства. Я вам скажу шчыра…

*Маркоўская:* А Ельцын быў п'яны ў Белавескай пушчы?

*Шушкевіч:* Я вам скажу шчыра, што Ельцын быў многа разоў п'яны ў маёй прысутнасьці, але ў Белавескай пушчы ўсе падпісанты былі цьвярозыя, і Ельцын у першую чаргу.

*Маркоўская:* Вы вельмі шмат вандруеце на самалётах. І я ведаю, што ў вас ёсьць картка пастаяннага вандроўніка Miles and More, якая дае ў тым ліку прывілеі ў бізнэс-лаўндж браць з сабой некалькі яшчэ асобаў. Напрыклад, калі вы леціце з прадстаўнікамі дэмакратычнай супольнасьці Беларусі ці з апазыцыянэрамі, каго вы з сабой запрашаеце?

*Шушкевіч:* Сапраўды, восем гадоў я меў картку Senator ад Lufthansa. Па гэтай картцы, па-першае, вас прымаюць у сэнатарскай залі і вы можаце з сабой сябра прывесьці. Ну, няхай мне зараз пра-

бачыць той, пра каго я скажу, я нікому пра гэта не гаварыў, значыцца… Я апынуўся ў кампаніі з кіраўніком партыі «Справядлівы сьвет», раней яна называлася проста камуністычная…

*Маркоўская:* Сяргей Калякін? Пра яго вядзецца?

*Шушкевіч:* Сяргей Калякін. Я кажу: «У мяне картка ёсьць, пойдзем у сэнатарскую залю». Мы пайшлі. Ён сказаў: «Нічога сабе ты жывеш». Кажа: «Камуністаў аблайваеш, а ў цябе сэнатарская картка. Я першы раз трапіў, што 18-гадовы віскі Regal я магу піць бясплатна і колькі хачу».

## «Дасягнуць посьпеху ў палітыцы — гэта мець уладу»

*Маркоўская:* Вы толькі расказваеце, як адбываліся падзеі, і бачыце сваю місію ў тым, каб данесьці праўдзівую інфармацыю, ці вы прасоўваеце нейкую мараль, нейкую сыстэму каштоўнасьцяў, нейкія ацэнкі даяце, парады?

*Шушкевіч:* Вы ведаеце, больш за ўсё нельга рабіць такога, што вы нешта навязваеце і мараль чытаеце, гаворыце, як сябе паводзіць. Чалавечая годнасьць — яна альбо ёсьць, альбо яе няма. Трэба дэманстраваць сваімі паводзінамі, што вы маеце чалавечую годнасьць. Я зьдзіўляюся, калі людзі паступаюць інакш. Я імкнуся паступаць так: я проста паказваю. Вось вы кажаце — платныя лекцыі. Каб мне адразу сказаў Анціпаў, які арганізоўвае гэтую лекцыю, што яна платная, то я

б не пагадзіўся. Ён чатыры тэмы мне прапаноўваў, я сказаў: «Згодны чытаць па гэтых тэмах».

*Маркоўская:* Дык а ён вам хоць што-небудзь заплаціў за гэта?

*Шушкевіч:* Не, мне пакуль што ніхто нічога не заплаціў, але я баюся, што заплаціць. Ну, заплаціць — мне гэта не перашкодзіць.

*Маркоўская:* Вы кажаце пра чалавечую годнасьць, і гэта ўсё правільна. Але, напрыклад, калі вы гаворыце пра развал Савецкага Саюзу, вы даяце ацэнкі, што, скажам, Савецкі Саюз быў імпэрыяй зла? Што добра, што так адбылося? Вы кажаце такое?

*Шушкевіч:* Я даю ацэнкі, але… Учора, дарэчы, ваш калега-карэспандэнт у мяне запытаўся, як я стаўлюся да таго, што многія кажуць, што гэта не Белавескае пагадненьне, а Белавескае здрадніцтва? Я кажу — я так да гэтага і стаўлюся, таму што людзі лічаць здрадніцтвам тое, што мы выступілі супраць ГУЛАГаў, што мы выступілі супраць дэпартацыі народаў. 10 народаў было дэпартавана так, што выжыць было немагчыма. Колькі жыцьцяў загубілі камуністы? 43 мільёны ў сьвеце. Уяўляеце сабе? І што я выступіў супраць гэтага. Так, мы выступілі супраць гэтага. Нам гэта абрыдла. Трэба мець чалавечую годнасьць. Альбо! Я адзіны чалавек у Акадэміі навук, які не атрымоўвае членкораўскія. Так? Ну, таму што ў свой час, каб дагадзіць прэзыдэнту Лукашэнку, прэзыдэнт Вайтовіч мяне пазбавіў, маўляў, адышоў ад навукі гэты Шушкевіч. Калі яго запросяць у Кембрыдж, у Оксфард, у Гарвард,

у Ейльскі ўнівэрсытэт, у American University, ва ўнівэрсытэт Джорджа Вашынгтона… Калі яго запросяць зь лекцыяй, дык хай ён скажа дзякуй вялікі, але яго туды не запросяць, нікому там ён не патрэбны, ён не цікавы. Мяне запрашаюць!

*Маркоўская:* То бок нейкіх практычных парад вы не даяце? Проста зараз вельмі папулярныя розныя трэнінгі, курсы кшталту «Як стаць пасьпяховым бізнэсмэнам», «Як адкрыць свой бізнэс», «Як навучыцца аратарскаму майстэрству». Вы нешта такое робіце? Напрыклад, як дасягнуць посьпеху ў палітыцы і ў грамадзкай дзейнасьці?

*Шушкевіч:* Ніякіх парадаў я не даю.

*Маркоўская:* Тады давайце для нашых гледачоў. Адна бясплатная парада ад Станіслава Шушкевіча — як дасягнуць посьпеху ў палітыцы?

*Шушкевіч:* Палітыка — гэта навука пра ўладу. Значыць, дасягнуць посьпеху ў палітыцы — гэта мець уладу. Калі вы маеце ўладу, страціўшы чалавечую годнасьць, — гэта самае дрэннае, што вы можаце зрабіць. Ведаеце, многія дасягнулі ўлады, у тым ліку наш прэзыдэнт, абсалютна страціўшы чалавечую годнасьць. Гэта значыць, хлусьнёй, падтасоўкай, папулістыкай. Вось я ў гэта не заблытаны.

## «Мяне ахоўвала шэсьць чалавек, Лукашэнку — 2000»

*Маркоўская:* Пераносімся ў Віскулі. Белавескае пагадненьне. Калі вы там знаходзіліся, ці была ў вас перасьцярога, што вас могуць там на месцы арыштаваць за здраду СССР?

*Шушкевіч:* Вы ведаеце, я пра гэта не клапаціўся. Па дзьвюх прычынах. Першая: Шыркоўскі (Эдуард Шыркоўскі — старшыня КДБ Беларусі. — РС), першы беларус — старшыня КДБ, быў мне падпарадкаваны. І ён мне сказаў: «За бясьпекай мы сочым, і мы (беларускі КДБ) кантактуем са спэцслужбамі Ельцына (значыць, са спэцслужбамі Расеі), і ніякай пагрозы няма, і падрыхтоўкі нейкай пагрозы мы не адчуваем». А другое, самае важнае: я вельмі добра ведаў, што такое Гарбачоў. Я ведаў, што ў яго ня хопіць рашучасьці, ён будзе побач. Калі яны праваляцца, то гэта будзе прыемна. Ну вось паглядзіце, на наступны дзень пасьля падпісаньня Белавескага пагадненьня ён заявіў: «Як гэта тры чалавекі — і вырашылі лёс вялікай дзяржавы? Трэба сабраць зьезд». А сам жа разагнаў гэты зьезд — я быў народным дэпутатам СССР — каб мець абсалютную прэзыдэнцкую ўладу і віцэ-прэзыдэнтам мець Янаева.

*Маркоўская:* А ахова ў вас была?

*Шушкевіч:* Ахова была ардынарная, суправаджэньне было. Як жа ж? Прыяжджаюць кіраўнікі дзяржаў. Зразумела, што была. І была вялікая ахова.

*Маркоўская:* Колькі чалавек?

*Шушкевіч:* Я не магу вам дакладна адказаць на гэтае пытаньне, але было дастаткова, каб прывезьці зь Лідзкай базы ўдзельнікаў, усё з эскортам было, з аховай. Прыйшлося мабілізаваць мой «членавоз», як тады называўся ЗІЛ-117. Ахова была. Але што да аховы, я хачу вам адразу адказаць: у мяне таксама была ахова як у старшыні Вярхоўнага Савету Беларусі, першай асобы ў дзяржаве тады. Іх было 6 чалавек. Сёньня больш за 2000.

*Маркоўская:* Колькі ў вашай кватэры жыло ахоўнікаў, калі вы былі кіраўніком дзяржавы? У вас жа там ёсьць спэцыяльнае памяшканьне.

*Шушкевіч:* Не, пачакайце. Спачатку, калі я стаў старшынём Вярхоўнага Савету, у мяне была двухпакаёўка на Адаеўскага. І ахоўнік сядзеў на табурэтцы ў калідоры, і такі быў парадак, што ён павінен мяне ахоўваць. І калі на Новы год мая жонка пайшла да яго і сказала: «Што ж вы тут седзіце, хадземце да нас, будзем сустракаць Новы год», ён кажа: «Ня маю права». — «Ды ты хоць чарку…» — «Не, ня маю права». І вось так сядзеў ахоўнік на табурэтцы каля маёй двухпакаёўкі. Добра, што была такая пляцоўка, унівэрсытэцкі дом, ну, там, дзе сьмецьцеправод, там ён мог пасядзець.

*Маркоўская:* У вашай цяперашняй кватэры я ведаю, што ёсьць спэцыяльны пакой.

*Шушкевіч:* А вось у цяперашняй перад кватэрай была аднапакаёўка. Калі я ўжо атрымаў кватэру чатырохпакаёвую, тады перад ёй была

аднапакаёўка, дзе заўсёды дзяжурыў нейкі мой ахоўнік.

## «Справядлівых межаў не бывае»

*Маркоўская:* Вяртаемся да Белавескага пагадненьня. У які момант вы пазванілі амэрыканцам? Да падпісаньня ці пасьля?

*Шушкевіч:* Я амэрыканцам не званіў. Мы вырашылі так, што трэба пазваніць Гарбачову перш за ўсё, а пасьля трэба пазваніць амэрыканцам. Як гэта адбылося? Так Ельцын жартаваў: «*Мы с Леонидом Макарычем договорились, что вы у Горбачёва большой друг — звоните ему и сообщите сущность того, что мы хотим подписать сейчас публично*».

*Маркоўская:* Гэта каб вы пазванілі Гарбачову?

*Шушкевіч:* Каб я пазваніў Гарбачову. Маўляў, я зь ім вялікі сябра, і я павінен пазваніць і растлумачыць. А я ў адказ яму кажу: «*А мы вот с Леонидом Макарычем решили, что Буш ваш большой друг, и вы после меня позвоните, пожалуйста, Бушу*». Дамовіліся. Я набраў тройку — Гарбачову. Пакуль яму там слухаўку перадалі, пакуль высьвятляў у мяне нейкі там фраер, вярблюд я ці не, за гэты час я ўжо пачаў гаварыць з Гарбачовым… А там імгненна злучыўся з Бушам Ельцын, перакладаў гэта Козыраў, міністар замежных спраў, і ўжо ідзе там таксама гаворка. Напрыканцы гаворкі Гарбачоў ужо пачаў да мяне зьвяртацца на «вы», да гэтага часу ён заўсёды — «ты». І кажа: «*Вы представляете себе, как это*

*восприимет международная общественность?».* Маўляў, вы такое глупства робіце, вы слабакі. А я кажу: «*Вы знаете, так прилично воспринимает международная общественность, вот Борис Николаевич говорит с Бушем, и ему это нравится».* Усё, нямая сцэна, і пасьля гэтага ўжо да сустрэч новых з Гарбачовым…

*Маркоўская:* Ці ведаеце вы, пра што вялася размова з амэрыканцамі? Пра ядзерную зброю?

*Шушкевіч:* Ну зразумела, ведаю. Фактычна, Ельцын сказаў вельмі каротка, што мы прымаем заяву аб тым, што СССР як геапалітычная рэальнасьць і суб'ект міжнароднага права перастае існаваць.

*Маркоўская:* Ядзерная зброя не абмяркоўвалася? У каго будзе ядзерная зброя?

*Шушкевіч:* Ядзерная зброя абмяркоўвалася, але ў працэсе размовы… Яшчэ што важна, што Ельцын сказаў, што міжнародныя пагадненьні ўсе будуць выкананыя.

*Маркоўская:* Станіслаў Станіслававіч, вы сваёй рукой малявалі і сьціралі лініі на мапе сьвету. Калі вы гледзіце на сучасны сьвет… Трамп заявіў, што хоча купіць Грэнляндыю, гісторыя з Крымам, каталёнцы хочуць аддзяліцца, Балканы — ведаем, што адбывалася. Калі ўзяць, напрыклад, Усходнюю Эўропу, то як вы лічыце, у бліжэйшыя 10 гадоў можам мы быць перакананыя, што межы ня зьменяцца?

*Шушкевіч:* Давайце, першае. Справядлівых межаў не бывае. Ёсьць міжнародныя пагадненьні, да якіх людзі далучыліся, зь якімі пагадзіліся, альбо

супраць якіх пратэстуюць. Але ў нас справа ідзе аб тым, што пагадненьні, да якіх далучыліся, — Ялцінская канфэрэнцыя, Патсдамская канфэрэнцыя — і падзялілі пэўным чынам Польшчу, Германію, Савецкі Саюз, Львоў, Гродна, Беласток. Правялі нейкую рысу. Гэтыя пагадненьні ратыфікаваныя нацыянальнымі заканадаўчымі ўтварэньнямі. Значыцца, гэтыя межы сьвятыя. І ў Белавескім пагадненьні запісана — недатыкальнасьць граніц і тэрытарыяльная цэласьць краін. Калі паўстае пытаньне — а звычайна паўстае пытаньне між дзьвюма дзяржавамі, — павінны быць перамовы паміж гэтымі дзяржавамі і пасьля гэтага заключаная дамова. Я часамі стаю на баку тых, хто змагаецца за нацыянальную незалежнасьць.

*Маркоўская:* Давайце вернемся да канцоўкі майго пытаньня. Бліжэйшыя 10 гадоў, як вы лічыце — межы ва Ўсходняй Эўропе застануцца такімі, якімі мы бачым іх сёньня?

*Шушкевіч:* Ну, калі справядлівасьць будзе, то не застануцца.

*Маркоўская:* Крым маеце на ўвазе?

*Шушкевіч:* Я Крым маю на ўвазе. Прыднястроўе, Данбас маю на ўвазе. Заўважце, усюды суб’ектам зьяўляецца Расея, хоць яна адмаўляецца ад гэтага. Гэта не яе зброя, не яе зялёныя чалавечкі. Гэта ганьба, сорамна глядзець у вочы, калі пра гэта гавораць. Але зьмены павінны быць. Але я баюся, што зьмены могуць быць і ў горшы бок.

*Маркоўская:* У горшы бок — гэта што можа быць?

*Шушкевіч:* Ведаеце, калі такая ядзерная краіна, як Расея, пачынае дыктаваць там умовы, яна можа арганізаваць тут пад лукашэнкаўскім лякалам рэфэрэндум, на якім будзе 82% беларусаў, якія хочуць быць у Расеі. Яны пакажуць, што гэта так. Гэтага не прызнае ні міжнародная супольнасьць, ніхто, але яны так навучыліся пад кіраўніцтвам такіх пачвар, як Ярмошына, рабіць падтасоўку, што гэта можа быць. Гэта іх мэтады. І цяпер яшчэ ў гэтай дзяржавы ядзерная зброя. Ніхто ж ня будзе наводзіць парадак з дапамогай ядзернай зброі, таму што трэцяя сусьветная вайна будзе не такой лагоднай, як папярэдняя.

## «Дэклярацыі аб дзяржаўнай незалежнасьці аўтаномных рэспублік у РФ не адмененыя»

*Маркоўская:* Калі яшчэ пра Расею гаварыць, то ў 90-я адбыўся развал такой вялізнай савецкай камуністычнай імпэрыі з цэнтрам у Маскве, але відавочна, што ня ўсе народы, якія праглі незалежнасьці — я маю на ўвазе Каўказ, Татарстан, Башкірыю — атрымалі незалежнасьць ад Масквы. Як вы лічыце, працэс гэты спынены ці таксама ў бліжэйшыя 10 гадоў можна чакаць новага параду сувэрэнітэтаў?

*Шушкевіч:* Значыць, так, 15 былых савецкіх рэспублік прынялі дэклярацыі аб дзяржаўным сувэрэнітэце. Быў прыняты закон у Савецкім Саюзе, які прыраўноўваў жаданьне выйсьці з Са-

вецкага Саюзу ў аўтаномій да жаданьня саюзных рэспублік. І такіх рэспублік аўтаномных яшчэ 12 (з 27) прынялі дэклярацыі аб дзяржаўнай незалежнасьці. Ніхто гэтыя дэклярацыі не адмяняў. Гэта міна запаволенага дзеяньня. І сёньня ніхто пытаньня гэтага не падымае, таму што гэтае пытаньне будзе вельмі вострым. І паўтараю — дэклярацыі не адмененыя.

*Маркоўская:* Ці правільна я зразумела, што юрыдычна гэтыя 12 аўтаномных рэспублік таксама маюць права заявіць пра свой выхад — ужо не з Савецкага Саюзу, а з Расеі?

*Шушкевіч:* Я б сказаў інакш — яны маюць жаданьне, і яно афіцыйна не адмененае. Яно афіцыйна прынятае. Маюць жаданьне ня быць у Расейскай імпэрыі на сёньняшні момант.

*Маркоўская:* А чаму яны ня могуць выйсьці?

*Шушкевіч:* А расейская Канстытуцыя не дазваляе.

## «Мы Освальду не гаварылі, што ёсьць беларуская мова»

*Маркоўская:* Як вы лічыце, факт, што Станіслаў Шушкевіч вучыў Лі Гарві Освальда — ён у плюс ці ў мінус вашай біяграфіі?

*Шушкевіч:* Кажуць так: ці ты ўкраў, ці ў цябе ўкралі, але ты стаў вядомым чалавекам. Вось тут прыкладна тое самае. Я ўжо ня ведаю. Я вам скажу шчыра. Я апынуўся на заводзе, каб атрымліваць большую заработную плату, чым навуковы супрацоўнік. Гэта завод «Гарызонт». Ён

тады называўся імя 50-годзьдзя Кастрычніцкай рэвалюцыі. Апынуўся там і займаўся сваёй любімай справай. Калі нехта перакладаў артыкулы, многія англамоўныя часопісы былі ў нас, то я ў сэнсе перакладу з ангельскай мовы друкаванай на рускую быў вялікі дока. Да мяне ўсе прыходзілі, мы перакладалі, абмяркоўвалі гэтыя артыкулы. І калі трапіў — я ня ведаю, якім чынам, гэта мне не расказалі — Лі Гарві Освальд на радыёзавод, да мяне прыйшоў сакратар парткаму і сказаў, што вось вам партыйнае даручэньне, хоць вы беспартыйны, калі ласка, будзеце вучыць. Ну, я ж павінен быў зрабіць выгляд, я ж жывога амэрыканца ня бачыў… «Каб вам не было сумна, вось будзе з вамі яшчэ адзін хлопец — Рубінчык — і вы будзеце разам». Вось усё, што было. І я пагадзіўся. І мне было вельмі цікава паглядзець на жывога амэрыканца. Я па сёньняшні дзень вам не скажу, было 5 заняткаў, 6, 7 ці 8. Вось нешта такое было. Пасьля канчалася праца, у лябараторыю прыходзіў ён, і мы з Сашам Рубінчыкам яго вучылі рускай мове. Ён нядрэнна ведаў рускую мову.

*Маркоўская:* Ён ужо ведаў, калі прыехаў?

*Шушкевіч:* Ён ужо ведаў. Ён лепей ведаў рускую мову, чым мы ангельскую. Але нам было прыемна, што мы вучым амэрыканца. Мы тэмы прыдумалі: «Завод», «Вуліца», «Кінатэатар», «Сталовая» (рэстаранам не называлі) і гэтак далей. І ўсё. І гэтых было некалькі заняткаў. Было забаронена задаваць яму пытаньні, чаму ён тут апынуўся, хто ён такі, што ён робіць. Гэта ўсё было забаронена. Сакратар парткаму экспэрымэнталь-

нага цэху давёў да майго ведама, што я нічога ў яго не павінен пытацца.

*Маркоўская:* Наконт Освальда з вамі размаўляў толькі сакратар парткаму?

*Шушкевіч:* Толькі сакратар парткаму.

*Маркоўская:* Прадстаўнікі КДБ з вамі не размаўлялі?

*Шушкевіч:* Не, ніхто нідзе не гаварыў. А далей пачалося ўжо толькі калі гэта здарылася (забілі Кенэдзі). Ну, тады там было вельмі шмат жартаўнікоў. Я ўжо перайшоў працаваць ва ўнівэрсытэт, гэта 1963 год быў. І хто ні сустрэне — «Як, цябе ўжо выпусьцілі з КДБ? Ты ж рыхтаваў забойцу прэзыдэнта Злучаных Штатаў Амэрыкі». Гэта быў такі любімы жарт. І ва ўнівэрсытэт я прыйшоў з гэтым жартам.

*Маркоўская:* У Савецкім Саюзе на афіцыйным узроўні беларускай мовы было нават болей, чым яе ёсьць зараз. Освальд, знаходзячыся тут, нейкім чынам заўважыў, што ў гэтай краіне ёсьць яшчэ нейкая іншая мова, беларуская?

*Шушкевіч:* Пакуль я зь ім кантактаваў — не. І мы яму не гаварылі, што ёсьць беларуская мова.

*Маркоўская:* І вы не навучылі яго беларускай?

*Шушкевіч:* Абсалютна ніводнага слова не ўжывалі па-беларуску.

*Маркоўская:* А чаму? Таму што строга інструкцыю выконвалі?

*Шушкевіч:* Значыцца, мы ўжо былі homo soveticus. На вялікі жаль, трэба прызнаць, што гэта так.

*Маркоўская:* Ён не запытваў у вас, як на рускай мове зрабіць камплімэнты дзяўчыне? Што ўвогуле любяць беларускія дзяўчаты? Як падкаціць?

*Шушкевіч:* Не, такога не было. У нас былі дзелавыя тлумачэньні. А «я цябе люблю», «ці любіш ты мяне?» — гэта мы не трактавалі. Я наогул запомніў толькі адно: ніяк не ўдавалася зь ім зрабіць правільна націск у рускіх словах. І вось гэта «я думАю», «он думАет», «мы думАем» — у мяне сядзіць, вось проста я бачу яго твар, як ён гэта гаварыў. А я лічыў, што трэба, каб ён трошкі ведаў рускую граматыку.

*Маркоўская:* Ці верыце вы, што ён забіў Кенэдзі?

*Шушкевіч:* Не. Абсалютна ня веру. Я перакананы, што гэта сплянаванае забойства, дзе ён падстаўная фігура, на якую можна было зваліць віну.

*Маркоўская:* У іншых крыніцах вы казалі, што такое вашае перакананьне грунтуецца на тым, што ён нібыта кепска страляў.

*Шушкевіч:* Не, гэтага я ня ведаю. Як ён страляў, я ня ведаю. Ні пра якія стрэлы мы зь ім ніколі не гаварылі. Мірная тэматыка ў нас была.

## «У мяне і цяпер ёсьць асабістая зброя»

*Маркоўская:* Дарэчы. Гэта ўжо пытаньне не пра Освальда, але калі ў нас зайшло пра зброю... Пра вас ёсьць легенда, што вы заўсёды адмаўляліся ад традыцыйнай забавы намэнклятуры — паляваньня. Чаму? Вам жывёлаў шкада? Ці, можа,

вы кепска страляеце? І ўвогуле, калі вы былі кіраўніком дзяржавы, у вас была асабістая зброя?

*Шушкевіч:* У мяне і цяпер ёсьць асабістая зброя.

*Маркоўская:* Якая?

*Шушкевіч:* «Марголін». Пісталет. І часам, калі я еду на дачу, я магу пакласьці ў кішэню.

*Маркоўская:* Сур'ёзна?

*Шушкевіч:* Так. Гэта законна я маю гэтую зброю. А жонка мая кандыдат у майстры спорту па пісталету. Цяпер вы ўзьнялі такое пытаньне. Ведаеце, пра гэта мне расказаў Дэйвід Суорц, гэта першы амбасадар ЗША ў Беларусі. Яго партыйныя кіраўнікі вывезьлі разам зь міністрам замежных спраў Антановічам на паляваньне. І пасьля кажа так — учынілі расстрэл Антановіча. Паставілі яго каля слупа і стралялі ў яго бок, ну, міма. Я, кажа, калі гэтае дзікунства ўбачыў, больш ні на якае паляваньне не паехаў. Так што такое вар'яцтва ў нас было. Калі не змаглі падстрэліць казла ці кабанчыка, то тады такі жарт быў, добра выпіўшы, рабіць паляваньне на таго, хто прамазаў. Дык вось такім расстрэльваемым быў Антановіч, тагачасны міністар замежных спраў. Амбасадар ЗША сказаў мне, што такога дзікунства ён нідзе ў сьвеце больш ня бачыў, акрамя Беларусі. Я сказаў: гэта не беларускае дзікунства, а дзікунства беларускага ўраду і ўрадавых чыноўнікаў.

## «Думаю, ніколі не адбудзецца візыт амэрыканскага прэзыдэнта пры Лукашэнку і яму падобных»

*Маркоўская:* Калі Клінтан прыяжджаў у Менск, чым вы яго частавалі? Пакаштаваў ён беларускія дранікі?

*Шушкевіч:* Клінтана мы нічым не частавалі. Але ён запрасіў мяне ў свой аўтамабіль. Мы зь ім ехалі і з тым самым Суорцам, пра якога я вам казаў. І Клінтан у аўтамабілі дастаў ссабойку і прапанаваў мне каву. Перакладаў усё Суорц. Я папрасіў яго перакласьці, што я баюся піць каву, бо я ў заводцы страшнай і так, у мяне калоціцца сэрца, ну, надзвычайная падзея. А ён мне кажа: «Вы наіўны чалавек, прэзыдэнт ЗША ня п'е сапраўдную каву ў паездцы, так што можаце спакойна яе піць». І Клінтан дастае нешта з ссабойкі. Гэта цяпер у нас запакаваных кандытарскіх вырабаў шмат… А тады… І дае мне нейкую такую штуку — калі ласка, шакалядку да кавы. Сьнікерс ці нешта такое. Я кажу: вы ведаеце што, спадар прэзыдэнт, я гэты сьнікерс перадам свайму сыну. І кладу яго ў кішэню. Бо цяпер, кажу, я яго не хачу, а для яго будзе прыемна нешта атрымаць ад прэзыдэнта ЗША. І ён не дакрануўся ў нас ні да якай ежы. Быў прапанаваны пачастунак на Вайсковым завулку, 4, дзе мы падпісвалі дамову, але ён ні да чога не дакрануўся. Я ня ведаю, ці дакрануўся хто-небудзь з дэлегацыі, я гэтага ня бачыў.

*Маркоўская:* Вы для сябе як гэта тлумачыце? Яны баяліся атруціцца?

*Шушкевіч:* Я ніяк для сябе гэта не тлумачу.

*Маркоўская:* Ну, гэта дзіўна. Людзі цэлы дзень у краіне і не паелі.

*Шушкевіч:* Увесь візыт Клінтана ў Беларусь працягваўся 6 гадзін усяго. За гэты час ён выступіў перад маладымі навукоўцамі Акадэміі навук, і яшчэ тры шэрагі вэтэранаў там сядзела. За гэты час быў падпісаны дакумэнт. За гэты час мы праехаліся, яму вельмі падабалася архітэктура Менску. За гэты час Гілары Клінтан сустрэлася зь міністрам аховы здароўя, пабывала ў клініцы, зь дзецьмі, прывезла ліха ведае колькі шпрыцаў аднаразовых, тады іх у нас наогул не было. І многа лекаў. Гэта насычаны быў візыт. Шчыра кажучы, часу не было частавацца. І чаму ён нічога не пакаштаваў, я ня ведаю.

*Маркоўская:* Сёньня, калі мы назіраем пацяпленьне адносінаў паміж Амэрыкай і Беларусьсю, вось прыяжджалі высокапастаўленыя чыноўнікі — Болтан, яшчэ нехта…

*Шушкевіч:* (сьмяецца) У параўнаньні з тым, што было раней, гэтая высокапастаўленасьць — такі сабе ўзровень…

*Маркоўская:* Ну, што ёсьць. Як вы лічыце, ці магчыма, што другі ў гісторыі візыт амэрыканскага прэзыдэнта ў Беларусь адбудзецца яшчэ пры Лукашэнку?

*Шушкевіч:* Я думаю, што ніколі не адбудзецца візыт амэрыканскага прэзыдэнта пры Лукашэнку і яму падобных.

## «Бацька называў яе Эдзі Пустацьвет. Яна пісала даносы»

*Маркоўская:* Вы калі заступілі на гэтую пасаду і атрымалі доступ да дакумэнтаў і архіваў, ці даведаліся вы, хто пісаў даносы на вашага бацьку, які быў рэпрэсаваны і 14 гадоў правёў у ГУЛАГу?

*Шушкевіч:* Я не глядзеў справу ў КДБ майго бацькі. Я папрасіў журналістаў, каб яны паглядзелі, ім дазволена было паглядзець. Я ведаю, хто пісаў даносы на майго бацьку.

*Маркоўская:* Як вы змагаліся са спакусай пакараць гэтых людзей альбо гэтага чалавека?

*Шушкевіч:* Я не змагаўся са спакусай пакараць, таму што ў мяне была, я б сказаў, трагічная сытуацыя. Лепшая сяброўка маёй маці… І мне маці казала так: ведаеш, многія мне здрадзілі, адна ня здрадзіла. І аказалася, што яна пісала даносы.

*Маркоўская:* Сяброўка вашай маці пісала даносы на вашага бацьку?

*Шушкевіч:* Так. Ну, я магу сёньня сказаць. Бацька жартаваў заўсёды… Ну, Эдзі Агняцьвет. Называў яе Эдзі Пустацьвет. Яна пісала даносы. На жаль, тады, калі не напішаш данос, дык і цябе могуць пасадзіць.

*Маркоўская:* Гэты чалавек, які пісаў даносы на вашага бацьку, была Эдзі Агняцьвет?

*Шушкевіч:* Я яшчэ раз кажу. Даносы на маіх родных, даносы, якія канстатаваныя ня мною, а беларускімі журналістамі, якія абяцалі не выдаваць сваё прозьвішча і атрымалі доступ у КДБ да справы майго бацькі, яны сьцьвердзілі, што

гэтыя даносы пісала Эдзі Агняцьвет. Быў зьезд таварыства «Веды», я зь ёй сустрэўся ў гасьцініцы, кажа: «Што гэта бацька ваш на мяне?»... «Ну, я ў справы бацькі ня ўмешваюся», — я ёй адказаў. Бо маці яе лічыла сваёй найлепшай сяброўкай.

*Маркоўская:* Нават калі даведалася пра гэты факт?

*Шушкевіч:* Маці нічога не даведалася. Таму што ў мяне былі пэўныя абяцаньні.

## «Я ня меў абсалютна ніякай улады»

*Маркоўская:* Калі вы былі кіраўніком краіны ў 1991–1994 гадах, канечне, фактычнай улады вы мелі значна менш, чым цяперашні кіраўнік краіны Аляксандар Лукашэнка. Але нават цяпер і зь ягоных вуснаў, і з вуснаў прапаганды мы можам пачуць: «Вось пры дэмакратах...», «Вось пры Шушкевічу...». Але фактычна Вячаслаў Кебіч меў улады больш. Для тых нашых гледачоў, якія ня ведаюць, не засталі, кепска разумеюць тыя часы, можаце вы расклясьці, чым кіраваў Кебіч і чым кіравалі вы?

*Шушкевіч:* Магу.

*Маркоўская:* Калі ласка.

*Шушкевіч:* Глядзіце. Я ня меў абсалютна ніякай улады. Падкрэсьліваю яшчэ раз — абсалютна ніякай улады. Уладу меў Прэзыдыюм Вярхоўнага Савету, які я ўзначальваў, і Вярхоўны Савет, які я ўзначальваў. І каб зрабіць уладавы крок, мне трэба было мець рашэньне Вярхоўнага Савету альбо рашэньне Прэзыдыюму Вярхоўнага Савету.

Я вам больш за тое скажу — я ня мог узяць сабе намесьніка без рашэньня Вярхоўнага Савету. І мне прыйшлося браць свайго палітычнага ворага намесьнікам, таму што многа было працы. Кузьняцова. Сем прапанаваных мной кандыдатур былі адхіленыя Вярхоўным Саветам. Таму што Вярхоўны Савет прыняў мяне пасьля жнівеньскага путчу, а далей ачуняў — і падтрымкі ў мяне не было. Былі розныя правакацыі такога ўзроўню, дзе трэба было змагацца за сваю прававу. Ну, напрыклад, выходзіць Булахаў і кажа, што ўсе беды… і ён вымушаны скласьці свае дэпутацкія паўнамоцтвы, і кладзе сваё дэпутацкае пасьведчаньне на трыбуну. Я вось сяджу думаю — што мне рабіць? Па правілах, па рэглямэнце я павінен стварыць камісію альбо аддаць на заключэньне камісіі. Але я ведаю, калі я аддам на заключэньне камісіі, што я давёў чалавека да таго стану, што ён хацеў пакінуць… што гэта будзе. Я думаю — эге, дай-ка я зраблю інакш. Я кажу: «Ну, раз пытаньне паднялі, давайце, хто за тое, каб пазбавіць дэпутата Булахава дэпутацкіх паўнамоцтваў і вывесьці зь Вярхоўнага Савету? Хто за?» Амаль нікога няма за. «Хто супраць?» Усе супраць. Пытаньне закрытае, ён застаўся.

*Маркоўская:* Вы сьпікер Вярхоўнага Савету. І Вячаслаў Кебіч — прэм’ер-міністар. Вось бюджэт. Хто вырашаў, як траціць? І хто рэальна траціў?

*Шушкевіч:* Гэта ўсё вырашаў Вярхоўны Савет, як зацьвердзіць бюджэт. Але прапанову рабіў урад, аналізавала камісія па фінансавых пытаньнях, і траціў урад.

*Маркоўская:* Сілавы блёк каму падпарадкоўваўся?

*Шушкевіч:* Сілавы блёк не падпарадкоўваўся нікому. Прэм'еру падпарадкоўваўся, але тут я мог учыніць наступнае. Дзьве было пазыцыі. Фактычна ён падпарадкоўваўся не Беларусі, а заставалася яшчэ падпарадкаваньне Маскве (да 1992 году. — РС). Але тут быў паважаны чалавек на чале Беларускай вайсковай акругі. Міністэрства замежных спраў не было таксама прэм'еру падпарадкавана, яно было падпарадкавана Вярхоўнаму Савету, таму што па Канстытуцыі міжнародную палітыку вызначае Вярхоўны Савет. І тэарэтычна МЗС павінен быў быць падпарадкаваны Вярхоўнаму Савету. Гэтак як і КДБ.

*Маркоўская:* Прэса, тэлебачаньне, радыё?

*Шушкевіч:* Ніякага дачыненьня да кантролю, да абмежаваньняў прэсы Вярхоўны Савет ня меў.

*Маркоўская:* Дык а чым тады кіраваў Кебіч? Што ён мог зрабіць бяз вашага ведама? Бязь ведама Вярхоўнага Савету?

*Шушкевіч:* Ён кіраваў сродкамі, кіраваў кантролем над бюджэтам, кіраваў пераразьмеркаваньнем бюджэту… Усё мог зрабіць. Як кіраўнік улады. Мы — заканадаўчы орган, мы павінны былі рабіць закон, якога ён абавязаны прытрымлівацца, і кантраляваць, што ён выконвае гэты закон. Але болей нічога. Але тут я хачу адну заўвагу зрабіць. Ведаеце, я іду з жонкай па вуліцы, можа, гадоў 20 назад. І кідаецца мне на шыю прыгожая жанчына і кажа: «Дзякуй вам, вы выратавалі мяне і маю сям'ю, далі мне кватэру». Ніколі

нікому я ніякай кватэры не даваў і ня мог даць. І такіх выпадкаў было некалькі. І вы ведаеце што? Аказваецца, штомесяц у мяне быў прыём грамадзян. Па савецкаму стэрэатыпу. І так належала па нашаму рэглямэнту работы Вярхоўнага Савету — старшыня адзін раз у месяц прымае, і там ужо фільтруюць, хто трапіць на прыём, а хто ня трапіць. І я пісаў такую рэзалюцыю: «Кіраўніку Менгарвыканкаму — прашу дэталёва разабрацца ў сытуацыі і прыняць рашэньне». І падпісваўся. Аказваецца, гэта рэзалюцыя — «дай кватэру і не брыкайся».

*Маркоўская:* І далі кватэру ад вашага імя?

*Шушкевіч:* Далі кватэру некалькім асобам. Яны пасьля знайшлі спосаб мне падзякаваць вось такімі сустрэчамі на вуліцы. Я ня ведаў, пакуль не разабраўся, у чым тут справа, што гэтая рэзалюцыя была эквівалентная таму, каб даць кватэру.

## «Для мяне гэта былі ня подпісы!»

*Маркоўская:* Станіслаў Станіслававіч, чаму, калі пра вас пачынаеш размаўляць зь іншымі палітыкамі, то даволі часта можна пачуць такую фразу: «Шушкевіч зьліў датэрміновыя выбары Вярхоўнага Савету 1992 году»? Што адбылося?

*Шушкевіч:* Зьліў?

*Маркоўская:* Мы ведаем, што БНФ сабраў амаль 500 тысяч подпісаў для таго, каб пераабраць, зрабіць датэрміновыя выбары Вярхоўнага Савету. І што вы не дапусьцілі гэтую працэдуру.

*Шушкевіч:* Гэта ўсё чыстае глупства.

*Маркоўская:* Што адбылося? Раскажыце.

*Шушкевіч:* Я яшчэ раз кажу — гэта ўсё чыстае глупства. Таму што гэтыя подпісы — на любой паперцы зрабіце гэтыя подпісы і падайце. Гэта было зроблена не па правілах і ня так, каб Вярхоўны Савет успрыняў як рашэньне. Гэта немагчыма было зрабіць. Яны яшчэ дабіваліся… Вярхоўны Савет не ўключае ў парадак дня пытаньне пра гэтыя выбары. Ён не ўключыў раз, другі. Я маю права ўключыць гэта ў парадак дня Вярхоўнага Савету як спэцыфічнае асобае пытаньне. Як я магу ўключыць яго ў парадак дня Вярхоўнага Савету, калі толькі што за гэта галасавалі і за гэта аддалі 40 ці 50 галасоў, а ўсе астатнія супраць? Што я, самазабойца?

*Маркоўская:* Дык подпісы былі сабраныя?

*Шушкевіч:* Подпісы былі сабраныя на такіх паперках, якія можна на цьвічок павесіць у непрыстойным месцы.

*Маркоўская:* Фармальна былі несапраўдныя подпісы?

*Шушкевіч:* Не было кантролю за сапраўднасьцю подпісаў, не было належнага парадку іх збору і г.д. Для мяне гэта былі ня подпісы! (Цэнтральная камісія па выбарах і рэфэрэндумах прызнала сапраўднасьць подпісаў і адпаведнасьць іх патрабаваньням заканадаўства. — РС) Я вам больш за тое скажу — я ня меў ніякага дачыненьня да ўтварэньня БНФ. БНФ — цудоўная структура. Тое, што яны паднялі пытаньне аб беларускай гісторыі, Курапатах, аб усім гэтым — гэта цудоўна. Але палітыкі хілыя, асабліва

самы хілы — дык гэта Зянон Пазьняк. Чаму? Ніякай дэмакратыі ў сваім асяродзьдзі. Усё, што ён сказаў, — закон. Заўважце, самы аб'ектыўны паказчык — выбары 1996 году, Вярхоўны Савет 13-га склíканьня. З падачы Зянона Пазьняка, ён разьмеркаваў, дзе і ў якой акрузе каго вылучаць, і амаль ва ўсіх акругах былі вылучаныя прадстаўнікі БНФ. Заўважце, амаль ва ўсіх акругах! І ні адзін ня быў абраны. Ні адзін! Ну як жа можна было так прамазаць? Ты што, не разумееш, што адбываецца ў грамадзтве? Вы паглыблялі сваю беларускасьць, сваю шчырасьць, сваю адданасьць радзіме, але вы не распаўсюджвалі вашую думку сярод насельніцтва. І насельніцтва ня стала народам беларускім за час вашай працы, і не палепшылася гэтае становішча. Я падаўся на гэтыя выбары. Прычым я быў з трыбуны аб'яўлены карупцыянэрам, здраднікам, чым хочаце. І я набраў 76% у першым туры, таму што людзі бачылі, што робіцца, яны за мяне прагаласавалі. І ніводнага не абралі прадстаўніка БНФ. Ну, пасьля лёгка было расправіцца з усімі астатнімі за гэтае глупства. Таму што ніводнай арганізаванай структуры не было ў Вярхоўным Савеце.

## «Лічу, што прэзыдэнцкія выбары ў 1994-м і выбары Вярхоўнага Савету ў 1995-м былі нармальнымі»

*Маркоўская:* На два гады раней пераносімся, 1994 год, выбары. У адным з інтэрвію вы сказалі, што былі два дэмакратычныя прабеларускія кан-

дыдаты — гэта вы і Зянон Пазьняк. І вось гэтае пытаньне, якое вам, напэўна, пастаянна закідваюць, пра аб'яднаньне, каб нехта з вас зьняўся на карысьць другога. І вы сказалі такую фразу: калі б вы зьняліся, то прыхільнікі Пазьняка за вас бы прагаласавалі, а калі б наадварот, калі б вы зьняліся на яго карысьць, — то ваш электарат не пайшоў бы за яго галасаваць.

*Шушкевіч:* Так яно і ёсьць.

*Маркоўская:* Ці значыць гэта, што электарат Зянона Пазьняка больш адказны?

*Шушкевіч:* Я думаю, што ягоны электарат вельмі адказны, гэта шчырыя беларусы, і ў яго больш беларускасьці, ва ўсялякім выпадку паказной. Таму што ён па прафэсіі ведаеце хто? Ён актор. Таму ён лепей гэта паказваў як кваліфікаваны і адукаваны актор. Я горш гэта паказваў. Я проста Беларусь любіў, але так, як ён, я беларускую гісторыю і Беларусь ня ведаў.

*Маркоўская:* Вы спрабавалі ініцыяваць зь ім размову, каб аб'яднаць ваш і ягоны электараты?

*Шушкевіч:* Размову пра тое, каб аб'яднаць, не было ніякага сэнсу зь ім рабіць. Глядзіце. Спачатку мяне жартам вылучылі кандыдатам у народныя дэпутаты СССР. І на патаемным галасаваньні ва ўнівэрсытэце 450 галасоў было за мяне, 70 — за прарэктара Пятраева, і 50 — за Зянона Пазьняка. Зянон не працаваў у БДУ, я ўсіх ведаю ва ўнівэрсытэце, а Зянона — ня ведаю. І я так і сказаў: «Шкада, што я ня ведаю гэтага чалавека, што тут у яго столькі прыхільнікаў». Калі я прыйшоў назаўтра на працу, дык у мяне

на стале ляжала праграма «Адраджэньня», у мяне на катэдры было некалькі чалавек з БНФ, яны мне не гаварылі аб гэтым, яны нават ня ведалі толкам, што я ведаю беларускую мову, таму што па-руску гаварылі заўсёды. Я вырашыў, што мне трэба паехаць да Пазьняка і пагаварыць зь ім. Я прыехаў да яго. Слухайце, гэта быў такі важны чалавек, ён гатовы быў вучыць мяне чаму хочаце, і ўжо важней за яго не было нікога. Той самы Лукашэнка, толькі беларускі.

*Маркоўская:* Ці была гатовая машына фальсыфікаваць на карысьць Кебіча?

*Шушкевіч:* Гэтага я ня ведаю. Я заўсёды быў за шчырыя выбары, за адсутнасьць якой бы там ні было фальсыфікацыі, і ніякага падпарадкаваньня ня меў. Думаю, што ў Кебіча пэўныя магчымасьці былі, але баюся, што ён баяўся. Справа ў тым…

*Маркоўская:* Ну вось і расказваюць, што ён забаяўся.

*Шушкевіч:* Ведаеце, у яго былі ворагі, якія былі яго найвялікшымі сябрамі. Ён піша пра гэта ў сваёй кніжцы. Напрыклад, той самы Мясьніковіч, той самы Косьцікаў. І многа-многа іншых, гаварыць ужо пра якіх ня трэба, я ўжо іх прозьвішчы пазабываў. У яго былі ворагі, і яны прыкідваліся сябрамі. Так, як ён маім сябрам прыкідваўся. Ну, гэта звычайная зьява.

*Маркоўская:* Як вы лічыце, як бы выглядала гісторыя Беларусі, калі б прэзыдэнтам на тых выбарах стаў Кебіч?

*Шушкевіч:* Баюся, што горш.

*Маркоўская:* Выбары 1994 году сапраўды былі сумленныя?

*Шушкевіч:* Я лічу, што так.

*Маркоўская:* Калі пачытаць незалежную прэсу тых часоў, то там таксама фіксуюцца фальсыфікацыі, парушэньні…

*Шушкевіч:* Калі там што-небудзь і было, то гэта такая дробязь, што на яе ня трэба зьвяртаць увагу. Я лічу, што прэзыдэнцкія выбары ў 1994-м і выбары Вярхоўнага Савету ў 1995-м былі нармальнымі.

## «Пра расейскія танкі я гаварыў паўжартам»

*Маркоўская:* У 2010 годзе вы выступілі з заявай, у якой зьвярнуліся да прэзыдэнта Расеі Мядзьведзева з заклікам, каб ён увёў войскі ў Беларусь і каб спыніў тут парушэньне правоў чалавека. Я разумею, што вы былі ў паніцы пасьля таго, як улада грамілa апазыцыю і грамадзянскую супольнасьць. Але скажыце, вы верылі ў тое, што…

*Шушкевіч:* Скажыце, такую заяву хто-небудзь бачыў? Мною падпісаную?

*Маркоўская:* У прэсе ёсьць вашая цытата.

*Шушкевіч:* Яшчэ раз кажу. Ёсьць дзе-небудзь заява, мною падпісаная?

*Маркоўская:* Фізычна заявы мы ня бачылі.

*Шушкевіч:* Я кажу, калі вы так змагаецеся за правы чалавека, дык пазмагайцеся за правы чалавека ў Беларусі. Вось усё, што я сказаў. Таму што гэта быў сьмех, што ён змагаецца за правы чалавека, калі суюць гэтую постаць лукашэнкаўскую.

Таму калі гэта прыпісваецца мне так, што я прасіў увесьці расейскія войскі, — гэта глупства абсалютнае. Я яшчэ раз кажу — пашукайце дзе-небудзь такую заяву ў якой-небудзь прэсе. Гэта перапевы таго, што я сказаў, што калі вы хочаце рашаць нешта войскамі, дык вырашайце ў Беларусі правы чалавека з дапамогай войска.

*Маркоўская:* Чым гэта адрозьніваецца ад таго, што я сказала?

*Шушкевіч:* Дык я мог так сказаць у звычайнай размове. А больш за тое, я казаў, што ўвядзіце войскі ў Валагодзкую вобласьць, дзе ў вас парушаюцца правы чалавека больш, чым у Беларусі. Гэта я так сказаў.

*Маркоўская:* Але ж вы ведаеце, як Расея змагалася за дэмакратыю ў Празе ці ў Афганістане…

*Шушкевіч:* Гэта не Расея, а Савецкі Саюз змагаўся, і мы з вамі разам змагаліся. І я ведаю маё стаўленьне да гэтага. І ня трэба тут рабіць нейкія паралелі.

*Маркоўская:* Але якім чынам вы маглі ўяўляць… 2010 год — гэта ня так даўно… Каб Расея прыйшла з войскамі і змагалася тут за правы чалавека?

*Шушкевіч:* Гэта я недзе гаварыў як жарт, паўжарт і нічога нідзе ніколі не падпісваў, таму што гэта было б глупствам. Па-мойму, я гаварыў гэта, знаходзячыся ў Маскве. Запрашаць войскі расейскія ў Беларусь — гэта можа толькі Лукашэнка, я ніколі гэтага не рабіў.

## «Ядзерная Расея павінна быць у пэўным сэнсе нашым абаронцам. Гэта пад кіраўніцтвам Пуціна яна стала пагражаць нам»

*Маркоўская:* Цяпер ва Ўкраіне гучаць такія думкі, што, магчыма, дарэмна ўкраінцы пазбавіліся ядзернай зброі. Таму што цяпер не давялося б ваяваць з Расеяй на няроўных умовах. Як вы лічыце, у пляне ўмацаваньня нацыянальнай вайсковай бясьпекі, можа, гэта і для Беларусі была б добрая ідэя?

*Шушкевіч:* Я думаю, што многія звар'яцелі. І мне здаецца, у нашай гаворцы вы таксама крышку. Ну вы ўяўляеце сабе, што ўкраінцы з расейцамі будуць ваяваць ядзернай зброяй? Вы можаце сабе гэта ўявіць? Вы можаце сабе ўявіць, што Беларусь будзе бараніцца ядзернымі ракетамі? І наяўнасьць гэтай зброі на тэрыторыі Ўкраіны і Беларусі і Казахстана пагражае вайной ядзерных суб'ектаў. Вы хацелі, каб была зьнішчана Беларусь? Калі нармальныя вайскоўцы атрымоўваюць уладу і павінны здабываць перамогу, яны павінны зьнішчыць пляцдарм зь ядзернай зброяй, зьнішчыць Беларусь. Украіну зьнішчыць было цяжэй, таму што ва Ўкраіне былі шахтныя. Ведаеце, узрываюць ядзерны зарад, і нічога ў шахце там ня зробіцца. А ў Беларусі ўсё на паверхні было. Таму давайце ня будзем разважаць і параўноўваць. Цяпер далей — захавалася ядзерная зброя. Уявіце сабе, што трэба. Там старэюць кампанэнты, пэўны тэрмін існа-

ваньня пэўных дэталяў, іх трэба мяняць. Дзе яны выпрадукоўваюцца? Яны выпрадукоўваюцца ў Расеі. Што вы будзеце рабіць з гэтай зброяй? Гэта вялікія выдаткі. І так бедныя людзі, а тут яшчэ выдаткі на гэтую зброю. Не, давайце, Расея багатая, няхай яна ў сябе яе і трымае. І мы ўсё ж неяк сябруем, былі ў адным саюзе — ядзерная Расея павінна быць у пэўным сэнсе нашым абаронцам. Гэта пад кіраўніцтвам Пуціна яна стала пагражаць нам, што захопіць нас. Паглядзіце, як хваліцца Пуцін усюды ядзернай зброяй. Нельга ісьці па гэтым шляху, трэба аслабляць ядзернае ўзбраеньне. Я лічу сваім найвялікшым, самым вялікім у жыцьці дасягненьнем — тое, што я, фактычна я, вывеў ядзерную зброю зь Беларусі. Таму што ўсё было падпісана для таго, каб… І Вярхоўны Савет прагаласаваў адзінадушна. Усе прагаласавалі за тое, каб вывесьці ядзерную зброю, яшчэ пры мне.

*Маркоўская:* У адным з інтэрвію вы сказалі: «Я русафіл, але крэмляфоб». А вы крэмляфоб за што? За карупцыю ці за імпэрыялізм?

*Шушкевіч:* За імпэрскасьць. Імпэрыялізм — тут не падыходзіць гэты тэрмін. А імпэрскасьць, калі са скуры лезе расейскае кіраўніцтва, каб быць імпэрыяй, гэта значыць задаваць тон усюды, дзе некалі была імпэрыя. І разам з тым са 140 мільёнаў грамадзян Расеі 22 мільёны ніжэй узроўню жабрацтва. Гэта ж ганьба. Клопатаў пра людзей у мяне няма, а пра краіну родную ёсьць клопаты. Што такое краіна безь людзей?

*Маркоўская:* Ну, а русафілам вы ўжо зараз не зьяўляецеся?

*Шушкевіч:* Зьяўляюся.

*Маркоўская:* Што рускага вам падабаецца?

*Шушкевіч:* Вялікая руская культура.

*Маркоўская:* А вось канкрэтна? Што вы любіце?

*Шушкевіч:* Канкрэтна… Ведаеце, калі я чытаю «Яўгенія Анегіна», я магу хоць пяць разоў прачытаць, хаця я звычайна нічога і два разы не чытаю. Мне гэта падабаецца, я прымітыўны. Калі я чытаю Лермантава, мне хапае «На смерть поэта», таму што там на ўсе выпадкі ёсьць адказы. «А вы, надменные потомки» — гэта я да сёньняшніх зьвярнуся кіраўнікоў Расеі.

*Маркоўская:* А «Бородино» вам падабаецца Лермантава?

*Шушкевіч:* «Бородино» — гэта выдумка расейскай прапаганды. Лермантаў напісаў цудоўны верш, ён напісаў пра тых, хто змагаўся пад Барадзіном — «Скажи-ка дядя, ведь недаром»… Так? І «были люди в наше время». Так, былі. «Не то, что нынешнее племя». Гэта ўсё праўда. Але гэта было прайграна, таму што трэба было здаць Маскву. Не пашкадавалі ж масквічоў, ніхто ж не гаворыць, што іх французы грабілі, сьсільнічалі і ўсё такое. Пра гэта ніхто не гаворыць. А тое, што здалі дзеля вялікай мэты... Здалі таму, што слабыя былі.

*Маркоўская:* Лермантаў ня быў імпэрыялістам, ён проста напісаў верш, а яго…

*Шушкевіч:* Лермантаў быў патрыётам Расеі, ён так усё ўспрымаў, ён быў паэтам. Ён і загінуў, таму што ён быў чыстай душой. Гэта толькі Расея магла

пагубіць сваіх лепшых сыноў — і Лермантава, і Пушкіна. У такім узросьце.

*Маркоўская:* Каго зь міленіялаў (гэты тыя, хто нарадзіўся пасьля 1981 году) вы маглі б адзначыць у Беларусі?

*Шушкевіч:* Мне многія падабаюцца, але я дзьве постаці маладыя выдзеліў бы — Севярынец і Дашкевіч. Такіх чыстых і сумленных людзей, як Севярынец і Дашкевіч, я іншых ня ведаю. Набліжаюцца многія, гэтыя вышэй за ўсіх.

## «Я адчуваю, што ва ўрадзе ёсьць многа разумных людзей»

*Маркоўская:* Ці ведаеце вы, хто такі блогер NEXTA?

*Шушкевіч:* Толькі бачыў здымак. Думаю, што гэта шырма, таму што разумна паступае.

*Маркоўская:* Шырма… Растлумачце.

*Шушкевіч:* Ну, гэта нехта выдае сябе за такога сымпатычнага маладога чалавека, і я з задавальненьнем гляджу на яго твар у інтэрнэце.

*Маркоўская:* Вы ведаеце, што ён вядзе канал у Тэлеграме, і ён адметны тым, што там пастаянна зьяўляецца інфармацыя знутры сыстэмы. Як вы лічыце, у сучаснай Беларусі магчымыя пэрыядычныя працечкі інфармацыі?

*Шушкевіч:* Я адчуваю, што ва ўрадзе ёсьць многа разумных людзей, якім абрыдла гэтая сыстэма, якая працуе па старым прынцыпе «я дурань, калі ты начальнік».

*Маркоўская:* Ці чулі вы пра законапраект Ганны Канапацкай? Пра гарантыі кіраўніку краіны ў выпадку, калі ён сыдзе ў адстаўку.

*Шушкевіч:* Я мала таго што паважаў, я проста любіў гэтую жанчыну за тое, што яна добра глядзіцца. Я быў абураны тым, што яе не падтрымала на другі заход яе родная Аб'яднаная грамадзянская партыя. Я ёй пра гэта нават сказаў на прыёме нейкім. Ну, калі яна гэты выбрык зрабіла — з гарантыяй. Ну прабачце, я гэта тлумачу не як мудрасьць, якую яна хацела заваяваць, а як лізаблюдства.

*Маркоўская:* Як вы лічыце, ці трэба, каб былы кіраўнік краіны меў нейкія гарантыі?

*Шушкевіч:* Я лічу, што закон павінны выконваць усе, у тым ліку і былы кіраўнік краіны. Калі ён парушыў закон, ён павінен за гэта адказваць. А гэты кіраўнік ужо парушыў закон так многа разоў, што павінен адказваць, і пазбаўляць яго ад адказнасьці — гэта значыць заваяваць яго прыхільнасьць. Інакш я не разглядаю. Таму Канапацкая для мяне як палітык прапала.

## Бліц-інтэрвію

*Маркоўская:* Хто быў большым дэмакратам — Ельцын ці Гарбачоў?

*Шушкевіч:* Ельцын.

*Маркоўская:* Хто быў большым сацыялістам — Ельцын ці Клінтан?

*Шушкевіч:* Вельмі цяжкое пытаньне. Гэта трэба глыбока прааналізаваць дзейнасьць. Не выключаю, што Клінтан.

*Маркоўская:* Дзе вы былі 21 жніўня 1991 году?

*Шушкевіч:* Я быў у Вярхоўным Савеце, патрабаваў ад Дземянцея склікаць Вярхоўны Савет.

*Маркоўская:* Дзе вы былі 19 сьнежня 2010 году?

*Шушкевіч:* Быў у больніцы. Каб я быў ня ў больніцы, я б не пайшоў бы на Плошчу, бо ў мяне было ўжо ня вельмі добра са здароўем.

*Маркоўская:* Які павінен быць гімн Беларусі?

*Шушкевіч:* Той, які існуе, можа быць падпраўлены, каб быць гімнам Беларусі.

*Маркоўская:* Нечакана.

*Шушкевіч:* Так, там многа добрых словаў, і толькі «народаў братэрскіх саюз» — гэта акалесіца. Але мэлёдыя і гімн утрымліваюць многа таго, што павінна быць у гімне.

*Маркоўская:* Які самы лепшы гатунак віскі?

*Шушкевіч:* Ой, у мяне многа віскі. Але я, відавочна, дрэнна разьбіраюся. Па-першае, у мяне цяпер любы віскі — добры гатунак, таму што мне забаронены ўсялякі віскі. Але я апусьціўся да таго, што рэкляму буду рабіць — MacArthur's.

*Маркоўская:* Ці нясе пагрозу Астравецкая АЭС?

*Шушкевіч:* Нясе, але меншую, чым малююць.

*Маркоўская:* Фізыка — гэта навука, якая пацьвярджае ці абвяргае існаваньне Бога?

*Шушкевіч:* Ну, як Эйнштэйн адкажу — пацьвярджае.

*Маркоўская:* Самае складанае рашэньне на пасадзе кіраўніка краіны?

*Шушкевіч:* Адмовіць у памілаваньні. Я адмовіў у памілаваньні, таму што забойцу пяцярых нявінных людзей ня мог я падпісаць і памілаваць. І да гэтага часу мне цяжка… Я не прыхільнік сьмяротнага пакараньня, але давялося ўласную руку прыкласьці да гэтага.

*Маркоўская:* Вы адзін раз гэта зрабілі?

*Шушкевіч:* Ну, будзем гаварыць, адзін раз я гэта зрабіў, таму што іншыя пытаньні можна было вырашыць памілаваньнем.

*Маркоўская:* Якая ваша любімая авіякампанія?

*Шушкевіч:* Ведаеце, «Аэрафлот».

*Маркоўская:* Ды ладна!

*Шушкевіч:* Таму што Lufthansa ў мяне сьцягнула 300 тысяч міль, дык ужо мне… Добрая кампанія «Аэрафлот», і супэрджэт вось гэты — беларускі канструктар. Так што добрая кампанія.

*Маркоўская:* Нацыянальная згода ці масавая люстрацыя?

*Шушкевіч:* Нацыянальная згода.

*Маркоўская:* Якая краіна ў сьвеце можа быць самым надзейным хаўрусьнікам Беларусі?

*Шушкевіч:* Ну, я лічу, павінны быць суседзі.

*Маркоўская:* Зь якога боку?

*Шушкевіч:* І з таго, і з другога.

*Маркоўская:* Дзякуй вам вялікі! Было вельмі прыемна.

*Шушкевіч:* Калі ласка.

# Алексіевіч, Антончык, Арлоў, Гарэцкі, Шушкевіч узнагароджаныя мэдалём «100 гадоў БНР»

18 чэрвеня 2019

*Месца ўручэньня мэдаля сымбалічнае — кавярня па адрасе Менск, вуліца Валадарскага, дом 7. У гэтым будынку 101 год таму была абвешчаная незалежнасьць Беларускай Народнай Рэспублікі. Цяпер у кавярні знаходзіцца шыльда, якую меркавалася павесіць на фасадзе.*

«Нобэлеўская ляўрэатка Сьвятлана Алексіевіч, літаратар і гісторык Уладзімер Арлоў, дэпутат Вярхоўнага Савету 12-га скліканьня Сяргей Антончык, акадэмік Радзім Гарэцкі, былы старшыня Вярхоўнага Савету 12-га скліканьня, прафэсар Станіслаў Шушкевіч у дэмакратычнай незалежнай беларускай дзяржаве атрымалі б дзяржаўныя ўзнагароды», — сказаў намесьнік старшыні Рады БНР Сяргей Навумчык.

Старшыня Вярхоўнага Савету 12-га скліканьня Станіслаў Шушкевіч беларускіх дзяржаўных узнагародаў ня мае, хоць ён ляўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР, заслужаны дзяяч навукі і тэхнікі.

Станіслаў Шушкевіч расказаў, што ў 1995 годзе ён адмовіўся ад мэдаля Нацыянальнай акадэміі навук, бо яго не запрасілі на ўрачыстую цырымонію, пабаяўшыся нэгатыўнай рэакцыі Лукашэнкі. Затое Шушкевіч мае самую прэстыжную

ўзнагароду Літвы — ордэн Вітаўта Вялікага, якім ён быў узнагароджаны ў 2010 годзе.

Мэдаль быў зацьверджаны ў дні сьвяткаваньня 100-годзьдзя незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі і «ўручаецца за пажыцьцёвыя заслугі ў працы дзеля зьдзяйсьненьня ідэалаў Акту 25 сакавіка 1918 г., у тым ліку за дасьледаваньні і папулярызацыю беларушчыны, здабыцьцё і ўмацаваньне дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі, барацьбу за свабоду і дэмакратыю ў Беларусі».

## «Лукашэнка — гэта троечнік ва ўсім»

04 траўня 2020

Станіслаў Шушкевіч ня проста супраць, а вельмі абураны рашэньнем Аляксандра Лукашэнкі праводзіць парад 9 траўня ў час пандэміі каранавірусу.

«Гэта проста ваяўніча неадукаваны чалавек, троечнік ва ўсім, і гэта ён увесь час, ужо 25 год, дэманструе. Натальля Качанава ды іншыя яму падтакваюць, але тут зразумела — цалкам ад яго залежныя людзі. А сказаць, як у войску кажуць, калі сыходзяць у адстаўку на знак нязгоды, „Гонар маю", то там няма такіх. Бо ён адбіраў іх па іншых прынцыпах», — мяркуе Станіслаў Шушкевіч.

На думку Станіслава Шушкевіча, дзейны кіраўнік Беларусі, пастанавіўшы праводзіць парад ва ўмовах пандэміі каранавірусу, кіруецца ня ведамі і парадамі дасьведчаных адмыслоўцаў, а ўласнымі інстынктамі.

«Што гэта за інстынкты? Найперш захаваньне ўлады. Вы ж паглядзіце, што тут ніхто не пытаецца меркаваньня ані ў парлямэнту, ані ў простых людзей. Другое, што ім кіруе, — гэта быць падобным да савецкіх маршалаў перамогі. Як той Жукаў не шкадаваў тысячы людзей, каб як мага хутчэй выканаць загад, гэтак і ён дзейнічае — усё дзеля перамогі. А што людзі могуць пацярпець — ня важна».

Станіслаў Шушкевіч заўважыў, што нават у расейскай Дзяржаўнай Думе адзін з дэпутатаў

назваў рашэньне Аляксандра Лукашэнкі праводзіць парад глупствам, але ня быў спынены кіраўніцтвам парлямэнту:

«Пуцін на яго ўжо проста не зьвяртае ўвагі, не апускаецца да разборак зь ім, таму і дэпутаты дазваляюць сабе такія рэзкасьці. Адносна Лукашэнкі гэта дакладная пазыцыя, але крыўдна, што гэтак думае пра Беларусь усё больш людзей у сьвеце».

Днямі Станіслаў Шушкевіч адчуваў сябе дрэнна, у яго была павышаная тэмпэратура, давялося прайсьці абсьледаваньне ў шпіталі.

«Аказалася, была звычайная прастуда. Цяпер мне значна лепш. Працягваю самаізаляцыю, працую толькі праз інтэрнэт, а калі зрэдку выходжу з дому, абавязкова надзяваю мэдычную маску».

## «Арышт сына — правакацыя супраць мяне»

06 лістапада 2020

*5 лістапада суд у Менску пакараў сына Станіслава Шушкевіча 10 днямі арышту за публікацыі ў Фэйсбуку.*

«Што ён там напісаў, я ня ведаю, не чытаў. На яго напісаў пратакол участковы міліцыянт, — кажа Шушкевіч. — Тое, што гэта правакацыя супраць мяне, я гэта так разумею. Ужо ня першы раз робяцца розныя падыходы для гэтага, пачынаюць ціснуць праз сына і дачку, якія пратэстуюць, як і ўсе нармальныя беларусы».

Сыну былога старшыні Вярхоўнага Савету Станіславу Шушкевічу 36 гадоў, ён займаецца бізнэсам.

«На яго шукалі зачэпкі спачатку ў бізнэсе, яго нават затрымалі людзі ў цывільным, чатыры асобы, парушаючы ўсе нормы і правілы. Хацелі прыцягнуць да крымінальнай адказнасьці. Але не знайшлі зачэпак, як паведаміў адвакат, крымінальную справу не завялі, таму завялі гэтую адміністрацыйную справу», — сказаў Шушкевіч.

Станіслаў Шушкевіч кажа, што ня робіць ацэнак і прагнозаў разьвіцьця сытуацыі ў Беларусі:

«Я па стане здароўя ня ўдзельнічаю ў працэсах, я не магу хадзіць нармальна бяз кія, сто мэтраў

прайду, ня болей. Цяпер у мяне мала інфармацыі, няма кантактаў, якія былі заўсёды, я слухаю прагнозы іншых і маўчу. Мне падабаецца, што мы сталі нацыяй, а не падабаецца, што мы ня моцна зьядналіся. Спадзяюся на лепшае».

## «Я б пажадаў Беларусі, каб ёй перасталі кіраваць сілавікі»

26 сьнежня 2020

*Станіслаў Шушкевіч цяпер знаходзіцца на самаізаляцыі, засьцерагаючыся ад каранавірусу, і часова жыве адзін. Бо сын, які адседзеў 10 дзён у Жодзіне, захварэў там на каранавірус, а яго сустракала з турмы маці. Таму жонка Станіслава Шушкевіча Ірына і Станіслаў-малодшы жывуць цяпер у кватэры сына.*

Спадар Шушкевіч прызнаецца, што даўно марыць пра час, калі краінай будуць кіраваць высокаадукаваныя людзі.

«Я б пажадаў Беларусі, каб ёй перасталі кіраваць сілавікі, а кіравалі б мэнэджары, спэцыялісты ў эканоміцы, у паліталёгіі. А ня невукі, якія ведаюць толькі адно: „Я начальнік, ты дурань“. Дык вось, я зычу Беларусі разумных кіраўнікоў».

На думку Шушкевіча, дасьведчаных, высокаадукаваных людзей у Беларусі дастаткова.

«Але, як трапна напісаў некалі ў сваёй кнізе Васіль Шлындзікаў, „лейтэнанцікі, якія дзякуючы гэтай шалёнай уладзе сталі генэраламі, таксама неадукаваныя, як і мноства начальнікаў пад кіраўніцтвам адзінага“. А ён не прызнае ніякай навукі, таму што невук і троечнік. А Беларусі патрэбныя высокакваліфікаваныя кіраўнікі. Яны ёсьць у Беларусі, але іх б’юць, топчуць, саджаюць, таму што яны перашкаджаюць панаваць уладзе,

якая ня ўмее кіраваць. Бабарыку, у якога была ясная канцэпцыя, што трэба рабіць зь Беларусьсю, зрабілі злачынцам; Цапкала таксама адукаваны таленавіты чалавек. Канкурэнты былі цудоўныя, дык іх, як і на папярэдніх выбарах, зьнішчылі. Раней зьнішчалі фізычна, цяпер пасадзілі ці выгналі з краіны. У мяне аптымізм ёсьць: я хачу, каб дзеці і ўнукі мае жылі ў сапраўднай Беларусі, не запэцканай хамствам і хлусьнёй», — кажа Станіслаў Шушкевіч.

# «Беларусы сталі палоннай нацыяй. Але яна выжыве»

Жнівень 2021

*25 жніўня 1991 году Дэкларацыя аб дзяржаўным сувэрэнітэце набыла статус канстытуцыйнага акту. А ўжо 18 верасьня Станіслаў Шушкевіч стаў старшынём органа, які за гэта прагаласаваў, — Вярхоўнага Савету Беларусі.*

## «Беларусь русыфікавалася прымусова, і гэта было страшна»

Мы думалі пра будучыню, і я ўжо ўсьведамляў, хаця і не карыстаўся гэтым тэрмінам «дзяржаўны тэрарызм», тое, што было ў Савецкім Саюзе. Я думаў, што мы зь ім пакончым. Што людзей перастануць саджаць у турму, як хацеў Янаеў. І мы тут вырашылі, што наша Дэкларацыя аб незалежнасьці павінна стаць законам. Гэта сымбалічны жэст, таму што цяжка выкарыстаць такі закон, але ён паказваў, што першае для нас — незалежнасьць.

І я думаў, што ніякіх перашкод на гэтым шляху ня будзе. Я думаў, што і праз 5, і праз 10 [гадоў] далей, што Беларусь будзе незалежнай. Яна заслугоўвае гэтага. Яна лямантавала, каб гэта было. Таму што з 1794 году ў Беларусі пасьля 3-га разьдзелу Польшчы забаранялася ўжываць беларускую мову, забаранялася быць хрысьціянінам, акрамя як праваслаўным, забаранялася пасы-

лаць дзяцей-беларусаў вучыць беларускую мову ў школе. Беларусь русыфікавалася прымусова, і гэта было страшна. І мы з гэтым канчалі заканадаўчым чынам.

## «Беларусь незалежная зараз тэарэтычна, фармальна»

Незалежнасьць для краіны — гэта калі ўсе пытаньні, акрамя афіцыйна перададзеных другім дзяржавам, вырашаюцца ў гэтай краіне па заканадаўстве гэтай краіны.

Беларусь незалежная зараз тэарэтычна, фармальна. Калі мы незалежныя, значыцца, усе асноўныя пытаньні свайго жыцьця і быту вырашаюцца тут, у Беларусі, абранай дэмакратычным спосабам беларускай уладай.

Але калі вы пагледзіце на тое, што прынята на так званым рэфэрэндуме, калі самая якасная рыса незалежнай улады — гэта пераабраньне, як, напрыклад, ва Ўкраіне, у Малдове, ці, напрыклад, дарэчы, у Грузіі. А тут — так, можаш называцца дэмакратычным. І пытаньне: хто можа вырашыць, дэмакратычнае заканадаўства ці не? Ёсьць незалежная Вэнэцыянская камісія. Яна самага высокага ўзроўню. Па нашай Канстытуцыі ў яе адно заключэньне, што Канстытуцыя не падлягае нават карэкціроўцы папраўкамі, гэта Канстытуцыя антыдэмакратычная.

## «Пуцін клапоціцца пра захаваньне ўлады»

Пуцін слухаў Бжэзінскага. Зьбігнеў Бжэзінскі — вядомы палітык, дарадца прэзыдэнта ЗША — ён сказаў так, што Расея без Украіны перастае быць імпэрыяй. І Расея пачала кусаць Украіну, як толькі можа. Данбас, Данецк, Крым, Прыднястроўе — гэта ўсё там, дзе знаходзяцца расейскія чырвоныя чалавечкі, там непарадак. Расея мае 20 млн людзей ніжэй узроўню беднасьці. Яны клапоцяцца толькі аб захаваньні ўлады. Ну і аб чым клапаціцца Пуціну? Ён што, клапоціцца аб дзяржаве? Ён клапоціцца аб абнуленьні, працягу тэрміну служэньня, ракіроўка зь Мядзьведзевым, абы заставацца пры ўладзе. І калі на гэты шлях сталі — гэта як наркотык. Дык вось наркотык фактычна паразіў вельмі многа постсавецкіх рэспублік, у тым ліку ў першую чаргу Расею. А ў Беларусі тут і гаварыць няма пра што, таму што тут лічыцца… калі нам пачынаюць тлумачыць, што такое дэмакратыя, людзі, якія наогул азоў паліталёгіі ня ведаюць, няма пра што гаварыць тады.

## «Усё залежыць ад волі аднаго чалавека»

У нас таньнейшы кошт незалежнасьці дэюрэ. А дэ-факта, калі незалежнасьці фактычна няма, калі любое распараджэньне Пуціна будзе тут зрэалізаванае, бо інакш ён ня дасьць грошай і Лукашэнка прагарыць у той жа дзень і ў той жа час, — і таму ў Беларусі незалежнасьці

няма. Спачатку я таксама думаў, што будзе незалежнасьць, калі прымалі заканадаўства, якое належыць прымаць незалежнай дзяржаве, але паступова гэта патанула. Фадзееў, які прафэсіянал па канстытуцыйнаму праву ў Беларусі, ён адразу папярэджваў, што будзе вельмі дрэнна з такой Канстытуцыяй, якую прымалі. Ну што ж, прынялі. А па ёй можна рабіць што хочаш. І ніякай незалежнасьці быць ня можа, таму што калі ўсё залежыць ад волі аднаго чалавека і ён можа мяняць кадры, якія хочаш, і савецкія кадры вырашаюць усё, а не закон, ня права вырашае ўсё, так і будзе тое, што ў нас. У нас няма гаворкі аб незалежнасьці.

## «У нас сілавікі правяць дзяржавай»

Спачатку трэба прайсьці шок, таму што пераўтвараецца прамысловасьць, эканоміка. Пасьля трэба вылечыцца ад гэтага шоку, гэта тэрапія. А пасьля будаваць ужо незалежную дзяржаву і разьвіваць яе па канонах новай Канстытуцыі, так, як гэта рабіла Польшча. Калі сёньня на МТЗ людзі атрымліваюць цярпімую зарплату, то гэта за кошт таго, што ўсе астатнія атрымліваюць вельмі малую зарплату ў дзяржпрадпрыемствах.

І мы гэта ўсё павінны прайсьці, я паўтараю: шок — тэрапія — новая эканоміка — новае дэмакратычнае заканадаўства. Мы гэтага не прайшлі, мы заблыталі.

У нас сілавікі правяць дзяржавай. Гэтага не павінна быць. Незалежнасьць прарасьце. Гэты

працэс у гістарычным пляне нядоўга чакаць, а ў фізычным можа быць і доўга.

## «Больш-менш прыстойная ўлада ўся падала б у адстаўку»

Прачнулася самаўсьведамленьне беларусаў, беларусы цярплівы люд, але:

*Я беларус, а гонар маю.*
*Гнуся, але да пары.*
*Я маўчу, маўчу, трываю,*
*Але скора загукаю:*
*«Стрэльбы, хлопчыкі, бяры!»*

І беларусы вышлі 9 жніўня 2020 году. Выйшлі 300 тысяч беларусаў

Выйшлі з пратэстам. Больш-менш прыстойная ўлада ўся падала б у адстаўку, а яны нічога ня могуць рабіць, акрамя таго як біць, ламаць, крышыць і ў спэцызалятары садзіць самую прыгажосьць нацыі. Гэта значыцца, усё плянуецца спэцслужбамі, якія павінны былі змагацца з контрарэвалюцыяй у Савецкім Саюзе, а тут яны павінны змагацца з шпіёнамі, дывэрсантамі, з ворагамі Беларусі, а яны змагаюцца зь беларускім людам. І гэта ўсё абазначана ў 1987 году Жэнэўскай дэклярацыі па дзяржаўнаму тэрарызму, там добра напісана, што ў нас адбываецца. Нешта падобнае было ў некаторых лацінаамэрыканскіх краінах, але большасьць зь іх гэта перажыла.

## «Назваць нацызмам патрыятызм беларускі можа толькі чалавек з адукацыяй Лукашэнкі»

Жнівеньскія падзеі 2020 году паўплывалі на незалежнасьць, на тое, што людзі даведаліся, што такое беларуская сымболіка, якая была дзяржаўнай. Пра яе стараліся забыць, таму што чырвона-зялёны сьцяг — гэта не беларускі сьцяг, гэта сьцяг БССР. А бел-чырвона-белы — гэта наш нацыянальны сьцяг.

Яго робяць здрадніцкім, нацысцкім. Гэта дайсьці да таго, гэтым нікчэмным розумам, каб назваць нацызмам патрыятызм беларускі, можа толькі чалавек з адукацыяй Лукашэнкі.

## «Я нікуды не паеду зь Беларусі»

Ёсьць людзі, якія ніколі нікуды не паедуць. Я мог паехаць у замежжа, эміграваць як палітычны вязень, як чалавек, які страціў тут права на нармальнае жыцьцё, на такіх умовах, што пазайздросьцілі б тут многія, і зь сям’ёй, і з усім. Усім быў бы забясьпечаны. Для гэтага прыяжджала старшыня міграцыйнай службы адной зь вядомых эўрапейскіх дзяржаў. Але я нікуды не паеду зь Беларусі, таму што гэта край маіх дзядоў, маіх бацькоў. І я тут буду. І большасьць у нас такая. Некаторыя вымушаны выехаць, інакш іх пасадзяць у СІЗА, яны ня могуць выказаць сваю думку.

Беларусы сталі палоннай нацыяй. Але яна выжыве і тут. Таму што ёсьць людзі, якія захоўва-

юць беларускую культуру, беларускасьць, і яны выжывуць. І вернуцца тыя, хто паехаў за мяжу. І будуць адчуваць сябе нядрэнна, добра зарабіўшы беларускай адукацыяй, таму што ў нас добрыя спэцыялісты.

Мне проста балюча, я ведаю некалькі дактароў, якія мелі дачыненьне да майго здароўя. Гэта цудоўныя лекары, яны былі вымушаныя зьехаць, таму што тут працаваць на 1000–1200 рублёў у месяц, калі там адразу ты атрымоўваеш 6000 эўра, — цяжка пагадзіцца з гэтым. Многія потым стануць на ногі і прыедуць сюды назад.

## «Будаваць па-іншаму эканоміку»

Бабарыка для мяне — гэта маяк, на які трэба арыентавацца, яго распрацоўкі, яго штаб. І, я думаю, да гэтага дойдзе.

Такіх у нас дзеячоў не было. Яны зьявіліся. Спроба будаваць па-іншаму эканоміку, таму што яна трашчыць. За кошт астатніх утрымліваюцца заводы вялікія дзяржаўныя. Яны нерэнтабэльныя. Усе. Бабарыка выйшаў. Гэта праграма, усё можна зразумець, гэта фактычна адказ на ўсе гэтыя пытаньні, якія вы задаяце мне. У яго добрая праграма, добры штаб.

Латушка ў рэшце рэшт перастаў быць лукашыстам. У Польшчы, калі ён быў амбасадарам, быў добрым лукашыстам. Ён зразумеў, што нельга быць лукашэнкаўскім, і супрацьстаіць гэтаму. Думаю, што і многія другія паўстануць. Нават да Цапкалы я стаўлюся вельмі пазытыўна, таму

што ведаю, што гэты чалавек высокаадукаваны. Ну што ж, грэх быў, служыў у Лукашэнкі. Цяпер адумаецца.

## «І Пуцін, і Лукашэнка небясьпечныя для грамадзтва»

Я спадзяюся больш на тое, што Расея выбера ў рэшце рэшт сваю ўладу. Там таксама дзяржаўны тэрарызм. Куды дзеўся Беразоўскі, што было з Навальным, зь іншымі?

Кіруюць чэкісты і алігархі. І яны на сябе працуюць, а астатнім — што прыйдзецца. Расея тут робіць што хоча, таму што яна перш за ўсё ратуе Лукашэнку. Ён паказвае, якім шляхам ідзе Пуцін, каб быць навечна прэзыдэнтам Расеі. У яго гэтыя Мядзьведзева словы, калі ён быў прэзыдэнтам, так і засталіся — што калі чалавек «очень долго руководит, он становится опасным для общества».

Вось яны сталі такімі небясьпечнымі для грамадзтва — і Пуцін, і Лукашэнка.

Людзі, якія ідуць на зьнявечаньне пратэстантаў і дэманстрантаў — гэта ня людзі, гэта зьвяры. Я думаю, што зьвяр'я ў нас колькасьць паменшыцца ў кіраўніцтве. Таму што пачнуць баяцца і ўцякаць.

Яны павінны рабіць гэта прымусова. Думаю, што ня ўсе ўчорашнія лейтэнанты сталі генэраламі. Ёсьць і сапраўдныя генэралы. Можа, яны задумаюцца аб тым, што адбываецца ў Беларусі. Ня я ім павінен даваць парады. Яны павінны самі

вырашыць, як зьмяніць сытуацыю ў Беларусі, зрабіць яе незалежнай.

## «На подласьць, на злачынства, на несправядлівасьць я ніколі не ішоў»

Час, калі я кіраваў Вярхоўным Саветам Беларусі, быў пікам справядлівасьці. Вялікі ўплыў быў Беларускага Народнага Фронту. Асьветніцкая работа. Гэта высокай кваліфікацыі чалавек, як гісторык у першую чаргу, Зянон Пазьняк. Але як палітоляг ён хацеў уладкаваць усё пад жорсткую беларускасьць. Каб быў крыху мякчэй, можа б зрабілі б.

Я давяраў тым, каму нельга было давяраць — гэта мая грубейшая памылка. Больш я ня ведаю памылкі. Таму што на подласьць, на злачынства, на несправядлівасьць я ніколі не ішоў. Я б сказаў пра незалежнасьць — чытайце Белавескія пагадненьні. Там ёсьць адказы на ўсе вашыя пытаньні. Як геапалітычная рэальнасьць СССР спыняе сваё існаваньне. А яна яшчэ не спыніла.

## З падручніка па гісторыі Беларусі для 11-х клясаў прыбралі Станіслава Шушкевіча

13 верасьня 2021

*З новага падручніка па гісторыі Беларусі для 11-й клясы прыбралі згадку пра кіраўніка Вярхоўнага Савету Беларусі Станіслава Шушкевіча. У 1991 годзе ён падпісаў Белавескія пагадненьні, якія канстатавалі распад СССР, і стаў першым кіраўніком незалежнай Беларусі.*

Пасьля падзей 2020 году Шушкевіч актыўна крытыкаваў дзеяньні Аляксандра Лукашэнкі, якога ЦВК назваў пераможцам прэзыдэнцкіх выбараў.

У падручніку таксама цяпер няма інфармацыі пра ляўрэатку Нобэлеўскай прэміі ў літаратуры Сьвятлану Алексіевіч, якая пасьля пачатку пратэстаў у 2020 годзе ўвайшла ў прэзыдыюм Каардынацыйнай рады і пад ціскам была вымушаная пакінуць Беларусь. Алексіевіч адзіная зь беларускіх пісьменьнікаў уганаравана Нобэлеўскай прэміяй.

## «Наша моладзь павінна жыць у нармальнай, сьветлай, дастойнай, дэмакратычнай Беларусі»

15 сьнежня 2021

Сёньня Станіславу Шушкевічу спаўняецца 87 год.

*Шушкевіч:* Я ў захапленьні ад нашых лекараў, мэдыкаў. У надзвычай цяжкіх умовах, ва ўмовах пандэміі яны самааддана працуюць. Самому давялося знаходзіцца ў шпіталях, і жонка часта бывала ў паліклініцы. Цэлы дзень мэдыкі ў масках, у «скафандрах». Такіх адданых сваёй справе людзей цяжка знайсьці.

Хоць ковід — бяда агульная. Можна было лепей зь ёй змагацца, але кіраўніцтва краіны наагул хацела змагацца трактарам і спортам. У тых умовах, што ёсьць, мэдыкі сьвята трымаюцца клятвы Гіпакрата. Беларусь можа ганарыцца сваімі лекарамі.

Другое, што радуе: у Беларусі зьявіліся лідэры — не бязглуздыя, як нашы галоўныя кіраўнікі, ня тыя, што працуюць паводле прынцыпу: «Я начальнік, ты дурань». Адкуль зьявілася жанчына, якая ведае замежныя мовы, якая прымаецца прэзыдэнтамі замежных краін? Гэта вельмі важна, што такія лідэры зьяўляюцца ў Беларусі — граматныя, разумныя, з абгрунтаванай пазыцыяй, паліталягічнай сьвядомасьцю. Я

вельмі захапляюся гэтай жанчынай, яе абаяньнем, мужнасьцю, розумам.

Радуе тое, што ёсьць у нас пісьменьнікі, якія займаюцца гістарычнымі праблемамі. Я зь імі сябрую, яны дасылаюць мне ў электроннай форме свае новыя кніжкі, творы, дасьледаваньні. Шмат пішуць, добра пішуць, займальна пішуць — чытаць хочацца далей. І дасканала ведаюць гісторыю. Я проста дзіўлюся, што можна падаць гісторыю Беларусі як мастацкі твор! Але вось не магу назваць публічна іх прозьвішчы — бо ў іх могуць узьнікнуць праблемы.

На жаль, наша дзяржава пабудаваная паводле прынцыпу дзяржаўнага тэрарызму. І Дэклярацыя Арганізацыі Аб’яднаных Нацыяў аб дзяржаўным тэрарызьме 1987 году гэта ўсё тлумачыць. Зараз гэта ў нас у самым чыстым выглядзе. Але ж гэта было і ў Савецкім Саюзе — там таксама кіраваў страх. Але тут ён доўга панаваць ня будзе, таму што гэта ўжо немагчыма. Калі Amnesty International прызнала палітзьняволенымі амаль тысячу беларусаў — то што гэта за дзяржава? Гэта бандыцкая краіна і прымітыўнае кіраўніцтва! Гэта ваяўнічае невуцтва. І гэта пачынаецца ад нашага нелегітымнага кіраўніка.

Улада ў нас захварэла на наркаманію. Улада — гэта для іх наркотык. Заўважце: амэрыканскі кіраўнік можа быць прэзыдэнтам 2922 дні. І ні на адзін дзень ня больш. А ў нас Лукашэнка ўжо ў 3,5 раза больш! А што ён добрага зрабіў? Па асноўных паказьніках у Эўропе Беларусь на апошнім месцы. Гэта доўга працягвацца ня можа. Людзі

бачаць, як жывуць палякі, як жывуць літоўцы — гэта зусім іншае жыцьцё. І так доўга ў Беларусі ўжо працягвацца ня будзе.

На жаль, я ўжо не магу ўдзельнічаць у тым, што хацеў бы рабіць. Я ўжо пераўзышоў сярэднестатыстычны ўзрост беларуса — мне 87.

У мяне ёсьць запрашэньні ў Гарвард, у Ейльскі ўнівэрсытэт, у Кембрыдж, у Оксфард — зь лекцыямі ў гібрыднай форме, з паездкамі. Я ня змог паляцець у Вену — дрэнна адчуваў сябе.

Але ў мяне ёсьць аптымізм. Я перакананы, што нам наканавана лёсам: наша моладзь павінна жыць у нармальнай, сьветлай, дастойнай, дэмакратычнай Беларусі. Яна, мне здаецца, гэтага заслугоўвае. І ідзе гэтым шляхам.

## «Яго імя назаўсёды ўвайшло ў гісторыю».

04 траўня 2022

3 траўня ў 23.35 у Менску памёр першы кіраўнік незалежнай Беларусі Станіслаў Шушкевіч.

Палітыку было 87 гадоў. У канцы красавіка ён трапіў у рэанімацыю пасьля перанесенага COVID-19. Праз два дні яго выпісалі зь лякарні, але здароўе палітыка было падарванае хваробай.

**Прэзыдэнт Літвы Гітанас Наўседа:**

«Пайшоў з жыцьця Станіслаў Шушкевіч, першы лідэр свабоднай Беларусі — краіны, якая выбрала эўрапейскую будучыню ў 1991 годзе. Адзін з тых, хто спрыяў мірнаму развалу савецкай імпэрыі. Літва заўсёды будзе паважаць яго за гэтую найважнейшую справу ягонага жыцьця. Жыве Беларусь!»

**Дзяржсакратар ЗША Энтані Блінкен:**

Блінкен напісаў у Twitter, што ў Вашынгтоне «з жалем» успрынялі гэтую вестку зь Менску.

Шушкевіч «прывёў Беларусь да незалежнасьці», адзначае Блінкен.

«Нашы думкі зь яго блізкімі і народам Беларусі, які працягвае барацьбу за дэмакратычную, квітнеючую і мірную краіну»

**Кіраўніца ўраду Літвы Інгрыда Шыманіце:**

«Засмучана сьмерцю Станіслава Шушкевіча, першага і пакуль адзінага кіраўніка незалежнай, дэмакратычнай Беларусі. Яго подпіс пад дэклярацыяй аб распадзе Савецкага Саюзу будзе жыць у гісторыі, памяць аб ім — у нашых сэрцах. Спачуваньні сям'і #СвабоднаяБеларусь».

**Міністар замежных спраў Латвіі Эдгарс Рынкевічс:**

«Мае глыбокія спачуваньні беларускаму народу, родным і блізкім Станіслава Шушкевіча — першага кіраўніка дзяржавы Беларусь. Мы ў Латвіі шануем ягоную спадчыну стварэньня незалежнай Беларусі і разбурэньня імпэрыі зла — Савецкага Саюзу».

**Міністар замежных спраў Польшчы Зьбігнеў Раў:**

«Пайшоў з жыцьця Станіслаў Шушкевіч, кіраўнік Беларусі, якую ён увёў на шлях незалежнасьці і дэмакратыі пасьля распаду СССР. З глыбокім сумам разьвітваюся з праведнікам,

адданым свайму народу, сваёй Айчыне, справе свабоды, сябрам Польшчы і вольнага сьвету».

**Спэцыяльны прадстаўнік МЗС Францыі ў пытаньнях Беларусі Нікаля дэ Лякост:**

«Крануты сьмерцю мінулай ноччу першага прэзыдэнта незалежнай Беларусі Станіслава Шушкевіча, выказваю спачуваньні яго жонцы Ірыне, чальцам яго сям'і і ўсяму беларускаму народу»

**Амбасадарка Джулі Фішэр, спэцыяльная пасланьніца ЗША ў Беларусі:**

«Я далучаюся да многіх у Беларусі і па-за яе межамі ў жалобе па сыходзе Станіслава Шушкевіча, лідэра Беларусі ў часе [здабыцьця] незалежнасьці ад СССР. Я выказваю глыбокія спачуваньні яго блізкім».

**Амбасадар Славаччыны ў Расеі Любамір Рэгак:**

«Сумная навіна — адышоў у вечнасьць прафэсар Станіслаў Станіслававіч Шушкевіч, першы кіраўнік незалежнай Беларусі. Вечны яму супакой, спачуваньні пані Ірыне».

**Амбасада Швэцыі ў Менску:**

«Беларускі народ панёс вялікую страту. У ноч з 3 на 4 траўня 2022 году пайшоў з жыцьця першы лідэр незалежнай Беларусі, адзін з аўтараў Белавескіх пагадненьняў, што прывялі да распаду Савецкага Саюзу, знаны навуковец Станіслаў Шушкевіч. Пасольства Швэцыі выказвае свае шчырыя і глыбокія спачуваньні родным і блізкім выбітнага беларускага палітыка».

**Экс-кіраўнік ураду Ўкраіны Вітольд Фокін, які разам зь Леанідам Краўчуком падпісаў Белавескія пагадненьні:**

«Я спачуваю беларускаму народу, што з жыцьця пайшоў выбітны дзяяч. Мы няшмат камунікавалі зь ім, але я ведаю, што гэта быў вельмі кампэтэнтны, глыбокі чалавек. Я хацеў бы пажадаць беларусам мірнага неба, дабрабыту і доўгіх гадоў заможнага жыцьця».

**Ляўрэатка Нобэлеўскай прэміі ў літаратуры Сьвятлана Алексіевіч:**

«Сёньня мы асабліва ўсьведамляем, што Станіслаў Шушкевіч дамогся, каб Беларусь пазбавілася ядзернай зброі. Каб мы былі краінай бязь ядзернай зброі. Страшна ўявіць сабе, што б адбывалася зараз, калі б у Беларусі сёньня была ядзерная зброя. А другая заслуга Шушкевіча — гэта, безумоўна, Белавескія пагадненьні.

Гэта гістарычная фігура, такіх было няшмат у XX стагодзьдзі: Гарбачоў, Краўчук, Шушкевіч».

**Дэмакратычная лідэрка Беларусі Сьвятлана Ціханоўская:**

«Гэта вялікая страта для яго сям'і і для ўсёй нашай краіны. Шушкевіч стаў адным з айцоў беларускай незалежнасьці — ён на пасадзе старшыні Вярхоўнага Савету паспрыяў наданьню Дэклярацыі аб сувэрэнітэце статусу канстытуцыйнага закону. Менавіта Шушкевіч 25 жніўня 1991 году ў прамой трансьляцыі павіншаваў беларусаў з абвяшчэньнем незалежнасьці. Але Станіслаў Шушкевіч быў ня проста першым кіраўніком Беларусі. Ён вядомы вучоны, доктар фізыка-матэматычных навук, былы прарэктар Менскага радыётэхнічнага інстытуту і Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэту.

Станіслаў Шушкевіч быў прыхільнікам нэўтралітэту Беларусі. Гэта пры ім Беларусь добраахвотна і без аніякіх умоваў адмовілася ад ядзернай зброі, якая заставалася на тэрыторыі краіны. Ён застаў вайну і памятаў, што гэта такое — таму рабіў усё, каб яна не паўтарылася…

Цяпер беларусы зноў згуртаваліся і аб'ядналіся адной ідэяй. І калі скончыцца акупацыя Беларусі, калі мір, закон і сувэрэнітэт вернуцца ў Беларусь, у беларускіх гарадах абавязкова зьявяцца вуліцы і помнікі Станіславу Шушкевічу — чалавеку, чый шлях да вольнай, мірнай і незалежнай Беларусі мы працягваем дзень за днём».

**Літаратар Сяргей Дубавец:**

«Станіслаў Шушкевіч быў свабодным чалавекам. Дзівам апынуўшыся на чале Беларусі, ён паклаў канец СССР, узначаліў сваю краіну і зрабіў яе незалежнай і беларускай. Ніхто з намэнклятуры ні раней, ні цяпер, апыніся на ягоным месцы, ні за што не пайшоў бы на гэта. Свабоднасьць адрозьнівае юнака, здольнага на дзёрзкія ўчынкі, колькі б яму ні было гадоў. Падобна, што Станіслаў Шушкевіч заўсёды быў у самаўяўленьні юніёрам — побач з Станіславам Шушкевічам — бацькам. Іншых уражвала, што ён ніколі ні ад кога не адгароджваўся плотам. А ён гэты плот дазваляў маляваць за надкушаны яблык ці белы шарык, напрыклад, і сам быў пэрсанажам кніг Марка Твэна, якія той пісаў «для хлопчыкаў ад 8 да 80». Вось што падумалася ў гэты дзень — свабода ў табе заўсёды юная. Колькі б там ні было гадоў».

**Гісторык, былы дэпутат Вярхоўнага Савету і грамадзкі дзяяч Алег Трусаў:**

«Сёньня ў лепшы сьвет адышоў першы кіраўнік незалежнай Беларусі Станіслаў Шушкевіч, які вярнуў беларускую мову ў палітычнае жыцьцё нашай краіны. Яго імя назаўсёды ўвайшло ў нашу гісторыю».

**Дарадца Сьвятланы Ціханоўскай Францішак Вячорка:**

«Дзякуючы Станіславу Шушкевічу Беларусь стала незалежнай падчас распаду СССР. Падпісаў Белавескія пагадненьні. Шушкевіч да апошняга дня свайго жыцьця змагаўся з Лукашэнкам і адстойваў свабоду Беларусі».

**Палітык Андрэй Саньнікаў:**

«Уначы пайшоў з жыцьця першы кіраўнік незалежнай Беларусі Станіслаў Шушкевіч. Вялікая страта для беларусаў. Спачывай зь мірам».

**Старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі Івонка Сурвіла:**

«Зь вялізарным сумам даведалася пра сьмерць вялікага чалавека, добразычлівага, ветлівага, першага старшыні незалежнай Беларусі доктара Станіслава Шушкевіча, — кажа Івонка Сурвіла. — Мела гонар ведаць яго трыццаць гадоў. Апошні раз бачыліся на пахаваньні ў Вільні Кастуся Каліноўскага ў 2019 годзе.

Між маіх лепшых успамінаў — „Беларускі тыдзень“ у амэрыканскім унівэрсытэце Wartburg College, арганізаваны Цэнтрам беларускіх дасьледаваньняў у Амэрыцы, дзе мы разам прадстаўлялі Беларусь.

Хачу сёньня выказаць глыбокае спачуваньне спадарыні Ірыне і ўсяму беларускаму народу з

прычыны страты такога вялікага і добрага чалавека. Хай будзе яму пухам беларуская зямля».

## Старшыня КХП-БНФ Зянон Пазьняк:

«Гэта чалавек, які ўвайшоў у гісторыю Беларусі, асабліва ў сувязі з распадам Савецкага Саюзу і падпісаньнем Белавескіх пагадненьняў. Гэта вельмі важна.

І другое, што б я адзначыў, — ён дапамог на сэсіі Вярхоўнага Савету ў верасьні 1991 году, каб беларускі бел-чырвона-белы сьцяг і герб „Пагоня“ сталі дзяржаўнымі сымбалямі. Гэта быў выпадак, калі ён гэтаму спрыяў.

Безумоўна, што гісторыя будзе па-рознаму ацэньваць яго дзейнасьць, але добрыя якасьці застануцца.

Я асабіста нэгатыўна адносіўся да ягонай палітыкі, да нейкіх момантаў. А яго людзі ўспрымалі, нягледзячы на тое, што былі відавочна памылковыя рэчы. І я думаў: чаму гэта адбываецца? А адбываецца таму, што ў яго была інтэлігентная лексыка, ён атрымаў добрае інтэлігентнае выхаваньне, ён мог інтэлігентна гаварыць, ён мог нават на фартэпіяна сыграць.

Гэты чалавек вельмі адрозьніваўся ад камуністычнай намэнклятуры, у якой былі людзі грубыя, ня ведалі, што сказаць, гаварылі глупствы. І вось гэтая інтэлігентнасьць вельмі яму спрыяла: і ў Беларусі, і за мяжой. Мушу сказаць, што гэта вельмі важная якасьць для кожнага чалавека. А ў палітыцы тым больш. Так што ён валодаў такімі

якасьцямі, як добрае выхаваньне, інтэлігентная лексыка, ніколі не ўжываў нейкіх нядобрых слоў, і гэта яго вылучала.

Ну што ж, так пабудавана жыцьцё, чалавек вечна жыць ня можа. У чым мы абсалютна перакананыя, кожны чалавек на 100%, што рана ці позна ён памрэ. Ведаючы, што жыцьцё скончаецца, тым ня менш, калі Бог яго дае, трэба ўсё яго прысьвяціць дабру, справядлівасьці і сваёй дарагой Бацькаўшчыне, якая знаходзіцца ў вельмі цяжкім стане.

Жыве Беларусь! І вечная памяць Станіславу Станіслававічу Шушкевічу».

**Аляксандар Дабравольскі, дарадца Сьвятланы Ціханоўскай, разам з Шушкевічам — народны дэпутат СССР у 1989–1991 гадах, дэпутат Вярхоўнага Савету Беларусі 13-га скліканьня (1995–1996):**

«У 1989 годзе я перамог на выбарах народнага дэпутата СССР. У адной зь менскіх акругаў выбары не адбыліся, і былі прызначаныя новыя. Мы з камандай прыйшлі на канфэрэнцыю працоўнага калектыву БДУ па запрашэньні аднаго чалавека, які спадзяваўся, што мы яго будзем падтрымліваць. Там выступіла шмат людзей, і сярод іх выступіў Шушкевіч — і мы, як і многія іншыя, адразу сказалі, што мы будзем за Шушкевіча — настолькі пераканаўчым быў ягоны выступ.

На Зьезьдзе народных дэпутатаў СССР Шушкевіч увайшоў у парлямэнцкую апазыцыю (Між-

рэгіянальная група), куды ўваходзілі 14 дэпутатаў зь Беларусі, а ўсяго каля 200 дэпутатаў з больш як 2000.

У 1990 годзе ён абраўся і ў дэпутаты Вярхоўнага Савету Беларусі, адразу быў абраны намесьнікам старшыні, а пасьля падзеяў жніўня 1991 году — і старшынём Вярхоўнага Савету. Шмат хто крытыкаваў яго за быццам бы нерашучасьць, памяркоўнасьць — але я думаю, што на гэтай пасадзе наўрад ці ў яго быў іншы выбар. Пры Шушкевічу Беларусь стала незалежнай краінай, пайшла па дэмакратычным шляху — шкада, што гэты шлях быў нядоўгі. Але тое, што менавіта Шушкевіч падпісаў віскулёўскія пагадненьні пра распад СССР, увойдзе ў гісторыю.

Разам са сваімі аднадумцамі, з членамі Аб'яднанай Дэмакратычнай партыі, якую я тады ўзначальваў, мы ўваходзілі ў каманду Шушкевіча на прэзыдэнцкіх выбарах 1994 году. Але тады ўжо таранам пёр Лукашэнка, арыентаваны на старыя ідэі, трапіў у хвалю пэўных спадзяваньняў людзей.

Станіслава Шушкевіча вылучалі на Нобэлеўскую прэмію міру за тое, што распад СССР адбыўся безь вялікай крыві. Ён ня проста апынуўся ў патрэбным месцы, ён пасьлядоўна выступаў за незалежнасьць Беларусі. Гэта запомняць усе, і гэта застанецца ў гісторыі».

**Гісторык і пісьменьнік Уладзімер Арлоў:**

«Аднойчы я апынуўся разам з Шушкевічам у невялікай беларускай дэлегацыі ў швэдзкім Гётэборгу. Тады і пазнаёміліся зблізку: гулялі па набярэжнай, размаўлялі пра беларускую гісторыю, якую ён добра ведаў. Было прыемна пачуць, што Станіслаў Станіслававіч ня толькі чытаў мае кнігі, але, паводле ягоных словаў, дзясяткі асобнікаў ілюстраванай „Краіны Беларусі“ ў перакладах на ангельскую, нямецкую і расейскую мову падараваў сябрам і калегам ад Паўднёвай Карэі да Лацінскай Амэрыкі.

Неяк увечары ён доўга моўчкі ўзіраўся ўдалеч, дзе мора зьлівалася зь небам у агульную таямнічую прастору, і раптам прамовіў перафразаваны радок вядомага паэта: „Як многа пройдзена дарог…“ Працягу не прагучала, але я падумаў, што наступны радок верша спадар Станіслаў пакінуў бы нязьмененым.

Ён ня быў адназначнай асобай і бездакорным палітыкам. Але сёньня ня час гаварыць пра памылкі.

Станіслаў Шушкевіч назаўсёды застанецца ў айчыннай і сусьветнай гісторыі. Як першы кіраўнік незалежнай Беларусі, да вяртаньня якой на палітычную мапу сьвету ён меў беспасярэдняе дачыненьне. Як палітык, што паставіў свой гістарычны подпіс пад Белавескімі пагадненьнямі, якія спынілі існаваньне савецкай імпэрыі.

Ён станецца героем маіх будучых кніг.

Нізкі разьвітальны паклон — і сьветлая памяць».

**Аляксандар Мілінкевіч, палітык:**

Вельмі балючая навіна, я вельмі смуткую з нагоды сыходу Станіслава Шушкевіча. Нас зьвязвалі і моцныя сяброўскія адносіны, і я яго паважаў як палітыка. Аднаго ягонага подпісу пад Белавескімі пагадненьнямі, у выніку якіх перастаў існаваць Савецкі Саюз, для мяне дастаткова, каб казаць, што Шушкевіч — вялікі беларус, наш вялікі сучасьнік.

Я вельмі цаню ягоную інтэлігентнасьць. І калі некаторыя кажуць, што Шушкевіч не праявіў у нечым сваю волю, не настаяў на чымсьці, то, як мне падаецца, гэта акурат было ягонай перавагай. Ён паказаў, якім можа быць беларускі палітык — і што тычыцца ведаў, і асабістай культуры.

Калі я працаваў у Горадзенскім гарвыканкаме, актыўна спрыяў беларусізацыі, хадзіў па школах і пераконваў бацькоў, каб аддавалі дзяцей у беларускамоўныя клясы, то многія зь іх казалі: «Так, гэта варта рабіць, бо кіраўнік дзяржавы Шушкевіч гаворыць па-беларуску».

Шушкевіч — чалавек высокай культуры, для мяне ён абсалютны незалежнік. Для яго адраджэньне культуры, гісторыі, праўды, мовы было асновай ягонай палітычнай дзейнасьці.

Хачу ўзгадаць адзін яркі паказальны момант. У 1993 годзе, пасьля забойства старшыні Горадзенскага аблвыканкаму Арцымені, у абласным

Савеце праходзілі выбары новага кіраўніка вобласьці. З аднаго боку быў вядомы аграрнік Дубко, а зь іншага — новая плынь, Домаш, якога падтрымлівалі дэмакратычныя дэпутаты. Але ўсё схілялася да таго, што большасьць абярэ Дубко. І вось у апошнія хвіліны, акурат перад вырашальным галасаваньнем, у залю ўваходзіць Шушкевіч, які адмыслова дзеля гэтага прыехаў зь Менску. Сьціпла ўвайшоў, сеў на пярэдніх месцах. І без усялякіх выступаў, проста ягоная прысутнасьць паспрыяла таму, што замест намэнклятурнага Дубко большасьць прагаласавала за Домаша».

## «Шушкевіч быў закладнікам прававых мэханізмаў і веры ў дзяржаўныя інстытуцыі, пераступіць якія ён проста ня мог»

4 траўня 2022, 9 гадзіна раніцы

Дыскусія адбылася ў прамым эфіры на Youtube-канале Свабода Premium адразу пасьля паведамленьня пра сьмерць Станіслава Шушкевіча.

*Якімі былі найважнейшыя зьдзяйсьненьні на палітычным шляху Станіслава Шушкевіча? У якой ступені яго постаць увасобіла ў сабе супярэчнасьці, дасягненьні і памылкі дэмакратычнай інтэрлюдыі пачатку незалежнасьці? Ці мог ён стаць дыктатарам і ці наканаваная была Беларусі дыктатура?*

*Над гэтымі пытаньнямі на канале Свабода Premium разважаюць палітычныя аглядальнікі Радыё Свабода Юры Дракахруст, Валер Карбалевіч і Сяргей Навумчык.*

*Дракахруст:*

Калі яго адправілі ў адстаўку, тагачасны ягоны апанэнт Віктар Ганчар сказаў: «Паў першы белавескі зубар». Гэта было сказана з іроніяй, можа нават са зьдзекам, але ж сапраўды зубар, магутная постаць беларускай гісторыі. Постаць, якая ў нечым увасобіла пачатак беларускай незалеж-

насьці і 90-я гады, якія хтосьці цяпер праклінае, хтосьці ўслаўляе.

*Навумчык:*

Гэта быў чалавек чэсны, сумленны, гэта безумоўна.

Калі гаварыць пра палітычныя дасягненьні — гэта Белавескія пагадненьні, якія паставілі кропку ў існаваньні савецкай імпэрыі. Падкрэсьліваю, што гэта не было абвяшчэньнем беларускай незалежнасьці, як часам кажуць (яна была абвешчана раней, 25 жніўня 1991 году). Але маглі быць самыя розныя варыянты разьвіцьця падзеяў. І тое, што Ельцын, Шушкевіч, Краўчук, Бурбуліс, Кебіч і Фокін падпісалі пагадненьне пра распад імпэрыі мірным шляхам — гэта, безумоўна, быў важны гістарычны крок. Якраз сёньня, у гэтыя дні, мы можам ацаніць тое, што распад СССР адбыўся мірна.

З Шушкевічам былі зьвязаныя шмат у каго надзеі на мяжы 1980-х — пачатку 90-х гадоў, але ягоная палітычная біяграфія не абмяжоўваецца гэтым. Прыгадваюць, што ён быў старшынём Вярхоўнага Савету 12-га скліканьня, але ён быў і народным дэпутатам СССР з 1989 году, і пасьля сваёй адстаўкі два гады быў «шараговым» дэпутатам, а ў 1996-м быў сярод тых дэпутатаў Вярхоўнага Савету 13-га скліканьня, хто падпісаў зварот у Канстытуцыйны суд аб імпічмэнце Лукашэнку. І пазьней ён цягам больш як двух дзесяцігодзьдзяў не сыходзіў з палітычнага

жыцьця, узначальваў Сацыял-дэмакратычную Грамаду.

*Дракахруст:*

Зараз у афіцыйнай гістарыяграфіі адбываецца такая «склейка»: Беларусь атрымала незалежнасьць, Лукашэнка стаў прэзыдэнтам, і пачалося будаўніцтва гэтай самай незалежнай Беларусі. Але насамрэч інтэрлюдыя трохгадовая (1991–1993) была вельмі важная. Некаторыя кажуць, што ў Беларусі адбывалася амаль тое самае, што і ў Расеі, некаторыя кажуць, што БНФ вёў рэй, але ў тым, што Беларусь да 1994 году была такой, якой яна была, — заслуга, а магчыма, і адказнасьць Станіслава Шушкевіча.

*Карбалевіч:*

Шушкевіч быў найвышэйшай дзяржаўнай асобай, і тыя дэмакратычныя пераўтварэньні моцна зьвязаныя зь ягонай фігурай.

Ён адыгрываў ролю своеасаблівага балянсіра, выконваў функцыі кампрамісу паміж рознымі палітычнымі плынямі ў краіне і ў Вярхоўным Савеце — БНФ, з аднаго боку, і былой камуністычнай намэнклятурай, якая гэтыя рэформы тармазіла. Рэформы маглі адбывацца толькі ў выніку кампрамісу паміж гэтымі дзьвюма плынямі.

У кампраміснасьці Шушкевіча быў ягоны плюс, але ў гэтым быў і ягоны мінус. На мой погляд, гэта клясычная ілюстрацыя лёсу цэнтрыста ва ўмовах нарастаньня сацыяльнага, эканаміч-

нага і палітычнага крызісу. У гэтым сэнсе ягоны лёс падобны да лёсу такіх фігураў, як Аляксандар Керанскі паміж дзьвюма рэвалюцыямі 1917 году ці Міхаіл Гарбачоў падчас «перабудовы». То бок вялізная, шалёная папулярнасьць напачатку і падзеньне гэтай папулярнасьці па меры нарастаньня крызісу.

Можна гаварыць пра пэўны ідэалізм Шушкевіча, калі ён спрабаваў клясычнымі мэтадамі праводзіць палітыку — гаварыць пра права ў неправавой дзяржаве, ва ўмовах вострага расколу грамадзтва гаварыць пра згоду. (Слова «згода», здаецца, было любімым у Шушкевіча.)

Самай вялікай праблемай Шушкевіча мне бачыцца, што з гледзішча грамадзтва ён быў «галоўным начальнікам» у краіне. Калі абывацель уключаў тэлевізар, ён бачыў сэсіі ВС, якія вёў Шушкевіч. І хто, у ягоным разуменьні, быў галоўным? Шушкевіч. Гэта надало яму вялікі рэйтынг напачатку, але потым і антырэйтынг: на яго перакінулі ўсю адказнасьць за сацыяльна-эканамічныя праблемы, якія абрынуліся на краіну ў зьвязку з распадам СССР, распадам плянавай эканомікі, распадам усёй сыстэмы. Тое, што рэальнага ўплыву на стан эканомікі ў Шушкевіча не было, патлумачыць было немагчыма: абывацель лічыў, што адказны той, хто сядзіць у гэтым крэсьле «начальніка».

*Навумчык:*

Датычна ўзаемадачыненьня з Апазыцыяй БНФ — было featuresзнае. Нагадаю, што мы распраца-

валі больш за тры дзясяткі законапраектаў, якія ўспрымаліся вельмі рэвалюцыйна. Але правесьці іх празь Вярхоўны Савет было цяжка. Часам Шушкевіч, калі ён пагаджаўся з намі, мог «падмануць» дэпутацкую большасьць і правесьці нешта праз галасаваньне, часам ён з намі не пагаджаўся і тады нічога не рабіў. Усялякае было.

Але, пры ўсіх складанасьцях нашых узаемаадносінаў, у крытычныя для Шушкевіча моманты дэпутаты БНФ заўсёды яго падтрымлівалі. Летам 1993-га ўдалося сарваць спробу прыхільнікаў Кебіча адправіць яго ў адстаўку. Але праз год, у студзені 1994-га, калі за адстаўку выступілі ня толькі Ганчар, Булахаў і Лукашэнка, але і Карпенка, і некаторыя іншыя дэпутаты з Дэмклюбу, галасоў дэпутатаў БНФ ужо не хапіла.

У Шушкевіча было адно важнае перакананьне. Ён быў безумоўна за беларускасьць. Я зраблю параўнаньне зь іншым дэпутатам — Нілам Гілевічам, у беларускасьці якога проста немагчыма сумнявацца. Але Гілевіч верыў у камуністычную ідэю (у якую, думаю, Шушкевіч наўрад ці верыў). Дык вось, немагчыма сумнявацца і ў беларускасьці Шушкевіча. Іншая рэч, што Шушкевіч далёка не заўсёды меў магчымасьць гэтую лінію правесьці.

Калі глядзець з адлегласьці часу, па вялікім рахунку, з усіх прэтэнзіяў да Шушкевіча я б вылучыў толькі адну — тое, што ў 1992-м ён не падтрымаў прапанову БНФ аб новых парлямэнцкіх выбарах. А яны, выбары, далі б нашмат больш дэмакратычны парлямэнт, чым ВС-12, і лёс Бела-

русі быў бы, перакананы, іншым. Усё астатняе, у чым мы яго часам папракаем, можна сьпісаць на гэтую балянсіроўку паміж рознымі палітычнымі сіламі. А вось тое, што не адбыліся новыя выбары… У інтэрвію Віталю Цыганкову Шушкевіч сказаў, што ён не падтрымаў рэфэрэндум пра новыя выбары таму, што ў гэтым разе ён бы ўжо ня быў сьпікерам. Магчыма, і ня быў бы, а магчыма, і зноў быў бы. Ва ўсякім разе, ён бы адназначна быў бы абраны ў новы Вярхоўны Савет ці, як яго хацелі назваць, Сойм. І я перакананы, што гэта быў бы нашмат больш дэмакратычны парлямэнт, чым ВС-12, і лёс Беларусі быў бы іншы.

*Дракахруст:*

Можна прыгадаць казку Шварца, дзе, каб перамагчы дракона, трэба самому стаць драконам. Ці мог бы Шушкевіч, умоўна кажучы, «стаць драконам»? Мог бы ён інтрыгамі, неістотна як, стаць дыктатарам, застацца ва ўладзе і, магчыма, дагэтуль кіраваць Беларусьсю? Ці гэта такі лёс Беларусі — што зь людзьмі кшталту Шушкевіча адбываецца тое, што адбылося з Шушкевічам, а пераможца — гэта дракон?

*Карбалевіч:*

Цяжка бачыць Шушкевіча ў ролі дыктатара. Дыктатар — гэта чалавек пэўнага псыхатыпу, для якога ўлада раўназначная жыцьцю. Вось як Аляксандар Лукашэнка, для якога ўлада раўназначная жыцьцю. І для ўлады ён гатовы ахвяраваць вельмі шмат чым. І дзяржаўнасьцю, і нейкімі

ўласнымі перакананьнямі, і лёсам людзей, і лёсам краіны. У Шушкевіча ўсё ж сапраўды былі перакананьні. Ягоная беларусацэнтрычнасьць, ягоны курс на беларусізацыю, і ў кірунку дзяржаўнага будаўніцтва, і ў сэнсе культуры.

Шушкевіч быў арыентаваны на дзяржаўныя інстытуцыі, а не на асабістую ўладу. Ён не спрабаваў апэляваць да грамадзтва цераз галаву дзяржаўных інстытуцыяў, нават калі ягоная ўлада зазнала напад. Гэта было і летам 1993-га, пра што ўзгадваў Сяргей, і ў студзені 1994-га. Ён мог бы апэляваць да грамадзкай падтрымкі, але ён не зрабіў гэтага. Ён верыў у дзяржаўныя інстытуцыі, яму і ў галаву не прыйшло зьвярнуцца да народу з заклікам: «Мяне здымаюць з пасады, выходзьце мяне бараніць», хоць рэйтынг у яго быў даволі высокі. Такі зварот быў бы цалкам у межах дэмакратычных каштоўнасьцяў — але ён яго не зрабіў.

Ён быў закладнікам прававых мэханізмаў і веры ў дзяржаўныя інстытуцыі, празь якія пераступіць ён проста ня мог.

## Чатыры гады свабоды і дваццаць восем гадоў дыктатуры

4 траўня 2022
Валянцін Жданко

Ягонае імя цяпер ужо заўсёды будуць атаясамліваць з пачаткам 90-х. Што гэта быў за час?

Сёньняшнім маладым, якія вырасьлі ў лукашэнкаўскай Беларусі, цяжка ўявіць, што можна адкрыта гаварыць і пісаць пра ўладу тое, што думаеш; што можаш, ні ў кога не пытаючыся, прыйсьці са сьцягам ці плякатам да Дома ўраду; што на плошчы маеш магчымасьць дыскутаваць з кіраўніком дзяржавы і адкрыта выказаць яму ў вочы сваю нязгоду.

Так, гэта быў час Шушкевіча: чатыры гады бурных зьменаў, палітычных жарсьцяў, грамадзкага віраваньня. Час вялікай надзеі… Калі людзі гадзінамі не адыходзілі ад прымачоў і тэлевізараў, слухаючы дэбаты ў Вярхоўным Савеце. Калі абрысы новай невядомай Беларусі зь цяжкасьцю праглядаліся ўдалечыні. Але нам, маладым, ап’янелым ад атмасфэры свабоды тых гадоў, верылася, што гэта — абрысы краіны дэмакратычнай і вольнай.

Яна, відавочна, стала б такой, калі б у 1994-м на першых прэзыдэнцкіх выбарах перамог Шушкевіч.

Лукашэнка і ў тыя гады, і пазьней, калі ўжо стаў прэзыдэнтам, любіў насьміхацца, кпіць з Шушкевіча: «Бач, паўнамоцтваў яму не хапае. Не

ў ягонай кампэтэнцыі. Ты ж кіраўнік дзяржавы: мала паўнамоцтваў — дык вазьмі!»

Сам ён ніколі не спыняўся перад тым, калі ў нечым яго абмяжоўваў закон. Нахрапам і гвалтам, нікога не пытаючыся, расштурхоўваючы ўсіх локцямі і мяняючы Канстытуцыі, як старыя чаравікі, выбудаваў дзяржаву, у якой ні свабоды, ні праўды, ні справядлівасьці. А адзіная каштоўнасьць — ягоная незьмяняльная аднаасобная ўлада і нічым не абмежаваныя паўнамоцтвы.

Тэарэтычна, вядома, Шушкевіч мог бы ў 1994-м пайсьці тым жа шляхам, што і многія ягоныя тагачасныя калегі на прасторы былога СССР — выкарыстоўваючы напоўніцу «адміністрацыйны рэсурс», плетучы інтрыгі і абыходзячы living рознымі хітрыкамі закон. І ўрэшце праз палітычную эквілібрыстыку застацца пры ўладзе. Але ўсё гэта было б супраць ягонай натуры, ягоных жыцьцёвых прынцыпаў і ўспрыняцьця сьвету… Гэта быў бы ўжо не Шушкевіч.

Ад яго і з парлямэнцкай трыбуны, і падчас інтэрвію часта можна было пачуць словы «прыстойнасьць», «сумленнасьць», «згода». На пачатку 90-х з гэтага часам іранізавалі. А гэта было ягонай сутнасьцю, жыцьцёвым падмуркам. Хто цяпер з высокіх дзяржаўных кіраўнікоў выкарыстоўвае іх? Яны чужыя для лексыкону і для сутнасьці цяперашняга дыктатарскага рэжыму.

Ён і ў паўсядзённым жыцьці быў такім жа — адкрытым, сумленным, уважлівым да чужой думкі, верным слову.

На пачатку 90-х я працаваў палітычным аглядальнікам у газэце «Звязда», амаль штодня бываў у Вярхоўным Савеце, часта браў інтэрвію ў дэпутатаў. Ня раз здаралася размаўляць і са Станіславам Станіслававічам. Неяк у нас была даволі доўгая і цікавая размова пра новыя эканамічныя праекты з удзелам Нямеччыны.

«А вось у мяне неўзабаве будзе паездка туды, я вас запрашу, разам паглядзім», — паабяцаў Шушкевіч.

Мінуў час, я тым словам не надаў надта шмат увагі. У мяне быў чарговы адпачынак, я паехаў у родную вёску на Гарадзеншчыне. І раптам даведваюся, што мяне ледзь ня ўсім саўгасным кіраўніцтвам шукаюць (а тэлефона ў маёй вёсцы ніколі не было). Знайшлі недзе ў лесе. Перапалоханы дырэктар саўгаса з круглымі вачыма: «Званіў сам Шушкевіч. Нешта тэрміновае. Неадкладна ў Менск!». Аказалася, Станіслаў Станіслававіч памятаў пра тое сваё абяцаньне і настаяў, каб мяне ўключылі ў дэлегацыю для візыту ў Нямеччыну. Гэта была восень 1993 году.

Зь ім вельмі прыемна было размаўляць. Мы, журналісты, асабліва гэта цанілі. Ясны востры розум, імгненная рэакцыя, дасьціпнасьць, дакладныя фармулёўкі. Ніякай «вады» — гатовае інтэрвію. Здымай са стужкі тэкст — і ў друк. Прычым аднолькава грунтоўна і проста, бяз пыхі, на роўных ён мог з табой зь вялікім зацікаўленьнем размаўляць і пра палітыку, і пра грыбы, і пра майстраваньне цяпліцы на лецішчы. У працэсе размовы абсалютна не адчувалася, што гутарыш

з высокім дзяржаўным чыноўнікам, кіраўніком дзяржавы.

…Чамусьці нам наканавана было прайсьці праз гэтыя трыццаць гадоў аўтарытарызму і дыктатуры: гады сораму, прыніжэньня і ганьбы. Магчыма, дзеля таго, каб па-сапраўднаму зразумець каштоўнасьць тых кароткіх «шушкевіцкіх» чатырох гадоў надзеі і свабоды.

Тады, у 1994-м, час такіх палітыкаў, як Станіслаў Шушкевіч, яшчэ не надышоў.

# Старэнькі шалік Шушкевіча

4 траўня 2022
Сяргей Навумчык

З таго, што зрабіў Станіслаў Шушкевіч, самым вялікім ягоным дасягненьнем бачыцца падпісаньне Белавескіх пагадненьняў, якія паставілі кропку ў існаваньні СССР.

І гэта будзе ўпісана (ужо ўпісана) ва ўсясьветную гісторыю.

З таго, што мог бы зрабіць, але не зрабіў — не перашкаджаць ініцыятыве БНФ правесьці датэрміновыя выбары ў 1992 годзе новага парлямэнту (што было лягічна: новая краіна — новая ўлада).

Пераканаты, што новы парлямэнт быў бы куды больш дэмакратычным і лёс Беларусі склаўся б інакш. Ва ўсялякім разе, чалавек з прозьвішчам Лукашэнка ўплываў бы на гэты лёс у мінімальнай ступені.

Будучыя біёграфы і гісторыкі дадуць аб'ектыўныя ацэнкі Шушкевічу як палітыку, сёньня ж хачу сказаць пра абсалютна для мяне бясспрэчнае: ён быў чалавекам, які ўспрымаў уладу як магчымасьць нешта зрабіць і на нешта паўплываць, а не як спосаб палепшыць сваё матэрыяльнае і фінансавае становішча. Вельмі-вельмі рэдкая якасьць.

Праілюструю гэтае сьцьвярджэньне радкамі, якімі завяршаю кнігу «Дзевяноста трэці».

«…Як і іншыя дэпутаты Апазыцыі БНФ, я ня ўдзельнічаў у галасаваньні 26 студзеня 1994 году

за адстаўку Шушкевіча. Мы ўвогуле не апускалі бюлетэні ў скрыні, хаця і разумелі па настроі большасьці дэпутацкага корпусу, што гэтым разам нам ня ўдасца заблякаваць галасаваньне. Калі позна ўвечары старшыня падліковай камісіі абвясьціў сумныя для Шушкевіча вынікі, паседжаньне сэсіі скончылася, і Шушкевіч выйшаў у бакавыя дзьверы за прэзыдыюмам — звычайна ён пакідаў свае рэчы ў пакоі за Авальнай заляй (кабінэт старшыні быў ужо ў будынку былога ЦК).

Я пайшоў усьлед за Шушкевічам. Спачатку я хацеў выказаць заўвагі адносна ягонага выступу перад галасаваньнем (выступ сапраўды быў ня самым удалым), але калі ўжо ўвайшоў у пакой, проста выказаў спачуваньне. Шушкевіч ужо быў у паліто і зьбіраў у папку паперы, а потым надзеў шалік.

Гэта быў ісьляндзкі шалік шэра-крэмавага колеру са сьветлымі палоскамі на канцах, якія ў пачатку 80-х завезьлі ў Савецкі Саюз у даволі вялікай колькасьці (невядома зь якой нагоды — здаецца, „калашнікавы“ ў Ісьляндыю Масква не пастаўляла). Набыць яго можна было толькі „па знаёмстве“, але ён быў даволі распаўсюджаны.

Я глядзеў на гэты стары шалік, які папраўляў на сабе чалавек, што яшчэ чвэрць гадзіны таму быў кіраўніком дзяржавы, і адчуваў, наколькі абсурдным было абвінавачваньне яго ў карупцыі з вуснаў сіпатага дырэктара саўгаса. Я дакладна ведаў, што некаторыя намесьнікі старшынь аблвыканкамаў клалі сабе ў кішэню сотні тысяч даляраў хабару за ліцэнзіі на рээкспарт нафты, што

„актывы“ аднаго зь віцэ-прэм’ераў ацэньваліся ў дваццаць мільёнаў даляраў, што сотні менш значных чыноўнікаў мелі фірмы, якія штомесяц прыносілі ім даходы ў дзясятак разоў большыя за афіцыйныя зарплаты — і ўсё гэта мог мець ён, кіраўнік дзяржавы. Мог, пры жаданьні. Але не захацеў, і вось цяпер сыходзіць, маючы тое, з чым і прыйшоў на вышэйшую пасаду.

Была ў гэтым нейкая вялізная несправядлівасьць, адчуваньне якой абвастрылася потым, калі той дырэктар саўгаса стаў прэзыдэнтам і разам са сваім атачэньнем паказаў зусім іншыя спосабы жыцьця і іншы ўзровень уласнага дабрабыту.

Каля я вяртаўся ў Авальную залю, думаў пра тое, што яшчэ пару гадзінаў таму, калі б Шушкевіч патэлефанаваў Ельцыну і папрасіў падтрымкі (а Шушкевіч падтрымаў Ельцына ў крытычныя для таго дні восені 93-га) — расейскі прэзыдэнт адным званком Кебічу мог бы спыніць тое, што адбылося ў Авальнай залі. Але цяпер было ўжо позна».

Зямля вам пухам, Станіслаў Станіслававіч. Вечная памяць.

# Зубры сыходзяць — пушча апусьцела

Валер Карбалевіч

Станіслаў Шушкевіч увасобіў сабой вобраз палітыка пачатку 1990-х гадоў, пэрыяду першых крокаў беларускай дзяржаўнасьці.

Зь лёгкай рукі Віктара Ганчара вобраз «белавескага зубра» трывала замацаваўся за Станіславам Шушкевічам. Ня толькі таму, што ён падпісаў гістарычныя Белавескія пагадненьні, якія ліквідавалі СССР, але і ў шырэйшым сэнсе. Як вобраз палітыка, які адлюстраваў эпоху пачатку 1990-х гадоў, краху камуністычнай сыстэмы, першых крокаў беларускай дзяржаўнасьці. І як нейкую магчымую альтэрнатыву таму адыёзнаму рэжыму, які захапіў Беларусь.

Імідж Шушкевіча, здавалася б, найбольш пасаваў мэнталітэту беларускага народу. Узважанасьць, абачлівасьць, разважлівасьць, прыхільнасьць закону, талерантнасьць, імкненьне да кампрамісу, адукаванасьць доўгі час імпанавалі людзям і дазвалялі яму ў 1991–1992 гадах быць бясспрэчным лідэрам ва ўсіх сацыялягічных апытаньнях.

Тут перад намі паўстае інтэлігент у чыстым выглядзе: сын пісьменьніка, прафэсар, які ўмее добра і пераканаўча гаварыць (асабліва на тле ягонага папярэдніка, «красамоўнага» Мікалая Дземянцея), свабодна пераходзіць паміж беларускай і расейскай мовамі. Глыбокая ўнутраная інтэлігентнасьць была бачная ў самой манеры паво-

дзін Шушкевіча. Ён унёс гэтую інтэлігентнасьць у палітыку, стварыў своеасаблівы палітычны стыль, падобны да стылю эўрапейскіх палітыкаў. Шушкевіч узьняў плянку паводзінаў палітычнага дзеяча ў Беларусі. Калі ў красавіку 1991 году абураныя працоўныя выйшлі на плошчу, Шушкевіч адзіны з кіраўніцтва рэспублікі ўступіў зь імі ў сур'ёзныя перамовы.

Шушкевіч спрабаваў вырашыць невырашальную, па сутнасьці, задачу: утрымацца на пасадзе старшыні Вярхоўнага Савету пры дамінаваньні ў парлямэнце старой савецкай намэнклятуры і захаваць пры гэтым аблічча дэмакрата. Самае дзіўнае, што гэта яму ў значнай меры ўдавалася.

Непераадольнымі для ягонага палітычнага лёсу сталі два падводныя камяні.

Першы быў наўпрост зьвязаны зь ягоным іміджам палітычнага цэнтрыста, які ўвесь час шукае кампрамісу, згоды. А на пачатку 1990-х гадоў краіна ўступіла ў пэрыяд вострага крызісу, які стаў наступствам распаду СССР, краху савецкай сыстэмы зь яе плянавай эканомікай, разрывам гаспадарчых сувязяў і інш. Па меры абвастрэньня сацыяльна-эканамічных праблем грамадзтва палярызуецца, палітычны цэнтар размываецца. Сацыяльная база цэнтрыстаў рэзка звужаецца, і ўзьнікае момант, калі яны павісаюць у паветры. І тады дастаткова невялікага штуршка, каб іх зрынуць. Калі браць гістарычныя аналёгіі, то Шушкевіча напаткаў лёс клясычных цэнтрыстаў — Аляксандра Керанскага ў 1917 годзе, Міхаіла Гарбачова падчас «перабудовы»: вялізная

папулярнасьць на пачатку кіраваньня і мінімальная падтрымка напрыканцы. Любімае ягонае слова — «згода» — пачало раздражняць людзей. У грамадзтве дамінавала ўяўленьне пра яго як пра палітыка недастаткова рашучага, залішне кампраміснага.

Другім непераадольным бар’ерам стаў разрыў паміж ягоным фармальным і фактычным статусам. Справа ў тым, што, займаючы пасаду старшыні Вярхоўнага Савету і будучы паводле Канстытуцыі найвышэйшай службовай асобай у дзяржаве, Станіслаў Шушкевіч у грамадзкай сьвядомасьці выступаў як галоўная фігура ўсёй дзяржаўнай улады. Людзі кожны дзень бачылі яго па тэлебачаньні (а праца Вярхоўнага Савету тады трансьлявалася ўжывую) за сталом сьпікера, які вядзе паседжаньне, і ўяўлялі яго як самага важнага начальніка ў краіне. Насамрэч выканаўчая ўлада была ў Саўміна, які кантраляваў і парлямэнт. Шушкевіч нават у межах сваіх невялікіх паўнамоцтваў аказаўся нібыта са зьвязанымі рукамі. Аднак віна за эканамічныя катаклізмы пачатку 1990-х гадоў упала найперш на яго. Гэтая супярэчнасьць адыграла фатальную ролю ў стаўленьні насельніцтва да Шушкевіча.

На пачатку 1994 году каманда кіраўніка ўраду Вячаслава Кебіча менавіта ў Шушкевічу (а не ў Лукашэнку) бачыла галоўнага канкурэнта на пасаду прэзыдэнта, і з пасады старшыні Вярхоўнага Савету ён быў адпраўлены ў адстаўку.

Прэзыдэнцкія выбары 1994 году Шушкевіч прайграў. Аднак з палітыкі не сышоў. Да самага

апошняга часу ён быў у апазыцыі, выразна дэманстраваў сваю нязгоду зь існым рэжымам. У пэўным сэнсе да самага канца ён застаўся палітычным ідэалістам. І напамінам аб магчымай гістарычнай альтэрнатыве — калі б, напрыклад, прэзыдэнцкія выбары адбыліся ў 1992 годзе.

Сыход з жыцьця Станіслава Шушкевіча азначае канец цэлай эпохі. Калі адыходзяць палітычныя зубры, хто застаецца ў пушчы?

# Цана «дыямэнта»

4 траўня 2022
Юры Дракахруст

Анэкдот ад Шушкевіча, расказаны пасьля адстаўкі з пасады старшыні Вярхоўнага Савету.

Пасьля таго як Станіслава Шушкевіча адправілі ў адстаўку з пасады старшыні Вярхоўнага Савету, я прыехаў браць у яго інтэрвію на ягонае лецішча. Тое самае, у будаўніцтве якога яго гэтак палка абвінавачваў тагачасны дэпутат Аляксандар Лукашэнка. Будыніна тая была даволі сьціплая, куды там да цяперашніх шматлікіх палацаў Лукашэнкі.

Шушкевіч, аналізуючы абставіны і прычыны свайго зрынаньня, прыгадаў анэкдот.

Прыходзіць чалавек да ювэліра з дыямэнтам і просіць раскалоць яго. Ювэлір выклікае памочніка, бамбізу з тварам, не абцяжараным інтэлектам, і кажа яму: «Раскалі каменьчык, даражэнькі».

Кліент — у шоку. Ювэлір, усьміхаючыся, пытаецца: «Вы ведаеце цану гэтаму дыямэнту?» — «Так!» — у роспачы адказвае кліент. «І я ведаю, — тлумачыць ювэлір. — А ў яго рука не здрыганецца».

Шматслойны жарт Станіслава Станіслававіча ў кантэксьце той канкрэтнай сытуацыі.

Самога сябе ён «дыямэнтам» не лічыў. А вось Беларусь — так. І адчуваў, разумеў, пад якую рызыку трапіць краіна ў выніку яго адстаўкі, якую скрыню Пандоры яна адчыніць.

Менш як праз паўгода прэзыдэнтам Беларусі стаў Аляксандар Лукашэнка.

Гісторыя ня ведае ўмоўнага ладу, але адстаўка Шушкевіча, безумоўна, была прынамсі адным з падмуркаў перамогі Лукашэнкі на выбарах тады.

І самаіронія была ў тым жарце першага кіраўніка незалежнай Беларусі. Рука не павінна дрыжаць, нават калі ведаеш цану.

Запавет Шушкевіча нашчадкам, можна сказаць.

Вечная памяць! І дзякуй за тое, што ён зрабіў цьвёрдай рукой.

# Праводзілі аплядысмэнтамі, зь белымі і чырвонымі кветкамі. У Менску разьвіталіся са Станіславам Шушкевічам

7 траўня 2022

*7 траўня, на другі дзень разьвітаньня зь першым кіраўніком незалежнай Беларусі Станіславам Шушкевічам, якое праходзіць у архікатэдральным касьцёле Найсьвяцейшага Імя Марыі ў Менску, ля касьцёла выстраілася чарга зь людзей, якія прыйшлі разьвітацца з палітыкам і праводзіць яго ў апошні шлях.*

Многія прыйшлі з чырвонымі і белымі кветкамі.

На цырымоніі разьвітаньня, сярод іншых, прысутнічае надзвычайны і паўнамоцны амбасадар Польшчы ў Беларусі Артур Міхальскі, які ў пачатку году на патрабаваньне беларускіх уладаў вымушана выехаў зь Беларусі.

Некаторыя амбасады прынесьлі свае вянкі памяці Станіславу Шушкевічу.

Першыя шэрагі зарэзэрваваныя для дыпляматычнага корпусу. Ёсьць відэакамэра дзяржаўнага каналу СТВ.

На разьвітаньні таксама прысутнічала Эльжбета Смулкова, дасьледчыца польска-беларуска-літоўскага моўнага памежжа, першая амбасадарка Польскай Рэспублікі ў Беларусі.

Былі прадстаўнікі дэмакратычных сілаў: старшыня партыі «Справядлівы сьвет» Сяргей Калякін і ягоны намесьнік Валер Ухналёў, кіраўнік партыі «Зялёныя» Дзьмітры Кучук, намесьнік старшыні Партыі БНФ Аляксей Янукевіч, дэпутат Вярхоўнага Савету 12-га скліканьня, экс-старшыня Партыі БНФ Лявон Баршчэўскі.

«Ён ня быў актыўным вернікам, але быў выхаваны як каталік. Успамінаў сваю бабулю, якая была шчырай каталічкай. Станіслаў, будучы навукоўцам, неаднаразова казаў, што толькі прыродазнаўчымі навукамі немагчыма растлумачыць зьяўленьне жыцьця.

Яго жыцьцё прыпала на час вялікіх выпрабаваньняў і зьменаў у нашай краіне. Дзякуючы Станіславу Станіслававічу вернікам была вернутая катэдра, дзе мы цяпер знаходзімся», — сказаў падчас цырымоніі ксёндз Юзаф Станеўскі.

«Тое, што адбылося 8 сьнежня 1991 году ў Віскулях, — гэта пачатак новай гісторыі нашай краіны. І там быў ты, спадар Станіслаў! Ты таксама быў творцам таго дакумэнту, дзякуючы якому мы атрымалі Незалежнасьць. Сёньня мы дзякуем табе.

Дзякуем таксама табе за тваю адкрытасьць, тваё адкрытае сэрца. Дзякуем табе за тое, што ты вялікую ўвагу зьвяртаў на права чалавека на рэлігійную свабоду, якая зьяўляецца адным з асноўных правоў чалавека», — сказаў падчас цырымоніі арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч.

На цырымоніі разьвітаньня яе ўдзельнікі, сярод іншага, памаліліся за тых, хто загінуў у цяперашняй вайне ва Ўкраіне.

Калі выносілі труну, аплядысмэнты доўжыліся больш за 10 хвілінаў. На разьвітаньні ў касьцёле не было заўважана ніводнага вянка зь дзяржаўнай сымболікай.

На разьвітаньні са Станіславам Шушкевічам на Паўночных могілках Менску труну накрылі бел-чырвона-белым сьцягам.

## «Нам адмовілі ў месцы на Ўсходніх могілках». Ірына Шушкевіч пра апошнія дні мужа і абставіны разьвітаньня

17 траўня 2022
Сяргей Навумчык

*Праз два тыдні пасьля сьмерці першага кіраўніка незалежнай Беларусі Радыё Свабода папрасіла ягоную жонку Ірыну прыгадаць апошнія дні Станіслава Шушкевіча і абставіны, зьвязаныя зь яго пахаваньнем.*

Апошнія два гады, з пачатку каранавірусу, Станіслаў Шушкевіч правёў у самаізаляцыі ў кватэры і пакідаў яе толькі дзеля мэдычных патрэбаў.

У адным з апошніх інтэрвію ён сказаў, што праходзіць штодня тры тысячы крокаў па кватэры, а раней хадзіў па дзесяць тысяч. Мы перапыталі Ірыну Шушкевіч, ці не было тут памылкі — магчыма, мелася на ўвазе вуліца, а не кватэра.

«Так, ён находжваў па кватэры, — пацьвердзіла спадарыня Ірына. — Ён вылічыў, колькі крокаў было ад аднаго балькона, у вялікім пакоі, да другога, у кабінэце. І вось ён выходжваў ад балькона да балькона. Ён любіў, каб быў вынік. Яму сказалі мэдыкі, што трэба тры кілямэтры праходзіць, для сэрца. І вось ён хадзіў. Потым праблемы зьявіліся з нагамі… На жаль, атрымлівалася так, што калі

ён клаўся, галава менш балела і з нагамі было лепей, ён не адчуваў болю. А для сэрца, наадварот, трэба было хадзіць. І ён хадзіў. У гэтым пляне ў яго была жалезная воля. Я прасіла жыць, не пакідаць мяне адну. Для гэтага трэба было рухацца, і ён рухаўся. Ён малайчына быў».

Нягледзячы на стан здароўя, Шушкевіч сачыў за палітычнымі навінамі, шмат чытаў.

«Пасьля таго як яму зрабілі апэрацыю па выдаленьні катаракты, ён бачыў увогуле цудоўна, ну як малады. Таму ён стаў болей чытаць на кампутары, там можна было зрабіць шрыфт любой велічыні».

Па словах жонкі, апошнім часам Шушкевіч успамінаў вершы — Блока, Лермантава, Някрасава. «Быкава чытаў, але вось не магу прыгадаць, што канкрэтна, бо чытаў на кампутары, а не ў папяровым варыянце» (спадарыня Ірына ўдакладніла, што маецца на ўвазе Васіль Быкаў, хоць, па яе словах, Шушкевіч любіў і расейскага пісьменьніка Дзьмітрыя Быкава).

«Ён яшчэ спрабаваў сваю кніжку „Маё жыцьцё: крушэньне і ўваскрашэньне СССР“ крыху рэдагаваць. Спачатку казаў, што, можа, варта нешта памяняць, але потым — „Не, усё нармальна“, і кінуў гэтую справу».

Як кажа Ірына Шушкевіч, у апошнія дні муж спрабаваў пісаць: «Ён перажываў, што стаў горш пісаць, ён нават прасіў мяне дапамагчы, я падкладала дошчачку, але ў яго ўжо атрымлівалася толькі друкаванымі літарамі, яму гэта не падабалася».

## «Я акрыяла духам, думала, усё будзе добра»

Нягледзячы на самаізаляцыю, Станіслаў Шушкевіч перахварэў на каранавірус, што і прычынілася да пагаршэньня здароўя.

«Гэта былі наступствы ковіду, — кажа Ірына Шушкевіч.— У яго было шмат хранічных хваробаў, яны ўсе абвастрыліся. Ён двойчы быў у рэанімацыі. Потым, пасьля другой рэанімацыі, мне здалося, што яму зрабілася лепей. Перад другой рэанімацыяй я яго паіла какавай дзіцячай, а яшчэ ёсьць такая для спартоўцаў бялковая „Экспанэнта“. Я разумела, што ён адыходзіць, тады яго забралі ў рэанімацыю. Пасьля рэанімацыі ён стаў есьці і цьвёрдую ежу. Я дамовілася з рэаніматолягам; ён прыходзіў, сказаў, што ў яго цяглiцы нядрэнныя, яны памятаюць рухі, і яго можна паставіць на ногі».

Ірына Шушкевіч купіла адмысловы мэдычны ложак і паставіла яго ў вялікім пакоі.

«Ён гэты ложак чамусьці называў «тэхнічным». Я казала, што гэта не тэхнічны, гэта мэдычны. А ён хацеў на звычайным. Але на звычайным немагчыма было б даглядаць. Раней ён ляжаў на звычайным, і было вельмі цяжка даглядаць. Таму набылі такі ложак, у цэнтры вялікага пакоя паставілі. Яму здалося, што ён яшчэ ня дома і што яму трэба дадому. Але потым ён убачыў, што дома. Думаю, проста яму было дрэнна, а дома ж заўсёды лепей. Яму хацелася, каб было лепей. Я яму кажу: «Паглядзі, ты ж дома!» — «А, ну так, дома».

З госьпісу паабяцалі прыходзіць тры разы на тыдзень, каб рабіць неабходныя для ляжачых хворых працэдуры, аднак Ірына Шушкевіч, па яе словах, і сама магла іх рабіць, бо раней даглядала ляжачую маці.

«Я акрыяла духам і думала, што ўсё будзе добра, — кажа спадарыня Ірына. — Але трэцяга траўня ён пасьнедаў і адмовіўся ад ежы. Потым у яго балеў жывот, я выклікала хуткую, яны прыехалі і зрабілі ўкол ношпы. Мне штосьці не спадабалася, я пазваніла, мне патлумачылі, як уздымаць ціск. Я спрабавала, але бачыла, што ціск усё больш падае, ён задыхаецца. Я зноў выклікала хуткую. Гэтая хуткая прыехала ўжо з кіслародам, зь нейкімі яшчэ чамаданамі. Яны сказалі, што наўрад ці будзе добры вынік».

На пытаньне, ці быў Станіслаў Шушкевіч у апошнія гадзіны жыцьця пры сьвядомасьці, спадарыня Ірына адказала, што пакуль яна была ў пакоі, так. «Але потым мяне папрасілі выйсьці для гэтых рэанімацыйных мерапрыемстваў».

Працэдуры доўжыліся каля гадзіны, у 23:35 лекары канстатавалі сьмерць (у даведцы аб сьмерці на адной і той жа старонцы былі зафіксаваныя як час сьмерці і 23:25, і 23:35).

## Чаму доўга не абвяшчалі пра месца пахаваньня

Ірына Шушкевіч кажа, што тэма апошняга разьвітаньня і пахаваньня ў сям'і абмяркоўвалася.

«Мы зь ім размаўлялі пра гэта. Прасіў, калі будуць хаваць на Ўсходніх, там ёсьць алея навукоўцаў (ён быў членам-карэспандэнтам Акадэміі навук)».

Можна меркаваць, што Шушкевіч разьлічваў на вечны спачын там, дзе і павінен быў ляжаць паводле ягоных заслуг перад Беларусьсю.

Месца на Ўсходніх могілках, дзе хаваюць акадэмікаў, — гэта так званая «ганаровая алея», а рэальна — той участак па левы бок ад цэнтральнага ўваходу, дзе спачываюць ня толькі выбітныя навукоўцы, але і дзеячы літаратуры, мастацтва — Уладзімер Караткевіч, Васіль Быкаў, Стэфанія Станюта, Уладзімер Мулявін. Раней тут хавалі таксама высокапастаўленых камуністычных кіраўнікоў, цяпер — набліжаных да Лукашэнкі чыноўнікаў ці нават іхных жонак. Тут пахаваныя Мікалай Дземянцей і Вячаслаў Кебіч.

Адміністрацыя Ўсходніх могілак адказала, што выканае любое рашэньне, якое прыме вышэйшае начальства. Фармальна дазвол на пахаваньне на Ўсходніх могілках дае кіраўнік Менгарвыканкаму, але сям'і Шушкевіча было зразумела, што ў гэтым выпадку вырашаць будзе Лукашэнка.

«Зьвязваліся і з Адміністрацыяй прэзыдэнта, і зь Менгарвыканкамам, — расказвае Ірына Шушкевіч. — Усе чакалі рашэньня (гэтым і тлумачылася, што некалькі дзён месца пахаваньня не абвяшчалася. — РС). Але месца на Ўсходніх могілках нам не далі. Так атрымалася, што ў канцы мінулага году памерла мая родная сястра, на Паўночных могілках Менску было месца побач, там

яго і пахавалі. Але аказалася, што гэта ня вельмі далёка ад ягонай сястры, блізка да ягонай маці, непадалёк ад маіх бацькоў».

## «Любіў ён больш за ўсіх беларусаў»

Ірына Шушкевіч кажа, што адразу пасьля сьмерці Станіслава Шушкевіча лекары зь лечкамісіі самі выклікалі міліцыю, былі зробленыя патрэбныя фармальныя працэдуры. Раніцай Ірына Шушкевіч паехала ў лечкамісію па даведку аб сьмерці. Крыху пазьней ёй патэлефанавалі зь лечкамісіі і сказалі, што могуць даць памінальную залю. Але бяз транспарту: «Вы павінны самі прывезьці цела і адвезьці».

«Паколькі мы абмяркоўвалі гэта, ён казаў, што ў Акадэміі ня варта выстаўляць, бо АН пазбавіла яго членкораўскіх выплатаў, — кажа спадарыня Ірына. — Усе атрымлівалі, а ён — не. Ад дзяржавы чакаць нічога не даводзілася, мы зь ім вырашылі, што будзе памінальная заля на Альшэўскага, іх там дзьве, адна меншая, другая большая. Мы вырашылі, што большая. І я сказала таму, хто пазваніў зь лечкамісіі, што мы будзем на Альшэўскага. «А, ну калі ласка».

Аднак потым Ірына Шушкевіч успомніла, што жонку Аляксандра Казуліна адпявалі ў Чырвоным касьцёле: «І мы туды заехалі. Нам адказалі — так, вядома. Але потым паведамілі, што паколькі ў свой час ён перадаў Катэдральны сабор вернікам (і, між іншым, калі нам здаралася праходзіць каля сабора, вернікі часта дзякавалі

яму), вырашылі, што будуць у саборы адпяваць. Мы ня толькі ня думалі, нават уявіць сабе такога не маглі».

Ірына Шушкевіч бачыць сымбалізм у тым, што адпяваньне адбылося ў саборы на плошчы Свабоды. Яна выказвае падзяку і каталіцкім сьвятарам, і ўсім, хто прыйшоў разьвітацца са Станіславам Шушкевічам, усхвалявана прыгадвае выступ Тадэвуша Кандрусевіча.

«Я ня думаю, што якое-небудзь дзяржаўнае пахаваньне прайшло б лепей, чым тое, якое адбылося ў Катэдральным саборы. Я вельмі ўдзячная каталіцкай царкве, усім людзям, якіх я ведаю і якіх ня ведаю, якія з такой павагай паставіліся да памяці майго мужа. Ён паважаў усе нацыі — рускіх, украінцаў, малдаванаў, усіх, але любіў ён больш за ўсіх беларусаў. Гэта не нацыяналізм, а гэта быў патрыятызм».

Па словах Ірыны Шушкевіч, яна застаецца ў Беларусі.

«Я нікуды не хачу адсюль зьяжджаць. І ён нікуды не хацеў адсюль. Ён лічыў, што павінен быць у сябе на Радзіме, што б ні здарылася з Радзімай. Хачу сказаць, што ён сапраўды зрабіў усё: ён пабудаваў дом, ён пасадзіў дрэва, у яго дачка і сын. І што самае галоўнае: ён быў вельмі надзейны. Мы зь ім цалкам давяралі адно аднаму. Таму мне вельмі цяжка цяпер. Вельмі ён сьпяшаўся паўсюль, усё пасьпяваў зрабіць. На жаль, ён і сышоў занадта хутка. Лепш бы павольней».

«Мы з Станіславам Станіслававічам пражылі бяз трох месяцаў 47 гадоў, — працягвае Ірына

Шушкевіч. — І ў горы, і ў радасьці былі падтрымкай адно аднаму. І ніколі не было выпадку, каб сумняваліся адно ў адным. Дзякуй яму за гэта. Ён казаў, што яму ў жыцьці вельмі пашанцавала, што ён вельмі мяне кахае. І я яго вельмі кахаю, і мне ў жыцьці вельмі пашанцавала», — кажа Ірына Шушкевіч.

На пытаньне, ці выказаў ёй хто-небудзь з прадстаўнікоў дзяржаўных органаў ці з Акадэміі навук спачуваньне з прычыны сьмерці мужа, Ірына Шушкевіч адказала адным словам: «Не».

# Замест пасьляслоўя

## Настаўніцу арыштавалі за рэпост з Радыё Свабода

*Раніцай 13 чэрвеня 2022 г. затрымалі выкладчыцу гісторыі ў СШ № 2 г. Наваполацку Алену Зубраву.*

14 чэрвеня над жанчынай адбыўся суд па арт. 19.11 КаАП за тое, што яна ў траўні зрабіла рэпост навіны пра Станіслава Шушкевіча з Радыё Свабода. Вынікам суду стаў 15-дзённы арышт.



Станіслаў Шушкевіч (на самым версе зьлева) з маршалам
Сямёнам Будзённым. Артэк, 1946 г.



Пасьля заканчэньня ўнівэрсытэту. 1956 г.



Шушкевічы — Станіслаў (унук) і Станіслаў (дзед). 1985 г.





Разам зь Зянонам Пазьняком на мітынгу БНФ. Люты 1990 г.

На трыбуне Вярхоўнага Савету 12-га скліканьня.



Падпісаньне Белавескіх пагадненьняў. Прэм’ер-міністар Украіны Вітольд Фокін, прэзыдэнт Украіны Леанід Краўчук, старшыня Вярхоўнага Савету Беларусі Станіслаў Шушкевіч, старшыня Савету Міністраў Беларусі Вячаслаў Кебіч, прэзыдэнт Расеі Барыс Ельцын і дзяржаўны сакратар Расеі Генадзь Бурбуліс. 8 сьнежня 1991 г.





Першая амбасадарка Польшчы ў Беларусі Эльжбета Смулкова ўручае даверчыя лісты старшыні Вярхоўнага Савету Станіславу Шушкевічу. 1992 г.

З Васілём Быкавым і Нілам Гілевічам на ўрачыстым паседжаньні, прысьвечаным 75-м угодкам БНР. Сакавік 1993 г.





З прэзыдэнтам ЗША Білам Клінтанам у менскім аэрапорце.
15 студзеня 1994 г.

Старшыня і іншыя кіраўнікі Вярхоўнага Савету Беларусі вітаюць прэзыдэнта Біла Клінтана. 15 студзеня 1994 г.





Зь Міхаілам Гарбачовым.

Разам з Аляксандрам Казуліным, Аляксандрам Мілінкевічам, старшынёй Рады БНР Івонкай Сурвілай, Зянонам Пазьняком у Празе на сустрэчы з прэм’ер-міністрам Чэхіі Мірэкам Топаланэкам. Травень 2009 г.







З Аляксандрам Лукашуком і Валянцінай Аксак у студыі менскага бюро Беларускай службы Радыё Свабода. Студзень 2013 г.

Інтэрвію журналістцы Радыё Свабода Ганьне Соўсь. 2016 г.





Уручэньне мэдаля да 100-годзьдзя БНР у будынку, дзе абвяшчалася Незалежнасьць БНР. Аляксандар Старыкевіч, Уладзімер Арлоў, Сяргей Антончык, Радзім Гарэцкі, Станіслаў Шушкевіч, Сяргей Навумчык. 18 чэрвеня 2019 г.

Інтэрвію журналістцы Радыё Свабода Кацярыне Маркоўскай. Лістапад 2019 г.





З жонкай Ірынай.

У працоўным кабінэце ў менскай кватэры. Люты 2019 г.



Ірына Шушкевіч у кабінэце мужа. Чэрвень 2022 г.

## Шлях асобы і палітыка

*Біяграфічная даведка*

Станіслаў Шушкевіч нарадзіўся 15 сьнежня 1934 году ў Менску ў сям'і настаўнікаў. Ягоная маці — пісьменьніца Гэлена Раманоўская. Бацька — паэт Станіслаў Шушкевіч, які ў 1937-м быў арыштаваны і асуджаны на 8 гадоў лягераў. У 1949 годзе быў асуджаны паўторна. Рэабілітаваны ў 1954-м, цалкам рэабілітаваны ў 1975-м.

У часе Другой усясьветнай вайны Станіслаў Шушкевіч разам з маці і бабкай жылі ў акупаваным нацыстамі Менску, у іхным доме хаваўся габрэйскі хлопчык (за неданясеньне пагражала сьмерць).

Пасьля заканчэньня школы са срэбным мэдалём у 1951 годзе паступіў вучыцца на фізыка-матэматычны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэту, скончыў яго ў 1956 годзе. Вучыўся ў асьпірантуры Інстытуту фізыкі АН БССР, меў распрацоўкі ў галіне радыёэлектронікі.

У 1960–1961 гадах працаваў у канструктарскім бюро менскага радыёзаводу. Вучыў расейскай мове амэрыканскага грамадзяніна Лі Гарві

Освальда, які пасьля вяртаньня ў ЗША забіў прэзыдэнта Джона Кенэдзі.

У 1963–1990 гадах працаваў у Менскім радыётэхнічным інстытуце і Белдзяржунівэрсытэце, быў прарэктарам гэтых вышэйшых навучальных установаў. За навуковыя дасьледаваньні атрымаў прэмію Савету міністраў СССР, а за падрыхтоўку падручніка — Дзяржаўную прэмію БССР. Меў званьне заслужанага дзеяча навукі і тэхнікі БССР, ступень доктара фізыка-матэматычных навук. Быў членам-карэспандэнтам Акадэміі навук Беларусі.

Вясной 1989 году пры падтрымцы Беларускага Народнага Фронту за перабудову «Адраджэньне» быў абраны народным дэпутатам СССР. На Першым зьезьдзе народных дэпутатаў СССР у траўні 1990-га, разам зь некаторымі іншымі беларускімі дэпутатамі — Алесем Адамовічам, Васілём Быкавым, Аляксандрам Дабравольскім, Віктарам Карняенкам, Юрыем Варонежцавым — увайшоў у склад Міжрэгіянальнай дэпутацкай групы (МДГ), якую ўзначальвалі Барыс Ельцын і Андрэй Сахараў. МДГ была першай адкрытай палітычнай апазыцыяй у СССР пасьля ўсталяваньня сталінскай дыктатуры.

У сакавіку 1990-га ў першым туры быў абраны народным дэпутатам БССР. У траўні 1990-га, на першай сэсіі Вярхоўнага Савету 12-га скліканьня, балятаваўся на пасаду старшыні Вярхоўнага Савету, аднак па колькасьці галасоў саступіў Мікалаю Дземянцею. Быў абраны першым намесьнікам старшыні Вярхоўнага Савету.

19 жніўня 1991 году быў адным зь пяці членаў Прэзыдыюму Вярхоўнага Савету БССР, якія выступілі супраць арганізаванага КДБ і падтрыманага шэрагам кіраўнікоў СССР камуністычнага путчу ў Маскве. Далучыў свой подпіс да патрабаваньня дэпутатаў Апазыцыі БНФ аб скліканьні нечарговай сэсіі Вярхоўнага Савету.

На сэсіі, якая распачалася 24 жніўня 1991 году, спачатку не падтрымаў ідэю надаць Дэклярацыі аб сувэрэнітэце статус канстытуцыйнага закону, бо, як тлумачыў пазьней, лічыў гэта нерэальным. Аднак 25 жніўня, пасьля адстаўкі Дземянцея з пасады старшыні, паспрыяў прыняцьцю станоўчага рашэньня. У 20 гадзін 14 хвілін у прамой трансьляцыі павіншаваў дэпутатаў і жыхароў Беларусі з абвяшчэньнем незалежнасьці.

18 верасьня 1991 году быў абраны старшынём Вярхоўнага Савету БССР, на наступны дзень парлямэнт пад ягоным старшынствам надаў бел-чырвона-беламу сьцягу і гербу «Пагоня» статус дзяржаўных сымбаляў і прыняў новую назву краіны — Рэспубліка Беларусь.

8 сьнежня 1991-га ва ўрадавай рэзыдэнцыі Віскулі ў Белавескай пушчы, разам з прэзыдэнтам РСФСР Барысам Ельцыным, прэзыдэнтам Украіны Леанідам Краўчуком, старшынём Савету міністраў Беларусі Вячаславам Кебічам, дзяржсакратаром Расеі Генадзем Бурбулісам і старшынём ураду Ўкраіны Вітольдам Фокіным паставіў подпіс пад пагадненьнямі, якія зафіксавалі спыненьне існаваньня СССР і ўтварэньне Садружнасьці Незалежных Дзяржаў.

Паводле Канстытуцыі Станіслаў Шушкевіч лічыўся вышэйшай у дзяржаве службовай асобай, правы якой, аднак, не былі вызначаныя.

На пасадзе старшыні Вярхоўнага Савету Станіславу Шушкевічу даводзілася займаць кампрамісную пазыцыю паміж дэпутатамі Апазыцыі БНФ, якія настойвалі на ажыцьцяўленьні эканамічных рэформаў і максымальна самастойнай ды незалежнай ад Масквы дзяржаўнай палітыцы, і пракамуністычнай большасьцю Вярхоўнага Савету, якая не ўспрыняла дэмакратычныя зьмены і спадзявалася на падтрымку Расеі. Такая пазыцыя часта выклікала крытыку з абодвух бакоў.

Пры гэтым, паводле ацэнак сацыёлягаў, Шушкевіч пэўны час меў найбольшы рэйтынг з усіх беларускіх палітыкаў, на піку папулярнасьці ў студзені 1992-га — 52%.

У 1992 годзе Шушкевіч не падтрымаў ініцыятыву БНФ, які сабраў больш як 440 тысяч подпісаў за правядзеньне рэфэрэндуму аб датэрміновых парлямэнцкіх выбарах. Гэта выклікала рэзка адмоўную рэакцыю прыхільнікаў Народнага Фронту, якія лічылі, што Беларусь страчвае шанцы на дэмакратычнае рэфармаваньне.

Тым ня менш Шушкевіч і дэпутаты БНФ знаходзілі паразуменьне ў справе стварэньня заканадаўчых падмуркаў беларускай дзяржаўнасьці. Менавіта ў 1992–1993 былі створаныя беларускае войска, памежная і мытная служба, закладзеныя асновы ўласнай фінансавай сыстэмы.

Пры Станіславу Шушкевічу Беларусь умацоўвала свой імідж у сьвеце як дзяржава, якая,

нягледзячы на складанасьці і супярэчнасьці ва ўнутранай палітыцы, выбрала эўрапейскі кірунак разьвіцьця. Шушкевіч успрымаўся ў сьвеце дэмакратычным лідэрам — у адным шэрагу з такімі лідэрамі, як Вітаўтас Ландсбергіс у Літве, Лех Валэнса ў Польшчы, Вацлаў Гавэл у Чэхіі, Жэлю Жэлеў у Баўгарыі. Немалое значэньне мела тое, што ён быў прыхільнікам нэўтралітэту Беларусі і вываду з тэрыторыі краіны ядзернай зброі, і ў гэтым меў падтрымку Вярхоўнага Савету. Беларусь была першай краінай, якая добраахвотна і без усялякіх умоваў адмовілася ад ядзернай зброі. «У беларускага нэўтралітэту — твар Шушкевіча», — быў загаловак у адной з газэтаў.

У 1993 годзе Шушкевіч выступіў супраць ініцыяванага атачэньнем Кебіча далучэньня Беларусі да сыстэмы калектыўнай бясьпекі СНД (АДКБ), якая кантралявалася Масквой. Калі з ініцыятывы дэпутата Лукашэнкі пытаньне аб АДКБ было ўнесенае ў парадак дня сэсіі, Шушкевіч заявіў, што не падпіша пагадненьня. Пасьля гэтага ў канцы ліпеня 1993 году лідэры дэпутацкай групы «Беларусь», якія падтрымлівалі Кебіча, ініцыявалі адстаўку Шушкевіча. Было праведзена галасаваньне, аднак Апазыцыя БНФ і дэпутаты Дэмклюбу яго блякавалі, і патрэбнай для адстаўкі колькасьці галасоў не набралася. Тым ня менш у апошні дзень 1993 году пад націскам парлямэнцкай большасьці Шушкевіч падпісаў пагадненьне аб далучэньні Рэспублікі Беларусь да АДКБ.

У кастрычніку 1993 году, падчас драматычнага, са стралянінай на вуліцах Масквы і чалавечымі

ахвярамі, супрацьстаяньня прэзыдэнта Расеі Барыса Ельцына з пракамуністычным Вярхоўным Саветам Расейскай Фэдэрацыі, Шушкевіч падтрымаў Ельцына.

Аднак расейскі лідэр не адказаў Шушкевічу ўзаемнасьцю ў крытычны для апошняга момант.

Увосень 1993 году Вячаслаў Кебіч пачаў фарсаваць увядзеньне пасады прэзыдэнта, якую меўся сам і заняць. Станіслаў Шушкевіч быў перашкодай на гэтым шляху. Адразу пасьля візыту ў Беларусь прэзыдэнта ЗША Біла Клінтана, што было ўспрынята як міжнародны трыюмф Шушкевіча, падкантрольная Кебічу парлямэнцкая большасьць прыступіла да адкліканьня Шушкевіча з пасады старшыні Вярхоўнага Савету.

Фармальным ініцыятарам адстаўкі выступіў дэпутат Лукашэнка. Насуперак распаўсюджанай і па сёньня думцы, аргумэнтам у прамове Лукашэнкі на закрытым паседжаньні парлямэнту была зусім ня «скрыня цьвікоў», за якія Шушкевіч нібыта не заплаціў пры рамонце ўласнай дачы (адмысловая камісія не знайшла ніякіх фінансавых парушэньняў, Шушкевіч аплаціў будматэрыялы да апошняга рубля).

Лукашэнка абурыўся тым, што Шушкевіч «не ўратаваў» двух афіцэраў расейскай выведкі, якія ў якасьці беларускіх дыпляматаў працавалі ў прадстаўніцтве Беларусі пры ААН, былі выкрытыя ЦРУ і высланыя з ЗША. Лукашэнка быў перакананы, што Шушкевіч мусіў паставіць пытаньне абароны афіцэраў расейскай выведкі

перад прэзыдэнтам Клінтанам, і запатрабаваў ягонай адстаўкі.

У адрозьненьне ад мінулага разу, калі Апазыцыі БНФ і Дэмклюбу ўдалося заблякаваць галасаваньне, гэтым разам за адстаўку Шушкевіча выступілі некаторыя дэмакратычныя дэпутаты, і галасоў дэпутатаў БНФ для блякаваньня не хапіла. 26 студзеня 1994 году Станіслаў Шушкевіч быў адкліканы з пасады старшыні Вярхоўнага Савету.

Тым ня менш, застаючыся дэпутатам парлямэнту, Шушкевіч не пакінуў палітыкі. Пасьля прыняцьця ў сакавіку 1994 году Канстытуцыі, якая прадугледжвала пасаду прэзыдэнта, ён заявіў пра намер удзельнічаць у першых прэзыдэнцкіх выбарах. На прэзыдэнта яго вылучыла сацыял-дэмакратычная партыя «Грамада», падтрымала яго і Аб’яднаная грамадзянская партыя. Ініцыятыўную групу па зборы подпісаў узначаліў Алег Трусаў; было сабрана больш як 123 тысячы подпісаў (для рэгістрацыі патрабавалася 100 тысяч).

У камандзе Шушкевіча ў часе перадвыбарчай кампаніі былі старшыня Нацыянальнага банку Станіслаў Багданкевіч і былы міністар МУС генэрал Уладзімер Ягораў. У першым туры выбараў, якія адбыўся 23 чэрвеня, Шушкевіч, паводле ЦВК, набраў 9,91% галасоў і заняў чацьвёртае месца пасьля Аляксандра Лукашэнкі, Вячаслава Кебіча і Зянона Пазьняка.

Шушкевіч заняў выразна крытычную пазыцыю да Аляксандра Лукашэнкі зь першых дзён

ягонага прэзыдэнцтва, рэгулярна крытыкаваў яго за непрафэсіяналізм і адсутнасьць дзяржаўнага мысьленьня, прарасейскую палітыку і імпэрскія каштоўнасьці.

Выбраны ў Вярхоўны Савет 13-га скліканьня, Станіслаў Шушкевіч быў сярод тых дэпутатаў, якія ўвосень 1996 году паставілі свой подпіс за імпічмэнт Лукашэнку з прычыны сыстэматычнага парушэньня ім Канстытуцыі і законаў. У выніку падпісаньня — пры ўдзеле кіраўнікоў Расеі — пагадненьня паміж старшынём ВС Сямёнам Шарэцкім, старшынём Канстытуцыйнага суду Валерам Ціхінем і Аляксандрам Лукашэнкам разгляд пытаньня аб імпічмэнце ў Канстытуцыйным судзе не адбыўся, а пасьля прызначанага Лукашэнкам рэфэрэндуму Вярхоўны Савет быў распушчаны.

З 1998 году Станіслаў Шушкевіч узначальваў Беларускую сацыял-дэмакратычную Грамаду, удзельнічаў у Кангрэсах дэмакратычных сілаў Беларусі. На прэзыдэнцкіх выбарах 2010 году падтрымаў Андрэя Саньнікава. У 2012 годзе на ініцыяванай Радай БНР сустрэчы палітычных і грамадзкіх лідэраў у Вільні падпісаў «Мэмарандум аб забесьпячэньні незалежнасьці Беларусі».

Саступіўшы ў 2018 годзе месца старшыні партыі Сяргею Чэрачню, падтрымаў яго ў прэзыдэнцкай выбарчай кампаніі ў 2020 годзе. Шушкевіч быў ганаровым старшынём партыі.

Апошняе зьяўленьне Станіслава Шушкевіча на шырокай публіцы адбылося ў лістападзе 2019 году на цырымоніі пахаваньня Кастуся Калі-

ноўскага ў Вільні. У часе пандэміі каранавірусу ён знаходзіўся на самаізаляцыі ў сваёй менскай кватэры і да мінімуму зьвёў кантакты з усімі, акрамя членаў сям'і, аднак у лютым 2022-га захварэў і трапіў у шпіталь. У красавіку быў шпіталізаваны паўторна, праз кароткі час пасьля выпіскі памёр дома.

Станіслаў Шушкевіч быў узнагароджаны мэдалём Рады БНР у гонар 100-годзьдзя незалежнасьці БНР. За актыўную падтрымку незалежнасьці Літвы ў 1991 годзе атрымаў літоўскі ордэн Вітаўта Вялікага, меў мэдаль Свабоды Трумэна — Рэйгана Фонду памяці ахвяраў камунізму (ЗША). Дзяржаўных узнагародаў Рэспублікі Беларусь ня меў. Неаднаразова намінаваўся на Нобэлеўскую прэмію міру.

# Паказьнік асобаў

Асобы на старонках, пазначаных зорачкай, па прозьвішчах ці імёнах не называюцца.

# Summary

Stanislau Shushkevich (1934–2022) was a Belarusian politician and scientist. From August 25, 1991, to January 26, 1994, he was the first head of state of independent Belarus after it seceded from the Soviet Union, serving as Chairman of the Supreme Soviet. On December 8, 1991, together with the leaders of Ukraine and Russia, he signed a declaration that the Soviet Union was dissolved and replaced by the Commonwealth of Independent States.

The book consists of Shushkevich's selected interviews and reports published by RFE/RL in 1990–2021.




*Аляксандар Лукашук.*
**Прыгоды АРА ў Беларусі.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2005. — 500 с.: іл.




**Быкаў на Свабодзе.**
2-е выд., дапоўненае.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2005. — 662 с.: іл.




*Сяргей Дубавец.*
**Вострая Брама.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2005. — 520 с.




*Вячаслаў Ракіцкі.*
**Беларуская Атлянтыда.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2006. — 504 с.: іл.




**Плошча, 19.03—25.03.2006.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2006. — 400 с.: іл.




*Вінцэсь Мудроў.*
**Альбом сямейны.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2007. — 232 с.: іл.




**Начная чытанка. 50 аўтараў з этэру Радыё Свабода.** Мультымэдыйны дыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2007.




*Уладзімер Арлоў.* **Імёны Свабоды.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2007. — 576 с.: іл.




*Івонка Сурвіла.* **Дарога. Стоўпцы – Капэнгаген – Парыж – Мадрыд – Атава – Менск.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2008. — 144 с.: іл.




*Пётра Садоўскі.* **Мой шыбалет.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2008. — 426 с.: іл.




**Начная чытанка 2. 50 аўтараў з этэру Радыё Свабода.** Мультымэдыйны дыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009.




**Адзін дзень палітвязьня.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 364 с.: іл.




*Юры Дракахруст.*
**Акцэнты Свабоды.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 430 с.: іл.




*Сяргей Дубавец.*
**Як? Азбука паводзінаў.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 252 с.: іл.




*Міхась Скобла.*
**Вольная студыя.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 554 с.: іл.




**Барды Свабоды.**
Зборнік гутарак і песень 50 удзельнікаў аднайменнай перадачы Радыё Свабода. Мультымэдыйны DVD-дыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2010.




**Васіль Быкаў. Доўгая дарога дадому.**
Чытае аўтар. Мультымэдыйны дыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2010.




*Вячаслаў Ракіцкі.*
**Беларуская Атлянтыда. Кніга другая.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2010. — 352 с.: іл.




**Сто бардаў Свабоды.** Зборнік гутарак і песень 100 удзельнікаў перадачы «Барды Свабоды». Мультымэдыйны DVD-дыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011.




*Галіна Руднік.* **Птушкі пералётныя.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 192 с.: іл.




**Галасы Салідарнасьці.** Міжнародная падтрымка беларускай дэмакратыі. Мультымэдыйны DVD-дыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011.




*Вячаслаў Ракіцкі.* **Сто адрасоў Свабоды.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 330 с.




**Саўка ды Грышка. Год першы.** Калекцыя 50 песьняў – падзеі году ў сатырычным дуэце Лявона Вольскага з самім сабой на Радыё Свабода. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011.




*Альгерд Бахарэвіч.* **Малая мэдычная энцыкляпэдыя Бахарэвіча.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 320 с.: іл.




*Аляксандар Лукашук.*
**Сьлед матылька. Освальд у Менску.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 390 с.: іл.




**Адзін дзень палітвязьня. 2009—2011.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 328 с.: іл.




*Уладзімер Арлоў.*
**Пакуль ляціць страла.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 400 с.: іл.




*Уладзімер Арлоў.*
**Імёны Свабоды.**
Аўдыёкніга.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012.




*Сяргей Дубавец.*
**Майстроўня. Гісторыя аднаго цуду.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 464 с.: іл.




**Слоўнік свабоды.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 516 с.




**Саўка ды Грышка. Сто песень. 2010-2012.**
Поўны збор запісаў сатырычнага дуэту Лявона Вольскага з самім сабой на Радыё Свабода. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012




*Альгерд Бахарэвіч.*
**Гамбурскі рахунак Бахарэвіча.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 428 с.: іл.




*Валер Каліноўскі.*
**Справа Бяляцкага.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 364 с.: іл.




*Юры Бандажэўскі.*
**Турма і здароўе.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 250 с.: іл.




*Алег Грузьдзіловіч.*
**Хто ўзарваў менскае мэтро?**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 354 с.: іл.




*Юрась Бушлякоў.*
**Жывая мова.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 294 с.: іл.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста першы.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 536 с.: іл.




*Анатоль Лябедзька.*
**108 дзён і начэй у засьценках КДБ.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 434 с.: іл.




*Валянцін Жданко.*
**Лісты на Свабоду.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 428 с.




*Альгерд Бахарэвіч.*
**Каляндар Бахарэвіча.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 464 с.: іл.




**Лісты пра Свабоду.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 314 с.




**Жыцьцё пасьля раку.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 220 с.




*Юры Дракахруст.*
**Сем худых гадоў.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 406 с.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста чацьверты.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015. — 350 с.: іл.




**(НЕ :)**
**вясёлыя карцінкі.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 64 с.: іл.




*Уладзімер Арлоў.*
**Імёны Свабоды.**
3-е выд., дап.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015. — 668 с.: іл.




*Сяргей Абламейка.*
**Мой Картаген.**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2015. —
316 с.: іл.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста пяты.**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2015. —
324 с.: іл.




**Сьвятлана**
**Алексіевіч**
**на Свабодзе.**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2015. —
722 с.: іл.




*Вінцук Вячорка.*
**Па-беларуску зь**
**Вінцуком Вячоркам.**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2016. —
364 с.: іл.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста першы.**
2-е выд., дап.
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2016. —
544 с.: іл.




**Светлана**
**Алексиевич**
**на Свабодзе.**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2016. —
744 с.: іл.




*Зьміцер Бартосік.*
**Быў у пана верабейка гаварушчы...**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2016. — 326 с.: іл.




**100 словаў.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2017. — 346 с.: іл.




*Вінцук Вячорка.*
**Не сьмяшыце мае прыназоўнікі.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2017. — 316 с.: іл.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста другі.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2017. — 388 с.: іл.




*Міхась Скобла.*
**Высьпятак ад Скарыны.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2017. — 500 с.: іл.




*Івонка Сурвіла.*
**Дарога.**
2-е выд., дап.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2018. — 174 с.: іл.




*Сяргей Шупа.*
**Падарожжа ў БНР.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2018. — 282 с. + 56 с. укл.: іл.




*Сяргей Абламейка.*
**Нечаканы Скарына.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2018. — 328 с.: іл.




*Алена Струвэ.*
**Турма, жанчына і мужчына.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2018. — 434 с.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста трэці.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2018. — 536 с.: іл.




*Зьміцер Бартосік.*
**Клініка кітайскага дантыста.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2018. — 284 с.: +24 с.: іл.




**Сьвятлана Алексіевіч. 100 цытатаў на Свабодзе.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2019. — 268 с.




*Сяргей Дубавец.*
**Тантамарэскі.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2019. — 356 с.




*Алесь Пілецкі.*
**Казкі па целефоне.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2019. — 298 с.




*Сяргей Абламейка.*
**Каліноўскі і палітычнае нараджэньне Беларусі.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2020. — 132 с.: іл.




*Дзьмітры Гурневіч.*
**Забойства ў цэнтры Эўропы.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2020. — 248 с.: іл.




*Сяргей Астраўцоў.*
**Спадар Свабода.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2020. — 328 с.: іл.




**Каліноўскі на Свабодзе.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2020. — 830 с.: іл.




*Сяргей Абламейка.*
**Каліноўскі і палітычнае нараджэньне Беларусі.**
2-е выд., дап.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2020. — 140 с.: іл.




**Гаворыць Радыё ВЫЗВАЛЕНЬНЕ...**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2020. — 172 с.: іл.




*Уладзімер Арлоў.*
**Імёны Свабоды.**
4-е выд., дап.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2020. — 826 с.: іл.




*Сяргей Абламейка.*
**Невядомы Менск. Гісторыя зьнікненьня.**
Кніга першая.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2021. — 476 с.: іл.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста шосты.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2021. — 540 с.: іл.




**Галасы Беларусі – 2020.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2021. — 434 с.




**Неверагодны 2020-ы.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2021. — 170 с.: іл.




*Сяргей Абламейка.*
**Невядомы Менск. Гісторыя зьнікненьня.**
Кніга другая.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2021. — 374 с.: іл.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста шосты.**
2-е выд., дап.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2021. — 540 с.: іл.




**Галасы Беларусі – 2021.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2022. — 386 с.